УДК 827
ББК 84
Т 65

Шчырая падзяка за інфармацыйную падтрымку Праваабарончаму цэнтру «Вясна» і асабіста Алесю Бяляцкаму

Выкарыстаны фотаздымкі Глеба Лабадзенкі, Арыны Лісецкай, ByMedia.Net і сямейных альбомаў.

**Тамковіч, А. Л.**
«Жыццё пасля кратаў» А. Л. Тамковіч. — 2013. — 294 с., іл.

ISBN

Прайшло два гады з сумных падзей 19-га снежня 2010-га года. Што стала з героямі таго супрацьстаяння? Як склаліся іх лёсы? Аб чым яны думаюць зараз?
Адказы на гэтыя і іншыя пытанні і склалі гэтую кнігу.

**УДК 827**
**ББК 84**

**ISBN**

# АБ'ЯДНАНЫЯ ПЛОШЧАЙ

Прайшло два гады пасля падзеяў, якія ўжо ўвайшлі ў найноўшую гісторыю Беларусі як «Плошча-2010». Аднак для многіх дзень 19-га снежня 2010-га года яшчэ не скончыўся, ён доўжыцца і сёння, бо да гэтага часу ў турмах знаходзяцца некаторыя з тых, хто сваімі лёсамі ствараў тое магутнае супрацьстаянне, якое ўзрушыла краіну і да гэтага часу адбіваецца пульсуючым болем у нашым грамадстве. Гэта Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Васіль Парфянкоў. Сыходзячы з гэтага, назва кнігі «Жыццё пасля кратаў» не ва ўсім адпавядае зместу, бо для гэтых герояў такое жыццё яшчэ не пачалося, а для Васіля Парфянкова «жыццё пасля кратаў» працягнулася чарговымі кратамі.

Неперагорнутая гэтая старонка календара і для тых, хто апынуўся ў вымушанай эміграцыі. 19-га снежня падзяляе іх лёсы не толькі на «да» і «пасля» Плошчы, не толькі ў геаграфічным вымярэнні (пакінутая Радзіма і краіна, якая прытуліла), але і праходзіць балючай мяжой па разарваных сем'ях.

Не адышоў у мінулае той сцюдзёны снежаньскі дзень і для тых, хто ўвесь гэты час знаходзіцца пад вызначанымі судамі абмежаваннямі, у каго адтэрміноўка выканання прысудаў, выпрабавальныя тэрміны ці прэвентыўныя нагляды. Для гэтых людзей краты проста пашыраныя да мінскай кальцавой аўтадарогі ці выбудаваныя ўздоўж дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.

Больш за 50 удзельнікаў тых падзеяў розныя часовыя прамежкі свайго жыцця бачылі ці працягваюць бачыць сонечнае святло, наступленне дня і ночы, змены пораў года праз краты сваіх вязніц. Сорак чатыры з іх пачулі ў розных судах сталіцы «вінаваты» і «прыгаворцаецца да...» за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту супраць гвалту над выбарам будучыні. Справы яшчэ сямі чалавек, якія прайшлі выпрабаванне кратамі і суровыя абвінавачванні, так і не леглі на сталы беларускага «правасуддзя».

Усе гэтыя людзі вельмі розныя, у кожнага з іх быў свой шлях на Плошчу, па-рознаму склаліся іх далейшыя лёсы.

Хтосьці працягнуў актыўную палітычную, грамадскую ці прафесійную дзейнасць, многія з іх зараз робяць усё магчымае, каб на волі найхутчэй апынуліся іх паплечнікі па тых драматычных снежаньскіх падзеях. Для кагосьці Плошча зрабіла моцны штуршок да актыўнасці, а кагосьці выпрабаванні «амерыканкай» ці «валадаркай», калоніямі і турмамі прымусілі сысці ўбок ад палітычных працэсаў і звязаных з імі небяспек. Але заўсёды ўсіх іх будзе аб'ядноўваць тое, што іх лёсы аказаліся «апаленымі Плошчай».

Гісторыі гэтых людзей — у кніжцы Аляксандра Тамковіча «Жыццё пасля кратаў», якая фактычна з'яўляецца працягам ягонага папярэдняга выданння «Супраць плыні», прысвечанага падзеям снежня 2010-га года і асобам, якія персаналізавалі гэтыя падзеі. Абставіны, у якіх зараз знаходзяцца героі кнігі, шмат у чым вызначылі і жанравыя асаблівасці кожнага з 27 нарысаў: тут ёсць і класічныя інтэрв'ю-размовы, якія аўтар змог запісаць пры асабістай сустрэчы з тымі, хто зараз знаходзіцца на волі ці можа адносна свабодна перамяшчацца; і інтэрвью віртуальныя — з тымі, каго падзяляюць з Радзімай сотні кіламетраў; і лісты-развагі ад тых, з кім сувязь аўтара абмежаваная: ад Паўла Севярынца — са спецкамендатуры, а ад Уладзіміра Кобеца — з выгнання; а голас тых, хто зараз за кратамі, — гэта голас іх маці і жонак.

У кожным нарысе не толькі асабісты шлях і перажыванні герояў, але і ўласная ацэнка гістарычнай з'явы, якая балюча пранізала іх лёсы, аналіз сённяшняй рэчаіснасці і, што вельмі важна, погляд у будучыню. Будучыню Беларусі, у якой няма месца кратам як сродку барацьбы з іншадумствам.

**Таццяна Рэвяка**, *Праваабарончы цэнтр «Вясна»*

# ПЕРШАЯ АХВЯРА



**Даведка:** Васіль Парфянкоў нарадзіўся 30 жніўня 1983 года ў Мінску. Падчас выбараў-2010 супрацоўнічаў з кампаніяй «Гавары праўду», быў актывістам штаба Уладзіміра Някляева, збіраў за яго подпісы, праводзіў агітацыю.
4 студзеня 2011 года быў затрыманы.
Апынуўся ў СІЗА на Валадарскага як фігурант крымінальнай справы па ч.2 арт.293. Прысуд стаў самым першым па справе «19 снежня»: 17 лютага 2011 года Фрунзенскі суд Мінска асудзіў Васіля Парфянкова на 4 гады калоніі строгага рэжыму.
Памілаваны ўказам прэзідэнта 11-га жніўня 2011-га года.

**Добра памятую, як суддзя Вольга Комар, якую выкрыў фэйсбук, апраўдвала свае жорсткія дзеянні тым, што Васіль Парфянкоў «кончаны» крымінальнік. Маўляў, яна адправіла за краты «отпетого рецидивиста».**

**Падчас нашай размовы высветлілася, што гэта далёка не так.**

## Жыццёвыя дэбюты

Дарэчы, прыклад суда над Васілём Парфянковым вельмі красамоўна сведчыць аб тым, што трэба рабіць працаўнікам улады. Расказвалі, як адна грамадзянская кампанія «правучыла» міліцыянта, які затрымліваў іх актывіста і ілжэсведчыў супраць яго. Яны проста зрабілі менш за сотню адпаведных улётак і распаўсюдзілі іх у роднай вёсцы ката. Пасля гэтага на радзіме гэты міліцыянт не паяўляўся некалькі гадоў — сорамна.



*У дзяцінстве.*

На мой погляд, гэты метад даволі эфектыўны перш за ўсё таму, што катуюць іншадумцаў не толькі добра вядомыя персоны накшталт палкоўніка Яўсеева. Брутальныя загады выконваюць дзясяткі (а то і сотні) нікому не вядомых (маецца на ўвазе максімальна шырокая грамадскасць — **заўвага аўтара**) людзей. Іх прозвішчы даволі часта па-за межамі газетных артыкулаў, а гэта стварае ілюзію беспакаранасці любых дзеянняў і таго, што яны «спатрэбяцца любой уладзе».

Аднак вернемся да нараджэння Васіля Парфянкова. Пра дату і месца напісана вышэй, таму ёсць сэнс зрабіць акцэнт на яго бацьках. Маці Валянціна Паўлаўна родам з-пад горада Беразіно Мінскай вобласці. Бацька Пётр Фёдаравіч Парфянкоў нарадзіўся ў Магілёўскай вобласці. У Васіля яшчэ дзве сястры. У 1979-м годзе нарадзілася Вольга, у 1981-м — Алеся.

Вучыўся ён у 163-й школе, якая месціцца ў сталічным мікраараёне з прыгожай назвай «Зялёны луг». Пасля школьных дзевяці класаў у ПТВ №63 хлопец атрымаў спецыяльнасць майстра апрацоўчых работ.

У гэты ж час адбыўся палітычны дэбют Васіля, якім стаў першы «Марш свабоды». Пра яго расказаў адзін з выкладчыкаў ПТВ, ён заклікаў вучняў быць там «вельмі акуратнымі, бо магчымы сутыкненні з міліцыяй».

Са сваім сябрам Васіль Парфянкоў пайшоў туды «проста паглядзець». І ўбачыў, як міліцыянты збіваюць абсалютна невінаватых людзей...

Потым была абарона Курапат.

8 лістапада 2001 года адбылася першая «зачыстка». Васіль трапіў туды на наступны дзень. Яго вельмі ўразіла тое, што людзі з крыжамі супрацьстаяць бульдозерам. Нечым гэта нагадвала абарону Масквы, калі за фашысцкімі танкамі ішла пяхота. Толькі ў дадзеным выпадку ішлі амапаўцы. Іх гумовыя палкі не даравалі нікому... У тым ліку і Васілю Парфянкову...

У Курапатах ён прабыў сем месяцаў. Усю зіму праспаў у намёце. Дамоў прыходзіў даволі рэдка — раз у тыдзень. Толькі для таго, каб узяць прадуктаў і памыцца.

Пазнаёміўся там з Паўлам Севярынцам і Зміцерам Дашкевічам, але ўступіў не ў «Малады Фронт», а ў Беларускую партыю свабоды. Што не перашкодзіла потым прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах маладафронтаўцаў. Дарэчы, актыўны ўдзел ён прымаў і ў іншых акцыях: «задалбала» глядзець, як з людзей робяць паслухмянае быдла».

Акрэсцінскі дэбют для Парфянкова адбыўся ў лютым 2002 года, калі за традыцыйную на Дзень Святога Валянціна акцыю Васілю далі першыя «10 сутак».

З гэтага моманту яго прывозілі на Акрэсціна амаль пасля кожнай апазіцыйнай акцыі. Калі палічыць вельмі прыблізна, то з 12 месяцаў, якія складаюць год, 2 ён праводзіў за кратамі.

...Чарговыя «суткі» Парфянкоў атрымаў у 2004-м годзе за тое, што пратэставаў супраць рэферэндуму наконт чацвёртага тэрміну Лукашэнкі.



*У Кіеве.*

У адной камеры з ім акрамя Паўла Севярынца, Мікалая Статкевіча і іншых адбываў пакаранне і Вячаслаў Сіўчык, знаёмы яшчэ па Курапатах. Менавіта ў гэты час на Украіне пачыналася «памаранчавая» рэвалюцыя, і той пасля «адсідкі» збіраўся ехаць у Кіеў.

Гэтак сама вырашыў зрабіць і Васіль Парфянкоў. Разам з Алегам Данільчыкам яны прыехалі ў украінскую сталіцу, каб падзяліцца сваім досведам і падтрымаць «каманду Юшчанкі». Сышліся там з моладдзю з «Пары» і актывістамі «УНА-УНСО».

Менавіта кантакты з апошнімі і прывялі першы раз у турму.

## «Турэмныя» дэбюты

Мабыць, справа ў эйфарыі, якая тады панавала на Украіне. Інакш цяжка патлумачыць той факт, чаму Васіль Парфянкоў прыняў удзел у захопе выбарчага штаба Віктара Януковіча. Разам з іншымі яму прысудзілі за гэта тры гады пазбаўлення волі. Амаль адразу напісаў заяву на экстрадыцыю ў Беларусь і хутка трапіў у шклоўскую калонію № 17.

Было гэта ў 2005-м годзе, а ў 2006-м годзе туды трапіў Зміцер Дашкевіч, якога асудзілі на паўтары гэты за «дзеянні ад імя незарэгістраванай арганізацыі».

Вызваліўся Васіль Парфянкоў у 2007-м годзе. Па ўмоўна-датэрміноваму вызваленню, бо за кратамі прабыў толькі два гады і два месяцы.

Нічога «цікавага» з пункту гледжання палітыкі ў Беларусі ў той час не адбывалася. Працаўладкавацца на радзіме не выпадала, таму Васіль пачаў ездзіць у Расію ў якасці звычайнага гастарбайтэра.

У 2009-м годзе «подзвігі» Васіля Парфянкова крыху забыліся і ён змог уладкавацца на працу ў «Арэсасэрвісбуд». Нават трохі працаваў на будаўніцтве «Мінск-Арэны».

У 2010-м годзе знаёмы Павал Яловік прапанаваў папрацаваць у някляеўскай кампаніі «Гавары праўду».

Пра тое, што было потым, напісана ўжо нямала, адзначу толькі, што разам з Алегам Гнедчыкам Парфянкоў быў у дружыне Уладзіміра Някляева і, калі адбылося кімсьці запланаванае біццё шкла, упіраўся рукамі ў дзверы будынку ЦВК, каб не дапусціць далейшых правакацый.

На жаль, беларуская Феміда расцаніла гэты крок з дакладнасцю да наадварот. Васілю Парфянкову налічылі 61 «удар» па дзвярам і асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

Яго арышт вельмі нагадваў прымітыўны баявік. Дарэчы, як і многія іншыя арышты. Таму б я забараніў супрацоўнікам спецыяльных службаў іх прагляд. А то нагледзяцца розных крывавых «экшн» і потым гуляюць у «ліхіх рэмба»...

Вечарам 4 студзеня 2011-га года Васіль Парфянкоў вяртаўся з працы. Невядома адкуль яму пад ногі прыляцела «свето-шумовая граната». Такія ж выкарыстоўваліся падчас нападу на калону Уладзіміра Някляева, якая рухалася з Нямігі на Кастрычніцкую плошчу. Успышка ўдарыла па вачах.

Калі Парфянкоў прыйшоў у сябе, ён ўжо ляжаў на снезе, а на спіне «сядзелі» чалавека тры-чатыры. У гэты момант да яго падышоў нейкі чалавек у касцюме і паліто. Перад вачамі аказаліся туфлі з доўгімі насамі. Ён за валасы падняў са снегу галаву Васіля і паказаў пастанову на арышт, а потым пастанову на ператрус.

У кватэры канфіскавалі налепкі, падпісныя лісты за Някляева, розныя сцягі і ноўтбук, які яго бацька купіў за свае грошы.

Ужо ў калоніі (праз паўгады) Васілю Парфянкову прыйшлося пісаць даверанасць, каб яго бацька змог забраць з міліцэйскага складу сваю ж маёмасць, якая стала «вещдоком». І ўсё таму, што там былі макеты падпісных лістоў...

Каментаваць тут нешта вельмі цяжка. Адзначу толькі, што, калі ў падобныя сітуацыі трапляюць самі міліцыянты, яны адразу ўзгадваюць пра «правы чалавека»...

9 красавіка 2011-га года Васіля Парфянкова этапавалі ў папраўчую калонію № 8, што месціцца ў Оршы. Калонія вядомая тым, што ў яе сценах адбывалі тэрміны вядомыя ў нядаўнім мінулым палітвязні Міхаіл Марыніч і Васіль Лявонаў.

Яе лічаць амаль не адзінай, дзе пакуль дзейнічае «жизнь по понятиям», то бок законы крымінальнага свету. Напрыклад, у адным з атрадаў «смотрящим» быў знаёмы Васілю яшчэ па школе чалавек. Некалі яны нават разам гулялі ў футбол.

Працаваць Парфянкоў папрасіўся адразу ж, бо так хутчэй бяжыць час. Хлопца накіравалі ў будаўнічую брыгаду, якая займалася рамонтам цэхаў прамысловай зоны («промкі»). Праўда, плацілі за гэта такую драбязу, што пісаць нават сорамна — 25—30 тысяч у месяц. На іх можна было купіць кавалак мыла, нейкую зубную пасту і некалькі рулонаў туалетнай паперы. Выратоўвала «атаварка».

Кожны «зэк» мае свой грашовы рахунак, з якога мае права заказваць тавары на пэўную суму. Калі ён становіцца «злоснікам» (злосны парушальнік дысцыпліны), яе ў якасці пакарання «ўразаюць» да 35 тысяч у месяц (на той час — адна базавая велічыня — **заўвага аўтара**).

На асабісты рахунак Васілю Парфянкову прыходзілі грошы ад абсалютна незнаёмых людзей. Прыходзілася прасіць іх не слаць, бо ў «злосніка» магчымасці траціць іх няма. Асабліва балюча было адмаўляць 70-гадовым бабулям, якія ахвяравалі па 70—100 тысяч са сваіх пенсій. Адпаведная заява пісалася начальніку фінансавай часткі, аднак грошы прыходзілі зноў, з лістом не крыўдзіць пенсіянераў.

Шчыра кажучы, для аўтара гэта даволі нечаканы крок людской салідарнасці. Асабліва ад тых, каго лічаць самым надзейным «электаратам» дзеючай улады...

А «злоснікам» Васіль Парфянкоў стаў даволі хутка.

Першыя «трое сутак» ШЫЗА ён атрымаў за тое, што «нядобра паголены» выйшаў на ранішнюю праверку. Звычайна за такое парушэнне ў штрафны ізалятар не садзяць...

Другое парушэнне было з-за бязвыхаднай сітуацыі. Васіль памыў сваю робу і па гэтай прычыне быў вымушаны ў сталовую (што абавязкова) прыйсці ў чорным спартовым касцюме. 10 сутак ШЫЗА.

Трэцяе звязана з лістамі салідарнасці, якія Парфянкоў атрымліваў не толькі з Беларусі, але і з усяго свету. За сем месяцаў «жыцця» ў калоніі іх накапілася 1438 штук. Усе пасля вызвалення Парфянкоў прывёз дамоў. Як рэліквія яны захоўваюцца па гэты дзень.

Дык вось, захоўваць іх можна было толькі ў «капцёрцы», дзе бязмежна панавалі мышы. Паперу б яны з'елі даволі хутка, таму Васіль складаў лісты ў сваю тумбачку, што па правілах нельга рабіць.

Звычайныя зэкі іх не захоўваюць. Калі збіраецца стос — паляць. Васіль так рабіць не мог, бо пісаліся лісты з незвычайнай шчырасцю, «ад усяго сэрца».

Падчас чарговага «шмону» прагучала, што захоўваць лісты ў тумбачцы «не положено». Парфянкоў пачаў нешта казаць пра мышэй, але афіцэра-рэжымніка гэта не ўразіла. На вачах у Васіля той пачаў іх рваць. Парфянкоў вырваў пачку і адштурхнуў афіцэра. Апошні ўпаў. 15 сутак ШЫЗА.

Адбыць увесь тэрмін, на шчасце, не давялося. Аб вызваленні яму паведамілі 4 жніўня 2011 года, а 11 жніўня Васіля Парфянкова выклікалі ў штаб распісацца наконт памілавання.

*У Заслаўі.*



## Вымушаны «дэбют»

Было гэта ў дзве гадзіны ночы, а ўжо ў пяць гадзін раніцы (дазволілі памыцца і пагаліцца) яго перавялі ў камеру, дзе «зэкі» праводзяць апошнія гадзіны перад вызваленнем, а потым (прыблізна ў 11.00) выпусцілі «за вароты».

На мінскім чыгуначным вакзале Парфянкова не чакалі, бо пра вызваленне не ведалі. Дакладней, ведалі толькі пра колькасць вызваленых і прозвішчы некаторых, сярод якіх былі Зміцер Дрозд і Сяргей Казакоў. Іх і чакалі, таму крыху прыемна здзівіліся, калі за гадзіну да намечанай сустрэчы ўбачылі Васіля Парфянкова.

Пасля некалькіх дзён у родным доме ён вырашыў з'ездзіць у Кіеў, дзе засталося шмат сяброў. Проста адпачыць, падыхаць вольным (у параўнанні з намі) паветрам. Сустрэўся там з Вячаславам Сіўчыкам і нават прыняў удзел у акцыі (каля помніка Тарасу Шаўчэнку) наконт прыняцця Вярхоўным Саветам 12-га склікання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, якая была прынятая 25-га жніўня 1991-га года.

Праз тыдзень вярнуўся дамоў і паспрабаваў працаўладкавацца. Доўгі час гэта не ўдавалася, бо, як толькі станавілася вядомым, за што ён быў асуджаны, гучала (і на прыватных, і на дзяржаўных прадпрыемствах) стандартнае — «нам праблемы не патрэбны». Па яго спецыяльнасці (майстар апрацоўчых работ) вакансій хапала, але страх перад адпаведнымі службамі перашкаджаў кіраўнікам рознага ўзроўню прымаць разумныя і лагічныя рашэнні.

Працу Васіль Парфянкоў знайшоў толькі праз сем месяцаў пасля вызвалення.

Па зразумелых прычынах я не буду называць назвы структуры. Адзначу толькі, што даволі часта людзьмі кіруе банальны канфармізм і перастрахоўка і «не так страшны чорт, як яго малююць»...

Дарэчы, калі стала вядома пра новы тэрмін, у гэтай фірме выказалі гатоўнасць узяць Васіля на працу зноў. Якасць працы і элементарная чалавечая прыстойнасць тут, мабыць, вышэй нейкіх «скурных інтарэсаў»...

«Нагляд» (па руску — надзор) Васілю Парфянкову далі за тое, што пасля вызвалення ён «не стаў на шлях выпраўлення». Практычна адразу пасля таго, як Парфянкоў пакінуў сцены калоніі, ён пачаў хадзіць амаль на ўсе апазіцыйныя акцыі і амаль на ўсіх яго затрымлівалі. Шанцавала, бо пратаколаў не складалі. Тым не менш адпаведныя службы пільна сачылі за яго паводзінамі.

«Апошняй кропляй» стала акцыя, якая адбылася на першую гадавіну падзей 19-га снежня 2011-га года. У гэты дзень Васіль сустрэў на Кастрычніцкай плошчы Мікіту Ліхавіда з маці Аленай і Марыну Лобаву (маці палітвязня Эдуарда Лобава).

Акцыю ладзіў «Малады Фронт». Назва — «Запалі святло надзеі». Але прынесеныя свечкі нават не паспелі запаліць. Іх заўважыў сумна вядомы палкоўнік Яўсеяў, і праз пару хвілін нейкія «людзі ў цывільным», як заўсёды не назваўшы сябе, сталі патрабаваць дакументы. На просьбу паказаць якія-небудзь пасведчанні, пачалі хапаць за вопратку. Мікіта Ліхавід уступіўся за маці, Васіль — за Мікіту. Урэшце ўсе апынуліся ў аўтазаку, які адвёз іх у РУУС Цэнтральнага раёна.

Парфянкову «далі» за гэта 13 сутак арышту. Новы 2012-ы год хлопец сустракаў «на Акрэсціна», дзе знаходзіўся ў адной камеры з Уладзімірам Яроменкам.

Вызваліўся 1-га студзеня, а ўжо 5-га Парфянкова выклікалі ў Першамайскае РУУС, адвезлі ў суд, які і прыняў рашэнне пра прафілактычны нагляд. Для тых, хто не ведае, растлумачу, што гэты рэжым азначае абавязковае знаходжанне дома з васьмі вечара да шасці гадзін раніцы і кожны чацвер «адзнаку» ў РУУС (з 11.00 да 18.00). Плюс забарону на выезд за межы горада без дазволу міліцыі. Натуральна, за межы краіны — «само сабой».

За парушэнне гэтага «нагляду» Васіля Парфянкова і судзілі.

Парушэнняў было ўсяго тры.



*У Курапатах.*

Першае адбылося, калі Парфянкоў «злётаў» за сігарэтамі ў суседнюю краму. Не магу сказаць дакладна пра нейкае «сачэнне», але як раз у гэты момант яго і праверылі. Пасля васьмі гадзін вечара, прайшло толькі 10—15 хвілін...

Другі выпадак вельмі падобны, бо таксама звязаны са спазненнем з крамы, дзе Васіль набываў нейкі харч.

Трэцяе папярэджанне таксама тычыцца часу.

У чарговы чацвер Васіль Парфянкоў ехаў на чарговую «адзнаку». У гэты момант нешта здарылася з токам і трамваі «сталі». Прыйшлося некалькі прыпынкаў ісці пехам. Урэшце — 15 хвілін спазнення. І «віншаванне» з трэцім парушэннем, якое дае фармальную магчымасць зноў накіраваць чалавека за краты.

Пра крымінальную справу на гэты конт Васіль Парфянкоў даведаўся толькі праз шмат дзён, 19-га красавіка 2012-га года.

**Замест пасляслоўя**

**З Васілём Парфянковым мы сустрэліся за некалькі дзён да суда. 29-га траўня 2012-га года суд Першамайскага раёна Мінска прызнаў яго вінаватым у парушэнні ўмоў прафілактычнага нагляду (арт. 421 Крымінальнага кодэксу) і асудзіў на 6 месяцаў арышту, хаця пракурор прасіў больш суровага пакарання — год пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі строгага рэжыму. 24-га ліпеня Мінскі гарадскі суд пацвердзіў прысуд. 16-га жніўня 2012-га года Парфянкова этапавалі ў следчы ізалятар №6 Баранавічаў.**

**Там 30-га жніўня ён сустрэў свой 29-ы дзень народзінаў. Цікава, што ў гэты ж дзень святкаваў сваё 58-е нараджэнне прэзідэнт краіны. Той самы, супраць якога і змагаецца Васіль Парфянкоў.**

# ШАНЕЦ НА БУДУЧЫНЮ



**Напамін:** Алесь Кіркевіч нарадзіўся 9-га лістапада 1989-га года ў Гродна ў сям'і гісторыкаў. Пасля заканчэння школы паступіў на гістарычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта, але вырашыў адкласці вучобу.
Быў затрыманы за ўдзел у акцыі салідарнасці з палітвязнямі 24-га снежня 2010-га года пад сценамі ізалятара на Акрэсціна, дзе адбывала арышт ягоная дзяўчына Надзея Крапівіна. Асуджаны на 10 сутак. На волю выйшаў 3-га студзеня 2011-га, праз 3 дні быў асуджаны да штрафу за арганізацыю перадвыбарчай сустрэчы кандыдатаў у прэзідэнты Міколы Статкевіча і Дзмітрыя Уса ў Гродна 16-га снежня.
22-га студзеня Алесь ажаніўся з Надзеяй Крапівінай, а праз тыдзень, 28-га студзеня, быў арыштаваны пасляператрусу ў яго на кватэры і допыту ў Гродзенскім КДБ па справе аб масавых беспарадках. Адвезены ў Мінск і змешчаны ў СІЗА КДБ. Было прад'яўлена абвінавачванне паводле ч.2 арт.293 Крымінальнага кодэкса (актыўны ўдзел у масавых беспарадках).
5-га траўня 2011-га года асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
Вызвалены згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні ад 1-га верасня 2011-га года.

**Віртуальная размова з Алесем Кіркевічам тыповая для тых, хто ідзе «па-другому колу «, то бок ягоная гісторыя ўжо была ў кніжцы «Супраць плыні» . Зроблена гэта наўмысна. Каб кожны мог параўнаць розныя адказы розных людзей на адны і тыя ж (па сутнасці) пытанні.**

**Год таму я папрасіў Алеся Кіркевіча напісаць кароткае эсэ пра сваё жыццё. Ён зрабіў гэта так якасна, што мне нават не прыйшлося «расстаўляць абзацы». Фармат гэтай кнігі крыху іншы. Наша размова была віртуальнай, але такой жа якаснай, як і ў мінулы раз.**

***— Што Вы адчувалі, калі даведаліся пра вызваленне?***

— Радасць. Дзень вызвалення, як мне падаецца, самы шчаслівы дзень за час адсідкі для кожнага зняволенага. «Вызваленне» — антонім «затрымання» і «судовага выраку».



*Вышыванка, зробленая Надзеяй падчас «адсідкі» мужа.*

***— Каго першым сустрэлі на волі?***

— У Полацку ў прывакзальнай кавярні мяне фактычна знайшоў Алесь Круткін разам яшчэ з адным хлопцам, не памятаю яго прозвішча (абодва прыехалі па просьбе Таццяны Севярынец — вось што значыць «трымаць» вобласць). Ужо на гэты момант я паспеў адзваніцца сваім з тэлефона афіцыянткі той жа кафярні. Дзяўчыны зразумелі сітуацыю і без пытанняў далі патэлефанаваць.

Праз пару гадзін пад'ехаў «эскорт» з Мінска ў складзе двух аўто: Наста Палажанка, Мікола Дземідзенка, Уладзь Яроменак, Юрась Губарэвіч, Андрэй Кім, Сяргей Гудзілін і інш. Саставілі сталы, пасядзелі, пасмяяліся. Урэшце вырушылі на Мінск: на задняй сядушцы я слухаў распаведы Міколы аб падзеях апошніх месяцаў, палітычных раскладах, перамогах і паразах, паволі ўваходзіў у курс справы.



*«Малады фронт» працуе!*

***— Што Вы ўбачылі на волі?***

— Першым, што я ўбачыў, быў канфлікт ды штурханіна каля абменніку на тым жа полацкім вакзале. Было цікава, бо дагэтуль я сачыў за такімі з'явамі толькі праз прэсу, якая даходзіла ў калонію. У верасні я яшчэ заспеў «дагаранне» маўклівых акцыяў пратэсту — за распаўсюд агітацыі па адной з іх нават быў затрыманы праз глупства. Зараз смешна нават: ішлі з сяброўкай ад знаёмага ды па інэрцыі ляпілі агітку на слупы. Вось, што значыць згубіць кваліфікацыю.

Міліцыя на саміх акцыях у верасні ўжо нікога не затрымлівала — толькі пашпартныя дадзеныя перапісвалі ды фіксавалі для «сакрэтнага ТБ». Пасля быў «Народны сход»...

МФ да яго ніяк не спрычыніўся і дзякуй Богу: гэта была суцэльная катастрофа, у Горадні нават арганізатары не прыйшлі на загадзя вызначанае месца —

*Прысяга ў Якушоўцы — фальварку Каліноўскіх.*



стадыён «Нёман». У справах палітвязняў была заўважнай пэўная сегрэгацыя: былі вязні «элітныя», сапраўды «палітычныя», а была нібыта «рэшта», пра якіх мала пісалі СМІ, за якіх часам баяліся прасіць праваабаронцы.



Мы не маглі разарвацца на ўсіх, таму рабілі хоць нешта для маладафронтаўцаў: падключалі айчынныя і замежныя СМІ, угаворвалі падпісацца за Дашкевіча вядомых людзей (дзякуй ім!), сярод рэпрэсіяў і суцэльнай апатыі былі праведзеныя дзве прысягі маладафронтаўцаў (у Якушоўцы ды Слуцку), што, безумоўна, мела свой сэнс.

***— Не было адчування дарэмных пакутаў?***

— Я не шкадаваў і не шкадую пра час, праведзены за кратамі. Крыўдна толькі за краіну ў цэлым: мы сядзелі ў той час, калі бандыты і барыгі выступалі з высокіх трыбунаў, а сонейка на парадах адбівалася ў дзясятках медалёў, незразумела на якіх войнах атрыманых.

***— Што першае зрабілі на волі?***

— Паехаў на абед да маці: там была мая сям'я, сябры.

***— Як складалася «жыццё пасля кратаў»?***

— Калі адказваць літаральна, то жыццё «пасля кратаў» яшчэ «не склалася»... Складзецца тады, калі будзе вызначанасць, яснасць, план гадоў на 5 наперад. Пакуль гэтага няма — застаецца рэагаваць на выклікі звонку, падтрымліваючы сябе ў пэўнай форме. Адносіны ў сям'і толькі ўзмацніліся, сябры і знаёмыя прайшлі праверку. Я пачаў пісаць артыкулы ў розныя СМІ, пад новы 2012-ы год зарэгістраваўся рамеснікам: магніты на лядоўню для турыстаў, свечы, кніжныя пераплёты...

Вельмі важным этапам было ўцэркаўленне: увосень я прыйшоў у царкву, да веры сваіх продкаў, а менавіта ў грэка-каталіцкую парафію Горадні. Спадзяюся, што мае дзеці таксама будуць яе наведваць.

***— З моманту «прэзідэнцкіх» арыштаў прайшоў пэўны час. Вашы думкі на гэты конт? Што трэба было (з пункту гледжання сённяшняга дня) тады зрабіць не так?***

— Я трымаюся наступнага меркавання: што адбылося, тое мелася адбыцца, а што не адбылося, таго адбыцца і не магло. Падчас падзеяў «Чарнобыльскага маршу» — 1996, альбо «Маршу Свабоды» — 1999 таксама казалі аб правакатарах, падкладзеных вазочках з камянямі і г.д. Пры гэтым



*Адпачынак.*

зараз дадзеныя падзеі ўжо сталіся легендамі нацыянальнага руху, людзі з гонарам узгадваюць, што былі там, штурхаліся з міліцыяй, кідаліся пліткай для ходнікаў.

Тое самае, думаю, будзе і з Плошчай-2010: як казаў Мікола Статкевіч, з часам усё больш і больш людзей захочуць сказаць, што былі там і «выбівалі» тыя дзверы. Гэта ўжо эпізод найноўшай гісторыі. Аб праблемах і памылках, зробленых тады, казаць, па шчырасці, не хочацца. Галоўныя з іх: адсутнасць адзінства сярод кандыдатаў, адсутнасць плану, ну і, канешне, лепш было б усім зняцца напярэдадні.

Нехта спрабуе зараз меркаваць, што было б, каб выбары прайшлі адносна мірна і Еўропа ўсё прызнала: Лукашэнка б узмацніўся яшчэ больш, Ярмошына б ездзіла ў Парыж на выходныя, а БРСМ атрымліваў бы гранты ад ААН на барацьбу са СНІДам... Быў бы такі сабе Сальвадор у цэнтры Еўропы, прызнаны ЗША, але ўсё адно дыктатарскі.

Вы гэтага хацелі? Такія разважанні перакрэсліваюць пакуты тых, хто пацярпеў тады, і з'яўляюцца знявагай тым, хто зараз працягвае знаходзіцца за кратамі.

***— Навошта Вам працягваць змаганне? Не баіцеся зноў трапіць за краты?***

— Трапіць за краты ў нашай краіне можа кожны, і для гэтага знойдзецца мільён прычынаў. Куды прыемней сядзець за перакананні, чым за «хабар», які табе прынясуць на працу. Мы жывем у надзвычай цікавы перыяд гісторыі Беларусі: на нашых вачах фактычна нараджаецца нацыя, пасля Лукашэнкі людзі маюць магчымасць канчаткова развітацца з савецкім мінулым ды міфам аб «братняй» Расіі, усё заканамерна.

Гэты прэзідэнт — своеасаблівая прышчэпка для беларусаў. Ва Украіне «памаранчавы» перыяд прынёс шмат расчараванняў — мы маем шанец зрабіць усё з розумам, пабудаваць моцную і вялікую Беларусь, але для гэтага трэба змагацца. За гэта ВАРТА змагацца.

***— Калі ёсць, думкі і разважанні «агульнага» плану?***

— Мае ўражанні і разважанні можна будзе прачытаць у маіх нататках, якія, дасць Бог, выйдуць з друку ў адным з незалежных выданняў неўзабаве. Я жывы і на свабодзе — за ўсё гэта ўдзячны Богу!

# РАКАВАЯ ЛІЧБА



**Даведка:** Уладзімір Яроменак нарадзіўся ў горадзе Міёры Віцебскай вобласці. Пасля сканчэння сярэдняй школы паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Удзельнік Плошчы-2010. Затрыманы супрацоўнікамі спецслужбаў на наступны дзень, 20-га снежня 2010-га года, пасля пікету салідарнасці з палітзняволенымі насупраць Дома ўраду. За гэта быў асуджаны на 15 сутак арышту, якія ён адбыў у Жодзінскім СІЗА. Па выхадзе адтуль быў выкліканы ў якасці сведкі на допыт у КДБ, які скончыўся 7-сутачным арыштам на Акрэсціна. 28-га студзеня 2011-га года арыштаваны ў трэці раз, цяпер ужо як падазраваны па справе аб масавых беспарадках. Змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ. Прад'яўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (удзел у масавых беспарадках).14-га траўня 2011-га года асуджаны на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны 11-га жніўня 2011-га года ўказам прэзідэнта.

15-га сакавіка 2012-га суд Першамайскага раёна Мінска вынес рашэнне аб прэвентыўным наглядзе тэрмінам на адзін год за Уладзімірам Яроменкам у сувязі з затрыманнямі і адміністрацыйнымі арыштамі.

**Уладзімір Яроменак называе даты 14 траўня самымі «чорнымі» ў сваім жыцці. 14-га траўня 1995-га года яму было толькі чатыры гады, таму аб тым, што краіна страціла тады свае нацыянальныя сімвалы, ён даведаўся значна пазней.**

**Роўна праз 15 год, 14-га траўня 2010-га года, Уладзімір Яроменак атрымаў штраф 30 «базавых» за тое, што вывешваў нацыянальныя (бел-чырвона-белыя) сцягі насупраць Кастрычніцкай плошчы.**

**14-га траўня 2011-га года суддзя Наталля Чацвярткова «адмерала» яму 3 гады пазбаўлення волі за ўдзел у падзеях 19-га снежня 2010-га года.**

## Крыніцы беларускасці

«Маю матулю завуць Галіна Маркаўна. Яна нарадзілася ў Горках Магілёўскай вобласці. Пасля з бацькамі пераехала ў Міёры. А вось тата Мікалай Паўлавіч — мясцовы. Дакладней, з вёскі, якая недалёка ад нашага райцэнтра. Пасля вайсковай службы стаў працаваць у горадзе, дзе яны з маці і пазнаёміліся.

Вынікам стала маё нараджэнне 4-га верасня 1990-га года.

Амаль усё дзяцінства (да другога школьнага класа) я правёў у дзіцячым садку і ў бабулі з дзядулям, якія таксама жылі ў Міёрах.

Звычайна бацькі прывозілі мяне да іх у панядзелак, а ў пятніцу, то бок на выходныя, забіралі. Тата часта быў у камандзіроўках, маці нярэдка затрымлівалася на працы, таму магчымасць глядзець за дзіцем бацькі мелі абмежаваную. Тым больш што ў мяне ёсць старэйшая родная сястра.

Вялікі ўплыў на маё выхаванне аказаў менавіта дзядуля. На жаль, Марка Афанасьевіча з намі ўжо няма...

Калі Беларусь толькі-толькі стала незалежнай, МЕНАВІТА ён купіў беларускі буквар. Здаецца, 1992-га года выдання. З маленства дзед вучыў мяне чытаць МЕНАВІТА на беларускай мове. Атрымлівалася няблага, бо памяць у мяне даволі добрая. Напрыклад, ужо ў тры гады я ведаў знакаміты верш Янкі Купалы. Памятаеце: « Мой мілы таварыш, мой лётчык»? Па сутнасці МЕНАВІТА дзядуля заклаў у мой светапогляд зерне любові да сваёй радзімы і ўсяго беларускага.

У нашым горадзе тры школы. Для мяне (каб было прасцей) абралі тую, што месціцца бліжэй да дзедавай хаты. Вучыўся добра, але вы-



датнікам ніколі не быў. Школа была рускамоўнай. Беларускай мове і літаратуры прысвячалася толькі некалькі гадзін на тыдзень, але, як толькі стаў карыстацца камп'ютарам, пачаў цікавіцца нацыянальным рухам і маю ўвагу адразу прыцягнуў «Малады Фронт». Магчыма, таму што я таксама малады.

Некаторыя афіцыйныя экскурсаводы кажуць, што назва нашага горада пайшла ад рускага слова «маёры», але гэта, мякка кажучы, не адпавядае рэчаіснасці. Гістарычная назва горада, дзе я нарадзіўся, «Мёры». Па адной з легендаў, назва ракі Мерыца, на якой размясціўся наш горад, пайшла ад таго, што навокал было шмат балотаў, і дадзенае месца было «мёртвым», не зусім прыдатным для жытла. А ўжо ад ракі і атрымалася назва горада — Мёры. Невялічкае мястэчка ўзнікла ў канцы XVI-га стагоддзя, а назва змянілася, калі класічны правапіс перавялі на «наркамаўку».

*Імгненні дзяцінства.*



Зараз там жыве менш за дзесяць тысяч чалавек.



*Імгненні дзяцінства.*

Увесь час чакаў, калі паступлю ў Мінск, бо Міёры, як бы мовіць, знаходзяцца ў баку ад палітычнага жыцця. Студэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі стаў без якіх-небудзь цяжкасцей. Літаральна праз некалькі тыдняў пастаяннага знаходжання ў сталіцы пачаў шукаць кантакты з сябрамі «Маладога Фронту».

Яшчэ ў дзяцінстве (разам вучыліся ў школе) мы былі знаёмыя з Міколам Дзімідзенкам. Знайшоў тэлефон. Сустрэліся. Ён мяне ў арганізацыю і прывёў. Мае школьныя сябры ведалі пра гэта раней за бацькоў, бо іх я яшчэ «рыхтаваў». Успрынялі нармальна, толькі турбаваліся, каб гэта не перашкодзіла вучобе. Пазней так яно і адбылося.

І увогуле. На Заходняй Беларусі да бальшавікоў ва ўсе часы адносіліся даволі кепска. Памяталі, колькі гора яны прынеслі людзям. Таму мой выбар «Маладога Фронту» равеснікі сустрэлі з разуменнем. Маўляў, «мы б таксама далучыліся, але не хапае смеласці».

## Сталічныя «дэбюты»

Паступіў я ў 2008-ым годзе і першы курс правучыўся без якіх-небудзь праблем. Напэўна, таму, што палітычная актыўнасць была мізэрнай. Яна актывізавалася толькі бліжэй да лета. З гэтага часу не прапускаў ні адной акцыі салідарнасці, якія праходзілі ў тыя часы кожны месяц.

Першае затрыманне адбылося 7-га траўня 2009-га года. Гэтая акцыя была прымеркавана да гадавіны знікнення Юрыя Захаранкі. Нас сабралася чалавек 50. З партрэтамі зніклых і палітзняволеных выстраілі-

ся на Кастрычніцкай плошчы ў «Ланцуг неабыякавых людзей». Дарэчы, менавіта ў гэты час праводзіў галадоўку Мікола Аўтуховіч, і «Малады Фронт» распачаў галадоўку салідарнасці з палітзняволеным.

Непасрэдна падчас пікету нікога не затрымлівалі. Проста, калі акцыя скончылася, услед за намі пайшлі амапаўцы. Мой «дэбют» адбыўся ў Цэнтральным РУУС. Тры гадзіны прастаяў тварам да сценкі, потым перапісалі дадзеныя і адпусцілі. Так сёння не бывае.

Натуральна, адразу прыйшла «цялега» ў дэканат, але летнюю сесію я яшчэ паспеў здаць «без прыгодаў». Праблемы пачаліся з пачаткам другога курса. Мяне сталі выклікаць у дэканат і казаць, што «не тым займаюся». Адказаў: «Вучобе гэта не перашкаджае, а чым я займаюся ў вольны час, кіраўніцтва ўніверсітэта хваляваць не павінна».

Яны гэта добра запомнілі. Зімой так і сказалі: сесію ты здасі, але не з першага разу. Зрабілі так наўмысна. Пераздача аўтаматычна азначала пазбаўленне стыпендыі, бо я вучыўся на «бюджэце». Яна была такой «смешнай» і больш нагадвала «падачку», чым рэальную дапамогу. Я нават не хваляваўся, калі выкладчык, амаль не слухаючы адказ, кінуў — прыйдзеш яшчэ раз.

Праз год я атрымаў першы штраф. У той дзень агучвалі прысуд Мікалаю Аўтуховічу. Мы ўжо адышлі ад будынка Вярхоўнага суда, ка-



*Імгненні дзяцінства.*

лі пад'ехаў аўтобус, куды амапаўцы «загрузілі», акрамя мяне Міколу Дзімідзенку, Аляксандра Казуліна і Аляксандра Макаева. Склалі пратакол, што «лаяліся матам і не рэагавалі на заўвагі супрацоўнікаў міліцыі».

Судзілі 12-га траўня за «дробнае хуліганства». Усім далі штрафы — час лібералізацыі.

Праз два дні мяне затрымалі зноў. Ужо за тое, што ў гадавіну ганебнага рэферэндуму 1995-га года разам з сябрам вывесіў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг насупраць Кастрычніцкай плошчы. Не паспелі спусціцца з пажарнай лесвіцы, як пад'ехаў мікрааўтобус...

Нас адвезлі ў Цэнтральнае РУУС. Там склалі пратакол, забралі асабістыя рэчы, заставілі выцягнуць шнуркі. Я падумаў — суткі, але памыліўся. Зноў штраф. Суддзя вельмі здзівілася, калі даведалася, што два дні таму мяне таксама судзілі... 30 «базавых»... Лібералізацыя...

Пасля гэтага мяне выклікалі ва ўніверсітэце да дэкана, дзе «ўляпілі» «строгую вымову з занясеннем у асабістую справу». Сесію я з горам папалам здаў і перайшоў на трэці курс.

Пачалася перадвыбарчая прэзідэнцкая кампанія, падчас якой нікога больш чым на гадзіну не затрымлівалі. Працаваў у камандзе Віталя Рымашэўскага, бо ён мне падабаўся больш астатніх. Афіцыйна ж «Малады Фронт» не падтрымліваў ніводнага кандыдата ў прэзідэнты. Кожны вызначаўся самастойна.

19-га снежня 2010-га года лібералізацыя скончылася.

## Трэці арышт

Галасаваць я не пайшоў. Не бачу ў гэтым сэнсу, бо галасы выбаршчыкаў у нас ніхто не лічыць. Напярэдадні выбараў мы арэндавалі кватэру для тых, хто прыедзе ў Мінск з рэгіёнаў. Яе вельмі хутка ўзялі «пад кантроль» спецслужбы.

18-га снежня я быў там разам з Дзянісам Лазарам, Эдуардам Лобавым і Зміцерам Дашкевічам. З апошнім мы збіраліся разам ехаць у адзін бок, а Дзяніс з Эдуардам — у другі. Яны выйшлі раней, а Зміцер пайшоў выносіць смецце. А потым адразу накіраваўся на прыпынак, дзе ўжо стаялі Дзяніс з Эдуардам. У трох яны вырашылі крыху «адвесці» «хвост». Гэта мяне і выратавала ад «прэвентыўнага» арышту, бо праз гадзіну хлопцы апынуліся за кратамі.



*Імгненні дзяцінства.*

Вечарам гэтага ж дня разам з іншымі будучымі ўдзельнікамі Плошчы мы начавалі ўжо на другой кватэры. Як гэта бывае напярэдадні вельмі важнай падзеі, амаль не спалі. Раніцай дамовіліся сустрэцца на Прывакзальнай плошчы, дзе фармавалася калона БХД, і па 2-3 чалавекі (каб не прыцягваць увагі) выйшлі на вуліцу.

... Калі на плошчы Незалежнасці пачаўся «хапун», я знаходзіўся каля прыступак Цэнтральнай выбарчай камісіі. Як толькі заўважыў,

што АМАП пачаў «працаваць» і прыціскаць людзей да будынка, прабіўся за іх спіны. Праўда, пры гэтым згубіў адзін красовак. Потым выпадкова сустрэў свайго сябра, які даў мне пару шкарпэтак. Зімна. Мароз. Але думалася, што ўсё гэта лепш, чым знаходзіцца ў аўтазаку.

Разам з натоўпам пайшоў да гатэлю «Мінск». Там пачуў, што з Кастрычніцкай плошчы на нас таксама рухаецца АМАП, і праз праспект Незалежнасці трапіў у Міхайлаўскі сквер. Там стаў папраўляць павязку на назе. Нейкі мужчына, калі даведаўся, што здарылася, прапанаваў зайсці ў суседні дом, дзе і жыве. Ён напаіў мяне гарачай гарбатай і даў другі абутак.

Пазней змог вырвацца з ужо ачэпленай міліцыянтамі і салдатамі плошчы Незалежнасці і дамовіцца з сябрамі пра сустрэчу на ёй наступным днём. На наступны дзень я там даведаўся, што ў краіне «наступіў 37-ы год» і ніякага працягу Плошчы не будзе. Сабралася каля 40-а чалавек, і, як толькі пачалі даставаць свае «расцяжкі», на нас накінуліся міліцыянты. Урэшце — 15 сутак.

У Мінску ўвесь прыёмнік-размеркавальнік на Акрэсціна быў «забіты» людзьмі, і нас павезлі ў Жодзіна.

Калі выйшаў, думаў, што ўсё гэтым і абмяжуецца, аказалася — паспяшаўся з высновай. Да таго ж, вучоба мяне ў той момант больш турбавала, чым усё астатняе. Пакуль быў за кратамі, прапусціў усе свае залікі (без іх не дапускаюць да іспытаў), а курсавы праект (ён быў у ноўтбуку) забралі падчас знаходжання «на сутках» (у нашай кватэры адбыўсяператрус).

Хутка паздаваў залікі, аднак за гэты час прайшлі два іспыты. Хацеў пайсці на трэці, калі пазванілі з дэканата і сказалі, што я больш не студэнт. Дакументы трэба было забраць 19-га студзеня, але з раніцы да мяне прыехалі супрацоўнікі КДБ і «забралі» на допыт.

Там сказалі, што за 20-е снежня я адсядзеў свае «суткі» а за 19-е — не, адвезлі ў Маскоўскае РУУС і склалі адпаведны пратакол — 7 сутак. Самае дзіўнае, што я пайшоў «ад вышэйшага да меншага», то бок ад 15-ці сутак да 7-мі. Звычайна бывае наадварот.

26-га студзеня 2011-га года яны скончыліся, але на свабоду я не выйшаў.

Трэці арышт адбыўся проста на Акрэсціна. З КДБ прыехаў Зміцер Свістун, які, мабыць, «курыруе «Малады Фронт». На мяне надзелі кайданкі і адвезлі ў «амерыканку».

## Воля без волі

З «амерыканкі» праз дзесяць дзён мяне перавезлі на «валадарку», а праз тры з паловай месяцы «далі» тры гады зняволення. Этапавалі, нягледзячы на адпаведныя заявы, толькі больш як праз два месяцы пасля прысуду. Папраўчая калонія № 3, якая месціцца пад Віцебскам у пасёлку Віцьба, вядомая тым, што некалі там «сядзеў» Аляксандр Казулін. Туды ж накіравалі Аляксандра Атрошчанкава і Зміцера Дароніна.

Дарэчы, у адным «купэ» спецыяльнага вагона да Оршы я ехаў разам з Андрэем Алегавічам Саннікавым. І судзілі нас таксама разам.

У калоніі я быў грузчыкам на тартаку, то бок насіў дошкі і бярвенні. Шмат папрацаваць не давялося. На «промке» да вызвалення я прабыў усяго пяць сутак.

Яшчэ ў «каранціне» мне прапанавалі напісаць прашэнне аб памілаванні. Першапачатковы тэкст (пакаянне і прызнанне сваёй віны) не задаволіў. Пасля доўгіх удакладненняў засталося толькі «прашу мяне вызваліць».

Я нават не ведаў пра сваё «памілаванне». Выклікалі на КПП «прамзоны» і сказалі — збірай свае рэчы. На квіткі і харчаванне далі толькі 16 тысяч беларускіх рублёў. Здзек. Менш за два даляры па курсу Нацыянальнага банка РБ. Нават калі нічога не есці, на праезд усё роўна не хопіць Добра, што былі грошы на асабістым рахунку. Тыя, што мне дасылалі сябры.

Амаль не афішаваў сваё вызваленне. Толькі папярэдзіў бацькоў.

Стаў на ўлік у міёрскай міліцыі, а праз некалькі дзён (16-га жніўня) паехаў у Мінск. Трэба было аднаўляцца ў радыётэхнічным універсітэце. Потым зноў былі арышты і «суткі». 4-га студзеня 2012-га года мяне зноў адлічылі. Пасля вырашыў не траціць дарэмна час, змяніць накірунак і стаць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Вучобу працягнуў у іншым месцы.

У сувязі з тым што пакуль нельга без дазволу пакідаць межы краіны, хутчэй за ўсё гэта будзе нейкае дыстанцыйнае навучанне. Вучыцца маю намер у любым выпадку.

Прафілактычны нагляд мне замянілі на больш жорсткі прэвентыўны. Аднак справа не толькі ў гэтым. Такое ўражанне, што ў краіне зараз пануе натуральнае юрыдычнае бязмежжа. Міліцыянты нават ключы ад маёй здымнай кватэры ў Мінску падрабілі.

Хутчэй за ўсё гэта адбылося, калі мы з сябрамі чарговы раз былі на Акрэсціна, альбо ключ дала ўладальніца кватэры. Ужо зафіксавана два выпадкі, калі іх выкарыстоўвалі, як след. Уявіце, самі адчыняюць дзверы, урываюцца і кладуць усіх «мордай у падлогу». У нармальнай краіне падобнае нават прыдумаць цяжка...

Зараз я афіцыйна на волі, але якая воля ў нашай краіне. 13-га жніўня 2011-га года я выйшаў не на волю, а за плот. За той плот, які агароджвае калонію «Віцьба» ад вялікай турмы з назвай «Беларусь».

Я буду рабіць усё магчымае, каб сітуацыя ў нашай краіне змянілася. Каб новыя пакаленні ніколі не зведалі таго, як за тваё погляды, вальнадумства кідаюць за краты або збіваюць на плошчы.

Я праваслаўны вернік і баюся толькі Божага суда. Гэта адказ на пытанне наконт «перспектыў» зноў апынуцца за кратамі. Чалавечыя суды, канешне, важныя, але гэта не самае галоўнае ў нашым жыцці.

# МАНАЛОГ З-ЗА МЯЖЫ



**Напамін:** Уладзімір Кобец нарадзіўся 7-га лістапада 1971-га года ў Слоніме. У 1989-ым годзе скончыў БДУ па спецыяльнасці «географ-эколаг». У 2000-ым годзе з адзнакай скончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Адзін з заснавальнікаў і каардынатараў руху «Зубр». Кіраўнік ініцыятыўнай групы, а затым выбарчага штаба кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Андрэя Саннікава. Арыштаваны 21-га снежня 2010-га года. Прад'яўлена абвінавачванне па 1 і 2 частках артыкула 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). У ноч на 27-е студзеня 2011-га года адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.
У жніўні 2011-га года Уладзімір Кобец таемна пакінуў Беларусь і ўжо за межамі краіны даведаўся пра спыненне 23-га жніўня крымінальнай справы супраць яго. 19-га верасня 2011-га года на сайце Хартыі'97 з'явіўся артыкул У. Кобеца, у якім ён распавёў пра катаванні і вярбоўку ў следчым ізалятары КДБ.

**Магчыма, гэты тэкст некаму можа падацца вельмі рэзкім і радыкальным. Магчыма, нехта нават скажа пра «вяканне з-за мяжы». Магчыма, некаторыя параяць паглядзець у люстэрка і ўзгадаць асабісты «фінт з КДБ».**

**Аднак аўтар гэтай кнігі вырашыў даць тэкст практычна без зменаў па вельмі простай прычыне: Уладзімір Кобец мае права так думаць. Як маюць права на існаванне і супрацьлеглыя думкі. Менавіта гэта нам гарантуюць беларускія законы. Альбо я не маю рацыі?**



Першыя дні на волі пакінулі адчуваньне пустэчы, выпаленай зямлі.

Маштаб трагедыі 19-га снежня 2010-га года стаў зразумелым толькі па выхадзе з СІЗА КДБ пасля амаль двухмесячнай ізаляцыі. Пасля інфармацыйнага вакууму «амерыканкі» хваля навінаў, літаральна, агаломшыла.

З розных краінаў пасыпаліся тэлефанаванні сяброў і знаёмых: людзі, што працавалі ў кампаніі і пазбеглі арышту і катаванняў коштам ад'езду з краіны, тэлефанавалі на хатні нумар, і ў іх голасе, іх словах быў такі моцны подых Волі, што ён, нібы за вушы, выцягваў з ліпкага павуціння навязанай рэчаіснасці.

На некалькі будучых месяцаў кропкай апоры для мяне стаў беларускі Праваабарончы цэнтр «Вясна».

Алесь Бяляцкі, які прысвяціў сваё жыццё дапамозе і ратаванню ахвяраў рэпрэсій не толькі ў Беларусі, але і ў цэлым свеце, кінуты хунтаю Лукашэнкі за краты. Імя гэтага чалавека будзе прапісана ў падручніках новай свабоднай Беларусі, яго імем назавуць вуліцы і плошчы. Але гэта — потым. Зараз мусім вызваліць з турмы гэтага Вялікага Беларуса!

Але вернемся ў зіму 2011-га года. Па абшарах палітычнай пустэльні, што засталася пасля 19-га снежня, сноўдаюць «тэрмінатары» рэжыму, некаторыя з іх някепска імітуюць працяг палітычнай барацьбы (як кура з адсечанай галавой усё яшчэ кудысьці бяжыць).

Яшчэ да арышту — 20-га і ў першай палове 21-га снежня — я меў інфармацыю ад міжнародных назіральнікаў. Тое, што яны распавя-

далі, тлумачыць рэакцыю Лукашэнкі на пратэст 19-га снежня: Лукашэнка альбо адставаў ад Саннікава, альбо апярэджваў яго на лічаныя галасы.

Нават кароткая — усяго каля месяца — перадвыбарчая кампанія, калі дазволілі троху болей, чым звычайна, так змяніла беларускае грамадства, што спалоханая хунта дзеля захавання ўлады брутальна падавіла пратэст у Мінску і фактычна ўвяла ў краіне надзвычайнае становішча, пагрузіла грамадства ў атмасферу жывёльнага страху.

Нянавісць да «неблагадарнага» народу — рыса, аднолькавая для ўсіх тыранаў, якія плануюць правіць вечна, але аднойчы знаходзяць на цэнтральнай плошчы сталіцы шматтысячны натоўп.

Тырану цяжка паверыць у тое, што народ, які ён лічыў сваім уласным, можа асмялець і ўказаць яму на яго сапраўднае месца.

Далейшая логіка простая: чым больш брутальныя захады прымае тыран супраць апазіцыі, тым больш незайздросны ягоны лёс.

Сітуацыя, што склалася напярэдадні выбараў 2010-га года, дала Лукашэнку магчымасць атрымаць заходнія крэдыты, далучыцца да праграмы «Усходняе партнёрства», пазбавіцца ізаляцыі (візіты ў Мінск Вэстэрвэлле, Сікорскага, Саланы, іншых) у абмен на імітацыю дэмакратызацыі ў Беларусі. З'явіліся апалагеты такой палітыкі, структуры, закіпела работа.

Зразумела, што мяняць нешта ў пабудаванай вертыкальнай сістэме ўлады Лукашэнка не збіраўся: выцягнеш адзін каменчык і ўся жорсткая канструкцыя абваліцца.

«Дэмакратызацыю» вырашылі з'імітаваць, а надзвычай кароткая кампанія мусіла засцерагчы рэжым ад незваротных працэсаў у грамадстве.

Акцыя пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў галасавання 19-га снежня 2010-га года зламала гульню імітатараў дэмакратызацыі і іх еўрапейскіх лабістаў. Увесь свет пабачыў сапраўднае аблічча звычайнай беспрасветнай тыраніі.

Рэчаіснасць змянілася — час падзяліўся на «да 19-га снежня» і «пасля 19-га снежня». Шок беларусаў ад гэбэшна-міліцэйскага гвалту над людзьмі быў такі моцны, што вочы паадкрываліся нават у тых, хто перад гэтым сапраўды верыў у «лукашэнкавы цуд».

Прэзідэнцкая кампанія аспрэчыла міт пра апалітычнасць беларусаў. Як толькі распачаўся збор подпісаў і з-за гульні ў імітацыю ўлады далі людзям магчымасць збіраць і ставіць подпісы адкрыта, у кампанію імгненна ўключыліся тысячы людзей па ўсёй краіне.



*З прэзідэнтам Славацкай асацыяцыі па культуры, адукацыі і камунікацыі Любамірай Слушнай.*

Можна толькі ўявіць, як бы змянілася грамадства, калі б кампанія трывала не адзін месяц, а болей...

Прайшоў час пасля «пагрому» 19-га снежня, і загучалі галасы агентуры — тых, хто «засумаваў» па часе «да 19-га снежня». Аб чым сумуем? Хіба не меў Лукашэнка шанец у 2010-ым? Меў. Мала хто меў такі шанец, які Лукашэнка меў. Сама апазіцыя, Еўразвяз і іншыя падказвалі гэтае бяспечнае выйсце. Дык у чым жа справа?

Справа ў тым, што ў цэлым свеце няма ніводнага прыкладу добраахвотнай дэмакратызацыі дыктатуры. Сама яе (дыктатуры) сутнасць не можа прыняць дэмакратыю, бо свабода слова, правы чалавека і вяршавенства закона знішчаюць дыктатуру.

Наадварот, падзеі ў Тунісе, Егіпце, драматычныя падзеі ў Лівіі прывялі да звяржэння навязаных народам «усенароднаабраных» рэжымаў, нават да забойства лівійскага тырана Маамара Кадафі.

Арабская вясна змяніла палітычны ландшафт паўночнай Афрыкі, а зараз мы назіраем за бясслаўным і ганебным падзеннем Асада — тырана, што пасылае авіяцыю бамбіць жылыя кварталы сірыйскіх гарадоў, забівае сірыйскіх жанчын і дзяцей.

З кожным з гэтых катаў у свой час спрабавалі дамовіцца. Кадафі нават амаль адкупіўся ад збітага па ягоным загадзе над Вялікай Брытаніяй авіялайнера. Але — безвынікова. Дыктатуры не рэфармуюцца, дыктатары не робяцца бацькамі-заснавальнікамі дэмакратый. Яны зневажаюць дэмакратыю цалкам, успрымаць пакорлівасць палітыкаў волі выбарцаў як слабасць.

Дыялогі прадстаўнікоў дэмакратычнага свету з прадстаўнікамі рэжыму — дрэнны сігнал як чыноўнікам, так і апазіцыі. Канец у кожнай дыктатуры ўсё роўна будзе адзін і той жа. Але змарнаванага часу і ахвяраў будзе значна болей.

«Ура-кампанія», што захапіла ўладу ў нашай краіне, пахавала надзеі цэлага пакалення, а магчыма, і некалькіх пакаленняў беларусаў, на ўдзел у будаўніцтве ўласнага ўтульнага дома — еўрапейскай краіны, якая б мела ўсе шанцы быць прыкладам поспеху і дэмакратыі для цэлага рэгіёну, быць тут лідарам, а не парыяй.

Хачу звярнуцца да гісторыі. Вось, што здзіўляе — пасля больш як 200 гадоў расійскага імперскага панавання, пасля сусветных войнаў і татальнай русіфікацыі Беларусь, што паўстала на руінах Вялікага княства Літоўскага, як і раней працягвае нараджаць лідараў, дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў сусветнага ўзроўню.



*З намеснікам міністра замежных спраў Славакіі Міланам Яжовіцай.*

Але людзі, па сваіх асабовых якасцях пакліканыя быць элітай краіны, адказнай за яе развіццё, мардуюцца, кідаюцца ў турмы, падвяргаюцца катаванням і шальмаванню, знішчаюцца фізічна тымі, каго нельга было б за сто міль дапускаць нават да кіраўніцтва задрыпаным калгасам.

Забітыя (як лічаць многія — **заўвага аўтара**) Генадзь Карпенка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі, Юры Захаранка, Дзмітрый Завадскі, Андрэй Зайцаў, Алег Бябенін ды іншыя.

Прайшлі праз турмы альбо застаюцца за кратамі Андрэй Саннікаў, Уладзімір Някляеў, Мікола Статкевіч, Дзмітры Бандарэнка, Наталля Радзіна, Аляксандр Атрошчанкаў, Ірына Халіп, Алесь Міхалевіч, Зміцер Дашкевіч, Наста Палажанка, Павал Севярынец, Эдуард Лобаў, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Сяргей Каваленка, Анджэй Пачобут, Аляксандр Казулін, Андрэй Клімаў, шмат іншых.

Але спыніць гэты натуральны гістарычны працэс хеўра Лукашэнкі як не магла, так і не можа. Немагчыма ў XXI стагоддзі спыніць эвалюцыю цэлай еўрапейскай краіны...

Добра памятаю 1994-ы год — Аляксандр Лукашэнка, які перамог на першых прэзідэнцкіх выбарах, сабраў журналістаў і заявіў, што да ўлады прыйшла каманда прагматыкаў.



*У Францыі з Леанідам Навіцкім (былы ахоўнік Андрэя Саннікава).*

Праз 18 год лукашэнкава Беларусь варожыць з усімі дэмакратыямі свету — краінамі, якія валодаюць перадавымі тэхналогіямі і асноўнымі фінансавымі рэсурсамі, эканомікамі, якія забяспечваюць самы высокі ўзровень і, як вынік, самую высокую працягласць жыцця насельніцтва.

Гэтыя краіны знаходзяцца ў працэсе складанай, але вызначальнай для будучыні ўсёй цывілізацыі інтэграцыі на грунце супольных каштоўнасцяў і, найперш, на грунце шанавання правоў і свабод чалавека.

У сябрах жа «прагматыка» Лукашенкі — сусветная набрыдзь — афрыканскія людаеды, блізкаўсходнія царкі і заакіянскія клоўны. У іх уласных краінах катастрафічна нізкі



*З сям'ёй.*

ўзровень жыцця, іх грамадзяне праўдамі і падманамі ўцякаюць у вольны свет, праклінаючы «ўсенароднаабраных» ідыётаў.

Здаровы прагматызм мусіў падказаць Лукашэнку не ставіць над уласным народам эксперымент па працягласці існавання аўтарытарызму ў адзінай еўрапейскай краіне — Беларусі.

Вынікам такога кіравання стане безнадзейная адсталасць цэлай краіны, галеча і ўцёкі беларусаў з уласнай дзяржавы.

Дзеля працягу кіравання «лукашэнак» у ахвяру і надалей будзе прыносіцца сістэма вышэйшай адукацыі Беларусі. Ну што значаць для конюха, які атрымоўвае кайф ад усёдазволенасці, такія словы, як «Йель», «Оксфард», «Кембрыдж», «Сарбона»? Які такі Балонскі працэс?

За словамі пра скарачэнне тэрмінаў адукацыі рушаць услед і канкрэтныя захады. Калі ж прасачыць логіку Лукашенкі, то і ўвогуле можна ў перспектыве чакаць адмовы ад сістэмы вышэйшай адукацыі. Яе сме-

ла можа замяніць вайскова-страявая падрыхтоўка і палявыя зборы са стрэльбамі па нізкалётным паветраным цэлям.

Усе тыраны і аўтакраты ў наш час сканчваюць аднолькава, і не істотна, ці то сусветная «закуліса» прадвызначае іхны лёс, ці то ва ўласным атачэнні знаходзіцца сапраўдны афіцэр альбо троху больш дальнабачны чалавек, які адным дзеяннем спыніць падзенне краіны ў нікуды.

Сапраўднай падставай нежадання Лукашэнкі «дэмакратызавацца» з'яўляюцца «знікненні» апанентаў — Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, акалічнасці смярцей і арыштаў цэлага шэрагу іншых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, бізнэсоўцаў, разбудаваная пад кіраўніцтвам Лідзіі Ярмошынай сістэма фальсіфікацыі ўсіх выбараў і рэферэндумаў пасля 1994-га года, падзеі 19-га снежня 2010-га года.

Чаша рана ці позна перепоўніцца і ўсе ахвяры будуць на сумленні дыкатара і ягоных памагатых, лёс якіх незайздросны, бо не ўсе паспеюць збегчы з карабля, які тоне.

Тым, хто яшчэ не паспеў уляпацца ў злачынствы, што плануюцца і здзяйсняюцца тымі, каму губляць ужо няма чаго, хочацца параіць бегчы як можна далей ад Лукашэнкі, ягоных сыноў і ўвогуле ад усіх, хто садзіць, забівае і фальсіфікуе ягоным імем...

...Турма застаецца ў душы назаўсёды. З часам, калі сыходзяць начныя кашмары, яна апускаецца глыбей, і здаецца, што ты ўвогуле пазбавіўся яе. Але, насамрэч, у самым цмяным кутку свядомасці турма будзе драмаць, час ад часу прабуджаючы да жыцця брудна-зялёныя малюнкі камер-трунаў, лязг металічных дзвярэй, трэск электрашокераў, крыкі «чорных масак».

Але хіба гэта можна параўнаць з тым, што адчуваюць і чаго баяцца самазваныя «бацькі» народаў ва ўсім свеце?

*Штык-нож у дупе Кадафі — гэта іх начны кашмар і гэта — іх верагодная рэчаіснасць.*

# РУЖАНЕЦ ЛЁСУ



**Даведка:** Сяргей Казакоў нарадзіўся 12-га лютага 1992-га года ў расійскім Ленінагорску. Скончыў мінскую сярэднюю школу № 85.
Актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Быў затрыманы 27-га студзеня 2011-га года ў якасці падазраванага па справе аб масавых беспарадках. Прад'яўлена абвінавачванне па ч.2 арт. 293 КК (удзел у масавых беспарадках).
Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА №1 на вул. Валадарскага ў Мінску.
12-га траўня 2011-га года асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
11-га жніўня 2011-га года памілаваны згодна з указам прэзідэнта.

**Менавіта ружанец мае непасрэдныя адносіны да таго, што стала адным з успамінаў пра Бабруйскую папраўчую калонію №2. Там Сяргей Казакоў зрабіў цэлую калекцыю ружанцаў. З хлеба. І ўвогуле, сярод «зэкаў» вельмі часта сустракаюцца таленавітыя людзі...**

## Арыенцір — Беларусь

Амаль усім героям сваіх нарысаў я прапаную ўзгадаць тэкст песні Андрэя Макарэвіча «Ты помнишь, как всё начиналось?» Зразумела, што як музыка Сяргей Казакоў не мог стаць выключэннем, толькі «першы акорд» у яго быў вельмі кароткі — Ленінагорск Татарскай АССР. Літаральна пасля нараджэння сына яго бацькі разышліся, і Сяргей практычна да васьмі гадоў жыў у сваёй бабулі Ганны Пятроўны ў Сібіры.



*Першы год.*

Яе муж Віктар Аляксандравіч быў вайскоўцам і менавіта дзякуючы дзеду Сяргей трапіў у Мінск. Як вядома, вайскоўцы не абіраюць месца сваёй службы, хаця час ад часу «кадравікі» прыслухоўваюцца і да іх пажаданняў. Асабліва, калі тыя ўжо «бліжэй да пенсіі».

На жаль, пайсці ў запас Віктару Аляксандравічу не выпала. Проста на службе ён трагічна

памёр. Здарылася гэта ўжо ў Беларусі, дзе той служыў апошнія гады жыцця і дзе яго жонка потым атрымала кватэру.

Сяргей Казакоў пайшоў у «пралетарскую» 85-ю школу, што месціцца ў Завадскім раёне Мінска. Менавіта ў гэты час (1989-ы год) пачалася чарговая рэформа беларускай адукацыі, якая ў рэшце рэшт не была здзейсненай.

Як вядома, не так даўно «дванаццацігодка» была заменена на «адзінаццацігодку», і Сяргею прыйшлося закончыць той самы клас, які пазначаўся абсурдным «штрыхом».

Але гэта было потым, бо спачатку (пасля дзясятага (з улікам рэформы —**заўвага аўтара**) класа) на вельмі кароткі тэрмін хлопец пайшоў вучыцца ў Авіябудаўнічае прафесійна-тэхнічнае вучылішча.

Мабыць, зараз назва «вучылішча» камусьці прыйшлася не даспадобы, і іх перайменавалі ў каледжы. Не змяніўшы сутнасці...

Выбар ПТВ тлумачыцца вельмі проста. Як і ўсе мы, Сяргей Казакоў з самага дзяцінства пастаянна чуў словы пра неабходнасць вучыцца далей. Таму і вырашыў зрабіць менавіта так. Праўда, цягнулася ўсё вельмі нядоўга. Усяго два тыдні.

Шчыра кажучы, даволі агідна слухаць ад чыноўнікаў, якія расказваюць пра «лепшую ў свеце адукацыю», а сваіх дзяцей пры гэтым накіроўваюць вучыцца за мяжу... Калі «лепшая ў свеце»— вучыце тут!

У школе Сяргей Казакоў вучыўся «так сабе» і таму спадзяваўся, што гучная назва вучэльні будзе адпавядаць і якаснай адукацыі. Памыліўся. Прыйшлося хутка вяртацца назад.

Сярод захапленняў Сяргея Казакова музыка дамінавала безумоўна і абсалютна. Разам з разуменнем таго, што на сур'ёзным узроўні ёй пажадана займацца толькі з адпаведнай «корачкай», то бок з дыпломам аб нейкай адукацыі.

Пералічваць усе месцы пасляшкольнай працы няма сэнсу па двух прычынах. Першая — іх было даволі шмат. Другая — аднолькавая сутнасць зместу. Рознарабочы.

Менавіта з апошняга месца працы (фасоўшчык базы гародніны) яго і «забралі» супрацоўнікі КДБ.

## Арыенцір — Плошча

Прыход на Кастрычніцкую плошчу не быў для яго, як кажуць, спантанным рашэннем. Яшчэ за шмат месяцаў да гэтага Сяргей ведаў, што

будзе менавіта там. Як і тое, дзеля чаго гэта будзе зроблена. Інакш Казакоў проста не мог. І не толькі таму, што быў сярод актывістаў «Еўрапейскай Беларусі». Выбар диктавала сумленне, якое не прымала тое, што робіцца вакол.



*Школьны выпуск.*

19-га снежня 2010-га года пачыналася, як звычайна, ранішняй рэпетыцыяй. А пазней пачаліся «дэбюты». І першы з іх — удзел у выбарах. У лютым Сяргею Казакову споўнілася 18 год, што дазваляла галасаваць.

Пасля таго як «канстытуцыйны абавязак» быў выкананы, ён некалькі часоў з сябрамі піў каву. Нельга сказаць, што ў іх кампаніі панавала нязмушаная абстаноўка. Хутчэй наадварот. Была нейкая атмасфера напружанасці, чаканне нечага трывожна-невядомага. Юнакі амаль не размаўлялі паміж сабой.

... Актывісты «Еўрапейскай Беларусі» збіраліся побач з цыркам. Усяго некалькі соцень метраў да Кастрычніцкай плошчы, але і іх хапіла, каб зразумець, што рыхтуецца нешта вельмі значнае. Такой колькасці аўтазакаў у дварах раней не бачыў ніхто.

Не буду падрабязна зноў распавядаць пра шлях з адной плошчы на другую, бо пра гэта шмат казалася ў кнізе «Супраць плыні», якая была надрукавана год таму. Адзначу толькі, што да помніка Леніну, што стаіць ля будынка Дома ўраду, Сяргей Казакоў прыйшоў адзін з першых.

Магчыма, мяне зараз не зразумеюць камуністы (у тым ліку і апазіцыйныя), але я прынцыпова лічу, што помнік самаму яраму бязбожніку не павінен стаяць побач з месцам, дзе жыве Бог. Не кажучы ўжо пра ўсе іншыя абставіны... Не прымаю і «адмазку» наконт «дэфіцыту сродкаў»... Каб пераставіць помнік Максіму Багдановічу, яны знайшліся... Знойдуцца і зараз...

Не стану зноў прыводзіць факты, што сведчаць пра загадзя падрыхтаваную правакацыю. Дадам усяго адну дэталь, пра якую распавёў Сяргей Казакоў.

Вечарам 19-га снежня 2010-га года ніхто з дэманстрантаў нават і не збіраўся падыходзіць да адміністрацыйных будынкаў, біць там шкло. Сяргею было добра бачна, як з розных частак вялікага натоўпу (як па камандзе) вызначыліся групы людзей, падбеглі да вокнаў Дома ўраду і пачалі іх біць. Прычым рабілі гэта далёка не голымі рукамі, бо шкло там вельмі тоўстае. Самае «цікавае», што амаль ніхто з іх потым «не свяціўся» ў судах...

Калі пачаўся «хапун», Сяргею пашанцавала: ён прайшоў тры ачапленні. Побач з Казаковым засталося двое яго сяброў. Адзін з іх стаў на плечы астатніх і «выглядзеў» разрыў у ачапленні, якое толькі-толькі па-




*Канцэрт.*



*Перад турмой.*

чыналася. Гэта і дазволіла вырвацца, бо спачатку людзей проста білі нейкія «ціхары ў цывільным», потым лютавалі амапаўцы, а ў «трэцім коле» «працавалі» ўнутраныя войскі. Адсутнасць пэўнай «сінхроннасці» іх дзеянняў і давала банальную магчымасць збегчы.

Напэўна, некаторым мае думкі пададуцца адносна спрэчнымі, але я прынцыпова лічу, што адказнасць павінны несці ўсе, на чыіх руках людская кроў. І тыя, хто даваў загады біць, і тыя, хто біў. Адказнасць гэтая прыйдзе абавязкова. Разам з любой новай уладай.

Ні ў якім разе не заклікаю да нейкіх масавых люстрацый, але масавага даравання, на мой погляд, быць не павінна. Упэўнены, непазбежнасць адплаты прыпыніла б многіх, бо не ўсе з іх ганарацца медалямі, якія атрыманы за збіццё невінаватых людзей.

Добра памятую, як у 1994-ым годзе ў кабінеты «новых» стаялі літаральна чэргі былых кебічаўскіх паплечнікаў. Даволі хутка тады яны змянілі адны крэслы на іншыя і зараз спадзяюцца зрабіць гэтак жа .

Напэўна, частка з іх прэтэндаваць на гэта мае права (напрыклад, высокапрафесійныя кіраўнікі — **заўвага аўтара**), але ёсць і тыя, хто павінен адказаць за асабістыя дзеянні.

Перакананы, калі б нехта адказаў за савецкія рэпрэсіі, сёння б мы не мелі такога міліцэйска-кадэбэшнага бязмежжа.

І яшчэ. Мяркую, што яго было б значна менш і ў тым выпадку, каб ахвяры годна адказвалі сваім катам, а не падстаўлялі пад новы ўдар «іншую шчаку».

І не трэба прыкрывацца загадам і словамі пра «карміць сваіх дзетак». У тых, каго збіваюць і кідаюць за краты, альбо супраць каго нагла ілгуць у судах пра брыдкаслоўе, дзеці ёсць таксама.

## Чужы арыенцір

Чаму «чужы»? Перш за ўсё таму, што Сяргей Казакоў не абіраў яго сам.

Дамоў (кіламетраў 7-8) ён ішоў па начному спужанаму гораду некалькі гадзін. Трапіў у сваю кватэру толькі ў 2 гадзіны ночы. Уключыў тэлевізар, паглядзеў рэпартаж беларускага тэлебачання і ад адчування таго, што адбываецца нешта агіднаанамальнае, да пяці гадзін раніцы не мог заснуць.



*Пасля турмы.*

На наступны дзень у яго брыгады на базе гародніны была «начная змена». Разам з Сяргеем працуюць людзі, якія вельмі мала цікавяцца палітыкай. Дакладней, цалкам апалітычныя. Кошты тады былі дастаткова нізкімі, а заробкі высокімі. То бок ніякага эканамічнага крызісу.

Таму можна зразумець здзіўленне Ка-

закова, калі ён пачуў дастаткова актыўнае абмеркаванне праблемы і вельмі крытычныя адносіны да ўлады. Як звычайна, аднымі размовамі ўсё абмежавалася і на той раз.

Першыя дні пасля падзей 19-га снежня 2010-га года адрозніваліся асаблівай напружанасцю. Штодзённыя арышты іператрусы, масавая вымушаная «эміграцыя» дэмакратычных актывістаў. Складвалася ўражанне, што «цэрберы» сарваліся з ланцугоў і пад іх «клыкі» можа трапіць кожны, у каго дома ёсць камп'ютар, а ў думках — непрыняцце сістэмы.

Калі гэта і ёсць прыкметы «стабільнасці», то мне б вельмі хацелася пачуць пра сутнасць гестапаўскіх метадаў і канцлагераў...

Літаральна за тыдзень у «Еўрапейскай Беларусі» змянілася ўсё так кардынальна, што на яе прыкладзе можна было б чытаць лекцыі пра «тактыку выпаленай зямлі». Прычым знайсці нейкія «канцы» было немагчыма па вызначэнню. Людзі «знікалі», як у кніжках пра Гары Потара. І толькі потым станавілася вядома, што яны альбо за мяжой, альбо за кратамі.

Напрыклад, Сяргею Казакову пра тое, што яго сябра знаходзіцца ў Варшаве, расказалі «чэкісты» падчас допыту ў следчым ізалятары.

Словам, на вуліцу было выходзіць, як кажуць маладыя, «стрёмна»...

Арышт самога Сяргея нагадваў прымітыўны крымінальны серыял, якіх зараз вельмі багата на тэлебачанні. На яго мабільны тэлефон пачаліся званкі з невядомых нумароў. Казакоў здагадваўся, хто гэта, таму адразу змяніў сімку і з'ехаў з кватэры, дзе жыў на той момант.

«Вылічылі» яго праз бабулю, да якой прыехалі з міліцыі і сказалі, што з яе ўнукам хочуць «проста паразмаўляць». Тая паверыла афіцэрскім словам і назвала месца працы , дзе Сяргей «афіцыйна» не значыўся.

За Казаковым «прыйшлі» 27-га студзеня. У чарговую «начную змену». Спачатку некуды выклікалі начальніцу брыгады. Неўзабаве яна вярнулася і папрасіла Сяргея «сходзіць з ёй да дзяжурнага». Як толькі той зайшоў у адпаведнае памяшканне, следам крочыў (каб не збег) невядомы ў цывільным. Паказаў «корачку». Потым гэты «опер» дазволіў «скінуць смс» пра затрыманне і загадаў выключыць тэлефон.

Спачатку Казакова прывезлі ў Цэнтральнае РУУС, дзе ён прабыў трое сутак, а потым — на Валадарку.

На допыце Сяргею далі так званага «дзяржаўнага адваката», які адразу ж параіў ва ўсім прызнацца. Такая «тактыка» падалася Сяргею, мякка кажучы, няправільнай.

Пра «вандроўкі» па Валадарцы падрабязна расказваць не буду, бо тое, што «там не курорт», добра зразумела і так. Спыню ўвагу толькі на некалькіх момантах.

Першы датычыцца прычоскі. Шчыра кажучы, калі я ўбачыў Сяргея Казакова першы раз, то пазнаў яго з пэўнымі цяжкасцямі. Справа ў тым, што «бралі» яго з доўгімі валасамі, а зараз стрыжка амаль ваенная.

Тлумачыцца ўсё вельмі проста — антысанітарыя на Валадарцы. Нават, калі б нехта і хацеў захаваць да суда свае «патлы» (што не вельмі спадабаецца мясцоваму начальству), пагроза непазбежнага педыкулёзу змушае да развітання з «обильным волосяным покровом».

Як вядома, мясцовы следчы ізалятар заўсёды перапоўнены людзьмі, таму Сяргея Казакова адразу здзівіла і насцярожыла тое, што яго перавялі ў камеру на чатырох чалавек, а сядзеў там толькі адзін былы следчы пракуратуры.

Насцярожыла і тое, што той адразу ж пачаў актыўна расказваць пра сябе — у такіх месцах гэта даволі дзіўна. Да таго ж, як хутка высветлілася, да Казакова ў гэтай камеры знаходзіўся другі фігурант «дела о мас-

*Група «Скрыжалі» на «Еўрафэсце».*



совых беспорядках» — Павел Вінаградаў... У такіх умовах пра любое «красамоўства» трэба забыцца адразу...

З «подсадной уткой» Сяргей пражыў у адной камеры тры тыдні і нават сустрэў свой 19-ы дзень нарodзінаў, а потым яго перавялі ў звычайную, аднак неперапоўненую камеру (на 10 месцаў «прэтэндавала» толькі 12 чалавек). У ёй Сяргей адразу даведаўся пра першы прысуд «За Плошчу»: Васілю Парфянкову паказальна «ўляпілі» чатыры гады пазбаўлення волі.

Суд над Сяргеем Казаковым праходзіў «ціха», то бок без асаблівай увагі прэсы. Справа ў тым, што ў гэты ж час судзілі Уладзіміра Някляева. Той «працэс» стаў асновай амаль усіх медыйных артыкулаў.

На знаёмства з «матэрыяламі справы» замест вызначанага па закону месяца Казакову далі толькі тры дні і вельмі цынічна праігнаравалі ўсе пратэсты на гэты конт.

Апошнім часам менавіта здзеклівая цынічнасць стала найбольш яскравай «прыкметай» беларускай улады. Маўляў, з «адмарозкамі» і «пятай калонай» — інакш нельга. Не заслугоўваюць яны «нармальных адносінаў».

Ёсць у такога падыхода і яшчэ адно тлумачэнне. Магчымасць беспакарана «гнабіць» іншадумцаў дае ілюзію «элітарнасці». Той самай, за якой нябачна асабістай прымітыўнасці і шэрасці...

Дваццаць гадоў таму адзін з вядомых кінакрытыкаў напісаў, што галоўны герой «Дзікага палявання караля Стаха» ўступае «ў царства хісткасці, якое выдае сябе за стабільнасць». Нешта падобнае сёння адчуваецца літаральна ва ўсім. Айчынная праваахоўная сістэма (шырэй — юрыспрудэнцыя) — нагляднае таму пацверджанне.

Суд над Сяргеем Казаковым нагадваў благі дэтэктыўны раман. Ігнараваліся ўсе аргументы абароны, не выклікалі «непажаданых» сведак. У «спрэчках бакоў» адвакаты ўшчэнт «разбілі» довады пракурора, аднак на прысуд гэта не паўплывала — тры гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Падобныя «пакасці» працягнуліся і ў Бабруйскай калоніі, куды Сяргея Казакова накіравалі праз месяц (заяву на паскоранае этапаванне банальна «страцілі» — **заўвага аўтара**) пасля прысуду.

Звычайна «каранцін», які ўсе зэкі праходзяць перад асабістымі «атрадамі», займае два тыдні. Умовы там даволі цяжкія, таму асуджаныя імкнуцца прайсці яго як мага хутчэй. Без тлумачэння прычынаў для Сяргея Казакова ён працягваўся два месяцы. Больш за тое, абсалютна незаконна мясцовы начальнік «цэнзураваў» усе газеты, якія былі выпісаны Казакову, таму той іх атрымаў, як кажуць, постфактум.

# Арыенцір — свабода

Як і іншыя, «прашэнне пра памілаванне» Сяргей Казакоў «напісаў» вельмі ўмоўна. Як і іншыя, віны сваёй не прызнаў. 13-га верасня 2011-га года разам са Зміцерам Драздом і Арцёмам Грыбковым супрацоўнікі калоніі адвезлі яго на вакзал і літаральна «пасадзілі» на цягнік.

Ведаю, што Сяргей крыху перажываў наконт таго, што «зламалі», аднак гэта, на мой погляд, абсалютна дарэмна.

Па-першае, не зламалі, бо фразу «Прашу мяне вызваліць» (па глыбокаму перакананню аўтара) вельмі цяжка назваць нейкім пакаяннем.

Па-другое, НІХТО з тых, хто сам пабываў за кратамі, не асуджае падобны крок, бо добра ведае, як там умеюць «прэсаваць» людзей. «Асуджаючыя» каментары звычайна пішуцца ў цёплых і бяспечных кватэрах дзе-небудзь у Варшаве, Лондане альбо Празе, адкуль прасцей за ўсё «змагацца з крывавым рэжымам»... Альбо «каменты» пішуць «інтэрнэт-тролі» з КДБ, бо ў іх «такая праца»...

Крыху дзіўна, але на сваёй працы , пасля таго як «адкінуўся», Сяргей Казакоў аднавіўся без якіх-небудзь праблем, але прапрацаваў там нядоўга — паўтары месяцы. Потым рабочыя пачалі страйк з патрабаваннем павышэння заробкаў. Кіраўніцтва пайшло насустрач, аднак ужо праз тыдзень Казакова адтуль звольнілі, банальна не працягнуўшы працоўны кантракт. Мабыць, нехта падумаў, што страйк «замуціў» менавіта Казакоў.

*Мітынг на «Дзень Волі-2012».*



Літаральна пасля звальнення ён «атрымаў» «дзесяць сутак» за чарговую акцыю салідарнасці. Гэта было першае і пакуль адзінае парушэнне ўмоў вызвалення, якія могуць хутка (3-4 парушэнні) стаць больш жорсткімі і скончыцца новым судом. Пра што Казакову і паведамілі проста на Акрэсціна, хаця трэба гэта рабіць толькі пасля таго, як будзе разгледжана адпаведнае прадстаўленне.

Праз месяц Сяргей Казакоў зноў уладкаваўся на працу — гардэробшчыкам начнога клуба, але і там пратрымаўся нядоўга. Да таго моманту, як спатрэбілася несці ў міліцыю характарыстыку з новага месца працы. Можа, супадзенне, але адразу пасля таго, як у клубе даведаліся пра судзімасць, пасаду гардэробшчыка «скарацілі». Праўда, гэта не перашкодзіла на «скарочаную» пасаду адразу ж прыняць іншага чалавека...

На жаль, «прыклад» Сяргея Казакова не адзіны ў гэтым сэнсе. Дастаткова ўзгадаць яшчэ Аляксандра Малчанава, каб пераканацца ў тым, што вакол тых, хто «сядзеў за Плошчу» складаюцца абставіны для чарговай «адсідкі».

Вельмі паказальна, што літаральна на другі дзень пасля вызвалення Сяргей Казакоў пайшоў на рэпетыцыю рок-гурта «Скрыжалі». Пра іх трэба сказаць асобна, бо гэта як раз той выпадак, калі ярлык «былога зэка» не змяніў адносіны паміж людзьмі. У адрозненне ад дзяўчыны Сяргея, якая выйшла замуж, музыканты гурта дачакаліся свайго бас-гітарыста.

«Скрыжалі» нарадзіліся яшчэ ў 2002-ім годзе ў Горках. У 2008-ым годзе яе лідары вакаліст Дзяніс і гітарыст Сяргей пераехалі ў Мінск і «выйшлі» на Казакова. Запрасілі граць разам. Ён пагадзіўся, хаця на той момант граў яшчэ ў двух гуртах. Аказалася, не дарэмна, бо, калі Сяргея «пасадзілі», «Скрыжалі» аказаліся АДЗІНЫМІ, хто яго дачакаўся з турмы. Замену свайму «басісту» шукаць не сталі. Яго функцыю пачаў выконваць вакаліст.

Слаба разбіраюся ў музычных дасягненнях рок-гурта «Скрыжылі», якіх даволі багата, але ў плане чалавечага высакародства яны паступілі вельмі прыстойна — малайцы! Упэўнены таксама і ў тым, што самыя галоўныя музычныя «медныя трубы» ў іх яшчэ наперадзе.

**... Падчас нашай размовы ў руках Сяргея Казакова зноў быў ружанец. Але ўжо не з хлеба. З дрэва. Вельмі паказальны момант, які сведчыць аб тым, што лёс чалавека часта залежыць не толькі ад Бога, але і ад яго самога.**

# НЯСКОРАНАЕ СЭРЦА



**Напамін:** Фёдар Мірзаянаў нарадзіўся 9-га снежня 1990-га года ў Баранавічах. Скончыў гімназію, у 2008-ым годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Пасля падзеяў 19-га снежня 2010-га года адбыў адміністрацыйны арышт тэрмінам 15 сутак. 25-га студзеня 2011-га года зноў арыштаваны. Прад'яўлена абвінавачванне ў здзяйсненні злачынства па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (удзел у масавых беспарадках). 14-га траўня 2011-га года асуджаны на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
Вызвалены 14-га верасня 2011-га года згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні.

**Паміж двух маіх кніг (гэтай і «Супраць плыні») маці Фёдара Людміла Мірзаянава выдала сваю — «Шчасце за кратамі», якая складаецца з лістоў палітвязняў. Ракурс даволі нечаканы, бо, каб напісаць такое, на многія рэчы трэба глядзець праз асабістае сэрца. Няскоранае сэрца.**

**Гэтая гутарка з Людмілай Мірзаянавай адбылася, калі Фёдар быў ужо на волі.**

***— Мы размаўлялі з Вамі за тры месяцы да вызвалення Фёдара, што адбылося потым?***

— Перад вызваленнем была падзея, на якой мне таксама хацелася б спыніцца. Размова пра наведванне Івацэвічскай папраўчай калоніі. Мабыць, яе кіраўніцтва не было ўпэўнена ў вызваленні сына, бо ў адваротным выпадку дазволу я б не атрымала. Акрамя мужа са мной паехала маці. Напэўна такі стрэс у 80 год перанесці вельмі цяжка, але яна настойвала: «Магу не дачакацца ўнука».



*Людміла Фёдараўна Мірзаянава.*

Дарэчы, яна вельмі хворы чалавек, а на ўваходзе ў нас канфіскавалі ўсе лекі. Два дні яна была павінна абыходзіцца без іх. Вытрымала.

Калючы дрот, брэх сабак, узброеныя людзі... Падобнае маці ўжо бачыла ў 41-ым годзе, калі фашысты ў яе роднай вёсачцы Залешаны Клецкага раёна расстрэльвалі актывістаў. Дзевяцігадовая дзяўчынка спытала тады свайго бацьку: «За што?» і пачула: «Гэта палітыка!».

Нешта падобнае адбываецца і сёння, з той толькі розніцай, што іншадумцаў пакуль публічна не страляюць.

Менавіта ў «Воўчых норах» я даведалася, як здзекаваліся з Фёдара перад судом і тое, што тады ён напісаў ліст, што хоча скончыць жыццё самагубствам.

Я пакідала Беларусь (за два тыдні да вызвалення сына) з амбівалентымі эмоцыямі.

З аднаго боку было цяжка, бо тут аставаўся сын за кратамі, мае сваякі, жонкі і маці палітзняволеных, з якімі мы ўжо сябравалі.

А з другога боку мне было лёгка. Я ўжо так за гэтыя восем месяцаў стамілася ад таго, што жыву не ў краіне, а ў турме. Мінск — не горад-герой. Гэта горад пакутнік, у цэнтры якога (побач з урадам) знаходзіцца следчы ізалятар, куды мы хадзілі, як на працу.

Розніца ў часе паміж Сахалінам і Мінскам — больш за восем гадзін. Калі ў нас ноч, тут дзень. Я літаральна жыла Беларуссю. Гадзінамі па скайпе размаўляла з Аленай Ліхавід, Марынай Адамовіч, Марынай Лобавай, Валянцінай Аліневіч, праваабаронцамі «Вясны», «Салідарнасці» і іншымі. Бывала ўжо сонейка свеціць, муж збіраецца на працу , а я толькі выходжу з пакою, дзе ў нас стаць камп'ютар. Вяла свой блог на «Партызане», друкавала лісты палітзняволеных у незалежных СМІ.

Шмат хто вельмі расчараваны тым, што беларуская апазіцыя не змагла аб'яднацца напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010-га года і высунуць адзінага кандыдата, а зараз у яе няма адзінай стратэгіі.

Што тычыцца мяне, то я не расчаравалася, бо ведаю, у якіх умовах працуе сёння апазіцыя. Калі нехта іх крытыкуе, я заўжды кажу: «Дзякуй, што ёсць і такая». Добра ведаю, як КДБ працуе на раскол. Робіць неверагодныя высілкі, каб іх раз'яднаць і сутыкнуць паміж сабой. Уяўляю таксама, колькі апазіцыянераў наўпрост працуе на гэтую спецслужбу.

На сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» я калісьці напісала, што тыя, хто сёння ідзе ў яе шэрагі, становяцца сябрамі апазіцыйных партый, у нейкім сэнсе камікадзэ. Яны нагадваюць японскія ўдарныя атрады «Божы вецер». Таму ад мяне асабіста гэтым людзям — нізкі паклон.

Калі я даведалася пра тое, што Фёдара вызваляюць, адчувала радасць, што ён выходзіць на волю без нейкіх вельмі цяжкіх захворванняў, але не была па-сапраўднаму шчаслівай, бо ў сэрцы не было спакою.

Усё, што сёння адбываецца, нагадвае нейкую гульню. Але, як вызначалі псіхолагі, дашкольнікі гуляюць 50 хвілін, а цяперашні кіраўнік краіны і яго



*Пасля вызвалення.*

атачэнне гуляюць месяцы і нават цэлыя гады. Уводзяць новыя сюжэты, удзельнікаў, пішуць новыя сцэнары. Дзеці гуляюць у асобым парадку, і нашы ўлады таксама — арышт, краты, катаванне, абавязковае прашэнне аб памілаванні, гандаль, вызваленне і новы арышт з турмой.

І калі ў сцэнар «упісваецца» нешта новае, то гэта робіць толькі кіраўнік краіны. Толькі ён ўпэўнены ў сваёй абсалютнай непакаранасці.

...Сустракалі Фёдара як героя. Каля пад'езда дома была амаль уся студэнцкая група — некалі яны хадзілі на кожнае судовае пасяджэнне. Тройчы за дзень у сына брала інтэрв'ю радыё «Свабода».

Раней напісаць прашэнне пра памілаванне яго чатыры разы прасілі: асабіста начальнік калоніі і нейкія «госці ў цывільным». Фёдар прынцыпова адмовіўся. І гэтак жа прынцыпова, калі выйшаў на волю, напісаў заяву на ўступленне ў Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Чаму?

Магчыма, адным з адказаў будзе тое, што, калі ён у знак пратэсту (патрабавалі нічога дрэннага не пісаць пра прэзідэнта — **заўвага аўтара**) адмовіўся пісаць увогуле, атрымаў адразу аж пяць лістоў ад vip-персон з АГП. Перш за ўсё ад тых, каго паважаюць за эканамічныя погляды.

Фёдар напісаў Анатолю Лябедзьку ліст пра тое, што стане сябрам АГП, як толькі выйдзе на волю.

Так і зрабіў.

Рыхтаваўся да гэтага дня як да вялікага свята. Нават набыў сабе кашулю і камізэльку бел-чырвона-белых колераў.

А потым пачаліся даволі бязрадасныя будні. Фёдару «далі» пяць гадоў прэвентыўнага нагляду. Гэта азначае абавязковую рэгістрацыю ў органах унутраных спраў, татальны кантроль за ўсімі перамяшчэннямі, ёсць вялікая пагроза забароны наведваць пэўныя месцы і пакідаць сваё жыллё ў пэўны час сутак.

Па сабе ведаю, што азначае іх «кантроль». Заўсёды робяць так, каб пра іх прыход ведаў увесь пад'езд, быццам бы размова ідзе пра самых небяспечных злачынцаў... Прыходзяць заўсёды цэлым «кагалам»...

Фёдар не быў сябрам «Еўрапейскай Беларусі», але з энтузіязмам падтрымаў іх прапанову выйсці на Кастрычніцкую плошчу ў знак салідарнасці з астатнімі палітзняволенымі. Раздрукаваў з інтэрнэту партрэт палітвязня Эдуарда Лобава, з якім разам сядзеў у папраўчай калоніі. Больш за тое, на сваёй старонцы «У кантакце» размясціў адпаведны заклік.

У КДБ гэта прачыталі і з самай раніцы 30-га кастрычніка яго затрымалі. Нават не паспеў паесці і схадзіць у прыбіральню. Прывезлі ў РУУС і пачалі вадзіць па розных кабінетах. Пыталіся пра нейкія дробныя злачынствы, наркотыкі, крадзяжы. А на адмову сесці на чарговае крэсла прыгразілі прыкаваць да батарэі і збіць.

Калі ў сына пачаўся вельмі моцны галаўны боль, яму выклікалі «хуткую дапамогу» і ў шэсць гадзін вечара адпусцілі. Але з поля зроку не выпусцілі. Следам за таксоўкай Фёдара ехалі міліцыянты. Яны нават не адсталі ад яго, калі той зайшоў у кавярню паесці... Вось на што ідуць грошы падаткаплацельшчыкаў...

Гэта стала апошнім «аргументам», каб з'ехаць на вучобу за мяжу. Дарэчы, разам з Фёдарам з краіны з'ехаў і Ілля Васілевіч. Фёдар аформіў усе неабходныя дакументы на свайго любімага ката Пушыка. Маўляў, жывёла, як гаспадар, павінна стаць палітэмігрантам...

***— Так дзе ён зараз?***

— У Лодзі.

Гэта вядомы тэкстыльны цэнтр. Па узроўню прамысловасці і колькасці насельніцтва зараз Лодзь — трэці горад Польшчы. Калі сын пабываў на прэзентацыях кафедраў, сказаў: «Хачу тры гады вывучаць тэарэтычную эканоміку менавіта тут».

Шчыра кажучы, выбар крыху здзівіў, і я спытала: «Навошта табе тэарэтычная эканоміка, калі ты два з паловай гады ўжо вывучаў мікраэканоміку, макраэканоміку і г.д. у мінскім эканамічным універсітэце («наргас» — **заўвага аўтара**)?». Ён адказаў: «Больш за тое, я нават не буду прасіць, каб мне залічылі гэтыя прадметы, бо яны так могуць зрабіць толькі тады, калі колькасць гадзін у польскім ВНУ і беларускім будуць амаль аднолькавымі. Я сказаў — не трэба, бо гэта будзе перашкаджаць вучыць мову і потым не будуць добрымі ўмовы для вывучэння іншых прадметаў і практыцы».

Сапраўды, у словах сына ёсць сэнс. Прадметы адны і тая ж, але змест у іх іншы. Ад беларускай «эканамічнай мадэлі» Фёдар ужо стаміўся.

***— А Вы былі там?***

— Так.

Мы былі ў Лодзі з мужам у студзені 2012 года. Прыгожы і старажытны горад. У ім захавалася з былых часоў амаль усё. Вельмі спадабаўся. Магчыма таму, што там не праводзяць «Дажынкі»... Наш Нясвіж цяпер нагадвае нейкі гламурны макет...

Першае, што зрабілі ў Лодзі, наведалі помнік Тэдэушу Касцюшцы. Мінулым разам я падрабязна распавяла, што майго бацьку хацелі назваць у гонар яго. А імя Фёдар — кампраміс, бо Тадэуша «па-простаму» называюць Тодарам.

Дарэчы, перад самым ад'ездам у Лодзь да нас наведаліся міліцыянты. Магчыма, яны разумеюць, што за грошы падаткаплацельшчыкаў займаюцца поўнай «лухтой». Замест таго, каб лавіць сапраўдных крымінальнікаў, п'яніц, наркаманаў, марнуюць сілы і час на «палітычных». Стараюцца кожны свой прыход зрабіць максімальна гучным і заўважным. У кватэру звычайна іх не пускаю. Не хачу, каб там быў нават міліцэйскі дух. Каб чулі ўсе суседзі, праз дзверы пытаюць маё прозвішча і імя, пра тое, калі прыедзе Фёдар. Апошні раз на гэты конт папрасіла ўнесці у пратакол у якасці адказу на гэтае пытанне такую фразу: «Калі «лязнецца» рэжым»...



*Перад вылетам у Польшчу.*

Менавіта ў Лодзі я і ўбачыла свайго сына першы раз пасля яго вызвалення. Фёдар за восем месяцаў няволі літаральна змаркоціўся па вучобе, у яго вачах — смага да ведаў, інфармацыі.



*Лодзь. З І. Васілевічам.*

***— Дапускаю, што там не толькі яна... Што змянілася ў Вашым сыне?***

— Перш за ўсё погляды на жыццё. Ён іншы.

Стаў больш сур'ёзным, разважлівым, стрыманым. Як быццам бы нясе ў сабе нейкую вялікую таямніцу.

Адной са сваіх знаёмых ён распавёў пра тое, што працягвае бачыць сны пра СІЗА... Напэўна, гэтая траўма будзе яшчэ доўга...

Крыху схуднеў.

***— Шмат прыходзілася чуць пра тое, што моладзь, якая атрымлівае адукацыю за мяжой, не вяртаецца ў Беларусь. А якія планы ў Вашага сына?***

— Пра вяртанне ў Беларусь сёння Фёдар размоў не вядзе. Ён разумее, што маладыя людзі з самастойным і крытычным мысленнем, якія ненавідзяць рэжым, дзяржаве і Лукашэнку не патрэбныя. Іх гнаяць ў калоніях і турмах.

А краіне такая моладзь патрэбная. І Фёдар гэта ведае. Ведае, як патрэбныя Беларусі высакакласныя спецыялісты, прафесіяналы, людзі, якія маюць свой капітал і гатовыя інвеставаць яго ў развіццё нацыянальнай эканомікі.

Таму ў планах Фёдара на бліжэйшую і сярэднюю перспектыву — атрымаць якасную вышэйшую адукацыю, «самаўтварыць сябе».

Пра гэта ў свой час казаў Д.І. Мендзялееў: «Краіне асабліва патрэбныя добра адукаваныя людзі». Дарэчы, у Польшчы, як і ў большасці еўрапейскіх краін, двухузроўневая сістэма вышэйшай адукацыі. Таму першапачаткова Фёдар плануе атрымаць ступень бакалаўра. Затым працягнуць навучанне на ступень магістра. Магчыма, нават у іншым еўрапейскім ВНУ.

# ВІРТУАЛЬНЫ НАРЫС



**Даведка:** Наталля Радзіна нарадзілася 3-га траўня 1979-га года ў Кобрыне . У журналістыцы з 1997-га года. Паралельна з працай у СМІ скончыла журфак БДУ. Неаднаразова падвяргалася арыштам і збіццю ў часе асвятлення акцый апазіцыі.
У ноч з 19-га на 20-е снежня 2010-га года была затрымана ў рэдакцыі сайта charter97.org і змешчана ў СІЗА КДБ, дзе ёй было прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках).
28-га студзеня 2011-га года мера стрымання зменена на падпіску аб нявыездзе. З 30-га студзеня 2011-га года жыла ў Кобрыне па месцы рэгістрацыі. 30-га сакавіка выехала ў Мінск для ўдзелу ў следчых дзеяннях, пасля чаго з ёй знікла сувязь. 1-га красавіка стала вядома, што Наталля таемна з'ехала з краіны. Чатыры месяцы Н. Радзіна знаходзілася ў Маскве, 4-га жніўня 2011-га года папрасіла палітычнага прытулку ў Літве.
23-га жніўня 2011-га года крымінальная справа супраць журналісткі была спынена. Адпаведны дакумент атрымалі бацькі Наталлі.

**Зразумела, што звычайна віртуальнымі бываюць інтэрв'ю, але я аддаю перавагу іншаму журналісцкаму жанру. Нарысам гэты артыкул з'яўляецца перш за ўсё таму, што ў ім фактычна ўсё жыццё Наталлі Радзінай.**

## Шлях у прафесію

Мабыць, нумеролагі гэты момант патлумачылі б больш прафесійна і, як заўсёды, больш «туманна». Я ж проста канстатую факт. Наталля Радзіна нарадзілася ў дзень, калі Польшча святкуе дзень сваёй Канстытуцыі. Той самай, якая была прынятая ў 1791-ым, з'ўляецца самай першай у Еўропе і другой (пасля амерыканскай) у свеце.

Дарэчы, палякі заўсёды здзіўляюцца, чаму гэтае свята не адзначаюць у нас, бо яно такое ж польскае, як і беларускае: у той момант дзяржава ў нас была агульная.

Аднак я хачу засяродзіць вашу ўвагу зусім не на гэтым. Канстытуцыю 1791-га года лічаць, як казаў Сенэка, першай ластаўкай еўрапейскай дэмакратыі. Менавіта гэты арыенцір і стаў галоўным у жыцці Радзінай. А пра тое, як яно пачыналася, (па маёй просьбе) Наталля распавядзе сама.


*З маці Надзеяй Максімаўнай. 2011-ы год.*

— Нарадзілася я ў Кобрыне Брэсцкай вобласці. Бацька — вайсковец, служыў у верталётнай эскадрыллі. Маці амаль усё жыццё працавала ў дзіцячым садку. Калі мне было ўсяго паўгады, бацьку накіравалі служыць у Польшчу, у горад Легніца. Там я пражыла да 6 гадоў. Гэтыя гады вельмі добра памятаю, хаця і была маленькай дзяўчынкай. Мы жылі ў старажытным доме з высокімі столямі і печкамі, абкладзенымі вельмі прыгожымі кафлямі. Памятаю, што ў нас было шмат сяброў-палякаў. Хаця часы былі для Польшчы змрочныя (1980-я),

ваеннае становішча, паўсюль арыштоўвалі актывістаў «Салідарнасці», простыя беларусы і палякі сябравалі. Нягледзечы на тое, што майго бацьку можна было б назваць «акупантам», людзі разумелі, што ў цяжкім становішчы ўсе: і палякі, і беларусы, і ўкраінцы, і рускія. Усе жывуць у адной «турме народаў».

Бацька мой Валянцін, хоць і быў вайскоўцам, ніколі не ўступаў у камуністычную партыю. Прынцыпова. Знаходзіў тысячы прычын і адмаўляўся. І яшчэ падпольна хрысціў усіх сваіх дзяцей (а нас у сям'і трое). Маці Надзея — прыклад адданасці і любві да дзяцей. Усё сваё жыццё, усе свае сілы і здароўе яна аддала нам.

У 1986-ым годзе наша сям'я вярнулася ў Беларусь. Я пайшла ў школу, якую скончыла ў 1996-ым годзе. Адразу паступіла на факультэт журналістыкі БДУ.

***— А чаму Вы ўвогуле вырашылі стаць журналістам?***

— Насамрэч, я доўга вагалася, куды пайсці вучыцца. Бацькі адпраўлялі ў медыцынскі ўніверсітэт, я думала пра гістарычны факультэт. Але потым зразумела, што бліжэй мне ўсё ж журналістыка. Проста захацелася займацца менавіта гэтай справай. Як і ўсім маладым людзям у гэтым узросце, прафесія здавалася вельмі рамантычнай. Бацькі былі катэгарычна супраць. Памятаю, як бацька крычаў: «Гэта сабачая прафесія! Будзешь усё жыццё корпацца ў бруднай бялізне!» Але ж я ўпартая, і бацькам прыйшлося змірыцца і падтрымаць мой выбар. Сёння яны ганарацца, што іх дачка журналістка.

Прынамсі, што менавіта незалежная журналістка. Памятаю, калі выйшла з турмы КДБ, перш за ўсё патэлефанавала бацькам. І першае пытанне ад шчаслівага бацькі было: «Дачка, ты выйшла з высока паднятай галавой?» Гэта ён меў на ўвазе, ці не пайшла на нейкія дамоўленасці са «следствам». І вельмі ўзрадаваўся, калі я адказала: «Так, саромецца няма чаго!»

На факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта я паступіла ў пераломны момант гісторыі Беларусі — у 1996-ым годзе. У гэтым годзе ў Беларусі ўсталявалася дыктатура. Гэта і стала вырашальным у маёй прафесіі. Я зразумела, што патрэбна нешта рабіць, каб змяніць сітуацыю. У дзяржаўнай прэсе я не працавала ніводнага дня. У 1997-ым годзе, на 2 курсе, я ўжо пайшла працаваць у газету «Имя».

Там пазнаёмілася з людзьмі, якія сталі маімі сябрамі на ўсё жыццё — Алег Бябенін, Мікалай Халезін, Зміцер Бандарэнка. Адно з першых інтэрв'ю


*З братам Дзімам. 2011-ы год.*

ўзяла ў Андрэя Саннікава, які только сышоў з пасады намесніка міністра замежных спраў. І таксама зразумела, што гэты чалавек — сапраўдны лідар, які можа змяніць сітуацыю ў краіне да лепшага. Гэта нас усіх і аб'яднала ў той час, аб'ядноўвае і сёння — прага да пераменаў, вера, што гэта магчыма, толькі патрэбна ўвесь час працаваць.

Пасля «Имя» былі яшчэ газеты «Народная воля», «Наша Свабода», «Навіны». У 2001-ым годзе Алег Бябенін запрасіў мяне працаваць на сайт Хартыі-97. З тых часоў і працую яго галоўным рэдактарам.

## Журналіст і палітыка

Спрэчкі наконт таго, трэба альбо не беларускім журналістам прымаць актыўны ўдзел у палітычных мерапрыемствах у якасці (даруйце таўталогію) удзельнікаў, у Беларусі вядуцца ўсе апошнія дзесяцігоддзі і адрозніваюцца ад нейкіх агульнапрынятых стандартаў. Не хочацца зараз прымаць чыйсьці канкрэтны бок, але тое, што нас падзялілі на «чэсных» і «нячэсных», — бясспрэчны факт. І на мой погляд, далёка не самы станоўчы... Гэта мякка кажучы...

— У дыктатарскай краіне журналіст больш чым журналіст. Ён таксама змагар за свабоду. Калі нас забіваюць, як гэта здарылася с Зміцерам Завадскім, Веранікай Чаркасавай, Алегам Бябенінам, мы не можам быць проста журналістамі, якія апісваюць рэчаіснасць. Хаця б у памяць аб нашых забітых калегах, а Алег Бябенін і Вераніка Чаркасава былі маімі добрымі сябрамі. Я ніколі не дарую ўладам іх страшныя смерці. Калі нас саджаюць у турмы, як гэта здарылася са мной, Ірынай Халіп, Анджэем Пачобутам, мы не маем права заставацца ў баку. Мы павінны змагацца за сваіх калегаў, за

свабоду для іх і ўсёй краіны. Таму, пакуль Беларусь пад Лукашэнкам, я буду замагацца за яе свабоду. І называйце гэта палітыкай, калі хочаце.

***— Былі ці не Вы маральна падрыхтаваныя да такога брутальнага развіцця падзей?***

—Ды, немагчыма быць да гэтага падрыхтаванай! 19-га снежня я, як звычайна, ішла на працу. Толькі адзелася цяплей, таму што меркавала, што прыйдзецца начаваць на Плошчы. Нават з маці не развіталася, не пацалавала яе. Кінула на хаду «Пакуль!» і паляцела. А 20-й гадзіне была на Кастрычніцкай разам з людзьмі, вяла анлайн-рэпартаж па тэлефоне, пасля перамясцілася на плошчу Незалежнасці. Была наперадзе, непадалёк ад ганку Дома ўраду.

Ёсць у мяне такая рыса: як ні было б небяспечна, заўсёды маю патрэбу глядзець на ўсё сваімі вачыма. Але з'явіўся спецназ. Пачалі жорстка збіваць

*Падчас ператрусу 16-га сакавіка 2010-га года.*



людзей. Я апынулася паміж шэрагам спецназу і дэманстрантамі. Мяне сціснулі з абоіх бакоў, прыціснулі да спецназаўскага шчыта... А ён пластыкавы, я паслізнулася і спаўзла па ім на зямлю. Аказалася пад нагамі міліцыянтаў. Яны мяне нібыта не заўважалі — збівалі нагамі. Я была без шапкі, закрывала галаву рукамі, крычала, але мяне ніхто не чуў... Удары сыпаліся па галаве, па спіне, па нагах.

Я развіталася з жыццём, бо разумела, што яшчэ адзін удар па галаве — і мяне заб'юць. Выратаваў нейкі хлопец з дэманстрантаў. Малады зусім, невялічкага росту. Ён сам упаў, ляжаў на снезе і схапіў мяне за капялюш, стаў цягнуць з-пад ног спецназаўцаў у свой бок, дзе іх не было. Вось так па лёдзе і выцягнуў. Потым кудысьці знік, і я так яго больш і не ўбачыла. А мне вельмі б хацелася знайсці гэтага хлопца, бо ён выратаваў мне жыццё...

Калі ўстала на ногі пасля збіцця, першае адчуванне — шок, разуменне, што секунду назад магла памерці, таму што гэтыя спецназаўцы білі насмерць, яшчэ адзін удар па галаве і магла б ужо не падняцца. З вачэй паліліся слёзы, пачалася лёгкая гістэрыка. І тут да мяне падбегла адна чытачка нашага сайту, ведаю, што шматдзетная маці (мы калісьці пра яе пісалі). Жанчына абняла мяне па-матчынаму і неяк сваёй дабрынёй вельмі хутка

*Прэс-канферэнцыя 29-га красавіка 2010-га года.*



супакоіла. Калі адышла ад шоку, я зноў пабегла працаваць, пачала па тэлефоне перадаваць навіны на сайт.

Але пасля пачала кружыцца галава, я зразумела, што збілі мяне сур'ёзна — трэба звяртацца да лекара. Убачыла напрыкацы плошчы, каля дарогі, «хуткую», пайшла туды. У машыне «хуткай дапамогі» ўбачыла шмат пабітых людзей з акрываўленымі галавамі. Вырашыла, што мая справа можа пачакаць, няхай лепш спачатку дапамогуць тым, каму гэта патрэбна болей...

Азірнулася назад на плошчу, а там!... Амапаўцаў ужо сотні, людзей збіваюць і кідаюць у аўтазакі. Пачала хутка ўсё передаваць на сайт, забылася пра сваю разбітую галаву. Пабегла пасля хутчэй у рэдакцыю.

Там і працавала, нягледзячы на моцны боль, некалькі гадзін запар. Навіны сыпаліся адна за другой. Было адчуванне, што зноў 37-ы год. Арышты ішлі па ўсёй краіне. У тры гадзіны ночы патэлефанавала маці, якая чакала мяне ў мінскай кватэры. Папярэдзіла, што туды прыходзілі міліцыянты мяне шукаць. Ні на хвіліну не задумалася аб тым, што трэба некуды бегчы. Столькі ж працы! Працягвала пісаць.

Спынілася толькі тады, калі пачалі грукаць у дзверы. Не паспела дайсці, як дзверы пачалі ламаць. Уварваліся чалавек восем ў масках, узброеныя, і адзін у «цывільным». Прымусілі ўсіх адыйсці ад камп'ютараў і не чапаць тэлефонаў, здаць пашпарты. Арыштавалі мяне і ўсіх валанцёраў сайту. Я выходзіла апошняй. 4 гадзіны раніцы, суседзі папрачыналіся ад грукату, выбеглі на лесвіцу, а мяне, як сапраўднага злачынцу, пад рукі людзі ў масках выводзяць. Памятаю, што паспела ім сказаць, каб не палохаліся, што я толькі журналіст...

У аўтобусе толькі мне дазволілі не апускаць галаву. Потым зразумела чаму. Толькі мяне павезлі ў КДБ, валанцёраў развезлі па РАУСам — ім далі па 10-15 сутак арышту толькі за тое, што былі са мной разам у рэдакцыі...

У КДБ усе фармальнасці, звязаныя з пастановай аб арышцце, занялі гадзіны тры. Потым мяне, знясіленую, афармілі ў СІЗА: забралі асабістыя рэчы, нават праваслаўны крыж. Як толькі ўвайшла ў камеру, адразу ўпала на нары. Вельмі стамілася, вельмі балела галава. Пачыналася турэмнае жыццё, якое будзе цягнуцца паўтары месяцы ў камеры СІЗА КДБ, потым два месяцы фактычна пад хатнім арыштам у Кобрыне, пакуль не збягу. Ды і ўцёкі мае з-за адсутнасці пашпарту, які застанецца ў КДБ, будуць цягнуцца бясконцыя 4 месяцы ў «падполлі» ў Маскве. Цяжкія часы, якія вельмі змянілі мяне.



*Час волі 28-га студзеня 2011-га года.*

***— Ці можна было ўсё зрабіць інакш?***

— Нічога б я не мяняла ў сваім жыцці, нават калі б была такая магчымасць. Тое, што мне прыйшлося пережыць, прымусіла зразумець, што ўсё ў нашым жыцці адбываецца правільна, усё да лепшага. Што б ні здарылася, так мае быць. Гэтыя выпрабаванні зрабілі мяне толькі мацнейшай, прымусілі яшчэ больш палюбіць жыццё, больш зразумець людзей. Я стала больш талерантнай да іх, у турме многіх даравала.

## Вымушаная эміграцыя

Мне не вельмі падабаеццца, калі эміграцыю апошніх гадоў пачынаюць маляваць толькі або як крымінальнікаў, або самых хітрых апазіцыянераў. Згодны, падчас шматгадовай журналісткай працы прыходзілася сутукыцца і з такімі.

Але большасць усё ж іншая. Большасць стала эмігрантамі не па сваёй волі. Гераіня гэтага нарыса — адна з такіх.

***— Што было самае цяжкае ў турме і на волі?***

— У турме для мяне самым цяжкім былі не нейкія пабытовыя праблемы. Да гэтага хутка прызвычайваешся. Самым цяжкім, па-першае, была поўная ізаляцыя. Не было лістоў ад родных і сяброў, не было ніякіх газетаў. Нічога не ведала, што адбываецца на волі! Часам здавалася, што нас тут у «амерыканцы» зажыва пахаваюць. Але дапамагала вера, што за нас змагаюцца і беларусы, і ўвесь свет. Так і адбывалася, дзякуй Богу.

А па-другое, самым цяжкім было зрабіць выбар. Сапраўдны выбар — не сукенку выбраць у краме. Калі ноччу мяне выклікалі на допыт, і палкоўнік

*Са Станіслававам Шушкевічам. 2011-ы год.*



КДБ пачаў ціснуць, пагражаць, што толькі за тое, што рэдагую «Хартыю», сяду не менш чым на 5 год. Што пасля турмы выйду ў такім стане, што не змагу нарадзіць дзяцей, што пакуль я буду сядзець, памрэ мая маці, якая і так хворая.

Каб гэтага не адбылося, прапаноўваў даць паказанні на сяброў, падпісаць «дамову аб супрацоўніцтве» з КДБ. Памятаю, што стомленая (гэта была ноч і ўжо чацвёрты допыт за суткі) я заплакала, потым хутка супакоілася і сказала: «Не! Мне не патрэбная такая воля. Я на такой волі не змагу жыць, бо не дарую сама сабе». Пасля гэтага з большага ад мяне адчапіліся. Гэта быў пераломны момант.

***— Як жывецца за мяжой?***

— За мяжой вельмі добра, калі ты туды прыязджаеш у камандзіроўку ці ў адпачынак. Тады табе там падабаецца амаль усё: і людзі, і гарады, і атмасфера. Як гавораць, добра там, дзе нас няма. Няма ў сэнсе, калі ты там — у гасцях. А калі я нарэшце збегла праз Маскву з Беларусі і аказалася ў Вільні, то адчула толькі адзіноту і дзікае, невыноснае жаданне вярнуцца дадому. Усё было чужым: і кватэра, якую здымала, і людзі, і сам горад, у які раней так любіла прыязджаць. Не дом — чужбіна! Ыратоўвала толькі праца: дзень і ноч праца-



*У Вільні. Кастрычнік 2011-га года.*

вала з маленькімі перапынкамі на сон. Потым, у працэсе будавання працы рэдакцыі, пачала знаёміцца з вялікай колькасцю людзей. Многія з іх сталі блізкімі сябрамі. Гэтыя людзі шчодра даравалі мне сваю любоў і далі мне сілы жыць і працаваць далей.

Пасля году ў Вільні я апынулася ў Варшаве. Тут адчыніўся офіс «Хартыі». Зноў новая краіна, новыя людзі. Але і тут тая ж любоў ад людзей. І яна выратоўвае. Я веру, што вытрымаю і дажыву да таго часу, калі змагу вярнуцца на радзіму.

## Погляд у будучыню

Як вядома, рабіць прагнозы — справа, мякка кажучы, вельмі складаная. Але па маёй просьбе Наталля Радзіна гэта зрабіла. І зрабіла, трэба адзначыць, вельмі прафесійна, спалучыўшы асабістае з пафасным.

***— Што чалавек адчувае ў той момант, калі адначасова свабода і ёсць і яе няма?***

— Калі ты на свабодзе (не ў сапраўднай турме), трэба цаніць жыццё. Трэба радавацца кожнаму дню, ранішняму сонцу, кубачку кавы, усмешкам людзей. Але пры гэтым трэба разумець, што мы прыйшлі ў гэты свет, не толькі каб дыхаць, есці, неяк функцыянаваць. Для мяне важная такая з'ява, як «памяць продкаў». Я ведаю, што мае продкі — ліцвіны — змагаліся за годнае жыццё нашай краіны. І мне хочацца, каб ім хаця б не было сорамна за мяне.

Краіна для мяне не проста гук ці штамп у пашпарце, гэта нешта большае. Гэта мой радавод, традыцыі, мара аб свабодным і годным будучым. Краіна, якую мы пакінем пасля сябе, гэта таксама частка памяці аб нас.

Вось так, магчыма, блытана, але на ўзроўні маіх адчуванняў.

***— Што, на Ваш погляд, трэба рабіць? Апазіцыі, грамадству, уладзе?***

— Грамадству змагацца, не скарацца, рабіць усё магчымае, каб змяніць жыццё да лепшага. Ні ў якім разе не думаць, што ты адзін. Няма лідараў? Ёсць заўсёды! Але калі па нейкіх прычынах яны цябе не задавальняюць, рабі сам! Няма чаго і няма каго чакаць. Што рабіць уладзе? Гэтай уладзе трэба толькі сыйсці, не чакаючы, калі яе пагоняць.

***— Якой Вам падаецца бліжэйшая будучыня? Асабістая і краіны?***

— Мая будучыня? Перш за ўсё, сям'я, добрая і моцная, як у маіх бацькоў. Жыццё ў роднай краіне, у свабоднай Беларусі. Праца, якую буду любіць і якая будзе натхняць. Беларусь таксама чакаюць толькі светлыя часы. Як хутка? Залежыць толькі ад нас.

# ЛІЧБЫ ЗМІЦЕРА ДРАЗДА



**Напамін:** Зміцер Дрозд нарадзіўся 26-га сакавіка 1973-га года ў вёсцы Драздьі. У 1978-ым годзе вёска ўвайшла ў склад горада Мінска. Зараз там рэзідэнцыя прэзідэнта.
У 1992-ім годзе скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці «фотатэхніка», у 2005-ым годзе — гістарычны факультэт БДУ (спецыяльнасць «музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны»). У 2010-ым годзе выйшла яго вялікая праца — кніга «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861-1900 гг.»
У час выбарчай кампаніі 2010-га года быў сябрам ініцыятыўнай групы Андрэя Саннікава. За ўдзел у Плошчы-2010 адбыў 10-сутачны арышт. 1-га лютага 2011-га года быў узяты пад варту на 3 сутак як падазраваны па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. Прад'яўлена абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (удзел у масавых беспарадках). 5 траўня 2011 года асуджаны на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Вызвалены згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні 11 жніўня 2011 года.

**Са Зміцерам Драздом мы размаўлялі амаль год таму. Што адбылося новага ў яго жыцці? З гэтага пытання і пачалася новая размова.**

— Самае галоўнае, што 24-га студзеня 2012 года я забраў з друкарні другое выданне сваёй кніжкі. Зрабіў дадрукоўку, бо, калі выйшаў на волю, кніжак ужо не было ў «Акадэмкнізе». Усе прадалі. Людзі пісалі лісты, прасілі яшчэ. Тады я крыху палепшыў першае выданне, дадаў біяграфічны і імёнавы ўказальнікі, калектыўны ліст, які быў напісаны для майго суда, і выдаў яшчэ сотню кніг.

Па сутнасці ўжо прадалі і гэтае выданне.

Зараз я працую над другім томам. Першы быў абмежаваны 1900-ым годам. Цяпер збіраю матэрыялы, якія тычацца землеўладальнікаў Мінскай губерні, што былі пасля гэтага часу. Гэта будзе вельмі грунтоўны і вялікі твор. У першай частцы «за аснову» ўзятыя 3000 землеўладаль-

*Дзень Волі.*





*Выступ на мітынгу.*

нікаў. У новым выданні іх будзе ўжо 18 тысяч. Калі ўлічыць, што ў першай кніжцы было каля 700 старонак, то там іх павінна быць прыблізна ў шэсць разоў болей. Як мінімум — двухтомнік. Гэтая праца разлічана на 3-4 гады.

Паралельна з гэтым раблю і яшчэ адну працу . Рыхтую да друку кнігу маіх вершаў і фотаздымкаў . Па сутнасці гэта нейкая квінтэсенцыя таго, што пра мяне ніхто не ведае. Вельмі спадзяюся, што для «масавага чытача» яна будзе значна больш цікавая, чым даведнікі пра землеўладальнікаў.

Час ад часу друкую свае артыкулы на «Хартыі-97». Гэта мне прапанавала рабіць Наталля Радзіна. Вельмі высока цаню водгукі такога строгага рэдактара.

Нарэшце я атрымаў шэнгенскую візу. Двойчы з'ездзіў у Літву. Адзін раз у Польшчу. Ажыццявілася мара пабываць у Еўропе. Злётаў самалётам літаральна на адзін дзень у Хельсінкі. Потым праз Балтыйскае мора на пароме — у Санкт-Пецярбург. Даўно марыў пабываць там у архіве. На жаль, там жыць вельмі дорага, а для працы мне спатрэбіцца мінімум месяц.

***— За свой кошт?..***

— Выключна. Іншых прапаноў не было.



*У Вільнюсе з Максімам Вінярскім.*

***— Гэта адказ тым, хто шукае «мільёны апазіцыі»...***

— Зараз хаджу ў мінскі архіў. Працягваю пошукі па сваім радаводзе.

Дзякуючы праграме Каліноўскага, паступіў на вучобу ў Варшаўскі ўніверсітэт, дзе буду атрымліваць другую вышэйшую адукацыю. Прапанавалі адразу дактарантуру, але я не адчуваю сябе так ўпэўнена, каб можна было пісаць навуковую працу на польскай мове.

У планах ужо ёсць наступная кніга — «Землеўладальнікі Заходняй Беларусі 1923-1939 год». Пакуль ідзе збор папярэдніх матэрыялаў.

***— Наколькі я памятаю, раней кола зносінаў у Вас было больш прафесійным, потым палітычным. А цяпер яно не змянілася?***

— Не. Ніхто з маіх сяброў (па школе, тэхнікуму, працы) маё прозвішча не выдаліў са спіску фрэндаў. Ні ў «Фэйсбуку», ні ў «Аднакласніках».

***— Калі параўнаць момант, калі Вас садзілі ў турму, з тым, што было пасля выхаду на волю, ёсць розніца? «Стабільнасць» змянілася крызісам, а зараз зноў абяцаюць стабільнасць...***

— Нечым нашы дні мне нагадваюць тое, што адбывалася на пачатку 2011-га года. Усе чакалі дэвальвацыю, пісалі пра яе, а ўрад казаў пра «ста-

більнасць». Тады яна змагла пратрымацца менш як паўгады. Цяпер сітуацыя вельмі падобная...

Па статыстыцы Нацбанку людзі пэўны час больш прадавалі валюты, чым куплялі. І гэта выдавалася за нейкую «стабільнасць». Даволі цынічная хлусня. Людзі прадавалі валюту не таму, што больш верылі беларускаму рублю. Проста ім трэба было нешта есці...

Сёння зноў скупляюць валюту. Становішча супрацьлеглае. Усё стала на «свае месцы». Народ жыве на былых запасах. Мая маці атрымлівае заробак (па курсу Нацбанку) крыху больш за сто даляраў (на момант размовы — **заўвага аўтара**) у месяц. І так жывуць многія.

На камуналку і харчаванне кошты растуць бесперапынна. Аднак нягледзячы на гэта, страх у людзей пакуль усё роўна больш за астатнія пачуцці. Яны будуць сядзець галоднымі, але публічна пратэставаць не стануць. Гэты страх наўмысна культывуецца ўладай і асабіста Лакашэнкам. Падзеі 19-га

*Тракайскі замак.*



снежня 2010-га года — урок страха. Схема вельмі простая: выйшаў на плошчу — сеў у турму. У людзей, як у сабакі Паўлава, у якой пры ўключэнні лямпачкі з'яўлялася сліна, выпрацоўваецца ўмоўны рэфлекс — пратэст = турма.

На мой погляд, у многіх сёння настрой трымацца як мага далей ад палітыкі. Яны могуць думаць што заўгодна, тысячы разоў ненавідзець гэты рэжым, але будуць усё роўна баяцца, баяцца і баяцца. Маўляў, «плетью

*У гасцях у І.Халіп і А.Саннікава.*



обуха не перешибешь». Яны баяліся і раней, але пасля брутальных падзей на плошчы Незалежнасці гэта пачуццё ўзрасло ў шмат разоў.

***— А навошта гэта трэба Вам? Пасядзеў у турме, вызваліўся... Навошта «дражніць гусей» і хадзіць на розныя апазіцыйна-небяспечныя акцыі?***

— Справа ў тым, што на плошчы Незалежнасці (нават мяркуючы па нашай справе) было шмат амаль выпадковых людзей, якія проста «аказаліся ў непатрэбным месцы ў непатрэбны час» і ўліплі ў непатрэбную гісторыю. Я ж быў там абсалютна асэнсавана і свядома. Хадзіў на Кастрычніцкую плошчу яшчэ ў 2006-ым годзе.

Пасля суда за падзеі 19-га снежня 2010-га года мая пазіцыя не змянілася. Як кажуць, «не стал на путь исправления». За сем месяцаў няволі мне, вобразна кажучы, «мазгі не прамылі». Па ранейшаму прынцыпова лічу, што наша краіна ідзе ў тупік, ёй патрэбны новы прэзідэнт, кардынальныя перамены.

Улада сёння робіць усё, каб з ёй змагацца. Майго сябра Макса Вінярскага арыштоўвалі і судзілі ўжо шмат разоў. Гэты чалавек не зарабляе для сябе нейкі апазіцыйны аўтарытэт, а шчыра змагаецца з уладай.

Калі праходзіла інаўгурацыя Лукашэнкі, ён быў адным з дзесяці, якія тады адважыліся выйсці на Кастрычніцкую плошчу. Публічна пакляўся на Канстытуцыі, што не прызнае гэтую ўладу. Яго пакаралі «5 суткамі» за лаянку. Я выдатна ведаю, што ён ніколі не выкарыстоўвае брыдкіх словаў, яму гэта цалкам не ўласціва.

Таму ўлады самі штурхаюць да таго, каб я не маўчаў.

***— Не баіцеся, што «закрыюць» зноў?***

— Канешне, як і любому нармальнаму чалавеку, мне гэтага не хацелася б.

Хаця калі падыходзіць да пытання па-філасофску, то шмат хто «на зоне» жыве адносна нармальна. Праходзіць год-два-тры, і чалавек прызвычайваецца да жыцця ў няволі. Ён «не выпраўляецца» і ўжо практычна не пакутуе. Асабліва, калі тэрмін вялікі і «сядзець» яшчэ 8-10 гадоў, а кантакты на волі былі вельмі падобнымі. На жаль, «чыфір» п'юць не толькі за кратамі. Некаторыя не тое што пакутуюць у калоніі — яны там жывуць.

Я адношуся да іншай катэгорыі. У калоніі было вельмі цяжка. Перш за ўсё таму, што там было абсалютна неўласцівае мне кола стасункаў. Так, там

ёсць і інтэлігентныя людзі, але іх (дзякуй Богу) толькі 5-10 адсоткаў. З большасці тыя, хто атрымаў пакаранне за так званыя «эканамічныя» злачынства. Напрыклад, мой сябар доктар, былы лепшы хірург Мінска (пра яго расказана ў кнізе «Супраць плыні» — **заўвага аўтара**), якога «закрылі» за «шкоду» дзяржаве ў выглядзе аднаго (!!!) мільёна беларускіх рублёў.

Калі ж браць увесь «кантынгент», то тут цяжка сказаць пра высокі інтэлект. У асноўным «малалеткі». Нехта скраў мабільны тэлефон, па п'яні пабіўся, або абрабаваў краму і г.д. Людзі там крыху недаеўшыя, недаспаўшыя, увесь час крыху злосныя. Выдатна разумеюць, дзе знаходзяцца, і лічаць сваё жыццё амаль загубленым. Канфлікты ўзнікаюць імгненна. Адной «іскры» дастаткова, каб усе схапіліся за табурэткі і пачалі біцца.

На мяне не было такога ціску, як, скажам, на Саннікава або Статкевіча. Нічога геройскага не рабіў. Проста імкнуўся не кантактаваць з тымі, хто мне непрыемны, нават калі дзеля гэтага прыходзілася абіраць больш цяжкую работу.

***— На Ваш погляд, будзе (як у 2006-ым і 2010-ым гадах) яшчэ адна Плошча? Пойдуць на яе людзі? Альбо страх большы?***

— Канешне, для людзей больш сталага пакалення зрабіць гэта будзе вельмі цяжка, аднак моладзь — выйдзе. Большасць да кіруючага рэжыма ставіцца вельмі крытычна. Магчыма, людзей будзе значна больш, чым у 2010-ым. Магчыма, яны будуць больш агрэсіўныя, чым мы. Злосць памнажаецца. Параві кацёл нельга ўвесь час награвацць, бо крышку сарве абавязкова. У 2010-ым годзе ўлада справакавала агрэсію. Магчыма, у 2015-ым нічога правакаваць будзе не трэба...

Паглядзіце любыя тэлевізійныя навіны. У адным месцы затрымалі нейкіх футбольных фанатаў, у другім — рыцарскі клуб, у трэцім — эколагаў, якія сабраліся пагаварыць пра будаўніцтва АЭС, у чацвёртым — бардаў, што не маюць да палітыкі ніякіх адносін. Улада сама сваімі паводзінамі правакуе супраціў ёй. Яна плодзіць сабе ворагаў больш, чым нейкія апазіцыйныя інфармацыйныя рэсурсы. Прычым кожны дзень.

# ПЕРЫЯДЫ ЖЫЦЦЯ



**Даведка:** Сяргей Марцалеў нарадзіўся 29-га красавіка 1977-га года ў Мінску ў сям'і патомных навукоўцаў. Унук Станіслава Марцалева, кіраўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Таксама ўнук акадэміка-філосафа Леаніда Яўменава.

На прэзідэнцкіх выбарах 2010-га года кіраваў перадвыбарчым штабам Міколы Статкевіча. Уначы 23-га снежня быў зняты з цягніка, на якім ехаў у Варшаву на здымкі перадачы тэлеканала «Белсат». Арыштаваны, змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачваўся па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 4-га красавіка 2011-га года абвінавачванне перакваліфікавана на арт. 342 КК ч. 1 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх).16-га траўня 2011-га года асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады. Да вынясення прысуду ўтрымліваўся ў СІЗА КДБ, вызвалены ў зале суда.

**Дзякуючы герою гэтага нарыса, я даведаўся, што ўсіх палітвязняў 19-га снежня 2010-га года ў КДБ падзялілі на дзве групы — «зачыншчыкаў» і «пагромшчыкаў». Да першай катэгорыі адносіліся тыя, каго абвінавачвалі ў арганізацыі масавых беспарадкаў. «Пагромшчыкамі» называлі тых, хто (толькі) прымаў удзел у ажыццяўленні сілавых акцый.**

**Сяргей Марцэлеў адносіўся да першых. Нават калі жорсткі крымінальны артыкул яму змянілі на «больш мяккі»...**

## Дзіцяча-юнацкі перыяд

«Нарадзіўся ў Мінску, у сонечным красавіку. Дакладней 29-га красавіка 1977-га года. Мой дзед па ліні бацькі Станіслаў Віктаравіч Марцалеў у тыя часы быў сакратаром ЦК КПБ па культуры, сябрам Акадэміі

*З бабуляй, дзядулям (Яўменавы) і маці.*



навук Беларусі, дзе потым да самай смерці ўзначальваў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. На жаль, ужо чатыры гады яго з намі няма...



*Дзяцінства.*

Другога майго дзеда завуць Леанід Фёдаравіч Яўменаў, паэт, дыпламат, акадэмік. У свой час ён з'яўляўся супрацоўнікам дэпартамента ЮНЕСКА ў Парыжы.

То бок я нарадзіўся ў вельмі добрай і паспяховай сям'і.

Бацька Уладзімір Станіслававіч Марцалеў — падпалкоўнік запасу. За год да прыходу да ўлады Лукашэнкі звольніўся з войска і пачаў займаецца бізнесам. Займаецца ім і зараз.

Маці Таццяна Леанідаўна Яўменава выкладала гуманітарныя дысцыпліны ў розных вышэйшых навучальных установах. Зараз гэта паліталогія ў Беларускім інстытуце правазнаўства.

Так атрымалася, што ў маім дзяцінстве бацькі разышліся.

Я скончыў школу №64, якая спецыялізуецца на паглыбленым выкладанні англійскай мовы. Потым паступіў на бюджэтную форму навучання факультэта міжнародных адносін БДУ, што было не вельмі проста. Курсам старэй вучыўся сярэдні сын Лукашэнкі Віця. Так што некаторы час я меў сумніўнае задавальненне бачыць яго ў атачэнні натоўпу падхалімаў.

На першым курсе ўступіў у «маладзёвае крыло» Сацыял-дэмакратычнай партыі — Маладую грамаду. У 1996-ым годзе мы правялі некалькі яркіх акцый. У Міжнародны дзень правоў чалавека зладзілі пікет каля будынка Нацыянальнага банка Беларусі. Як раз тады быў дзень адкрыцця першага «Макдональса» ў Мінску.

Мы раздавалі ўлёткі са слоганам «Я не ем гамбургераў».

Па галоўным мінскім праспекце праязджаў «всенародновыбранный», які па чутках хацеў адведаць заморскую страву, але мы сустрэлі яго дружным улюлюканнем і картэж праехаў міма.

Гэта быў мой палітычны дэбют, які скончыўся першым арыштам, але тады, на шчасце, усё абмежавалася штрафам і вельмі строгім папярэджаннем ад дэканата нашага факультэта.



*З бацькамі.*

Такі пачатак.

Потым былі дзве «адсідкі» — за арганізацыю студэнцкіх акцый і за святкаванне Першамая. Агульна тады, здаецца, «набраў» 12 сутак. Прынамсі, з другога пакарання я «саскочыў», бо абвесціў у камеры сухую галоўку. Як вядома, без вады доўга пратрымацца немагчыма. Праз пяць сутак мяне з Акрэсціна адвезлі ў рэанімацыю. Назад не вярнуўся, бо тэрмін дзеяння адміністрацыйнага арышту распаўсюджваецца толькі на два месяцы — тады яшчэ імкнуліся трымацца законаў.

1997 год.

Пры затрыманні мяне «крыху памялі» (зламалі рэбры і г.д.), таму вырашылі больш не чапаць. Цікава, што пракуратура Савецкага раёна была гатова тады ўзбудзіць крымінальную справу супраць міліцыянтаў, але мне не хацелася далей высвятляць з імі адносіны. Уражвае сам факт, які па нашым часе ўжо немагчымы. Усё тады было іншым...

Зразумела, з чацвёртага курса факультэта міжнародных адносін мяне адлічылі. І не хавалі за што. Дэкан нашага факультэта растлумачыў сапраўдныя прычыны.

Афіцыйнай жа падставай стала тое, што я не здаў залік па медыцынскай падрыхтоўцы. Прадмет гэты факультатыўны, таму многія здавалі яго да самага сканчэння БДУ... Да мяне ж паставіліся, мякка кажучы, «вельмі ўважліва». Сабралі цэлы кансіліум, які ў рэшце рэшт паставіў «нездавальняюча» за адсутнасць навыкаў правільна рабіць уколы.

Аднаго будучага дыпламата не адбылося...

Дарэчы, факт майго адлічэння па палітычных матывах быў зафіксаваны ў дакладзе Дзярждэпартамента ЗША і вядомай міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Human Rights Watch».

Пачаліся звычайныя для нашага часу прадстаўленні. Пастаянна сталі прыходзіць нарады міліцыі, і на некаторы час я быў вымушаны пакінуць межы нашай краіны. Вярнуўся ў лютым 1998-га года на з'езд «Маладой грамады», дзе мяне аднагалосна абралі старшынёй арганізацыі, якую пасля ўзначальваў два гады. Тады ў нас яшчэ была дзяржаўная рэгістрацыя. Рэспубліканскі маштаб. «Пад ружжом» знаходзіліся 1300 чалавек «личного состава».

Пералічваць усе мерапрыемствы «Маладой грамады» няма сэнсу. Дастаткова сказаць, што па дадзеных сацыёлагаў з Недзяржаўнага інстытута сацыяльных, палітычных і эканамічных даследаванняў арганізацыя была трэцяй па пазнавальнасці. Пасля БПСМ, які потым стаў БРСМ, і «Маладога Фронту», ад якіх яны адсталі на 0,2 адсоткі.

*З бабуляй Зояй Фёдараўнай Яўменавай.*



## Польска-беларускі перыяд

У 2000-ым годзе я выйграў конкурс Міністэрства адукацыі Польшчы і паехаў вучыцца ў Інстытут імя Адама Міцкевіча ў Познані, які разам са знакамітай кракаўскай «ягелонкай» і Варшаўскім універсітэтам уваходзіў у тройку лепшых у краіне. А наш факультэт паліталогіі і ўвогуле лічыўся самым лепшым.

Словам, за час вучобы «базіс» атрымаў вельмі грунтоўны. Хаця і былі два «акадэмічных адпачынкі», бо паралельна з вучобай увесь час займаўся і прафесійнай (палітычнай) дзейнасцю.

Справа ў тым, што тады я быў яшчэ і каардынатарам міжнародных праектаў аднаго з польскіх фондаў. Гэта займала шмат часу. Мы працавалі для грамадзянскай супольнасці і палітычных партый Беларусі і Украіны, арганізоўвалі 15 міжнародных праектаў у год. Працаваў там чатыры гады. Пасля двух мяне значна павысілі — зрабілі сябрам праўлення.



*Будучы апазіцыянер.*

Аднак, як кажуць, усё добрае некалі заканчваецца.

Са змяненнем палітычнай кан'юнктуры ў Польшчы дзейнасць нашай структуры прыпынілася. Дарэчы, у польскай (па складу работнікаў) структуры я быў адзіным беларусам і вельмі ганаруся тым, што мы рабілі. Працавалі ў асноўным з калегамі з сербскага «Адпору», што прыняў актыўны ўдзел у звяржэнні Мілошавіча.

Мае заслугі «прызнала» і ўкраінскае кіраўніцтва, якое перад «памаранчавай» рэвалюцыяй дэпартавала мяне з краіны. Бы-

ло гэта перад першым турам прэзідэнцкіх выбараў 2004-га года. Дакладней, 12-га кастрычніка.

Паралельна з аэрапорту дэпартавалі сербаў, а я ехаў на цягніку. У іх «мабільны» працаваў, а мой быў заблакаваны, таму яны сталі героямі тэлерэпартажаў, а я не. Ціха «выкінулі» за памежны шлагбаум.

Чалавечны момант. Калі ўкраінцы мяне «выставілі» (на «нейтралку» падвёз на сваім амаль новым БМВ сёмай мадэлі маёр іх памежнай варты), я падышоў да польскага памежніка і патлумачыў сітуацыю. Ён моўчкі спыніў першую ж машыну, сказаў, што не будзе іх старанна даглядаць, калі тыя падвязуць мяне да бліжэйшай чыгуначнай станцыі і высадзяць проста насупраць вакзала.

Потым спытаў мяне: грошы ёсць? Я вырашыў, што гэта звычайнае пытанне чалавека, які высвятляе матэрыяльнае становішча таго, хто перасякае мяжу, і хацеў паказаць свае грошы, але ён сказаў, што гутарка не пра гэта. Польскі памежнік быў гатовы фінансава дапамагчы, калі ў гэтым была патрэба... Такое высакародства шчыра кранула сэрца...

З таго моманту ў мяне на пяць гадоў была забарона на ўезд ва Украіну. Дамаю, Юшчанка яе адмяніў, аднак праверыць гэта магчымасці не было, бо наступны раз я трапіў у гэтую краіну толькі ў 2009-ым годзе.

Напэўна, «зорны час» у «польскім» перыядзе майго жыцця быў тады, калі я стаў дарадцам шэфа палітычнага кабінета віцэ-прэм'ера Польшчы. Адбылося гэта, калі ў выніку выбараў Марэк Пол стаў намеснікам кіраўніка польскага ўраду, а кіраўніца нашага фонду Катэжына Матушэўская ўзначаліла палітычны кабінет. Я кансультаваў іх па ўсходнім напрамку.

Марэк Пол займаўся пытаннямі эканомікі і інфраструктуры. Магчыма, гэта і абумовіла будучую тэму маёй магістэрскай работы.

У 2007-ым годзе я вярнуўся ў Беларусь, а ў годзе наступным ужо быў у камандзе Аляксандра Казуліна. Калі ён трапіў за краты, я два гады працаваў ў грамадзянскай ініцыятыве «Свабоду Аляксандру Казуліну і ўсім палітзняволеным». Быў выпускаючым рэдактарам іх сайта, а калі Вольга Казуліна балатавалася ў парламент, працаваў у яе піяр-менеджарам.

Перад самымі парламенцкімі выбарамі 2008-га года Аляксандр Уладзіслававіч вызваліўся. Даволі хутка стала зразумела, што ён шукае новыя шляхі ў палітыцы і неабходнасць у асабістым сродку масавай інфармацыі адпала.

У наступным годзе мяне запрасілі працаваць у якасці каардынатара «Зялёнай сеткі», якая з'яўляецца своеасаблівай «парасонавай» структурай незалежных экалагічных арганізацый Беларусі.

На прыёме ў гонар «Дня Еўропы», які штогод адзначаецца 9-га траўня, я сустрэў даўняга знаёмага Мікалая Статкевіча. Ён прапанаваў стаць паліттэхнолагам і ўзначаліць перадвыбарчы штаб.

## Палітычна-турэмны перыяд

Перад тым як далучыцца да каманды Статкевіча, я амаль месяц падарожнічаў па Паўночнаму Каўказу.

Магчыма, некаторыя не пагодзяцца з маім поглядам, але ён (як і ўсе іншыя) мае права на жыццё. На маю асабістую думку, напярэдадні падзей 19-га снежня 2010-га года ў лідараў апазіцыі не было ніякага агульнага плану дзеянняў, сумеснай тактыкі. Адсутнічала нават агульнае бачанне самога працэсу. Не гаворачы пра нейкі «сговор», які так упарта шукалі ў КДБ...

Адзінае, аб чым тут можна сказаць, — дакумент, які перад выбарамі падпісалі некаторыя (далёка не ўсе) кандыдаты ў прэзідэнты. На мой погляд, ён носіць выключна дэкларатыўны характар і накіраваны перш за ўсё на тое, каб пратэстны патэнцыял не быў так бяздарна «прафуканы», як гэта адбылося ў 2006-ым годзе. Грамадства нам гэтага не даруе.

Перакананы, большасць з тых, хто трапіў тады за краты (асабліва тых, хто знаходзіцца там зараз), нельга назваць выпадковымі ахвярамі. Яны пайшлі на гэта свядома. Тое, што зрабілі і робяць зараз, — свядомы чалавечы УЧЫНАК. Можна сказаць, ПОДЗВІГ.

Тое, што адбылося ў штабе Някляева (непасрэдна напярэдадні Плошчы), агучваць яшчэ раз няма сэнсу, бо пра гэта шмат разоў казалі іншыя. Адзначу толькі: некаторыя рэчы мне незразумелыя па гэты дзень. Напрыклад, неразуменне выклікае цэлая «гадзіна маўчання» (замест перамоваў), якая папярэднічала пачатку руху на Кастрычніцкую плошчу...

Як вядома, гукаўзмацняльную апаратуру мы туды давезці не змаглі, а апошні раз я ўбачыў Мікалая Статкевіча на прыступках Палаца прафсаюзаў, дзе паціснуў яму руку...

На мой погляд, правільна зрабілі, што з адной плошчы пераходзілі на другую па галоўным праспекце. Як паліттэхнолаг, цалкам падтрымліваю такі выбар.




*Малады палітык.*

На жаль, тое, што адбылося на плошчы Незалежнасці, цяжка зразумець з пункту гледжання нармальнай логікі. Адназначна толькі тое, што нехта надта хацеў, каб паўтарылася трагедыя на Нямізе. Паніку натоўпу літаральна правакавалі пры дапамозе франтальных атак спецназу ўнутраных войскаў і спецыяльных сродкаў. На шчасце, у іх нічога не атрымалася.

Далей буду карыстацца сухой мовай міліцэйскіх пратаколаў.

Калі прытрымлівацца гэтага правіла, то можна сказаць, што «мерапрыемства» я пакінуў у 22.55, калі з 40 (з нечым) тысяч дэманстрантаў засталося толькі каля пяці тысяч і пачалася другая хваля «амапаўскай зачысткі». Зноў сталі чутнымі выбухі света-шумавых гранат.

Адной з прычын майго сыходу стала тое, што я быў крыху кантужаны яшчэ падчас «экспрапрыяцыі» тэхнікі на Нямізе і адчуваў сябе вельмі дрэнна.

Праз некалькі хвілін ад журналістаў Нямецкай хвалі даведаўся, што Статкевіч арыштаваны.

З гэтай нагоды няспынная «прэс-канферэнцыя» ў мяне цягнулася да пяці гадзін раніцы: распавядаў журналістам пра падзеі на Нямізе і плошчы Незалежнасці.

На наступны дзень згодна з парадай праваабаронцаў адразу пачаў займацца арганізацыяй прававой абароны Мікалая Статкевіча. Знай-




*Выступае лідар Маладой грамады.*

шоў для яго патрэбнага адваката, разам з будучай жонкай Статкевіча Марынай Адамовіч сабраў і перадаў цёплыя рэчы.

21-га снежня мне патэлефанавалі з Белсата і запрасілі на публіцыстычную перадачу Зміцера Гурневіча. Вечарам 22-га снежня сеў у цягнік і быў гатовы да таго, што да Варшавы не даеду. У Брэсце (ужо 23-га снежня) мяне затрымалі памежнікі, а праз дзень з «эскортам» з міліцыі і КДБ прывезлі ў Мінск, у «амерыканку».

Там падчас допыту прапанавалі хлусіць супраць Міколы Статкевіча. Маўляў, мы рыхтавалі металічныя штыры, «кактэйлі Молотава», фінансаваліся заходнімі спецслужбамі. Я адмовіўся і на пяць месяцаў трапіў за краты.

16-га траўня 2011-га года вызвалілі ў зале судовых пасяджэнняў суда Заводскага раёна горада Мінска. Прысуд — два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады за «арганізацыю групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак».

Напэўна, іншыя ўжо шмат расказалі пра кадэбэшныя пакуты, таму я буду засяроджваць увагу толькі на некаторых момантах.

Самая галоўная выснова майго знаходжання за кратамі — разуменне сапраўднай сутнасці сяброўства. Сябар — гэта не той, хто за кубкам альбо келіхам піва ці кавы кажа табе кампліменты...

Што такое сябар, я зразумеў ужо падчас першай унутрыкамернай «разборкі», калі адзін з асуджаных «пачаў качаць» правы. Да нас падышоў Саша Атрошчанкаў (сядзелі некаторы час разам). Пару яго словаў хапіла, каб патушыць канфлікт... Ён не вагаўся ні адной хвіліны...

Так паступае толькі сапраўдны сябар...

Цікава, як улада патлумачыла з'яўленне «маскі-шоу». Нідзе гэтага ў прэсе не бачыў.

Пасля падзей 19-га снежня 2010-га года ВЫКОНВАЮЧЫМ АБАВЯЗКІ начальніка СІЗА КДБ (звяртаю ўвагу на гэты момант) прызначылі Аляксандра Уладзіміравіча Арлова. Справа ў тым, што папярэдні начальнік «амерыканкі» Піскуновіч (чалавек, які па маёй інфармацыі мае афіцэрскі гонар) адмовіўся выконваць абсалютна незаконныя загады наконт «палітычных». Ён сышоў, а гэтае месца заняў «выконваючы абавязкі», якога вызвалілі ад пасады, пасля таго як пасля судоў нас там не стала зусім. То бок гэтага чалавека «выкарысталі» выключна для «палітычных».

Літаральна адразу пасля яго прызначэння з усіх камер «зніклі» правілы ўнутранага распарадку, якія рэгламентавалі правы зняволеных, іх кантакты з ахоўнікамі. Зроблена гэта было для таго, каб ніхто не мог выступіць супраць кадэбэшнага бязмежжа і спаслацца пры гэтым на нормы закона.

Разам з імі «зніклі» тэлевізары. Пры гэтым усім «зэкам» сказалі, што вінаватыя ў гэтым «палітычныя». Такім чынам яны хацелі іх нацкаваць на нас.

Дарэчы, улады вельмі «клапаціліся» пра становішча апошніх.

З'яўленне людзей у чорных масках патлумачылі тым, што «ў следчы ізалятар КДБ у перыяд з 20-га па 26-е снежня была дастаўлена беспрэ-

*Тры гады са дня знішчэння Вярхоўнага Савета.*



цэдэнтна вялікая колькасць людзей, якіх вінавацяць па асоба цяжкім артыкуле (гэта дапускае іншыя працэдуры абыходжання — **заўвага аўтара**), таму ў мэтах падтрымання ўнутранага парадку і абароны правоў астатніх зняволеных было ўведзена спецыяльнае падраздзяленне».

Маўляў, у «амерыканцы» сёння столькі «асабліва небяспечных», што ад іх трэба абараняць астатніх...

Удзячны Алесю Міхалевічу. Пасля яго прэс-канферэнцыі на сядзібе БНФ аб кадэбэшных пакутах і здзеках стала лягчэй, «маскі-шоу» прыбралі.

## Агідна-жахлівы перыяд

Дарэчы, яго прыклад вельмі красамоўна сведчыць аб тым, што змагацца за свае правы можна нават у нашых жахлівых умовах.

Час ад часу чую пытанне: навошта мне гэта патрэбна? Адказ просты — не магу інакш. Мяне выхоўвалі на аксіёме, што зло павінна быць пакараным заўсёды.

Па адукацыі я палітолаг, які спецыялізуецца на выбарчых тэхналогіях, але пры сённяшней уладзе гэта не можа быць запатрабаваным па вызначэнню.

Як асуджаны, я стаю на ўліку ў міліцыі. Дык вось гэтыя «добрыя» людзі нават паабяцалі станоўчую характарыстыку, калі я пагаджуся працаваць дворнікам альбо грузчыкам...

Упэўнены, тыя, хто зараз за кратамі, абавязкова выйдуць на волю. Для мяне вельмі важна, каб ахвяра 19-га снежня 2010-га года не была дарэмнай. Каб тое, што тады было дасягнута, калі нармальныя людзі ў нашай краіне і за яе межамі ўбачылі, што адбываецца ў цэнтры Еўропы, які завецца Рэспублікай Беларусь, не замазалі пустымі словамі і не забылі пра палітзняволеных.

На маю думку, на наступных прэзідэнцкіх выбарах зменіцца многае. Логіка палітычнага развіцця такая, што абавязкова наступае «кропка кіпення», калі спажывецкая ідэалогія ў розумах людзей непазбежна сутыкаецца з неабходнасцю сацыяльных і эканамічных перамен. А гэта вядзе людзей да разумення, што такое палітыка. Няхай нават у вульгарным, абывацельскім кантэксце, але яна прыйдзе абавязкова. Калі пэўныя ліберальныя рэформы не адбываюцца, абывацель дарастае да пазіцыі Грамадзяніна.»

# ЗМЕНЕНЫ СВЕТ



**Напамін:** Аляксандр Атрошчанкаў нарадзіўся 22-га сакавіка 1981-га года ў Мінску. Вучыўся на факультэце міжнародных адносін БДУ, быў выключаны за палітычную дзейнасць, пасля чаго працягнуў навучанне ў ЕГУ па спецыяльнасці «міжнароднае права».
У 2001—2006-ым гг. быў сябрам арганізацыі «Зубр», браў удзел у яе акцыях, затрымліваўся за сваю палітычную дзейнасць, неаднаразова падвяргаўся арыштам.
10 гадоў працаваў карэспандэнтам сайта charter97.org. Пасля стварэння грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» быў яе прэс-сакратаром. На выбарах-2010 з'яўляўся прэсавым сакратаром штаба Андрэя Саннікава.
Быў затрыманы 20-га снежня на кватэры бацькоў, да суда ўтрымліваўся ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках — ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса. 2-га сакавіка 2011-га года асуджаны ў Фрунзенскім судзе Мінска на 4 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
Вызвалены 14-га верасня 2011-га года згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні.

**Шчыра кажучы, першапачаткова я разглядаў гэтую размову з Аляксандрам толькі як частку артыкула. Жонка героя Дар'я Корсак на той момант знаходзілася ў шпіталі «на захаванні», і паразмаўляць з ёй планавалася пасля родаў. На жаль і на шчасце, не атрымалася.**

**На жаль, таму што яна зараз знаходзіцца за мяжой, дзе працуе муж.**

**На шчасце, таму што іх немаўля Ніл пачынае сваё жыццё ў нармальнай краіне.**

**Дарэчы, менавіта за тое, каб такой стала наша Беларусь, і змагаецца яго бацька Аляксандр Атрошчанкаў.**

***— За кратамі Вы знаходзіліся дзевяць месяцаў. У людзей за гэты час нараджаецца дзіця. А ў грамадстве?***

— Краіна адчувальна змянілася. Пасля падзей 19-га снежня 2010-га года былі даволі моцныя рэпрэсіі, потым тэракт, потым валютны крызіс... Здаецца, краіна за гэты час змянілася значна больш, чым мы. Маецца на ўвазе, тыя, хто знаходзіўся ў няволі.

Атмасфера страха ў грамадстве адчуваецца амаль фізічна. Многія з тых, з кім раней даводзілася кантактаваць, зараз баяцца гэтага. Час ад часу бачыш у метро, што чалавек цябе пазнаў (па фотках у інтэрнэце), першая рэакцыя ў яго падыйсці і нешта сказаць, а потым аглядаецца вакол і праходзіць міма. Зразумела, нічога страшнага ў тым, што два чалавекі паціснуць адзін аднаму рукі, няма, але спрацоўвае нейкі рэфлекс.

На мой погляд, менавіта ў гэтым — самыя значныя змены. Напэўна, усё адбывалася паступова, але (на кантрасце) мы адчулі іх імгненна.



*Праз некалькі хвілін пасля нараджэння сына.*



*Жонка Дар'я з сынам Нілам.*

***— Кола асабістых знаёмых змянілася?***

— Не істотна, бо большасць маіх блізкіх сяброў зараз знаходзіцца за мяжой. Я нават жартую, што ў Вільні і Варшаве сустракаю іх часцей, чым у Мінску.

***— З грамадствам — зразумела. А людзі? Калі Вы апынуліся за кратамі, было ўсё добра (сярэдні зробак 500 даляраў), потым адбыўся абвал, а зараз зноў усё быццам бы нармальна. Адбыліся змены ў людскіх настроях?***

— Так. Людзі сталі менш шчаслівымі. Узровень шчасця вельмі бачна знізіўся. Калі раней у апраўданне сваёй пасіўнасці яны казалі: «так, жывем не вельмі добра, аднак заробкі па паўтысячы даляраў, а ў некаторых і больш, «стабільнасць» будзе расці», то зараз настроі зусім іншыя. Абяцанкі пра тое, што ўсё вернецца зноў, сёння смешаць нават самых заядлых аптымістаў. Ні эканоміку, ні законы грамадства не падманеш. Калі прадуктыўнасць працы пастаянна падае, абсталяванне не мадэрнізуецца, становіцца больш старым, спадзявацца на нейкі «прарыў» не выпадае.

Так, вядучыя сусветныя эканамісты гавораць пра тое, што «крызіс — не толькі кепска». Ён дазваляе адкінуць тое, што стала неэфектыўным. Гэта вельмі сур'ёзны стымул для аздараўлення, пошуку нейкіх новых форм вытворчасці і кіравання, крок да лепшага.

У нас жа ён прынёс толькі збядненне народу, а ніякія высновы на высокім узроўні не зроблены.

***— Можа, гэта некага разбудзіць?***

— Такой патрэбы няма. Усе ўсё ўжо зразумелі. Проста ўлада перастала турбавацца наконт сваёй нават мінімальнай легітымнасці і законнасці. Такое ўражанне, што гэта ёй больш не патрэбна.

Па сутнасці ў краіне ваеннае становішча, і тым, хто на версе, абсалютна індыферэнтна, прагнуць людзі пераменаў ці не. Пераменаў пакуль няма. Адзінае, у чым улада мае поспех, — само ўтрыманне ўлады. Цалкам відавочна, што сёння «руляць « палітычныя і эканамічныя банкруты. Нічога яны сабой не ўяўляюць і на міжнародным узроўні. А любыя спробы дзейнічаць на інфармацыйнай глебе нічога акрамя смеху («гудзіць» увесь інтэрнэт) не выклікаюць. Акцэнт зроблены на сілавое ўтрыманне сітуацыі, улады. Яны нават не спрабуюць спадабацца народу. Людзі гэта добра разумеюць.



*Хлопцы глядзяць футбол.*

***— Разумеюць — добра, аднак гэта не выліваецца ў нейкі супраціў. На кухнях смелыя ўсе, а за краты няхай патрапляюць іншыя, толькі не яны. Напрыклад, Атрошчанкаў... Чаму, на Ваш погляд, так адбываецца?***

— Адказ вельмі просты — людзі баяцца.



*Дзённая прагулка.*

Перамены ў грамадстве не з'яўляюцца часткай нейкай дакладнай навукі. Цяжка «пралічыць», калі і дзе «сарве разьбу» альбо не спрацуе нейкі клапан. Зразумела, што перамены наспяваюць і абавязкова адбудуцца. Ва ўрадзе (акрамя кіруючага клана) добра разумеюць іх неабходнасць. Калі сёння спытацца ў чыноўнікаў так званага «сярэдняга звяна», амаль любы скажа, што так больш жыць нельга і нешта павінна мяняцца.

Пры гэтым трэба разумець, што «запас трываласці» ў рэжыма ёсць, як і лаяльнасць (да пэўнага моманту) «сілавых структур». Тыя, хто пабываў за кратамі альбо знаходзіцца там зараз, зрабілі і робяць усё залежнае ад іх, але людскі страх пакуль мацней. Што будзе далей — не ведаю.




*У Вільні праз тыдзень пасля вызвалення.*

***— Апошнім часам адсутнасць хуткіх вынікаў «на Захадзе» выклікае далёка не адназначную рэакцыю. Некаторыя нават «стаміліся» ад беларускай апазіцыі...***

— Гэта мне нагадвае адзін «барадаты» анекдот: спачатку мы нічога не рабілі, а потым мы стаміліся нічога не рабіць...

Некаторыя замежныя палітыкі ВЕЛЬМІ любяць распавядаць сваім выбаршчыкам, як яны заклапочаныя дэмакратыяй у беларускім грамадстве і абараняюць тутэйшых дэмакратаў, але пры гэтым маюць ВЕЛЬМІ выгадныя пагадненні з рэжымам — задаволены ўсе. Часам можна прыняць нейкую чарговую дэкларацыю, а потым у два разы павысіць гандлёвы абарот альбо «здаць» Бяляцкага і сказаць пра «стомленасць» ад беларускай апазіцыі...

Падобныя заявы нават цяжка ўспрымаць сур'ёзна...

Мы бачым, што адбываецца рэальна і што еўрапейскія палітыкі могуць рабіць на самой справе, калі гэтага захочуць.

Украіна — красамоўны прыклад.

У адрозненне ад Беларусі там толькі некалькі палітзняволеных, аднак увага да іх з боку ЕС значна большая. Той самы літоўскі прэзідэнт

Даля Грыбаўскайтэ, якая некалі казала, што беларуская апазіцыя марыць толькі пра грошы і ў любы момант прадасць незалежнасць краіны Крамлю, знайшла магчымасць сустрэцца з Юліяй Цімашэнка, а з Міколам Статкевічам альбо з Андрэем Саннікавым (калі прыязджала ў Беларусь) — не. Чаму? Адказ просты: гэтага не захацелі асабіста яна і Еўрасаюз...

Таму не трэба казаць пра нейкую стомленасць. Мы добра ведаем, што яны робяць і што могуць рабіць, калі гэтага захочуць...

Статкевіч год знаходзіўся ў памяшканні камернага тыпу (з усіх рэжымаў — самы жорсткі). Чаму б з ім не сустрэцца Далі Грыбаўскайтэ? Слабо? Хай ёй адмовяць, але гэта будзе скандал на ўсю Еўропу... Нічога падобнага не адбываецца...

Адно — казаць сваім выбаршчыкам, і зусім іншае — рэальна нешта рабіць...

Зараз вельмі добра бачна, што сімпатыі простых еўрапейцаў і лідараў грамадскай думкі на баку тых, хто змагаецца ў Беларусі за дэмакратыю, а рэальнае стаўленне да іх еўрачыноўнікаў іншае. Таму сёння, на мой погляд, трэба звяртацца не да некаторых палітыкаў, а да народаў еўрапейскіх краін.

Аднымі рэзалюцыямі нічога ў Беларусі не зробіш.

***— А чым можна зрабіць?***

— Рэальнымі справамі.




*«Зорныя войны» без вайны.*

Мы добра бачылі, што такое сапраўдная салідарнасць Еўрасаюза, калі з Беларусі выехалі не два амбасадары, а ўсе. Адразу стала бачнай разгубленасць Лукашэнкі. Адразу выпусцілі двух палітзняволеных.

Пры гэтым, заўважце, Еўрасаюз адрэагаваў самым мяккім чынам. Яны нават не паставілі пытанне аб высылцы беларускіх амбасадараў з краін ЕС, што было б лагічным у той сітуацыі.

На жаль, такіх прыкладаў няшмат. Але мы бачым, што пад ціскам асобных палітыкаў і жыхароў краін ЕС палітыка да Беларусі апошнім часам мяняецца, але да канкрэтыкі яшчэ не блізка.

Так, знешні ціск у нашай сітуацыі — важна. Але самыя галоўныя змены павінны зрабіць менавіта беларусы. Ніхто іншы (Расія, Амерыка, Еўропа) за нас нічога не зробіць.

# ХРЫСЦІЯНСКІ ШЛЯХ



**Даведка:** Віталь Рымашэўскі нарадзіўся ў Бабруйску 3-га сакавіка 1975-га года. Жанаты, выхоўвае дачку. Інжынер-будаўнік, у 1997-ым годзе скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт.
Сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты падчас выбараў 2010-га года. Падчас акцыі 19-га снежня на плошчы Незалежнасці збіты спецназам. Затрыманы падчас разгону акцыі, змешчаны ў СІЗА КДБ. 29-га снежня прад'яўлена абвінавачванне па чч. 1 і 2 арт. 293 (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 31-га снежня 2010-га года года вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. 30-га сакавіка 2011-га года абвінавачванне перакваліфікавана на ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх).
20-га траўня 2011-га года згодна з прысудам атрымаў пакаранне ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады.

**Мабыць, кадры акрываўленай, забінтаванай галавы былога кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, які бароніць уваход у будынак Дома ўраду, сталі аднымі з «візітовак» брутальных падзей 19-га снежня 2010-га года.**

**Нямногія тады задумваліся над тым, што «дэмакратызатарам», як у народзе празвалі міліцэйскую гумовую палку, ударылі па галаве не толькі Віталя Рымашэўскага, але і па ўсім беларускім народзе...**

## Нацыянальны выбар

Дзяцінства Віталя Рымашэўскага прайшло паміж Бабруйскам, дзе ён нарадзіўся і вучыўся, і вёскай Пацава Слабада Кіраўскага раёна, дзе праводзіў усе вакацыі. Адтуль яго маці Тамара Аляксееўна, чыё дзявочае прозвішча было Комар.

Род жа Рымашэўскіх ідзе з Глушчыны, дакладней з вёскі Бярозаўка, дзе нарадзіўся яго бацька Анатоль Іосіфавіч Рымашэўскі. Бацькі бацькі (адпаведна дзед і бабуля) пайшлі рана, таму зразумела, чаму ўсе вакацыі хлопчыка Віталя праходзілі ў дзядулі і бабулі па матчынай лініі.



*З жонкай Настай і дачкой Евай.*

Вучыўся ён у звычайнай сярэдняй школе № 13 горада Бабруйска і заўсёды вельмі цікавіўся палітыкай. У адрозненне ад некаторых аднакласнікаў яму падабаліся нават палітінфармацыі. Быў камандзірам акцябрацкага і піянерскага атрадаў, а вось стаць «камсамольскім важаком» не выпала, таму што тады ўпершыню прыналежнасць да УЛКСМ стала неабавязковай. Пачыналася перабудова, і, зняўшы піянерскі гальштук, Віталь Рымашэўскі сказаў сваёй настаўніцы, што камсамольцам не будзе.

Цікавілі не толькі дакладныя навукі, якія тлумачылі стварэнне свету (матэматыка, фізіка, хімія), але і тыя, якія мы адносім да гуманітарных. Накшталт гісторыі. Менавіта з яе і пачаўся шлях да нацыяналізму, які прынята называць «здаровым».

Патрыётам сваёй краіны Віталь быў заўсёды, толькі ў той час стала зразумела, што гэта не Савецкі Саюз, а Беларусь. Менавіта беларускім нацыяналістам Рымашэўскі і стаў.

А «вінаватыя» ў гэтым Мікола Ярмаловіч (яго кнігі) і настаўніца беларускай мовы і літаратуры Любоў Кірылаўна Новік, якая выкладала ў апошніх класах.

Дарэчы, захапленне беларускай мовай прыйшло да Віталя не адразу. У сёмым класе ўсё было наадварот. Ён нават падняў (у іх тады была не самая лепшая настаўніца —**заўвага аўтара**) супраць яе вывучэння «бунт». Маўляў, навошта, калі ў Савецкім Саюзе «языком межнационального общения» з'ўляецца рускі, а беларуская мова не выкарыстоўваецца шырока нават у самой Беларусі, вучыць яе ўвогуле. Ідэю падтрымаў увесь клас. І, на мой погляд, зрабіў гэта зусім не па нейкіх ідэйных меркаваннях. З пакон вякоў любым вучням было чым менш заняткаў, тым лепш.

«Моўны бунт» тады тушыла ўсё кіраўніцтва школы, а праз тры гады «моўны стэрэатып» здолела зламаць Любоў Кірылаўна Новік.

Цікава, што сама яна па паходжанню была рускай і выкарыстоўвала гэты момант вельмі эфектыўна. «Па пашпарце я руская, аднак беларускую мову люблю і паважаю, а вы, беларусы, нічога пра яе не ведаеце».

Не пагадзіцца з такім аргументам ВЕЛЬМІ цяжка.

Пазней, калі адна дзяўчына сказала, што «ў параўнанні з рускай мовай беларукая значна горш», на яе абурыўся ўвесь клас.

Даволі паказальны нюанс. Красамоўна сведчыць аб тым, якое ўздзеянне на людзей рабілі настаўнікі.




*З Паўлам Севярынцам.*

Віталю Рымашэўскаму заўсёды падабаўся Мінск, які давялося наведаць некалькі разоў у дзяцінстве і дзе дагэтуль жыве яго родная цётка. Таму, калі надышоў час пакідаць родны горад, адказ на пытанне, куды ехаць вучыцца, ужо быў (у яго родным горадзе не было раней і няма зараз (на дадзены момант існуюць толькі філіі ВНУ) НІВОДНАЙ вышэйшай установы). Пасля сканчэння школы выбар быў зроблены на карысць сталічнай Політэхнічнай акадэміі. Дакладней, на яе (вельмі складаны) будаўнічы факультэт.

Для тых, хто не памятае, нагадаю, што ў 1920-ым годзе на базе Мінскага політэхнічнага вучылішча быў створаны Беларускі політэхнічны інстытут. У 1991-ым годзе яго ператварылі ў акадэмію, а ў 2002-ім годзе ўсім вядомы «політэх» стаў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэтам (БНТУ).

Як ідэйны нацыяналіст, Віталь Рымашэўскі час ад часу наведваў і тагачасныя мітынгі. Вонкава тады ўсё было быццам бы добра. Над адміністрацыйнымі будынкамі (у тым ліку і над Домам ураду) лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Беларусь існавала ў якасці незалежнай краіны, і з

пункту гледжання нацыянальнага патрыятызму вострай неабходнасці ўдзельнічаць у палітычным жыцці, мабыць, не было. Але набліжалася тое, што амаль усе дасягненні тых гадоў перакрэсліць.

## Палітычны выбар

На выбарах 1994-га года, нягледзечы на тое, што праводзіў актыўную агітацыю сваіх знаёмых у ВНУ і сваякоў у падтрымку Зянона Пазняка, галасаваць супраць Лукашэнкі Віталь не мог па той прычыне, што яму яшчэ не было 18-ці гадоў, аднак перамогу шклоўскаму папулісту тады забяспечыла зусім не гэта. Былы дырэктар саўгаса казаў тое, што электарат хацеў пачуць, і абяцаў хутка навесці «парадак». Праз некальскі год апошні стане стабільнасцю, якая (на думку шмат каго) абнесена калючым дротам самаізаляцыі.

У Політыхнічнай акадэміі зацікаўленасць і нават апантанасць беларускай гісторыяй і мовай выглядала трохі дзіўна. Калі не сказаць, што Віталь Рымашўскі быў «белай варонай». Там вучацца людзі іншага складу розуму і вельмі далёкія ад палітыкі. Дарэчы, выкладчыкі «політэху», у адрозненне ад студэнтаў, былі палітызаваныя нашмат больш. Калі Рымашэўскага першы раз арыштавалі, яны паставіліся да гэтага даволі спакойна, а некаторыя, наадварот, падтрымлівалі.



*Чарговы хапун.*

Адбылося ўсё на Дзень Волі, 25-га сакавіка 1996-га года. Сам мітынг павінен быў адбыцца на плошчы Незалежнасці, але збірацца там забаранілі. Усе прыходзілі да Опернага тэатру і ўжо адтуль пачаўся рух. Міліцыянты праз мегафоны казалі пра забарону, нехта крыкнуў: «Брэшаце!», а Віталь Рымашэўскі — пра тое, што брэ-

шуць толькі сабакі. Атрымалася так, што за ім ішоў намеснік кіраўніка Маскоўскага РУУС.

Са словамі «Я табе зараз пакажу, хто такі сабака» ён загадаў схапіць юнака і разам з іншымі міліцыянтамі пацягнуў да «козліка».

Амаль дзве гадзіны Рымашэўскі правёў у пастарунку, аднак у тыя часы міліцыянты ставіліся да іншадумцаў значна лагодней, чым зараз. Віталя нават адпусцілі, даўшы пісьмовае папярэджанне, але потым нешта пачулі па рацыі, вярнулі (з прыступкаў) назад, парвалі папярэджанне і замест яго выпісалі позву ў суд.

Аказалася, у гэты час Вінцук Вячорка даведаўся пра затрыманне і праз мегафон крыкнуў: «Калі зараз не вызваляць Віталя Рымашэўскага, то мы пойдзем да РУУС вызваляць яго самі».

...Потым былі выклікі ў пракуратуру. Віталь думаў, што гэтым усё і абмяжуецца. Памыліўся.

Менавіта з гэтага затрымання і пачаўся ягоны шлях у палітыку.

На той момант вучыцца заставалася толькі паўгады (паскораны выпуск), і Рымашэўскі вырашыў больш не хадзіць на мітынгі. Напэўна, так бы і адбылося, калі б камендант інтэрнату не прынёс яму (перад «Чарнобыльскім шляхам») позву ў пракуратуру. Гэта было відавочнае прэвентыўнае дзеянне. Эфект ад яго атрымаўся супрацьлеглым таму, на які нехта спадзяваўся. Калі раней Віталь Рымашэўскі не збі-



*Салідарнасць.*

раўся ісці на мітынг, то ў гэты момант зразумеў, што не пайсці на яго не можа.

Падчас «Чарнобыльскага шляху» 1996-га года Віталь Рымашэўскі запоўніў анкету на ўступленне ў Беларускі народны фронт. Не ў партыю, а ў рух, то бок у грамадскае аб'яднанне.

У тыя часы ў «політэху» да палітычнага іншадумства студэнтаў яшчэ ставіліся спакойна. Час ад часу яны нават дапамагалі, бо большасць (добрыя прафесіяналы) выкладчыкаў не падтрымлівалі дзеючую ўладу. Словам, да дыплома Рымашэўскі дайшоў без асаблівых праблем. Размеркавання тады не было, а вось за мінскую прапіску прыйшлося пазмагацца. Атрымаў яе толькі праз некалькі год.

У гэты ж час пачаў працаваць «Малады Фронт». Віталь Рымашэўскі (нягледзячы на пэўныя непаразуменні з Паўлам Севярынцам) стаў адным з яго лідараў.

## Асабісты выбар

Самае цікавае, што ў дзяцінстве Віталь Рымашэўскі быў перакананым атэістам. Настолькі, што час ад часу спрачаўся на гэты конт са сваёй бабуляй. Паралельна з прыходам у палітыку адбыўся і яго прыход да веры. Як вядома, гэтаму нельга неяк навучыць. Бог адкрываецца чалавеку сам, і з той хвіліны мы адчуваем Яго існаванне.

Пакінем за дужкамі нарыса, як усё адбылося ў Віталя Рымашэўскага, адзначым толькі, што вера дапамагла пераасэнсаваць і палітычны светапогляд: ад ідэйнага нацыяналіста да хрысціянскага дэмакрата, для якога патрыятызм з'яўляецца істотнай, але не галоўнай каштоўнасцю.

Яшчэ ў 1996-ым годзе ён не толькі марыў пра з'яўленне беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, але і прыняў актыўны ўдзел у першай (на жаль, няўдалай) спробе яе стварэння з Генадзем Грушавым. Нават пакінуў дзейнасць у «Маладым Фронце». Рымашэўскага абралі намеснікам кіраўніка Маладзёвага хрысціянска-сацыяльнага саюза (МХСС).

Тады склалася амаль унікальная сітуацыя. Спроба стварыць «дарослую партыю» не дасягнула поспеху, а яе «маладзёвае крыло» дзейнічала шмат год. Больш за тое, праз сваю актыўнасць Віталь Рымашэўскі стаў сябрам Прэзідыуму Нацыянальнай Рады маладзёвых і дзіцячых аб'яднанняў Беларусі. Пакуль яе не ліквідавалі, гэта была досыць дзейсная моладзевая «парасонавая» структура.

У тыя ж часы Віталь Рымашэўскі працаваў у кіруючым органе Асацыяцыі маладых палітыкаў.

Як вядома, моладзевым структурам складана існаваць без « партыйнага даху». Раз хрысціянска-дэмакратычную партыю тады не стварылі, рашэннем большасці сяброў арганізацыі, МХСС стала «крылом» Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Натуральна, што, калі пачала стварацца хрысціянская дэмакратыя, Віталя Рымашэўскага запрасілі ў аргкамітэт. На той момант ён ужо пачаў працаваць і ўмоўна складаўся з двух частак. У адной былі вядомыя палітыкі хрысціянскага накірунку (Павел Севярынец, Аляксей Шэін і інш.), у другой — вернікі розных канфесій. Запрашэнні паступілі адразу з двух.

Было гэта ў 2005-ым годзе, а праз некалькі год адбыўся ўстаноўчы з'езд, дзе Віталя Рымашэўскага абралі сустаршынёй Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. З таго моманту БХД праводзіць свае з'езды штогод, але беларускае Міністэрства юстыцыі іх ігнаруе, кожны раз адмаўляючы партыі ў афіцыйнай рэгістрацыі.

Думаю, на гэты момант трэба звярнуць увагу асобна. Размова пра стасункі паміж Паўлам Севярынцам і Віталем Рымашэўскім. Разышліся яны ў «Маладым Фронце» не вельмі цёпла. Спрадвечная праблема беларускай апазіцыі ў тым, што ў ёй заўсёды пануюць сваркі і спрэчкі. Два чалавекі не могуць зрабіць нават тры крокі разам і не разысціся пры гэтым у розныя бакі. У лепшым выпадку — «мірна разысціся», а звычайна — пасварыцца.

Севярынец і Рымашэўскі не засталіся пасля «Маладога Фронту» сябрамі, таму, калі Павел запрасіў Віталя ў аргкамітэт БХД, апошні аднёсся да гэтага з пэўнай насцярогай. Пагадзіўся, але вырашыў працаваць не на некага канкрэтна, а на тыя рэчы, якія будуць мець для Беларусі безумоўную каштоўнасць.

Напрыклад, Віталь Рымашэўскі ўзначаліў праект «Пакаянне». Неўзабаве ўзнік адпаведны сайт і віртуальны музей былых палітрэпрэсаваных: паспелі запісаць шмат апошніх сведак сталінскіх рэпрэсій.

Можна нагадаць кампаніі «Люблю Беларусь» і збор подпісаў за змены ў законе «Аб свабодзе веравызнання», у распрацоўцы і правядзенні якіх Віталь браў непасрэдны ўдзел.

Сумесная праца вельмі станоўча паўплывала на асабістыя стасункі паміж палітыкамі. Больш за тое, калі БХД абрала Віталя Рымашэўскага сваім кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 2010-га года, менавіта Павел стаў кіраўніком яго перадвыбарчага штаба.




*Пасля выбараў.*

Хочацца звярнуць увагу і на момант сустаршынства. Для Беларусі — з'ява ўнікальная. Усе кажуць, што ў нас не павінна быць «партый лідара», а трэба стварыць «партыю ідэй», аднак у рэчаіснасці ўсё адбываецца наадварот. Кампрамісу ў гэтым сэнсе змаглі дабіцца толькі ў БХД.

Наконт прычын адсутнасці афіцыйнай рэгістрацыі можна спрачацца даволі доўга. Віталь Рымашэўскі лічыць, што галоўная прычына ў тым, што партыя не з'ўляецца лаяльнай прэзідэнту Лукашэнку, і з гэтым вельмі цяжка не пагадзіцца.

## Рэлігійны выбар

З самага дзяцінства, як і многія равеснікі, Віталь пачаў шукаць сэнс жыцця. Звычайна ў 16-17 год гэта «праходзіць», аднак Рымашэўскі стаў тут выключэннем. Канешне, як і іншых маладых людзей, яго цікавілі розныя рэчы, але філасофскія (рэлігійныя) пытанні былі самымі галоўнымі. Калі чалавек шукае Бога, то Гасподзь рана ці позна да яго прыходзіць.

З Рымашэўскім гэта адбылося ў 1996-ым годзе. Распавесці такое ў кароткім нарысе немагчыма, таму канстатую толькі факт, што з гэтага




*На з'ездзе.*

моманту ён радыкальна змяніў свае погляды ад атэізму да хрысціянскага верніка.

Праз месяц Віталь па-сур'ёзнаму прыйшоў у праваслаўную царкву, бо хрышчоны быў у дзяцінстве менавіта ў ёй. Не хочацца кранаць міжканфесійных адносін, але сёння ўлада сама падзяліла вернікаў на «сваіх» і «чужых». Яна ў нейкім сэнсе манапалізавала праваслаўе, а да ўсіх іншых хрысціянскіх канфесій ставіцца даволі насцярожана. Маўляў, менавіта з іх паходзяць усе, каго сёння адносяць да «пятай калоны».

Спрачацца з гэтай відавочнай хлуснёй няма сэнсу па той прычыне, што праваслаўе было ў нашай краіне задоўга да таго, як нехта прыдумаў «інтэграцыйныя гульні» і нават раней «ператварэння» Беларусі ў «Северо-западный край»... Другое пытанне, што ў апошнія 18 год вера людзей у Бога стала выкарыстоўвацца і як палітычны інструмент...

Тым, хто ў нечым сумняваецца, нагадаю, што ў 1514-ым годзе ПРАВАСЛАЎНЫ Канстанцін Астрожскі пад Оршай перамог ПРАВАСЛАЎНАЕ маскоўскае войска.

Дарэчы, менавіта з гэтай рэлігійнай канфесіяй звязана другая адукацыя і сустрэча з «другой палавінай».

У 2002-ім годзе Віталь Рымашэўскі стаў студэнтам Маскоўскага Свята-філарэтаўскага праваслаўнага хрысціянскага інстытута і нават амаль скончыў яго.



*У Брэсце.*

Слова «амаль» тут азначае, што праз чатыры гады вучобы яму не далі абараніць дыпломную працу. І не маглі даць, бо яна называлася «Церковь и движение национального возрождения в Беларуси». Сёння гэта зрабіць у Расіі немагчыма па вызначэнню, бо нават многія лібералы ўспрымалі (і ўспрымаюць) нашу краіну часткай Расіі.



*Пасля суда.*

«За националистические идеи» да абароны Віталя Рымашэўскага банальна не дапусцілі. Аб такой «ўзнагародзе» апазіцыйныя беларускія палітыкі могуць толькі марыць...

Што тычыцца жонкі Насты, то яны пазнаёміліся ў Петрапаўлаўскім саборы, але «сышліся бліжэй» падчас сумеснай завочнай вучобы ў хрысціянскім інстытуце. У 2009-ым годзе нарадзілася дачка Ева.

## Выбар дзеля будучага

На думку Віталя Рымашэўскага, самы сумны вынік снежаньскіх падзей 2010-га года ў тым, што высновы зробленыя не былі, а многія рэчы засталіся недасказанымі. Ні для ўдзельнікаў Плошчы, ні для тых, хто там не ўдзельнічаў, але потым рабіў розныя заявы. Гэта можа прывесці да кепскіх наступстваў (даруйце таўталогію — **заўвага аўтара**) на наступных прэзідэнцкіх выбарах. Дакладней сказаць, «прэзідэнцкай кампаніі», бо ніякіх выбараў у нас няма ўжо даўным-даўно.

Віна ў тым, што адбылося (перакананне самога Рымашэўскага — **заўвага аўтара**), ляжыць не толькі на палітыках, але і на журналістах і ўсіх тых, хто звязаны з дэмакратычным рухам. Калі не рабіць высновы з асабістых памылак, не даваць добрыя і дрэнныя адзнакі, то ў будучым сітуацыя можа стаць яшчэ горшай.

Калі раней рэжым спрабаваў знішчыць усіх, то цяпер робіць гэта не нягегла і брутальна, а паступова. Знішчэнне стала насіць выбарачны характар. Па аднаму распраўляюцца з палітыкамі і іх структурамі. У прынцыпе, такі «працэс» дае права выбару, магчымасць некаторым больш «лаяльным» адстаяцца ў убаку... Тады менш чапаюць.

Сёння галоўнае пытанне Беларусі — пытанне салідарнасці. І справа тут не толькі ў лістах і перадачах. Гэта таксама патрэбна і важна. Палітыкі павінны бараніць адзін аднаго, бо знішчыць можна не толькі фізічна, але і палітычна.

На жаль, так адбываецца далёка не заўсёды.

Яскравы такі прыклад — Аляксандр Казулін. У свой час для яго вызвалення было зроблена не вельмі шмат і зусім мала, каб не дазволіць, калі чалавек «сядзіць,» змясціць яго з кіраўніка партыі, здрадзіць.

Сумна, але гэта працягвае адбывацца на прыкладзе іншых арганізацый або палітыкаў.

Калі заплюшчваць вочы і спрыяць уладзе, то ў Беларусі хутка зусім не застанецца незалежнага дэмакратычнага руху.

Апошнім часам даволі часта прыходзіцца чуць пра падзел беларускай апазіцыі на «радыкалаў» і «канструктыўных», яе «прарасійскія» альбо «празаходнія» плыні. Цалкам згодны з тымі, хто лічыць такую класіфікацыю далёкай ад рэчаіснасці і штучнай. І не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што яе прыдумалі існуючыя сёння спецслужбы.

# ПЛОШЧА І ВОЛЯ



**Напамін:** Павел Севярынец нарадзіўся 30-га снежня 1976-га года ў Оршы. Скончыў віцебскую школу № 25 і геафак БДУ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча і прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі». У 1999-2003-ім гг. — намеснік старшыні Партыі БНФ. З 1999-га да 2004-га — старшыня «Маладога Фронту». З'яўляецца сустаршынём аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». У часе прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў кіраўніком штабу кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага. 20-га снежня 2010-га года Павел Севярынец быў арыштаваны і змешчаны ў СІЗА КДБ. Спачатку было прад'яўлена абвінавачванне па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках), якое 4-га красавіка 2011-га года было перакваліфікавана на ч. 1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).
6-га траўня 2011-га года асуджаны на 3 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу — на так званую «хімію» — з залічэннем часу знаходжання адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі.

**Шчыра скажу, што быў крыху ўзрушаны, калі Павел Севярынец патэлефанаваў мне з «хіміі». Дакладней з вёскі Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. І яшчэ больш узрушаны, калі ў прызначаны намі тэрмін прынеслі гэты артыкул. Прыемна бачыць, як словы ў чалавека супадаюць са справамі.**

**На мой погляд, тэкст, які пойдзе далей, вельмі яскрава дэманструе тое, аб чым усім нам трэба памятаць і што трэба рабіць.**

**Два гады, якія прайшлі з часу Плошчы-2010, можна ўмясціць у некалькі радкоў хронікі Беларусі XXI ст.: дзясяткі палітвязняў, тэракт на Кастрычніцкай, эканамічны крызіс, маўклівыя акцыі, мінус «Белтрансгаз», расейскі Мытны саюз і байкот так званых «парламенцкіх выбараў».**

**У кожнай з гэтых падзеяў чуецца рэха той ночы 19-га снежня, калі дзясяткі тысячаў беларусаў пратэставалі супраць рэжыму і патрабавалі волі.**

**Вядома, каб разабрацца ў наступствах, давядзецца спачатку яшчэ раз акунуцца ў глыбіню Плошчы.**

## Плошча

Беларусы ўвогуле рэдка збіраюцца разам, у вялікай колькасці — тым больш. Заглыбленыя інтраверты, мы ўсё жыццё займаемся СВАІМ, і вось ужо тысячу гадоў, каб з'яднацца дзеля агульнай справы, нам патрэбен цуд.



*За гадзіну да арышту. 1988-ы год.*

Але за 16 апошніх гадоў гвалту, здзекаў і хлусні нас ціснулі так моцна, што ў ледзь прыадчыненыя дамовай з еўрапейцамі дзверы двухмесяцовай «лібералізацыі» дружна ламануліся адразу дзевяць кандыдатаў




*«Дзень Святога Валянціна».*
*Падчас «Алімпіяды МФ». 1988-ы год.*

у прэзідэнты, а за імі — 30 тысяч беларусаў.

Можна спрачацца: лепш было б тут аднаму ці ўдзевяцёх; можна наракаць на адсутнасць цэнтру прыняцця рашэнняў, можна высвятляць, хто, куды і чаму кіраваў (або не кіраваў) масу пратэстоўцаў ці хто біў шкло ў Доме ўраду — але галоўнай прычынай паразы Плошчы насамрэч была адсутнасць ВЕРЫ.

Трыста чалавек біліся з амапам; трыццаць тысяч назіралі, чым гэта скончыцца. А вось калі б на Плошчу выйшлі трыста тысяч — хапіла б адной супольнай малітвы, аднаго гімну, аднаго духу, каб сістэма затрашчала па швах.

Памятаю ўкраінскі Майдан: там кожны мітынг пачынаўся з Малітвы — і дзясяткі, і сотні тысяч украінцаў на чале з прадстаўнікамі ўсіх канфесій ядналіся з натоўпу ў нацыю! І, стоячы тыднямі, мірна, без кропелькі крыві дамагліся перамогі.

Да нашага сораму, і мы самі, хрысціянскія дэмакраты, не здолелі адкрыць Плошчу 2010-га года і сэрцы людзей для Бога. А самі па сабе супраць шматтысячнай, узброенай і згуртаванай нянавісцю сістэмы, мы безнадзейна слабыя. Насамрэч усім, хто бярэцца дамагацца свабоды, праўды, справядлівасці, дадзеных беларусам звыш, хто падымае белчырвона-белы сцяг Хрыстовага ўваскрашэння, трэба памятаць: без Бога мы асуджаны на правал.

У такі час, якім быў 2010-ы, і ў такіх месцах, як Плошча, усё вырашаюць вера, асабістая ахвярнасць і ступень любові.

Менавіта адсюль — не з геапалітыкі, паліттэхналогіі, грошай, а з нашага беларускага сэрца — і ўсё тое, што адбылося потым.

А калі веры ды ахвярнасці не хапіла 19-га снежня, яе давялося выяўляць дзясяткам палітвязняў цэлыя гады далей.

## Палітвязні

Тыя, хто пасля Плошчы апынуўся за кратамі, хто прайшоў збіццё, здзекі, доўгія пакуты холаду, голаду, ціску, сталі жывымі болевымі кропкамі нацыі, без якіх ані пакаянне, ані вяртанне, ані вызваленне ўсяго народу немагчымыя.

Наколькі моцна Бог працуе праз палітвязняў, добра паказвае выпадак Дашкевіча ў Мазыры. Кіраўнік калоніі зняволіў Зміцера менавіта за веру ў Хрыста. У выніку шырокай кампаніі салідарнасці пратэстанцкія цэрквы з Беларусі і Еўропы падтрымалі змаганне беларусаў за свабоду, а епіскап Эвангельскіх Хрысціянаў Беларусі (да якіх належыць звыш 50 000 вернікаў) выступіў у абарону лідара Маладога Фронту і заклікаў цэрквы маліцца за Дашкевіча. Хацелі маральна знішчыць, прынізіць аднаго — атрымалі абуджэнне дзясяткаў тысяч.

Не дзіва, што менавіта палымянаму верніку Дашкевічу дадалі яшчэ год і накіравалі ў крытую турму: яго баяцца найбольш.

Надзвычай цяжка зараз Яўгену Васьковічу. Вядома, падпал Бабруйскага КДБ — гэта не метад для хрысціянскага дэмакрата, але мужнасць і адвага, з якой хлопец трымаўся на судзе, адданасць прынцыпам вартыя агульнай павагі і падтрымкі.

Звярніце ўвагу: вернікі розных канфесій, якія на працягу года пасля Плошчы штодня збіраліся для малітвы за Беларусь каля Чырвонага касцёла ў Мінску, з'ядналіся ў праваабарончы рух «За волю», і ён стаў найбольш дзейсным сярод астатніх: круглыя сталы, інтэрнэт-ролікі, спеўны марафон, кампаніі салідарнасці... Дзясяткі і сотні людзей, у якіх гарaць сэрцы, уключыліся ў беларускую салідарнасць — і гэта таксама вынік 19-га снежня 2010-га года.



*Два гады «хіміі». 2005-2007 гг.*

Пашырылася і рэгіянальная, мясцовая салідарнасць. Апроч свайго ўласнага досведу на Пружаншчыне згадваю круглыя сталы,



*У «курылцы» з Аляксандрам Мілінкевічам (злева). 2006-ы год.*

арганізаваныя БХД у тых рэгіёнах, дзе ўтрымліваюцца палітвязні — Магілёве, Бабруйску, Брэсце, Віцебску.

Адначасова турма — гэта наймацнейшае духоўнае кшталтаванне, звычайна ТАМ чалавек найбліжэй да Бога. Спадзяюся, беларускія Бібліі, перададзеныя кожнаму з вязняў сумлення, стануць падмуркам для развіцця кожнага з іх як духоўнага лідара. Надзвычай важна, каб да пратэстанта Дашкевіча, каталікоў Бяляцкага, Лобава і Васьковіча, праваслаўных Статкевіча і Аўтуховіча ды іншых маглі трапіць святары.

Ахвярнасць Дашкевіча, нязломнасць Васьковіча, мужнасць Статкевіча, цярплівасць Бяляцкага, цвёрдасць Лобава, адвага Аўтуховіча, галадоўка Кавалeнкі, прынцыповасць Аліневіча, Францкевіча, Дзядка, Пракапенкі, пакуты Крутога, Парфянкова, Малчанава — гэта тое, чым зараз адкупляецца ад граха абыякавасці і страху ўвесь беларускі народ.

## Пратэсты

У выніку разгрому Плошчы і судовых працэсаў палітычная апазіцыя здранцвела — дзе ад турэмнага зняволення лідараў, дзе ад вярбоўкі, дзе ад пeратрусаў, дзе проста ад страху.

Але гэта дало магчымасць выявіцца глыбіннаму грамадзянскаму пратэсту.

У адказ на дэфіцыт прадуктаў, знікненне валюты, крызіс і тэракт на Кастрычніцкай ужо ўлетку 2011-га праз Сеціва ў Беларусі раскруцілася штосeрадовая чарада маўклівых акцыяў — збор тысяч беларусаў па ўсіх гарадах, што пратэставалі моўчкі або воплескамі.

Негвалтоўныя, надзвычай простыя і рухомыя акцыі сталіся не толькі кашмарам для ўлады (яна вымушана была выяўляць крайнюю жорсткасць пры разгоне) — але і нагодай для развагаў пра беларускую ментальнасць. «Малайцы, беларусы!» — можна было пачуць улетку 2011-га ад расейцаў, украінцаў, палякаў, грузінаў. — «Як лёгка!.. Як прыгожа!..»



*Акцыя ў гадавіну «Рэферэндума-1995». 2001-ы год.*

Маўклівыя акцыі — яскравы прыклад глыбокага беларускага і глыбокага хрысціянскага ў сваёй сутнасці пратэсту, наколькі мірнага, настолькі ж магутнага і псіхалагічна ўражваючага.

Разам з маўклівымі акцыямі па ўсёй Беларусі ўспыхнулі і грамадзянскія сацыяльна-эканамічныя пратэсты, найвядомейшымі з якіх сталіся «Стоп-бензін» (зноў моўчкі, толькі сігналы аўтамабіляў!), перакрыццё трасы ў Брузгах (характэрна! — пратэстоўцы спявалі перад АМАПам: «Мы, беларусы, мірныя людзі...»), хваляванні на гранітным кар'еры ў Мікашэвічах, на «Пінскдрэве», сярод магілёўскіх будаўнікоў, полацкіх вінаробаў, гомельскіх прадпрымальнікаў... Незалежныя прафсаюзы ўзнікалі то тут, то там, і барацьба за справядлівасць зацінalася ад страйкаў і звальненняў.

Новае дыханне набыў і спярша прыгалошаны моладзевы пратэст — акцыі Маладога Фронту; «цацачныя перфомансы «Змены»; бел-чырвона-белыя сцягі па-над дахамі беларускіх гарадоў...

Такім чынам, 2011-2012-ы гг. сталі часам нараджэння новай платформы грамадзянскага пратэсту — і гэта ўжо тэхнічны зрух.

## Байкот «вырабаў»

Напружанне, народжанае ўціскам і абвальным крызісам, трохразовай дэвальвацыяй і імклівым ростам коштаў, назапашвалася, падспудна расло ўсе гэтыя два гады — і вылілася ў тыпова беларускі, ціхі, але дружны БАЙКОТ «ВЫРАБАЎ».

Так, тое, што адбываецца ў Беларусі пад выглядам «выбараў», насамрэч ёсць ВЫРАБАМІ. Не выбар, а выраб «дэпутатаў», з вядомымі макароннымі вырабамі, якія потым вешаюць на вушы «электарату»... Вырабы — адно слова. Вы — рабы, гаворыць рэжым і абвяшчае загадзе падрыхтаваныя вынікі.

Вынесем за дужкі бессаромную фальсіфікацыю (гэта агульнавядома), прымусовы загон на датэрміновае галасаванне і сумніўную тактыку ўдзельнічаць у ВЫРАБАХ асобных дэмакратаў. Насамрэч гістарычнае значэнне мае масавая (большасцю!) адмова беларусаў быць быдлам і рабіць выгляд узаконьвання зла.

Беларускі байкот, або няўдзел, зафіксаваны сотнямі відавочцаў ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, незалежнымі назіральнікамі ды журналістамі, рэзка адрывае, адслойвае народ ад рэжыму. Беларускі байкот расхінае ў свядомасці людзей тую прорву, якая ўжо даўно існуе ў маральнай прасторы: гвалт, страх, нянавісць і хлусня рэжыму супрацьстаяць жаданню волі, праўды і справядлівасці цэлай краіны.

Больш таго, менавіта байкот — перспектыва далейшых дзеянняў грамадства. Асабісты байкот катам, злодзеям, нахабнікам, калі прыстойныя людзі перастаюць нават вітацца і паціскаць руку, прадпрымальнікі адмаўляюцца мець справу, на вуліцы адварочваюцца, — надзвычай моцны сродак уздзеяння на чалавечае сумленне (і таго, каго байкатуюць, і таго, хто гэта бачыць, і таго, хто гэта робіць) і выключная аб'яднаўчая сіла для грамады.

*Вёска Куплін. Пружанскі раён. Брэсцкая вобласць.*





*Лесапавал. 2006-ы год.*

Прынцыповы няўдзел у справах зла — паняццe, блізкае да хрысціянскага практыкавання ў святасці.

## Куплін

Для мяне два гады пасля Плошчы — «амерыканка», а потым спецкамендатура ў Купліне — былі часам духоўнага станаўлення. Калі самотны, у своеасаблівай духоўнай пустыні, ды яшчэ пад ціскам — да Бога найбліжэй.

І Госпад працуе, выхоўвае сэрца — для кагосьці ў будучыні, для кагосьці ў вечнасці — і дае сведчыць пра Хрыста «хімікам».

Тым больш Пружаншчына, Заходняя Беларусь — гэта край жывой веры, з моцным беларускім праваслаўем, дзейсным эвангельскім рухам, поўнымі касцёламі і яшчэ не забытай грэкакаталіцкай традыцыяй. Багата глыбокіх святароў і прыхаджанаў, шматлюдныя набажэнствы. Многія, з кім сустракаемся і хто прыязджае ў госці, далучаюцца да БХД.

Людская салідарнасць тут уражвае: з царквы (куды дазволена ездзіць раз на тыдзень) выходжу, быццам навагодняя елка, абвешаны пакунка-

мі з прадуктамі. Тутэйшыя актывісты дапамагаюць з транспартам і поштай, краязнаўцы — з матэрыяламі для артыкулаў, вернікі — з кнігамі.

Працаваць даводзіцца на найбуйнейшым у раёне складзе аўтазапчастак: разгружаю і выпісваю жалеззе, шыны, фарбу, гаруча-змазачныя ды інструменты колішнім калгасам (цяпер акцыянерным таварыствам). Пішу ў «Нашу Ніву». Адпісваю лісты — іх атрымаў больш за 1200. Стараюся дапамагчы, чым магу, хрысціянскім дэмакратам ды маладафронтаўцам.

Тым палітвязням, хто ў турмах, нашмат цяжэй. Але і нацыя, і кожны беларус мусяць прайсці праз гэта, калі хочам волі. Без крыжу няма збавення.

## Беларусь — хрысціянка

І чым далей, тым больш пераконваюся, што Беларусь — гэта нешта куды больш важнае і значнае, чым мы думаем.

Краіна, якая тысячу гадоў сваёй гісторыі пакутавала, ахвяравалася, несла крыж і аддавала сябе іншым (зямлю, гісторыю, культуру, гені-



*У гасцях -- малафронтаўцы. 2006-ы год.*

яў); краіна ўбогасці духу і пакорлівай ментальнасці, цудаў веры і неверагоднай любові; краіна трэцяй у свеце друкаванай Бібліі на жывой мове народа, унікальнай талерантнасці і найлепшых законаў свайго часу, сабраных у вялікакняжскіх Статутах; краіна, якая вынасіла аднбўлены Ізраіль (а заснавальнікі сучаснай дзяржавы Ізраіль, тры прэзідэнты і сем прэм'ер-міністраў паходзяць менавіта адсюль); краіна з пранікнёна хрысціянскімі сімваламі — гімнам «Магутны Божа», бел-чырвона-белым сцягам Хрыста і «Пагоняй» з крыжам Ефрасінні — тоіць у сабе вобраз і падабенства Божае як сэнс, місію і, у рэшце рэшт, лёс.

Быць БЕЛАРУСАМ — значыць даць Хрысту выявіць сябе ў кожным з нас. Быць беларусам — значыць быць сумленным. Шчырым. Ахвярным. Адкрытым. Быць беларусамі — значыць быць народам праўды, народам чысціні, народам любові.

Сутнасць беларускай нацыянальнай ідэі — не проста ў адметнасці ад суседзяў, а ў жывым традыцыйным хрысціянстве (праваслаўе, каталіцтва, пратэстанцтва). Гэта ключ для разумення і адраджэння Беларусі.

*Фізічная падрыхтоўка да волі.*





*Асабісты «хімічны» чайнік.*

## Што рабіць?

Што ж рабіць?

Першае — пачынаць з сябе. Як асобе, як апазіцыі, як народу. Пачынаць з сябе, яшчэ раз!

Толькі тады, калі мы будзем ВАРТЫЯ, ГАТОВЫЯ ўзяць адказнасць за ўсю краіну, — Госпад нам яе дасць.

Пераконваю вас — у той жа момант. А пакуль мы не можам упарадкаваць сябе, змяніць уласную супольнасць, партыю, горад... Няверны ў малым і ў вялікім няверны, кажа Ісус у Евангеллі.

Базай для перамогі ў Беларусі павінна стаць маральнасць, сумленнасць, праўдзівасць у словах і дзеяннях. Апазіцыя сумлення — вось адзіны шлях дэмакратычнага руху.

А хто ўзначаліць? Адзіны?.. Герой?.. Кааліцыя?..

Адказ, як заўсёды, у Бібліі: калі хто хоча быць між волі галоўным, хай будзе ўсім слугой.

Увогуле, нам усім, палітычнай апазіцыі і грамадскім пратэстоўцам, зараз трэба ахвяраваць уласнымі амбіцыямі — і стаць жывымі працоўнымі мосцікамі, жывой тканкай сувязі паміж актыўнай моладдзю, незадаволенымі рабочымі, вернікамі і прадпрымальнікамі, гарадскімі супольнасцямі і заўсёднікамі сацыяльных сетак.

Захад перамог — у веры і салідарнасці.

Паверце, гэта будзе хутчэй, чым здаецца цяпер.

Бо Бог любіць Беларусь.

# «НЕПРАВИЛЬНЫЙ» КАМУНІСТ




**Даведка:** Сяргей Вазняк нарадзіўся 14-га красавіка 1962-га года ва Украіне. Галоўны рэдактар газеты «Товарищ», сябра Праўлення ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Быў адным з арганізатараў стварэння Партыі камуністаў Беларускай, у 2009-ым годзе перайменаванай у Беларускую партыю левых «Справядлівы свет». У час прэзідэнцкіх выбараў 2010-га года Сяргей Вазняк працаваў у штабе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Быў арыштаваны 20-га снежня 2010-га года і змешчаны ў СІЗА КДБ. Першапачаткова яму прад'яўлена абвінавачванне па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). Абвінавачванне таксама было прад'яўлена па ч.1 арт.401 (загадзя ілжывае паказанне). 29-га студзеня 2011-га года мера стрымання зменена на падпіску аб нявыездзе. 30-га сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). 20-га траўня 2011-га года асуджаны да 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавачым тэрмінам на 2 гады; па арт. 401 — апраўданы.

**Час ад часу мы жартуем, што ён мяне «падсядзеў». Сапраўды, некалі Сяргей Вазняк заняў месца, якое я вызваліў, калі звальняўся з вайсковай службы. Дакладней, з пасады карэспандэнта ваеннай газеты «Во славу Родины». І мне заўсёды прыемна ад думкі пра тое, што добры танкіст «ператварыўся» ў добрага журналіста.**

## Дзіцячая мара

«Мае бацькі з украінскіх сялян. Абодва з-пад Адэсы. Бацька Віталь Лявонцьевіч вучыўся ў Адэскім інстытуце сувязі, а мама Надзея Пятроўна ў Адэскім медвучылішчы. Там пазнаёміліся. Пажаніліся. Бацьку размеркавалі ў Карастышаў Жытомірскай вобласці, дзе я і нарадзіўся.

Карастышаў цалкам не помню, таму што вельмі хутка бацьку перавялі па працу ў Сарны Ровенскай вобласці. Я пражыў там да сямі гадоў і размаўляў толькі на ўкраінскай мове. Гэта ж Заходняя Украіна. Некаторыя, калі даведваюцца пра гэта, крыху здзіўляюцца. Напэўна, я адзіны ў свеце камуніст-«бандэравец».

Вясной 1969-га года нас чакаў новы пераезд. Бацьку прапанавалі ў расійскім Белгарадзе высокую пасаду (намеснік начальніка абласнога ўпраўлення сувязі), і ён пагадзіўся.

Да першага паходу ў першы клас рускамоўнай школы заставалася некалькі месяцаў. А да гэтага я чуў толькі ўкраінскую мову (у тым ліку і калыханкі), размаўляў выключна на ёй. Прыйшлося маці літаральна «выбіваць» з мяне ўкраінізмы, і «шо» з часам ператварылася ў «что». Яна нават купіла рускі буквар.



*Чэмпіён Белгародскай вобласці па класічнай барацьбе. 1978-ы год.*

Белгарад па сутнасці стаў другой радзімай. Там скончыў школу. Там нарадзіўся малодшы брат Слава, які скончыў мясцовы тэхналагічны інстытут.

У гэтым плане я тыповы савецкі чалавек. Па нацыянальнасці — чыстакроўны ўкраінец, сфармаваўся ў рускай культуры, а з 1989-га года жыву ў Беларусі.

Вучыўся ў сярэдняй школе №28, дзе ў 14 гадоў уступіў у камсамол. Паралельна шэсць год вельмі сур'ёзна займаўся спортам (класічнай барацьбой). Быў чэмпіёнам вобласці сярод юнакоў.

З самага дзяцінства я быў невысокага росту, хударлявы, але перамагаць гэта не перашкаджала.

Нядаўна ў Белгарадзе сустрэў свайго трэнера Анатоля Аляксеевіча Козіна, было прыемна ўзгадаць дзяцінства. Калі ён прыйшоў у нашу школу, у секцыю барацьбы запісаўся ўвесь клас, аднак з часам там застаўся толькі адзін я.

Колькі сябе памятую, марыў паступіць у ваеннае вучылішча. Напэўна, мары стаць касманаўтамі, лётчыкамі, афіцэрамі ў дзяцінстве ёсць у многіх хлопчыкаў, аднак потым гэта часта «праходзіць», мая ж мара была вельмі асэнсаванай.

Памятаю, у 8-ым класе прычытаў кнігу «Камісары ў танкавых шаломах» — пра танкістаў-палітработнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Іх подзвігі вельмі ўразілі. А на апошняй старонцы было напісана, што іх рыхтуюць у Свярдлоўскім вышэйшым ваенна-палітычным танкава-артылерыйскім вучылішчы. Тады і сказаў маці, што буду курсантам менавіта гэтага вучылішча.

Пасля васьмі класаў спрабаваў пайсці ў «сувораўскае», але з-за свайго хранічнага гаймарыту не прайшоў медыцынскую камісію.

У 1979-ым годзе скончыў школу, спецыяльна «лёг» на «праколы», каб пачысцілі гаймаравы пазухі. Потым паехаў у Свярдлоўск. На іспытах атрымаў усе «чацвёркі» і недабраў палову бала.

Прыйшлося вяртацца. Уладкаваўся на завод «Электракантакт» (зараз яго ўжо няма — абанкруціўся). Рабіў «сігналізатары» (супраць злачынцаў — для вітрын магазінаў).

Добра памятую, як атрымаў свой першы заробак. 120 рублёў для восені 1979-га года былі вялікімі грашыма. І, хаця наша сям'я ніколі не ведала прадуктовага дэфіцыту, бо бацька быў «вялікім начальнікам», я купіў у завадскім магазіне менавіта ежу. Дакладней, вялікага гусака. З гонарам прынёс яго (трымаў за шыю) дадому. Адчуваў сябе шчаслівым і дарослым.

Вясной наступнага года звольніўся і два месяцы рыхтаваўся. На гэты раз усё было нармальна — паступіў.

## Вайсковым лёсам

Вучыўся ў ваенным вучылішчы вельмі добра. Каб не адна «чацвёрка» на першым курсе, атрымаў бы залаты медаль. «Спатыкнуўся» на непатрэбнай на мой погляд «Эстэтыцы нагляднай агітацыі». Калі ўсё астатняе можна было вывучыць, то тут трэба было добра маляваць. А ў мяне такога таленту не было ніколі...

Усе эскізы для афармлення «ленінскіх» пакояў за мяне рабіў сябар Борка Колычаў, які потым быў сведкам на вяселлі. Нядаўна мы з ім сустракаліся на юбілеі вучылішча. Зараз ён на пенсіі, працуе дырэктарам аўташколы на Урале, а калісьці ваяваў у Афганістане.

Ён маляваў, а я яго за гэта вадзіў у курсантскую чайную. «Прастаўляў» трохлітровы слоік таматнага соку і піражкі.

Калі справа дайшла да выніковага заліку, прыйшлося «маляваць» самому... «Чацвёрку» мне паставілі толькі таму, што ўсе астатнія адзнакі былі выдатнымі... Не хацелі псаваць «карціну»... З-за гэтай «чацвёркі» атрымаў толькі «чырвоны» дыплом.



*Курсант Вазняк едзе ў адпачынак. 1983-і год.*

Перад чацвёртым курсам (4-га жніўня) я ажаніўся. Вольга скончыла Свярдлоўскае педагагічнае вучылішча. За месяц да майго выпуску яна нарадзіла дачку Юлю, якая зараз атрымлівае другую вышэйшую адукацыю.

У снежні 2009-га года мы разышліся, аднак і сёння я магу сказаць, што Вольга вельмі добры чалавек.

Аднак вернемся ў мінулае.

Паколькі я быў выдатнікам (плюс камсгрупорг і партыйны сакратар), то месца размеркавання пасля вучылішча мог выбіраць сам. А мой цесць у Чэхаславакіі ў Брэслаў тады (у якасці канструктара праекта) будаваў завод хімічнага машынабудавання. Быў там у частых камандзіроўках (бывала па паўгады). На адным з прыёмаў ён пазнаёміўся з камандуючым нашай групы войскаў. Расказаў пра мяне. Генерал прапанаваў прыехаць да іх па размеркаванню. Я так і хацеў зрабіць, аднак не атрымалася.

*Лейтэнант Вазняк у ролі камандзіра танка. 1985-ы год.*





*Старшы інструктар аддзялення камсамольскай работы Палітаддзела 2-ой гвардзейскай танкавай арміі. 1989-ы год.*

Месца ў Чэхаславакіі на курс далі толькі адно, і яго заняў нейкі генеральскі сын. Мяне ж, каб не «кідаць» канчаткова, размеркавалі ў Групу савецкіх войскаў у Германіі (ГСВГ).

З пункту гледжання кар'ернага росту такі «варыянт» быў для мяне вельмі паспяховым. Асабліва, калі ўлічыць, што не было бацькі-генерала. За пяць гадоў прайшоў шлях — зампаліт роты, сакратар камітэту камсамола часткі, памочнік начальніка палітадзела па камсамольскай рабоце, старэйшы інструктар палітадзела арміі па камсамольскай рабоце. З апошняй пасады ў 1980-ым годзе і патрапіў ў Беларусь. Дакладней, з 2-ой гвардзейскай танкавай арміі, штаб якой стаяў у Фюрстэнберзе (на поўнач ад Берліна), перабраўся ў палітадзел 5-ай гвардзейскай танкавай арміі. Горад Бабруйск.

А адтуль (абсалютна неверагодна) з павышэннем перавялі старэйшым інструктарам аддзела камсамольскай работы Палітуправы Беларускай ваеннай акругі. Там атрымаў капітана. Збіраўся паступаць у ваенна-палітычную акадэмію. Далей адкрываліся перспектывы аж да генеральскіх лампасаў, але ў 1991-ым годзе адбыўся путч з ДКНС. На гэтым усё закончылася.

Як чалавек савецкі і партыйны, я цяжка перажываў усе гэтыя падзеі. Калі ў жніўні часова прыпынілі дзейнасць КПСС і УЛКСМ, мяне вельмі ўразіла рэакцыя саслужыўцаў. У Палітуправе служыла больш за 30 афіцэраў і тры генералы. Усе яны (у недалёкім мінулым «шчырыя» ленінцы) спакойна ўспрынялі тое, што не стала ні партыі, ні камсамола.

Памятую, усе чыстыя бланкі камсамольскіх білетаў і значкі (некалькі дзясяткаў тысяч) вывез тады ў свой падвал. Яны ляжалі там, дзе была павінна захоўвацца бульба.

## Шляхам адраджэння

Тады добра высвецілася, што ў партыю і камсамол большасць людзей прыходзіла з чыста меркантыльнымі мэтамі. Я ж застаўся верным марксісцкай ідэалогіі, нават калі гэта стала нямодным, нявыгадным і нават небяспечным. Пачаў шукаць адзінаверцаў. Хутка высветлілася, што такія ёсць. Хаця і мала...

У канцы верасня 1991-га года ў Маскве адбыўся XXII (апошні) з'езд УЛКСМ. Было зразумела, што ён збіраецца, каб пахаваць камсамол. Так атрымалася, што дэлегатам стаў і я.

Загучалі словы пра тое, што «камсамол адыграў сваю гістарычную ролю», і мяне гэта моцна абурыла. На з'ездзе было каля 500 дэлегатаў і, калі паўстала пытанне пра самаліквідацыю камсамола, толькі 14 чалавек прагаласавалі супраць. З Беларусі я адзін. Зрабіць гэта было складана. І справа не толькі ў капітанскай форме. Пайсці супраць такой плыні цяжка маральна.

Асабліва абразіла тое, што па прапанове будучага арэнбургскага губернатара Уладзіміра Ялагіна, які на той час узначальваў расійскі камсамол, яны праспявалі песню «Не расстанусь с комсомолом, буду вечно молодым». Верх цынізму!

Зразумела, што калі УЛКСМ перастаў існаваць на ўсесаюзным узроўні, яго бязлітасна, мэтанакіравана знішчалі і ў рэспубліках. Беларусь тут не стала выключэннем. Аднак лічбавыя паказальнікі ў нас былі іншымі, чым у Маскве. З 250 дэлегатаў супраць рашэння «перабудавацца» ў Саюз моладзі Беларусі (7-га снежня 1991-га года) прагаласавала ўжо 25 чалавек.

Дарэчы, першым сакратаром СМБ стаў Аляксандр Фядута, з якім мы тады і пазнаёміліся. У той час я шмат разоў называў яго здраднікам. Сёння мы сябруем і ўзгадваем пачатак адносінаў з гумарам.

Калі Ленінскі камуністычны саюз моладзі быў ліквідаваны, я ў лесе пад Пінскам у вёсцы Кончыцы (на турбазе) арганізаваў XXXI (аднаўленчы) з'езд ЛКСМБ. Быў абраны яго лідарам. Кіраўніком прабыў пяць год. З 1992-а па 1997-ы.

На той час я быў яшчэ вайскоўцам, капітанам. Як кажуць, за штатам. То бок, амаль паўгады (пасля ліквідацыі ў арміі партыйных і

камсамольскіх структур) мы атрымлівалі грошы за тое, што нічога не рабілі.

Пасля вяртання з аднаўленчага з'езду кардынальна памяняўся мой вайсковы лёс. З гэтага часу ён ператварыўся ў журналісцкі. У «Во славу Родины» з'явілася вакантнае месца. Праўда, у газеце была капітанская пасада, а ў Палітуправе я быў на маёрскай. Аднак ў той час на падобныя рэчы асабліва не звярталі ўвагі: галоўнае застацца на вайсковай службе. Тым больш альтэрнатыва была даволі кепская. Калі б я ад яе адмовіўся, мяне б адправілі ў лес пад Мар'іну Горку.

Выкарыстоўваючы выпадак, хачу нагадаць, што Палітуправу тады ўзначальваў генерал-лейтэнант Анатоль Мікалаевіч Новікаў, які сёння ўзначальвае лаяльную да ўладаў ветэранскую арганізацыю краіны. Тады ён (трэба аддаць належнае) «паклапаціўся» аб кожным, хто працаваў у ліквідаванай структуры. Зразумела, што тых, у каго былі кватэры і «выслуга гадоў», звольнілі на пенсію. Яго ж самога звольніць было нельга, бо Новікаў тады быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII склікання.

## Журналісцкі выбар

Рэдактар ваеннай газеты Рыгор Васільевіч Сакалоўскі (памерлы) сустрэў мяне без асаблівага імпэту. Канешне, просьба Новікава значыла шмат, але яна не вызваляла ад неабходнасці працаваць. У мяне ж акрамя рэпутацыі добрага «пісарчука» (пісаў даклады на камсамольскія форумы і аналітычныя агляды) на той час ніякага адпаведнага досведу не было.

Сакалоўскі прапанаваў напісаць нешта ў газету, і калі я з поспехам справіўся з гэтым заданнем, узяў у штат. Больш за тое, праз паўгады прызначыў (вызвалілася пасада) мяне начальнікам моладзевага (некалі камсамольскага) аддзела рэдакцыі.

Да вясны 1993-га года я мог сумяшчаць ваенную форму з пасадай (у непрацоўны час) першага сакратара ЦК ЛКСМБ, бо тады вайскоўцам дазвалялася так рабіць.

Да мінімальнай пенсіі заставала ўсяго два гады, калі Вярхоўны Савет XII склікання прыняў закон «Пра статус ваеннаслужачага», дзе была забарона на сяброўства ў палітычных партыях.

Наступнай раніцай мяне выклікаў тагачасны міністр абароны Павел Паўлавіч Казлоўскі і прапанаваў напісаць заяву аб выхадзе з камсамола

і кампартыі. Адмовіўся. Паўгадіны па-бацькоўскі ён спрабаваў паўплываць на гэта рашэнне. Беспаспяхова. Калі ён даведаўся, што я збіраюся звольніцца з войска не толькі без пенсіі, але і без кватэры, тэрміноваа выклікаў да сябе начальніка жыллёва-эксплуатацыйнай службы. І, выкарыстаўшы наконт мяне эпітэт, які ў друку абазначаюць шматкроп'ем, загадаў выдзеліць кватэру.

Гэтае высакародства памятаю па сённяшні дзень!

Пасля звальнення з войска мяне на тры месяцы «занесла» да Гайдукевіча. У Народным руху Беларусі быў яго прэс-сакратаром. Чалавек гэта, мякка кажучы, вельмі своеасаблівы, таму працаваць з ім было «не ў кайф».

Перайшоў да Віктара Валянцінавіча Чыкіна (таксама памерлы) у газету «Мы и время». Спачатку быў у яго карэспандэнтам, потым намеснікам рэдактара.

Калі ў 1995-ым годзе наша партыя паспяхова выступіла на парламенцкіх выбарах (45 мандатаў), а яе лідар Сяргей Іванавіч Калякін узначаліў фракцыю і стаў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета XIII склікання, ён узяў мяне памочнікам.



*Сустрэча выпускнікоў. З былымі аднакласніцамі Ірынай Рэзнікавай (злева) і Наталляй Філатавай. 2009-ы год.*

У гэтай якасці прапрацаваў да рэферэндуму 1996-га года, які не толькі змяніў лёс краіны, але і раскалоў нашу партыю.

ПКБ перайшла ў апазіцыю, і я амаль адразу ўзначаліў газету «Товарищ», якая на той момант «у піку» партыйнаму рашэнню падтрымлівала Лукашэнку. Прыйшлося патраціць шмат сілаў і энергіі, каб гэтую хібу ліквідаваць.

Дарэчы, па гэты дзень не сорамна за тыя нумары. Ад самага пачатку маёй рэдактарскай дзейнасці мы імкнуліся друкаваць розныя (часта супрацьлеглыя) пункты гледжання.

У 2004-ым годзе нас «выкінулі» з падпісных каталогаў і кіёскаў. Па сутнасці гэта азначала страту магчымасці зарабляць нейкія грошы. Як вядома, усе грамадска-палітычныя газеты з'яўляюцца стратнай вытворчасцю, таму нам стала вельмі цяжка.

Да 2010-га года «Товарищ» выходзіў рэгулярна. У пазамінулым годзе выйшла шэсць нумароў, у мінулым — два.

Спадзяюся, некалі ўсё зменіцца.

## Маральны выбар

Восенню 2009-га года Саша Фядута запрасіў мяне ў новы грамадска-палітычны праект. Я не быў яго аўтарам, паколькі падключыўся праз некалькі месяцаў пасля стварэння. У «Гавары праўду» быў накірунак дзейнасці, на які яны шукалі чалавека. Абралі мяне. Спачатку называлі «начальнікам штаба», але гэта словазлучэнне не зусім адпавядае рэчаіснасці. Скажам так, я адказваў за матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне праекта, функцыянаванне офіса, выраб друкаванай прадукцыі і г.д. Словам, адказваў за ўсе арганізацыйныя пытанні. Ім патрэбен быў чалавек з ваеннай дысцыплінай, які можа наладзіць НЕАБХОДНЫ працэс НЕАБХОДНЫМ чынам.

25-га лютага 2010-га года кампанія «Гавары праўду» была прэзентавана афіцыйна.

Канешне, мы (кіраўнікі розных накірункаў дзейнасці — Святлана Навумава, Уладзімір Някляеў, Андрэй Дзмітрыеў, Аляксандр Фядута і іншыя) збіраліся разам, каб абмеркаваць нешта агульнае. Канешне, як адзін з кіраўнікоў, я прымаў удзел у выпрацоўцы пэўных рашэнняў, але ўсе яны мелі выключна сацыяльныя арыенціры. Накшталт выдання кнігі «100 твараў беспрацоўя», з'яўлення вуліцы імя Васіля Быкава, збору подпісаў у барысаўскім мікрараёне «Дымкі»... Гэта для тых, хто прыдумаў «Жалезам па шклу».



*23-га лютага — Дзень абаронцаў Айчыны. 2009-ы год.*

Ідэя праекта (раней і зараз) у наступным. У нашай краіне ёсць прыхільнікі прэзідэнта і прыхільнікі апазіцыі, але ў суме яны складуюць меншасць насельніцтва. А вось большасць нашых людзей (згодна з усімі незалежнымі сацыялагічнымі апытаннямі — 60 адсоткаў і болей) ужо адвярнулася ад Лукашэнкі, але і ў апазіцыі не бачыць пазітыўнай альтэрнатывы. З гэтымі людзьмі мы і хочам працаваць. Не з лукашыстамі, не з тымі, хто пастаянна «сядзіць» на апазіцыйных форумах і праклінае ўладу апошнімі словамі. Тут працаваць бессэнсоўна, бо яны ў сваіх поглядах і перакананнях ужо вызначыліся. Будучыня ж Беларусі залежыць ад тых, каго мы назвалі «новай большасцю».

Пакуль у дэмакратычным сегменце не з'явіцца сіла, якая будзе для іх прывабнай, ніякага поспеху дэмакратыі не будзе.

Наконт ідэалогіі. Зараз у беларускай апазіцыі няма ўнутраных стратэгічных супярэчнасцяў, бо задача стаіць адна для ўсіх — аднавіць дэмакратычную рэспубліку. У гэтым зацікаўлены ўсе. Калі будуць нармальныя выбары, тады і будзем канкурыраваць, разбірацца, якога ты «палітычнага колеру».

Нешта падобнае адбылося ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя, калі Гітлер пасадзіў у канцлагеры нямецкіх камуністаў, сацыял-дэмакратаў, лібералаў і кансерватараў. Яны там вельмі хутка памірыліся...

Па сутнасці тое ж самае ў 1996-ым годзе зрабіў Лукашэнка. Безумоўна, ідэалагічнае шматгалоссе засталося, але пакольκі мы сёння (вобразна кажучы) знаходзімся за аднымі кратамі, у адным канцлагеры, няма сэнсу разбірацца паміж сабой і высвятляць, хто для Беларусі будзе лепшы. Зараз больш актуальна іншае — сумленныя, дэмакратычныя выбары.

У «Гавары праўду» ёсць прадстаўнікі практычна ўсіх палітычных плыняў апазіцыі — ад камуністаў да прыхільнікаў БНФ.

Час ад часу прыходзіцца чуць пра тое, што «Вазняк вазіў грошы». Так, вазіў. І мне за гэта ні кроплі не сорамна. Нічога супрацьзаконнага я не рабіў, як і тыя, хто дапамагаў. Мне не сорамна за тое, на што яны былі патрачаныя, бо гэта было выключна вырашэннем нейкіх сацыяльных людскіх праблем.

Было б сорамна, калі б іх скраў, купіў сабе выспу, яхту і г.д...

Прозвішчы тых, хто іх даў, я не назваў на допытах і не назаву ніколі. Як і кур'ераў. Аператыўная інфармацыя ў КДБ была, але за руку НІКОГА НІКОЛІ не злавілі, таму ў судзе нічога канкрэтнага ставіць не змаглі...

**Замест пасляслоўя**

**Нягледзячы на тое, што аўтар прытрымліваецца адрозных ад героя палітычных поглядаў, я ШЧЫРА паважаю яго за тое, што ён ШЧЫРА верыць у тое, што робіць.**

**І яшчэ. ВЕЛЬМІ хочацца, каб БОГ даў здароўя яго сыну Аляксею, які ў снежні 2011 года трапіў у ВЕЛЬМІ страшную аўтааварыю.**

# АЛЬТЭРНАТЫВА АЛЬТЭРНАТЫВЕ



**Напамін:** Алег Корбан нарадзіўся 4-га лютага 1985-га года ў Мінску. Вучыўся ў Міжнародным гуманітарным эканамічным інстытуце на юрыдычным факультэце, адкуль быў выключаны за ўдзел у моладзевым нацыянальным руху. Неаднаразова затрымліваўся супрацоўнікамі КДБ і міліцыі, адбываў арышты. У 2007-ым годзе быў асуджаны па арт. 193.1 Крымінальнага кодэкса за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі — «Маладым Фронце».

З'яўляўся сябрам АГП, узначальваў моладзевае крыло партыі «Маладыя дэмакраты». На прэзідэнцкіх выбарах 2010-га года быў кіраўніком штаба кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука па Мінску.

Быў затрыманы ў ноч з 19-га на 20-е снежня 2010-га года пасля акцыі пратэсту. Абвінавачаны па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). Утрымліваўся ў следчым ізалятары КДБ. 7-га студзеня 2011-га года быў вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.

23-га жніўня 2011-га года крымінальны пераслед А. Корбана быў спынены ў сувязі з адсутнасцю ў ягоных дзеяннях складу злачынства.

**Шчыра кажучы, я крыху здзівіўся, калі перад чарговым з'ездам Аб'яднанай грамадзянскай партыі Алег Корбан, як кажуць, кінуў пальчатку больш вядомаму і дасведчанаму Анатолю Лябедзьку. І не толькі таму, што з самага пачатку было зразумела наконт мізэрнасці шансаў. І зусім не таму, што аднаму ўсяго 27 год, а другому ўжо палова стагоддзя.**

**Незразумелай (акрамя піяру) была сама матывацыя ўчынку, яго карані. Менавіта з гэтага пытання і пачалася наша гутарка.**

— Чаму Вы ўсё ж такі пайшлі на гэты крок?

— Менавіта на час пасля вызвалення прыходзіцца найбольш актыўны перыяд маёй дзейнасці па развіццю моладзевай арганізацыі пры Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) «Маладыя дэмакраты». Разам з іншымі мы арганізоўвалі розныя акцыі і кампаніі. Тады і ўзніклі некаторыя супярэчнасці і складаныя пытанні ва ўзаемаадносінах з кіраўніцтвам партыі. Што мы і вырашылі скарыстаць падчас чарговага з'езду партыі, дзе я вылучыў сваю кандыдатуру на вышэйшую партыйную пасаду. Гэта ў першую чаргу звязана з тым, што хацелася данесці сваю пазіцыю, сваё бачанне на тое, як трэба змяніць, рэфармаваць дзейнасць АГП. Асабіста бачыў (і бачу

*З дзяўчынай Вольгай.*





*Летам можна ездзіць і на скутары.*

сёння), што ёсць пэўныя хібы, недапрацоўкі, якія не даюць зрабіць партыю больш належнай ды эфектыўнай у сваёй дзейнасці. Можа быць, партыяй нумар адзін. Той арганізацыяй, якую чакаюць людзі.

З большага я свае планы здзейсніў, данёс сваю пазіцыю. На жаль, яна не была пачутая большасцю. Можа быць, была незразумелай... Можа быць, асноўная частка партыйцаў пакуль яе проста не можа ўспрыняць, а дарэмна. Таксама яны ў свой час былі не ў стане ўспрыняць думкі іншых некаторых партыйцаў і прыхільнікаў, якія мелі шмат цікавых і карысных ідэй. З-за таго, што партыйнае кіраўніцтва не хоча чуць і ўспрымаць гэта, АГП сёння страчвае свае пазіцыі, губляе час, адведзены Богам для справы, усё далей і далей аддаляецца ад беларускай рэальнасці.

***— Так у чым жа яе сутнасць?***

— Кораценька. Па бачанню значнай часткі моладзі нашай партыі, АГП павінна стаць больш народнай партыяй, больш адкрытай і зразумелай для простага чалавека. На мой погляд (быў адпаведны план), трэба рабіць акцэнт на «вулічныя акцыі», быць бліжэй да народу. Рабіць так, каб наша дзейнасць



*Выступ на з'ездзе АГП.*

была больш бачнай для ўсяго грамадства, ладзіць кампаніі па абароне найбольш прыгнечаных сацыяльных груп і г.д.

Апроч таго, асноўны акцэнт мусіць быць на інфармацыйнай працы з грамадствам. Пры гэтым на ўсіх узроўнях трэба аказваць падтрымку двум асноўным крылам АГП — моладзевай і жаночай арганізацыям.

Калі нават сыходзіць з таго, што АГП засяроджваецца на прадпрымальніках, на бізнесоўцах, то і тут у прынцыпе бачныя недапрацоўкі. Прадпрымальнікі амаль не адчуваюць нашай ідэйнай блізасці.

Моладзь гэта, так бы мовіць, рухавік пераменаў. Мы хочам змяніць і палепшыць тое, што вакол нас. Таму імкненне да пераменаў зразумелае і натуральнае.

***— А чаго Вы на з'ездзе далі «задні ход» і адмовіліся ад барацьбы?***

— З большага я разумеў, што не прадстаўляю рэальнай канкурэнцыі Анатолю Лябедзьку, і вылучаўся перш за ўсё каб данесці сваю пазіцыю. Канешне, таксама было жаданне патрапіць у намеснікі, тады б паўплываць на адпаведныя рэформы было б больш шансаў, але гэтага не адбылося. Як лічыць Анатоль, такія пытанні трэба вырашаць па-іншаму. Але як можна па-іншаму, калі нас не чуюць?!

***— Што адбылося ў Вашым жыцці за год пасля нашай размовы?***

— На пачатку верасня мінулага года прыйшла пастанова аб спыненні маёй крымінальнай справы і аб тым, што я зноў магу перасякаць мяжу. На жаль, гэта не стала перашкодай для ўзнікнення пэўных недарэчнасцей. Напрыклад, 23-га верасня 2011-га года (першая спроба) мяне знялі з цягніка і не пусцілі ў Літву. Я доўга тэлефанаваў з мяжы следчаму, але безвынікова. Відаць, бюракратычны механізм айчыннай юрыспрудэнцыі яшчэ як след не спрацаваў.

Па-сапраўднаму «выязным» я стаў толькі праз некалькі тыдняў. І тое, шмат у чым дзякуючы таму, што пастаянна «педаліраваў» гэтае пытанне. Думаю, калі б не рабіў апошняе, знаходзіўся б у адпаведных спісах па гэты дзень.

На працу не ўладкоўваўся, бо спачатку хацеў атрымаць вышэйшую адукацыю. Я завочна навучаўся на кафедры псіхалогіі і сацыяльна-палітычных навук Кіеўскага міжнароднага ўніверсітэта. Не так даўно атрымаў дыплом. Спадзяюся ў бліжэйшы час знайсці адпаведную працу.

***— Даводзілася чытаць пра сыход з АГП?***

— Гэта не зусім так.

Пасля з'езду стаўлянне кіраўніцтва партыі да «Маладых дэмакратаў» не змянілася. І ўвогуле, на актывізацыю дзейнасці «маладзёвага крыла» яны глядзелі вельмі своеасабліва. Можа, бачылі тут нейкую канкурэнцыю... Можа, адносіліся з нейкім недаверам.

Пасля з'езду мы абмеркавалі гэтую сітуацыю і прыйшлі да высновы, што нішто не замінае дзейнічаць асобна. Канешне, ёсць пагроза трапіць пад «знакаміты» артыкул №193, які забараняе дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, але мы пайшлі на гэты крок свядома.

*На ўшанаванні памяці ахвяр катынскага расстрэлу.*



Я напісаў паперу на пазбаўленне пасады кіраўніка «Маладых дэмакратаў», на выхад са складу Палітсавету партыі і Нацыянальнага камітэту. З АГП ж канчаткова не выйшаў, толькі напісаў паперу на прыпыненне дзейнасці.

З аднаго боку ёсць пытанне ў канкрэтных асобах, але справа далёка не ў гэтым. Справа не толькі ў асобах, але і ў каштоўнасцях. Тое ж самае зрабілі некалькі дзясяткаў маіх паплечнікаў. Дарэчы, большасць з іх выйшла са складу партыі.

Яны і стварылі новую грамадскую арганізацыю «Альтэрнатыва», якая будзе засяроджвацца ў першую чаргу на працы са студэнтамі, а таксама на раскрыцці грамадству рознастайных з'яў, вырашэнне актуальных сацыяльных праблем і г.д. На наш погляд, сёння па гэтых сферах іншыя дэмакратычныя арганізацыі не працуюць належным чынам.

На жаль, зараз складана вызначыць сярод дэмакратычнай апазіцыі тых, хто працуе эфектыўна і тым больш мае якія-небудзь дасягненні. Магчыма, пасля падзей 19-га снежня 2010-га года ў настроях людзей яшчэ пануе расчараванне, страх, апатыя...

Як бы там ні было, ужо сёння пэўны кавалак працы мы возьмем на сябе. Тое, што можам і абавязаны рабіць у такой сітуацыі.

Думаю, праз год можна будзе агучваць высновы і даваць адзнакі нашай дзейнасці.




*Акцыя супраць «Бульбаш-холу».*




*Інтэрв'ю падчас флэшмобу супраць дзяржпрапаганды.*

***— Наколькі я зразумеў, пэўныя расчараванні ёсць у апазіцыйным асяроддзі? А ў грамадстве?***

— Канешне.

У большасці людзей назіраецца пэўны недавер, апатыя да любой палітыкі, да любой актыўнасці. Большасць не чакае, што сітуацыя ў краіне зменіцца і пачнуцца рэформы, рэальна вырастуць заробкі, палепшацца стасункі з Захадам. Гэта было бачна па настроях, якія панавалі падчас так званай парламенцкай выбарчай кампаніі.

***— З кропкі гледжання сённяшняга дня, што ў недалёкім мінулым трэба было зрабіць па-іншаму?***

— Даволі складанае, нават філасофскае пытанне...

На мой погляд, трэба было любымі спосабамі захаваць еднасць апазіцыі.

Можа, праблема ў тым, што ў свой час у кіраўцтве партыі БНФ змянілі Вінцука Вячорку, бо ён стрымліваў раз'яднальныя настроі іншых, цэментаваў кааліцыю...

На жаль, сёння яе няма.

Мне вельмі не падабаецца, што апазіцыянеры сёння як ніколі раздробленыя і не могуць дамовіцца між сабой, што ствараюць кааліцыі толькі на пэўны час... Тым больш, што тыя рэальна не працуюць...

На масавыя акцыі, ад якіх шмат што залежыць (напрыклад, лёс краіны), трэба прадугледжваць іх фармат і тое, што будзе пасля.

19-га снежня 2010-га года ўсяго гэтага належным чынам не было зроблена. Урэшце супрацьстаяць правакацыям не атрымалася, што потым прывяло (стала повадам) да рэпрэсій і зверскага стаўлення да мясцовага дэмакратычнага грамадства і Захаду ўвогуле.

***— З мінулым — усё зразумела. А што трэба рабіць на будучыню?***

— На першае месца я б паставіў еднасць. Усім, хто прагне нейкіх зменаў у беларускім грамадстве, трэба аб'яднацца.

***— Але гэта мы чуем ужо даўно...***

— Так.

Я лічу, праблема ў тым, што яны збіраюцца за стол перамоваў, але ніхто з іх рэальна не працуе і не выконвае прынятыя рашэнні... Ва ўсіх партыях слабыя структуры... Таксама не хапае веры, моцнага жадання дасягнуць перамогі ў канкрэтных пытаннях. Не выключаю і тое, што асноўная частка гэтых лідараў ужо стамілася і не гатова да кадравага абнаўлення ўнутры сваіх структур, да дзейнасці ў адпаведным рытме...

Анатоля Лябедзьку я сюды не адношу, бо ён як раз гатовы да такой працы. Гутарка пра іншых.

Магчыма, патрэбны новы фармат аб'яднання, з прыцягненнем да новай кааліцыі найбольш моцных грамадскіх арганізацый.

Другім арыенцірам магла б стаць сумесная праца, накіраваная на паляпшэнне працэнта даверу і пазнавальнасці з боку грамадства. Упэўнены, для гэтага спатрэбіцца шэраг сацыяльных кампаній. Трэба пайсці людзям насустрач. Асабліва там, дзе недапрацоўвае дзяржава. Стаць больш бачнымі для людзей.

Акрамя гэтага неабходна карпатліва працаваць унутры сваіх структур. Рабіць іх больш моцнымі. Рыхтаваць людзей ужо сёння да наступных выбараў. Дабіцца такой колькасці прыхільнікаў, каб можна было «пакрыць» усе выбарчыя ўчасткі.

Сёння праблема з наяўнасцю структур стаіць вельмі востра. Асабліва ў рэгіёнах.

# НЕДАРЭМНЫЯ ПАКУТЫ



**Даведка:** Ірына Халіп нарадзілася 12-га лістапада 1967-га года ў Мінску. Уласны карэспандэнт расійскай «Новой газеты» па Беларусі. Працавала намеснікам галоўнага рэдактара «Белорусской деловой газеты» і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Имя». Неаднаразова падвяргалася пераследу за сваю прафесійную дзейнасць. Жонка кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. 19-га снежня 2010-га года па дарозе з плошчы Незалежнасці гвалтоўна затрымана разам з мужам і змешчана ў СІЗА КДБ . У канцы снежня ёй прад'яўлена абвінавачванне па частках 1 і 2 арт. 293 КК (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). Падчас знаходжання Ірыны Халіп і Андрэя Саннікава ў СІЗА КДБ улады спрабавалі іх трохгадовага сына Даніка забраць у дзіцячы прытулак. 20-га студзеня 2011-га года адміністрацыя Партызанскага раёна Мінска выдала маці Ірыны Халіп — Люцыне Бяльзацкай — дакумент аб прызнанні яе апякункай унука. 29-га студзеня 2011-га года мера стрымання Ірыны Халіп зменена на хатні арышт. 4-га красавіка абвінавачванне перакваліфікавана на ч. 1 арт. 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак). 16-га траўня 2011-га года асуджана на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады.

**Напэўна, па колькасці розных прэмій Ірына Халіп — рэкардсмен не толькі ў журналісцкім асяроддзі. І кожны раз асабіста я шчыра радуюся, бо гэта той нячасты выпадак, калі «змагар за дэмакратычныя каштоўнасці» цалкам супадае з талентам і прафесіяналізмам.**

## Выпрабаванні Люцыны Бяльзацкай

Калі над унукам было ўстаноўлена апякунства, яе прымусілі адкрыць неабходны банкаўскі рахунак, куды пераводзілі мізэрныя дзяржаўныя грошы. Калі апякунства знялі, усе грошы Люцына Бяльзацкая перавяла на дапамогу хворым дзецям.

«Нарадзілася я ў Варшаве 23-га ліпеня 1936-га года. У 1939-ым годзе, калі Гітлер напаў на Польшчу, а Савецкі Саюз «вызваліў» Заходнюю Беларусь і Украіну, мае бацькі здолелі праз мяжу дабрацца да Беластока.

Бацьку звалі Юры Давыдавіч Бяльзацкі. Быў ён вядомым джазавым музыкам. Яго імя ёсць у многіх польскіх энцыклапедыях. Скончыў вышэйшую школу музыкі імя Шапэна, потым кансерваторыю. Пісаў песні, меў сваё выдавецтва.

Калі выйшла замуж, дзявочае прозвішча не змяніла.

Наш варшаўскі дом стаяў на вуліцы Таварнай, якую немцы бамбілі адной з першых. Памятаю, мама (Гута Якаўлеўна) нясе мяне на руках і кажа: «Заплюшчы вочкі!» Гэта рабілася для таго, каб дзіця не бачыла, што адбываецца навокал.

Тыя, хто з нашых знаёмых і сваякоў вырашыў застацца, усе загінулі.

Тагачасны першы сакратар кампартыі Беларусі Панцеляймон Панамарэнка быў вельмі вялікім аматарам джазавай музыкі. Ён загадаў сфармаваць Дзяржаўны эстрадны ансамбль пад кіраўніцтвам Эдзі Рознара, які потым стаў надзвычай папулярным. Рознар быў сапраўднай зоркай.

Граць у гэты ансамбль запрасілі і майго бацьку. Яны ездзілі з канцэртамі па ўсяму Савецкаму Саюзу. Потым некаторыя музыкі з'ехалі ваяваць у армію Андарса, і аркестр «даўкамплектавалі» савецкімі музыкамі.

У 1946-ым годзе Эдзі Рознара арыштавалі і хутка назвалі «ворагам народа» за тое, што ён хацеў з'ехаць у Польшчу. Бацьку ж прапанавалі вярнуцца ў Беларусь, хаця была магчымасць застацца і ў Маскве. Спачатку ён працаваў у Бабруйскім тэатры аперэты, а потым у Оперным тэатры




*З бацькамі.*

ў Мінску. Шмат пісаў музыкі да фільмаў. Яна гучыць практычна ва ўсіх беларускіх пасляваенных кіно. Усюды бацька быў у якасці дырыжора. Потым яго запрасілі кіраўніком эстраднага аркестра беларускага радыё і тэлебачання.

На жаль, у 1963-ім годзе ва ўзросце 53-х гадоў мой бацька пайшоў з гэтага жыцця.

У Мінску з залатым медалём скончыла другую сярэднюю школу, якая тады была чыста жаночай. Зараз у гэтым будынку месціцца лечкамісія.

Паступіла на філалагічны факультэт аддзялення рускай мовы і літаратуры. Атрымала там таксама дыплом з адзнакай. Усё жыццё працавала ў выдавецтве Акадэміі навук. Спачатку назва цалкам адпавядала назве заснавальніка, а потым выдавецтва стала называцца «Навука і тэхніка».

З Валодзем мы былі знаёмыя яшчэ ва ўніверсітэце. Але толькі крыху, бо ён паступіў на журфак значна пазней майго курса. Для будучых журналістаў абавязковай была наяўнасць працоўнага стажу.

У той час у нас быў адзін факультэт, толькі розныя спецыяльнасці. Падчас агульных лекцый і сустракаліся. Дарэчы, разам з намі вучыліся Рыгор Барадулін, Гена Бураўкін, Толя Сачанка, Кастусь Цвірка і шмат хто яшчэ. А маладым аспірантам быў Ніл Гілевіч.

Фантастычны факультэт!

Натуральна, на філалагічным факультэце было вельмі шмат дзяўчат. Вельмі многія з іх выйшлі замуж за тых, хто сёння складае ЭЛІТУ беларускай літаратуры. Хлопцы з журфаку даволі часта прыходзілі на нашу абарону дыпломаў.

Адна з маіх сяброvак — жонка кампазітара Сяргея Картэса. На прэм'еры яго чарговага музычнага твора мы з Халіпам і сышліся.

Па працоўнай лініі я прайшла шлях ад звычайнага карэктара да загадчыцы аддзела. З тых часоў ведаю практычна ўсю навуковую эліту Беларусі.

Першым часам было вельмі цяжка. Я ж згодна з дыпломам спецыяліст па рускай мове, а там даволі часта выпадала мець справу з мовай беларускай. Нічога — прызвычаілася.

Першай «карэктарскай» кнігай стала крытыка Алеся Адамовіча «Беларускі раман». Шмат разоў сустракалася з аўтарам. У выдавецтве гэта называецца «здымаць пытанні»... У мяне нават ёсць гэтая кніга з дароўным надпісам Алеся Міхайлавіча: «Чалавеку, ад якога на 80% залежыць пісьменнасць аўтара».

... 19-га снежня 2010-га года я засталася з унукам. Усе (Валодзя і Андрэй з Ірынай) пайшлі на Кастрычніцкую плошчу. Данька шчыра чакаў вяртання бацькоў і не мог зразумець, чаму іх так доўга няма. Мы «плялі» яму пра нейкую тэрміновую камандзіроўку... Хлопчыку было тады толькі тры з паловай гады... На жаль, гэта не перашкодзіла затрымаць яго ў дзіцячым садку, калі той прыйшоў на ранішнік... Зрабіць такое могуць толькі людзі, у якіх цалкам адсутнічае сумленне...

Тры першых дні Ірына была ў якасці затрыманай. Толькі потым следчы патэлефанаваў і сказаў пра перавод у ранг арыштаванай, што дазволіла перадаць ёй самае неабходнае. Накшталт зубной шчоткі.

Было сказана таксама пра адпаведнае паведамленне ў службу апекі. Маўляў, дзіця засталося без дарослых. Я спрабавала сказаць, што ў яго ёсць яшчэ бабуля і дзядуля, але следчы больш не захацеў са мной размаўляць.

Праз два дні і быў той самы ранішнік, з якога Даньку не адпускалі з яго няняй. Патрабавалі, каб прыехаў хто-небудзь са сваякоў. Па дарозе ў дзіцячы садок ледзь не страціла прытомнасць.

Унук знаходзіўся адзін у нейкім пакоі для гульняў, сядзеў за маленькім столікам і катаў па ім дзіцячую машынку. Мяне адразу правялі ў кабінет загадчыцы дзіцячым садком. Разам з ёй былі галоўны раённы спецыяліст па

апецы і, што мяне ўразіла больш за ўсё, дырэктар прытулку. То бок, у іх ужо ўсё было падрыхтавана...

Аказваецца, у чацвер вечарам мне патэлефанаваў следчы, а ўжо ў пятніцу раніцай прывезлі дакументы з КДБ. У сувязі з гэтым мне заявілі: паколькі дзіця засталося без апякунства бацькоў, альбо я пішу заяву на апякунства, альбо (калі такой магчымасці няма) пра ўнука будзе клапаціцца дзяржава... На збор неабходных дакументаў мне далі толькі адзін месяц.

Сабрала ўсе неабходныя даведкі (псіха-неўралагічную, скурна-венералагічную, наркалагічную) і нават здала кроў на аналіз па СНІДУ. Як і Данька... І ніхто не звярнуў увагу на яго ўзрост...

Паспела ў патрэбныя тэрміны, але рашэнне было прынятае толькі праз два тыдні. Мабыць, у некага не было да чаго прычапіцца...

Нават калі вызвалілі Ірыну, апякунства не адмянілі. Адбылося гэта толькі ў ліпені 2011-га года, пасля касацыі на прысуд.»

*Сын Данік.*



## Сцэнар Уладзіміра Халіпа

Бацьку Ірыны Халіп ведаюць не толькі, як аднаго з самых выбітных кінадакументалістаў сучаснасці. Уладзімір Трафімавіч яшчэ і ГРАМАДЗЯНІН. Менавіта з вялікай літары.

«Месца майго нараджэння вёска Двор Пліна Ушачскага раёна Віцебскай вобласці. Дата — 7-га кастрычніка 1939-га года. Калі ехаць з радзімы Васіля Быкава на радзіму Рыгора Барадуліна, мая як раз на паўдарозе. Раней яна адносілася да Полацкай вобласці, таму мы заўсёды лічылі сябе не «віцебскімі», а «полацкімі». У нас нават гаворка крыху адрозніваецца ад іхняй.

Мой бацька Трафім Іванавіч быў ваенным лётчыкам, а яго бацька Іван Адамавіч некалі быў царскім афіцэрам, за што «чэкісты» ледзь не рэпрэсавалі. Відаць, выратавала толькі тое, што ён сышоў у адстаўку значна раней за Кастрычніцкі пераварот...

Бацька вучыўся ў Горацкай сельгасакадэміі, але, калі адчуў пагрозу з боку карных органаў (яны трымалі «на ўліку» ўсіх), сышоў на чацвёртым курсе ў папулярныя тады «лётчыкі».

Скончыў адпаведную Качанскую вучэльню і стаў лётчыкам, але перад самай вайной зноў НКУС пачало цікавіцца яго асабістай справай. На ўсякі выпадак з арміі звольнілі і накіравалі аграномам у пасёлак Свір Гарадзенскай вобласці.

У дзіцячай свядомасці засталося некалькі эпізодаў таго жыцця. Вялікае возера, на беразе якога мы жывем у лазні, якую знялі ў якасці кватэры. Нашу гаспадыню потым «раскулачылі» і выслалі ў Сібір.

Калі пачалася вайна, раптам «узгадалі», што бацька лётчык, і яго забралі ў дзеючую армію. Пачаў ваяваць адразу, то бок 22-га чэрвеня 1941-га года. Прайшоў праз усю вайну да самай перамогі. Тройчы збівалі, быў вельмі цяжка паранены — паўгады лячыўся ў вайсковым шпіталі ў Казані.

Пасля перамогі над Германіяй, калі здавалася, што «ўсё скончана», іх полк перавялі на Далёкі Усход ваяваць з Японіяй.

У 1946-ым годзе зноў узгадалі, што ў бацькі «не вельмі добрае паходжанне». Напэўна, у гэтых дэбілаў з трыма класамі адукацыі ён «праходзіў» як «сын белагвардзейскага афіцэра». І нікому з іх не хапіла розуму, каб зразумець, што дзед звольніўся з войска за 15 год да з'яўлення «Белай гвардыі»...

З ваеннага бацьку зноў зрабілі аграномам.

Увесь час яго пераследавалі. Прыходзілася часта мяняць месца жыхарства. Памёр у Валгаградскай вобласці.

Дзед па лініі маці таксама быў заможным, меў свой хутар. За некалькі хвілін да арышту ў яго «разарвалася сэрца», і прыехаўшыя «энкавэдэшнікі» доўга вагаліся: весці нябожчыка ў пастарунак альбо не...

Так атрымалася, што я скончыў школу ў Кутаісі, дзе ў чарговы раз схаваліся бацькі. Два гады правучыўся ў дзявятай кутаіскай сярэдняй школе. Там былі цудоўныя настаўнікі, усё было не так.

Што б хто ні казаў, нават пры саветах Грузію так не «патрашылі», як Беларусь. За царскім часам у нашым будынку была гімназія, і з прыходам бальшавікоў нічога па сутнасці не змянілася. Ніводнага з былых настаўнікаў не звольнілі, не рэпрэсавалі.

У Грузіі ўсе часы было 11 год навучання, а я не хацеў «сядзець на шыі» ў бацькоў, таму пасля дзявятага класа паступіў у Батумскае мараходнае вучылішча. Па парадзе разумных людзей пайшоў не на штурманскае, а на судамеханічнае аддзяленне, каб мець у тым ліку і «берагавую» прафесію.

Калі пачалася практыка, штурманы пайшлі на караблі, а мы — у слясарныя майстэрні. Там і зразумеў, што жалеза «не маё». Папрасіўся перавесці, але начальнік вучылішча адмовіў. Прыйшлося «сціснуць зубы» і дацярпець да выпуску. Адразу пасля яго паехаў паступаць у Адэскую вышэйшую «мараходку». Зрок ужо пачаў псавацца, і я не прайшоў медкамісію.

Прыехаў да бабулі ў Двор Пліна, а адтуль накіраваўся паступаць у БДУ «на журналістыку». Былі яшчэ хрушчоўскія часы, таму на многія спецыяльнасці можна было ісці толькі з працоўным стажам у два гады. Зарабіў яго ў родным калгасе і зноў паехаў паступаць. На гэты раз ніякіх праблем не было.

На старэйшых курсах у нас было паўгады практыкі. Першапачаткова хацеў паехаць на Паўднёвы флот у «На страже Заполярья»». Не атрымалася, аднак час быў крыху ўпушчаны. Большасць газет ужо набрала стажораў, і на мяне згадзілася толькі «Чырвоная змена».

Кінулі «на перавыхоўванне» (быў вельмі падобны на стылягу) у сельскагаспадарчы аддзел. Адна супрацоўніца была ў дэкрэтным адпачынку, начальнік з язвай у шпіталі. Словам, «на гаспадарцы» застаўся толькі стажор.

У тыя часы ў краіне панавала кукурузнае шаленства. Кожны дзень у газеце павінна была быць на гэтую тэму паласа, а раз на тыдзень — разварот.

Хто разумее, скажа, што гэта вельмі цяжка. Часам ад тэлефоннай трубкі распухала вуха. Нічога, справіўся, нават у камандзіроўкі ездзіў.

Праз месяц мяне ўзялі ў штат выдання, і далей я вучобу сумяшчаў з працай. І вельмі хутка (на жаль) стаў лідарам па пропуску заняткаў. Затое ніякага размеркавання ў мяне не было. І ўжо праз год пасля сканчэння БДУ стаў загадчыкам аддзела інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што падчас вучобы ў нас была ваенная кафедра (Рыгора Барадуліна з-за яе ледзь не выключылі), мяне ваенкамат пасля таго, як зловіў, спачатку накіраваў служыць салдатам у сумна вядомыя Печы. І толькі потым прысвоілі лейтэнанта і накіравалі «даслужваць» камандзірам узвода ва Уручча.

Пасля вяртання ў Мінск адразу паступіў у аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства. У 1975-ым годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, і мяне запрасілі ў газету «Савецкая культура» асабістым карэспандэнтам па Беларусі.

Потым Машэраву падалося (яму зрабілі адпаведны данос), што па беларускай тэматыцы там ідзе амаль адна крытыка. Падчас нашай размовы высветлілася, што ўсё не так. Машэраў (з улікам таго, што гэта мая Радзіма) папрасіў напісаць сцэнар пра знакаміты партызанскі прарыў нямецкага акружэння (1944-ы год) і прапанаваў перайсці інструктарам у аддзел культуры ЦК КПБ. Сказана гэта было з такой шчырасцю, што адмовіць Машэраву я тады не змог.

Праз пэўны час сцэнар фільма «Полымя» быў напісаны, але пра яго, напэўна, забыліся. Як і пра мяне. Усе спробы вырвацца з партыйнай пасткі былі няўдалымі, але звольніцца адтуль у рэшце рэшт атрымалася. Адбылося гэта таемна і вельмі непрыгожа.

«Пакаралі» за тое, што даў дазвол на паказ аўтарскай версіі (не пакрэмсанай цэнзарамі) фільма Сяргея Параджанава «Колер гранату». Даведаўся пра звальненне толькі праз два тыдні пасля падзеі, калі прыйшоў атрымліваць свой заробак... Тады ж упершыню пачуў і пра новае месца працы — Дзяржкіно БССР. Адтуль даволі хутка перайшоў на студыю «Беларусьфільм», дзе працаваў галоўным рэдактарам сцэнарнай майстэрні.

Набліжалася 30-годдзе Перамогі, і тут узгадалі пра фільм «Полымя». Зняў яго вядомы (на жаль, ужо памерлы) беларускі рэжысёр Віталь Чацверыкоў.

У 1987-ым годзе адбыўся пяты з'езд Саюза кінематаграфістаў СССР. Пад уплывам перабудовы яны ўжо дабіліся творчага самакіравання. І таго, што адгэтуль іх структуры не будуць падпарадкоўвацца партыйным структурам. На чале ўсіх творчых студый будуць стаяць не чыноўнікі ў выглядзе дырэктара, а мастацкі кіраўнік.

Так я стаў кіравацць студыяй дакументальных фільмаў «Летапіс». Працавалі добра, атрымалі шмат міжнародных прызоў, паспелі ажыццявіць шэраг цікавых праектаў.

Упершыню будучага кіраўніка дзяржавы я ўбачыў падчас нейкіх здымкаў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Ён падаўся мне чалавекам далёкім ад нармальных стандартаў. Хутчэй наадварот.

Пасля таго, як ён стаў прэзідэнтам, амаль адразу нам параілі змяніць назву праграмы «Адраджэнне», якая была прысвечана магутным постацям беларускай гісторыі і сучаснасці. Накшталт, Усеслава Чарадзея і Васіля Быкава. Тлумачылася гэта тым, што з такой назвай праграму не змогуць паказваць па тэлебачанню... Нічога змяняць не сталі.

Потым мне параілі зрабіць фільм пра Лукашэнку. Маўляў, «наверсе» не вельмі добра ставяцца да студыі...

Нічога рабіць і тут не сталі.

Некалькі разоў яны спрабавалі на чымсьці «злавіць» «Летапіс». Нават нечаканую фінансавую «праверку» рабілі. Не атрымалася.

У рэшце банальным загадам ліквідавалі саму студыю, і я адразу падаў заяву аб звальненні. Было гэта ў 1996-ым годзе.»

## Усмешка Ірыны Халіп

Калі Ірыну вялі па калідору следчага ізалятара КДБ, яна гучна смяялася. І не толькі для таго, каб усе ведалі, што зламаць не атрымаецца. Галоўнай прычынай была гіпатэтычная магчымасць таго, што смех пачуе муж Андрэй Саннікаў, і для яго гэта будзе своеасаблівай падтрымкай.

«Я мінчанка. Практычна ўсё жыццё пражыла вакол Парка Горкага, так што ў нейкім сэнсе гэта мая «малая Радзіма».

Як «нормальный советский ребёнок», першы раз у першы клас пайшла ў сярэднюю школу нумар дзесяць, што месціцца ў Бранявым завулку, бо на той час жыла побач у бабулі Гітэль (маці маці —**заўвага аўтара**).



*Першы ператрус.*

Дарэчы, яе дом аркай спалучаўся са школай КДБ, якая маскіравалася пад ваенную вучэльню. Памятаю, як нейкія афіцэры з эмблемамі сувязістаў пыталіся, як знайсці вучэльню сувязі, а бабуля адказала: тут нічога такога няма, а тое, што вы шукаеце — за кутом...

Акрамя суседства з будучымі «байцамі нябачнага фронту» яе дом быў адметным яшчэ і тым, што там тады працавала крама «Дары прыроды». Службовы ўваход у яе знаходзіўся ў нашым двары, і перад ім заўсёды стаяла старэнькая «Победа» дырэктара па прозвішчу Бокун. Яго сын Валодзя Бокун потым стаў рэжысёрам і рабіў добрыя тэлефільмы. Мая бабуля сябравала з усімі прадаўцамі крамы «Дары прыроды», і час ад часу нам нешта ад гэтага сяброўства «перападала»...

Вельмі добра запомніла гэты двор таму, што там стаяла доўгая-доўгая лаўка, на якой вечарамі збіраліся амаль усе жыхары дома. А кожны год у Дзень Перамогі ўсе выносілі ў двор сталы, рабілі агульны стол і разам святкавалі. Цяпер нават уявіць такое цяжка.

Не так даўно туды зайшла. Бабулі, якія сядзелі на лаўцы, узгадалі і мяне, і Гуту Якаўлеўну Бяльзацкую, і маю маму. Аказалася, яны па наш дзень свят-

куюць усім дваром свята Перамогі... Напэўна, ва ўсім Мінску гэта адзіны дом, дзе жыве такая прыгожая традыцыя... На жаль...

У першым класе ў мяне выявілі скалеоз. І ужо праз два гады накіравалі ў спецыялізаваны інтэрнат. Гэта была такая «школа выжывання», пасля якой не страшная нават «армейская служба» альбо турма КДБ.

Калі апынулася ў інтэрнаце, мне не было і дзевяці гадоў. То бок, малое дзіця трапіла ў сітуацыю, калі трэба выжываць, бо ўсё распісана «ад званка да званка» і існуе поўная адсутнасць любой асабістай прасторы.

Пра пабытовыя праблемы нават і гаварыць не хочацца. Напрыклад, спаць прыходзілася на цвёрдай дошцы ў спецыяльнай гіпсавай форме, якая не дазваляла нават паварушыцца. І такая «бадзяга» на пяць гадоў.

Плюс дзеці, якіх «вырвалі» з сем'яў і якія ў большасці сваёй не разумеюць, што гэта было зроблена «во благо». Сапраўдная воўчая зграя. Кожны змагаецца за асабістае «месца пад сонцам», кожны хоча быць важаком. У зграі абавязкова некага цкуюць, некаму робяць «цёмныя», аб'яўляюць байкот. Бязлітасны дзіцячы калектыў. Калі звычайныя дзеці прыходзяць са школы, іх бацькі альбо бабуля з дзядулям будуць шкадаваць і мілаваць, то тут цэлы тыдзень думаеш пра тое, каб выжыць і



*У чаканні прысуду.*

паставіць сябе так, каб ніхто не змог нават падумаць, што мацнейшы за цябе.

Нягледзячы на тое, што ў інтэрнаце былі сябры і сяброўкі, усё роўна тое асяроддзе было вельмі бязлітасным. Асабліва, калі дадаць яшчэ і тое, што нас пастаянна пераконвалі ў сваёй непаўнавартаснасці і дэфектнасці... Мне яшчэ пашанцавала... Памятаю, адна дзяўчынка прыйшла ў трэцім класе ад-



*Вызваленне мужа.*

начасова за мной (была ў лепшай форме па стану здароўя), а к канцу сёмага класа яна стала амаль гарбатай... І ніхто не мог нічога зрабіць...

Інтэрнат даў такую «прыстасаванасць» да любых умоў, магчымасць адаптавацца дзе заўгодна і ўжывацца з кім заўгодна. Нават з супрацоўнікамі КДБ, якія, як вядома, жылі ў маім доме да суда.

Хаця больш, канешне, дапамог Данька. Не хацелася, каб ён быў сведкам нашай «вайны»...

У звычайную школу (54-ю) вярнулася з пачаткам восьмага класа. Вельмі хвалявалася. Раптам нехта падумае, што інтэрнат быў нейкім неўралагічным... Скончыла яе з залатым медалём і пайшла на журфак БДУ. Бацькі хацелі, каб я была фізікам, але выбрала іншае і ні адной секунды аб гэтым потым не шкадавала.

Гэта тое самае, калі прыходзіш у краму, нешта на сябе прымераеш і разумееш, што рэч — ТВАЯ.

У бацькоў, канешне, быў шок, але яны ў мяне звыклыя да ўсяго...

Паступіла ў 1984-ым годзе, а з 1985-га пачалася перабудова з яе вальнадумствам. Можна сказаць — пашанцавала яшчэ раз.

Пасля журфаку «мяне (як і бацьку) накіравалі ў «Чырвоную змену», што адразу выклікала размовы пра нейкі «блат». Такія ярлыкі ўзнікалі не аднойчы, і з часам на іх я нават перастала звяртаць увагу.

Потым быў часопіс «Парус» і нават «Советская Белоруссия». Дакладней, дадатак з назвай «Панядзелак». Было гэта як раз перад прыходам новай улады. Рэдагаваў яе тады Ігар Асінскі, і мы мелі цвёрды намер ператварыцца ў акцыянернае таварыства. Але газета стала прэзідэнцкай.

Неўзабаве з'явіліся «белыя плямы» замест даклада Антончыка. На месца Асінскага прызначылі Якубовіча, і я адразу адтуль звольнілася.

Добра, што ў гэты момант (1995-ы год) Пеця Марцаў адкрыў газету «Имя», і я адразу стала ў ёй працаваць. А калі яе не стала, пачала працаваць у «Белорусской деловой газете» і пісаць для прыдуманай Светай Калінкінай «Для служебного пользования». Потым (амаль выпадкова) у 2003-ім годзе трапіла ў «Новую газету».

З Андрэем Саннікавым мы пазнаёміліся падчас прэзентацыі «Хартыі-97». Пачаўся раман, а з 2002-га года (ужо 10 год!!!) пачалі жыць разам.

Ніякага вяселля не было, а распісаліся мы для таго, каб па дакументах Андрэю не прыйшлося б усынаўляць свайго сына... Дурацкая бюракратычная сістэма... Распісаліся 8-га траўня 2007-га года. Памятаю, каб у мяне за-

сталося адчуванне вясельнага картэжу, Андрэй прычапіў на капот свайго старэнькага зялёнага «Опеля» гумовую качачку, якіх звычайна мы бачым у дзіцячых ваннах, і сказаў: гэта будзе вясельны лімузін.

15-га траўня 2007-га года (у законным шлюбе) нарадзіўся Данька.

Часта пытаюцца: навошта мне тое, што адбылося потым. Адкажу без пафасу: каб жыць з чыстым сумленнем і ведаць, што я нікому не здрадзіла і не раблю нічога дрэннага. Як пісаў Салжаніцын, каб не жыць у хлусні.»

**P.S.**

**Пасля шматгадзіннай размовы з гэтымі людзьмі цяжка пазбавіцца жадання сказаць нейкія лозунгі. Дадам толькі — заўсёды прыемна сустракаць тых, хто здольны ахвяраваць сабой дзеля іншых!!!**

# ЭЛЕКТРОННАЯ РАЗМОВА



**Напамін:** Алесь Міхалевіч нарадзіўся 15-га траўня 1975-га года ў Мінску. Вучыўся ў школе №19, Беларускім гуманітарным ліцэі. У 1997-ым годзе скончыў юрыдычны факультэт БДУ. Узначальваў «Задзіночанне беларускіх студэнтаў». З 2003-га па 2007-ы год быў дэпутатам Пухавіцкага раённага Савета. У 2004—2008-ым гг. — намеснік старшыні Партыі БНФ. У 2010-ым годзе заснаваў грамадскі рух «За мадэрнізацыю». Кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Затрыманы ў ноч на 20 снежня. Змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па чч.1 і 2 артыкула 293 (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 19-га лютага 2011-га года адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. 28-га лютага зрабіў публічную заяву аб тым, што падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з КДБ узамен на волю і аб катаваннях, якім падвяргаўся ў СІЗА. 14-га сакавіка стала вядома, што А. Міхалевіч таемна пакінуў Беларусь.
24-га сакавіка 2011-га года МУС Чэхіі афіцыйна пацвердзіла, што экс-кандыдат у прэзідэнты атрымаў палітычны прытулак у гэтай краіне.

**Калі 4-га сакавіка я пачуў на прэсавай канферэнцыі ў былой сядзібе БНФ тое, што за кратамі робяць з тымі, хто апынуўся ў «амерыканцы», крыху здзівіўся. І зусім не гестапаўскім дзеяннем беларускага КДБ, бо гэта якраз было прагназуемым. Здзівіла тое, што амбіцыйны малады палітык добраахвотна ставіць крыж на кар'еры, дзеля якой так шмат пакутаваў.**

**Пазней зразумеў, што на гэты раз памыліўся. Асабліва пасля таго, як убачыў кадэбэшны «адказ». Міхалевіч не толькі не стаў палітычным «збітым лётчыкам», але і паказаў, што ў адрозненне ад многіх калег умее «трымаць удар».**

***— Што Вы ўбачылі (з боку палітыкі) на свабодзе?***

— На свабодзе я пабачыў небывалы раней узровень салідарнасці. Людзі дапамагалі пацярпелым ад Лукашэнкі, і колькасць тых, хто аказваў дапамогу або гатовы быў яе аказаць, была непараўнальна большай, чым раней.

З іншага боку, пасля маёй прэс-канферэнцыі, дзе я распавёў пра катаванні і прымус да супрацы, я бачыў роспач сярод большасці палітычных актывістаў. У пэўным сэнсе маё выступленне спрацавала на іх запалохванне. Усе чакалі, што ў засценках КДБ адбываліся жудасныя рэчы, і мае паказанні гэта падцвердзілі. Менавіта таму, пазней, падчас маўклівых акцый мы не бачылі знаёмых твараў.



*Метамарфозы.*

***— Не было адчування дарэмных пакутаў?***

— Пасля прэс-канферэнцыі ў мяне не было адчування дарэмнасці таго, што зрабіў. Цяпер, калі шмат хто з тых, хто заставаўся ў «амерыканцы» пасля мяне, распавялі, што людзі ў масках зніклі на наступны дзень пасля маёй прэс-канферэнцыі, я ведаю, што ўдалося дапамагчы многім . Шматлікія словы ўдзячнасці гэта падцвярджаюць. Таму пасля выхада на свабоду не было думак пра дарэмнасць пакутаў. Аднак у турме шмат разоў сам сабе задаваў пытанне: чаму кандыдаты, якія былі нашмат больш радыкальныя за мяне, даўно на волі, а я дагэтуль не? Але, калі ўзгадваў патупленыя вочы Яраслава Раманчука, калі ён чытаў падрыхтаваную і для мяне паперу, разумеў, што, відаць, трэба праз пакуты прайсці, каб спакойна глядзець у люс-



*З намеснікам старшыні Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Сяргеем Антусевічам (справа) і першым намеснікам руху «За свабоду» Юрасем Губарэвічам на самай паўночнай кропцы Еўропы.*

тэрка ў свае вочы. Ганаруся тым, што нікога не абгаварыў і маіх паказанняў не было ні ў воднай справе.

***— Што першае зрабілі на волі?***

— Адразу пасля вызвалення радаваўся таму, што сустрэўся з сям'ёй. Цешыўся, што бачу дачок. Малодшая за два месяцы істотна вырасла. Даведаўся пра ўсё, што зрабіла мая жонка для вызвалення, дарэчы, не толькі мяне. На наступны дзень сустрэўся з сябрамі, распавёў, што са мной было і што планую зрабіць. Запісаў свае паказанні на відэа, каб у выпадку паўторнага арышту сябры маглі апублікаваць мае сведчанні пра катаванні і прымус стаць агентам КДБ. Дарэчы, найбольш баяўся, што не здолею правесці прэс-канферэнцыю і пра ўсё распавесці. Пасля яе стала нашмат спакайней, бо хаця б ужо ведаў, за што буду сядзець.

***— Як складалася «жыццё пасля кратаў»?***

— Калі мне ўдалося збегчы з-пад пільнага нагляду КДБ і прыляцець у Прагу, я пабачыў старых сяброў, якія сустрэлі ў аэрапорце, накармілі, а на заўтра завезлі ў лагер для ўцекачоў. У лагеры, дзе я прабыў каля 10 дзён, ведаючы мой VIP статус, у мяне доўга перапрашаліся пра ўмовы, якія мне пасля беларускіх турмаў падаліся санаторыем. Я адпачываў, вучыў чэшскую мову і не мог прывыкнуць да таго, што ніхто мяне не турбуе, не перакідвае ў іншую камеру, не выклікае на допыты. Адчуваць сябе ў бяспецы — гэта было такім шчасцем.



*У студыі тэлебачання Омні. Горад Калгары, Канада.*




*З Сяргеем Антусевічам улетку 2012-га года.*

Мне далі палітычны прытулак практычна за тыдзень — гэта была самая хуткая падобная працэдура за ўсю чэшскую гісторыю. Я атрымаў дакументы, а мае сябры-чэхі, якія працуюць за мяжой, далі ключы ад сваёй пражскай кватэры. Я пачаў ездзіць па Еўропе, а пасля і свеце, сведчыць пра ўмовы ўтрымання ў беларускіх СІЗА. Праз некаторы час мне паступіла прапанова ад Яна Маліцкага, дырэктара Стыпендыяльнай праграмы імя Кастуся Каліноўскага, закончыць маё навучанне ў дактарантуры ў Варшаўскім Інстытуце палітычных навук і абараніць дысертацыю. Гэта было маёй даўняй марай, на якую ніколі не хапала часу, нягледзячы на тое, што асноўная частка дысертацыі пра посткамуністычную трансфармацыю Беларусі і Украіны даўно ляжала напісанай. Цяпер часу ў мяне было дастаткова. На сённяшні момант я скончыў напісанне працы, і ў хуткім часе, спадзяюся, адбудзецца абарона.

На вялікі жаль, з сям'ёй сустракаюся зусім рэдка. У лепшым выпадку, атрымліваецца два разы на месяц. У горшым, бывала, што і раз на некалькі месяцаў. Гэта мяне вельмі засмучае. Толькі тут зразумеў, наколькі гэта маральна знішчае, калі ты не можаш штодня бычыць каханую жанчыну і любімых дзяцей. Добра, што існуе скайп, але штодзённыя размовы зусім не даюць адчування, што мы разам. Вельмі спадзяюся, што здолею вярнуцца ў Беларусь або, у крайнім выпадку, перавесці сям'ю да сябе. Пакуль, на жаль, ёсць перашкоды і для першага, і для другога.

***— У чым, на Ваш погляд, сутнасць жыцця за мяжой?***

— Падчас вучобы я некалькі разоў стажыраваўся за мяжой, таму нічога спецыяльна новага не пабачыў. Ці адрозніваецца сутнасць жыцця за мяжой ад сутнасці жыцця ў Беларусі? Не думаю. Але адрозніваецца тым, што ў Чэхіі палітык — гэта прафесія, за якую ніхто цябе не садзіць у турму. Ніхто не ацэньвае цябе як партызана, які патрапіў у палон да фашыстаў. Ты не мусіш быць героем, а проста якасна робіш сваю справу.

***— З моманту «прэзідэнцкіх» арыштаў прайшоў пэўны час. Вашы думкі на гэты конт?***

— Да гэтага часу не разумею, навошта было арыштоўваць або, па меншай меры, так доўга трымаць такую вялікую колькасць людзей. Магчыма, калінебудзь мы гэта даведаемся. У турме я адчуваў, што не адношуся да прафесіі палітыка, бо ніяк не мог прадбачыць такую колькасць арыштаваных. Думаю, што ў тым «разгуле лібералізацыі» такога не прадбачыў ніхто.

***— Што трэба было (з пункту гледжання сённяшняга дня) тады зрабіць не так?***

— Не магу адказваць пра падрыхтоўку падзеяў на Плошчы, бо сапраўды не прымаў у гэтым удзел, а ў астатнім шмат што зрабіў бы не так. Напрыклад, не быў бы дома ў момант арышту. У выпадку арышту далей бы не даваў паказанняў, як я гэта і рабіў колькі першых дзён. Нават самыя нявінныя паказанні КДБ успрымае як вашу слабасць і працягвае вас ламаць. Па іх псіхалогіі вы можаце быць або ворагам, або агентам. Я спрабаваў іх перагуляць, і гэта было памылкай.

***— Навошта Вам працягваць змаганне? Не баіцеся ?***

— Не люблю слова «змаганне». Я проста працую для пераменаў. Для таго, каб у беларускіх турмах не было катаванняў, а сотні тысяч беларусаў не мусілі шукаць лепшай долі за мяжой. Урэшце, працую, каб вярнуцца ў Беларусь. Каб быць у любімай краіне з любімай сям'ёй. Бо толькі ў Беларусі хачу жыць. Мой бацька калісьці вярнуўся ў Мінск пасля навучання ў піцерскім Электратэхнічным інстытуце. Маці аб'ездзіла ўвесь свет, магла працаваць у розных краінах, але нязменна вярталася ў Беларусь. Я таксама ў Беларусь вярнуся. Гэта няхай кадэбэшнікі волкавы, зайцавы ды арловы з Беларусі едуць, калі хочуць. У нас жа не будзе іншай Беларусі. Даруйце за пафас, але за мяжой паняцце Айчыны адчуваецца вельмі востра.

# ТЭМАТЫКА ЖЫЦЦЯ



**Даведка:** Аляксандр Фядута нарадзіўся 3-га лістапада 1964-га года ў Гродна. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1994-ым годзе быў сябрам передвыбарнага штабу А.Лукашэнкі, пасля перамогі якога стаў начальнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта. З 1995-га года сышоў з пасады і працаваў журналістам шэрагу недзяржаўных газет. Кандыдат філалагічных навук, палітолаг, публіцыст.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010-га года працаваў у штабе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Арыштаваны 20-га снежня 2010-га года ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ. У канцы снежня яму прад'яўлена абвінавачванне па па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 30-га сакавіка 2011-га года абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК РБ (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх). 8-га красавіка адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

20-га траўня 2011-га года асуджаны на два гады ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады.

**Напэўна, нарыс пра гэтага героя было б лагічна размясціць у кнізе «Супраць плыні», бо ягонае жыццё складаецца з учынкаў, якія вельмі цяжка патлумачыць рацыянальнай логікай.**

**Адзін з іх аўтар гэтых радкоў адчуў на ўласным досведзе. Калі пасля пачатку маёй хваробы многія з сяброў адвярнуліся, МЕНАВІТА Аляксандр Фядута, які час ад часу быў нават апанентам, дапамог выдаць першую кнігу.**

**Пагадзіцеся, ТАКОЕ ў сучаснай Беларусі, мякка кажучы, сустракаецца даволі рэдка...**

## «Тытунёва-дзіцячая» тэма

«Бацькі ў мяне ніколі не было, што нейкім чынам «радніць» з дзеючым кіраўніком краіны. З той толькі розніцай, што я ніколі не саромеюся гэтага факта сваёй біяграфіі. Наадварот, усім кажу, што мая маці Валянціна Іосіфаўна (усё сваё жыццё аддаўшы вытворчасці) у 39 гадоў зразумела, што яе не будзе каму хаваць, і нарадзіла мяне. Па тым часе (з узроўнем медыцыны пачатку 60-ых гадоў мінулага стагоддзя) гэта ўчынак, сапраўды, гераічны.



*Пачынае жыць.*

Па наш дзень ёй за гэта шчыра ўдзячны і буду ўдзячны заўсёды. Маці ставілася да майго выхавання з тым максімальным імпэтам, на які была здольная фізічна і маральна. Яна, дарэчы, дала мне імя па бацьку тое ж самае, што было ў яе. Так што ў мяне яно не па бацьку, а па дзеду.

Іосіф Тарасавіч працаваў вартаўніком на гара-




*Любіць плаваць.*

дзенскай тытунёвай фабрыцы, а яго жонка Кацярына Карлаўна (адпаведна мая бабуля) усё жыццё была санітаркай у 2-ой гарадской бальніцы. Так што маці стала «тытунёвіцай» як бы «ў спадчыну».

Без якой-небудзь вышэйшай адукацыі, дзякуючы толькі арганізатарскім здольнасцям, яна ад звычайнай работніцы прайшла шлях да старэйшага майстра цыгарэтнага цэха. Аўтарытэт быў настолькі высокім, што, калі стала вакантнай пасада начальніка цэха, на яе гадоў 15 нікога не прызначалі. Разумелі, што рабочыя не будуць ставіцца з павагай толькі за тое, што малады чалавек мае інжынерны дыплом... Асабліва, калі ёсць кіраўнік, якога яны паважаюць без адпаведнай «корачкі»...

Начальніка цэха прызначылі толькі тады, калі маці дасягнула пенсійнага ўзросту...

Маму работнікі не толькі паважалі, але і ведалі, што ніколі не даруе двух рэчаў: крадзяжоў і п'яных у сваім цэху, бо апошняе даволі часта прыводзіць да траўмаў. Асабліва, калі з канкрэтным «пахам» працуюць механікі, электрыкі. Калі такое здаралася, апошнія ведалі, што лепш звольніцца самому, інакш начальніца «з'есць»...

Гэта не азначае, што яна была ханжой. Барані Божа! І кілішак магла выпіць у добрай кампаніі, і падтрымлівала сяброўскія адносіны з многімі сваімі падначаленымі. Выдатна памятую тую сямейную атмасфе-



*Чытае вершы.*

ру, якая панавала ў іх на працы. Напрыклад, калі я прыходзіў да маці па грошы на чарговую кніжку, мяне не проста сустракалі на прахадной, але і займаліся як з дзіцем усяго цэха. Ведалі, што я «сын Іосіфаўны».

Ганаруся гэтым па наш дзень.

Пасля фабрычнага дзіцячага садка, які месціўся літаральна за адным з карпусоў фабрыкі на вуліцы Лялевеля, пайшоў у сярэднюю школу нумар 15 імя генерал-лейтэнанта інжынерных войск Героя Савецкага Саюза Дзмітрыя Міхайлавіча Карбышава.

Усе дзесяць гадоў вучобы ўзгадваю з асаблівай цеплынёй. Школа не была гімназіяй, не мела нейкай прэстыжнай спецыялізацыі, але там працавалі вельмі добразычлівыя і патрабавальныя настаўнікі.

Усіх іх ВЕЛЬМІ люблю. Калі «сядзеў» у «амерыканцы», амаль (застаўся адзін раздзел) напісаў кнігу ўспамінаў аб гарадзенскім перыядзе жыцця, якая будзе называцца «Мой маленькі Парыж».

Вельмі люблю свой родны горад. Аднойчы нават плакаў, калі пад'язджаў да Гродна.

За кратамі асабліва востра разумееш, як шчыра любіш людзей, якія навучылі цябе вучыцца. У тым ліку і тых, на каго некалі крыўдзіўся... Зараз нават не ведаю, хто з іх даў мне больш...

Я стаў філолагам, і за гэта вялікі дзякуй настаўніцам рускай мовы і літаратуры Вользе Мікалаеўне Серак і Ганне Яфімаўне Кецлах (па мужу Чэх).

Заўсёды спакойна лічу «в уме». Часам гэта значна прасцей, чым знайсці калькулятар. Удзячны Галіне Серафімаўне Янчэўскай, якая выкладала ў нас матэматыку і была лаўрэатам прэміі імя Крупскай — вышэйшай узнагароды Акадэміі педагагічных навук СССР.

Калі размаўляю на беларускай мове, з падсвядомасці адразу «ўсплываюць» патрэбныя словы, і я разумею, што за гэта трэба дзякаваць Міхася Іванавіча Анішчанку, які «заклаў» такую якасць. Памяць удзячная гэтаму чалавеку, таму што ў яго была цудоўная беларуская мова. Вельмі лёгкая, прыгожая, вытанчаная.

Калі б гарадзенская атмасфера таго часу была беларускай, я б адчуў (хутчэй за ўсё) сябе беларусам нашмат раней. На жаль, Гродна быў моцна «русіфікаваным» горадам.

І яшчэ пра школу. Менавіта з ёй звязана першая спроба аднавіць справядлівасць, калі ўвесь клас пад дажджом прыйшоў на збор металалому і ўсе цягалі нейкія іржавыя батарэі, а тагачасная старшыня савета піянерскага атрада не прыйшла, бо падумала, што так зробяць усе. Мабільных тэлефонаў тады не было. Усім класам прыйшлі да яе дамоў. Плакала адносна свайго ўчынку вельмі шчыра...

## «Моўна-навуковая» тэма

Гэта зараз (пасля перабудовы) усё ўспрымаецца па-іншаму і здаецца, што ў Гродна заўсёды актыўна дзейнічаў БНФ і была створаная Міхасём Ткачовым Грамада. Безумоўна, усё гэта было, але я хачу засяродзіць увагу на іншым цікавым моманце: стваралі тыя рускамоўныя людзі, якія потым перайшлі на беларускую мову. Гэта быў адзін з парадоксаў таго часу. Яны разумелі, што трэба адрозніваца ад партыйнай наменклатуры, і прасцей за ўсё гэта рабілася пераходам на беларускую мову.

Я ведаў (і ведаю) вельмі многіх людзей, якія зрабілі менавіта так і перакананыя ў тым, што яны зрабілі правільна.

Калі ў Мінску апынуўся ў Адміністрацыі Прэзідэнта (пяць месяцаў), да мяне па справе звярталіся людзі, з якімі я ПРОСТА не мог размаўляць на рускай мове. Напрыклад, Уладзімір Мулявін.

Я ведаў, што ён этнічна рускі, але размаўляць з ВЯЛІКІМ дзеячам беларускай культуры правільна і лагічна толькі на беларускай мове. Я быў



*Удзельнічае ў студэнцкай алімпіядзе па педагогіцы.*

павінен не проста (з пункту гледжання ўласнай этыкі) размаўляць з ім стоячы, прапанаваць каву альбо гарбату, але і размаўляць на той мове, якую ён увасабляе ў грамадскай свядомасці.

Калі мне спатрэбілася першы раз сустрэцца з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным, я з тых жа меркаванняў размаўляў з ім выключна на беларускай мове. Так і дагэтуль.

Калі сышоў у адстаўку, скандал быў настолькі гучным, што здавалася — жыццё скончылася.

Думаю, ніхто б тады не здзівіўся, калі б, як і многія іншыя, «зваліў» бы з краіны. Некаторыя так зрабілі: натварылі тут шмат непатрэбных рэчаў і схаваліся ад адказнасці ў суседняй Расіі. Я прывык адказваць за свае ўчынкі. Ды і ехаць мне няма куды. Гэта мая краіна. Чаму я павінен пакідаць яе тым, з кім не згодны?

Атрымалася так, што ў той момант вакол мяне ўтварылася кола людзей, якія размаўлялі выключна на беларускай мове. Яны ніколі не рабілі мне нейкіх заўваг, не прапаноўвалі перайсці на беларускую мову, цярпліва адказвалі на ёй, калі я звяртаўся на рускай мове. Разам з Валянцінай Трыгубовіч, Валянцінам Голубевым, Верай Чуйко, Віктарам Івашкевічам мы ўваходзілі ў «Беларускую перспектыву». Для мяне было гонарам, калі яны папраўлялі маю беларускую мову. І рабілі гэта не

дэманстратыўна. Маўляў, паглядзіце: ён нешта не ведае. Калі бачылі, што я губляўся з нейкім словам, адразу ж падказвалі.

Гэтак жа і Юра Дракахруст. У яго бліскучая беларуская мова, хаця ён сын добрага рускамоўнага паэта, чые вершы я прачытаў яшчэ ў школьныя гады.

Калі сёння я бачу абурана-здзіўленыя вочы чалавека, які лічыць сябе інтэлігентам і прымушае размаўляць з ім толькі па-беларуску, я заўсёды выбіраю альбо папраўляць яго русіцызмы (звычайна на беларускай мове ён размаўляе горш за мяне), альбо прынцыпова пераходзіць на мову рускую.

Як я магу размаўляць па-руску з Кастусём Аляксеевічам Цвіркам, калі я прыйшоў да яго ў «Беларускі кнігазбор» з прапановай выдаць Фадзея Булгарына (беларус, які стаў вядомым расейскім пісьменнікам, выдаўцом першай грамадска-палітычнай штодзённай газеты ў Расіі — **заўвага аўтара**) і ён пагадзіўся?

З гэтага насамрэч і пачалася мая навуковая свядомасць, таму што том Булгарына стаў своеасаблівай візітоўкай. Спецыялісты па рускай літаратуры першай паловы XIX стагоддзя ў Расіі і Польшчы чытаюць рускі тэкст пісьменніка з беларускім уступным артыкулам і беларускім каментаром, таму што гэта самая грунтоўная падрыхтоўка тэксту.



*Бярэ інтэрв'ю ў Уладыкі Філарэта.*

Як я магу размаўляць не на беларускай мове з тым жа Міхасём Скоблам, калі добра ведаю, што ён гэтым жыве?

Тое ж самае магу сказаць і пра вялікага, на мой погляд, беларускага паэта Уладзіміра Някляева, з якім пашанцавала разам працаваць апошнім часам.

Пра навуковую дзейнасць.

У 1997-ым годзе я абараніў кандыдацкую дысертацыю. Пачаў ёй займацца яшчэ ў савецкія часы. Хацеў вывучаць творчасць Андрэя Белага, але навуковы кіраўнік параіў адмовіцца ад гэтай ідэі. Маўляў, для таго, каб зрабіць на гэтую тэму дысертацыю, патрэбны архіўныя дадзеныя, а грошай, каб ехаць у Маскву, Ленінград і тым больш за мяжу, няма. Ён так і сказаў: пасля «кандыдацкай» займайся, чым хочаш.

Я стаў вывучаць творчасць Пушкіна. Пасля таго, як у адной з газет было надрукавана пра гэтае захапленне, з падачы былога міністра ўнутраных спраў Віктара Анатольевіча Піскарова мяне пачалі называць «пушкіністам». Праўда, Піскароў дадаў словазлучэнне «так званы»... Лічу такі дадатак не вельмі карэктным, бо я не «так званы пушкініст», а чалавек, які мае дыплом расійскай ВАК. Так што піскароўскае словазлучэнне — не пра мяне.

Спадзяюся, неўзабаве будзе і доктарская дысертацыя. На жаль, я пакуль «невыяздны»... Прысвячу яе памяці майго настаўніка Ігара Вячаслававіча Ягорава, як «кандыдацкую» прысвяціў памяці маёй маці.

## «Настаўніцка-камсамольская» тэма

Я сур'ёзна збіраўся паступаць у знакаміты ГИТИС (рускамоўны варыянт тут выкарыстаны наўмысна, як больш вядомы —**заўвага аўтара**) на тэатральнае аддзяленне. З мамай нават спецыяльна з'ездзілі ў Маскву і ўзялі адпаведную (для паступлення) праграму. Тое, што туды вельмі цяжка патрапіць, не палохала, таму што я быў упэўнены ў сваіх ведах. Аднак нечакана захварэла мама. Мы з ёй жылі ўдваіх, акрамя саміх сябе ў нас з ёй не было нікога. Я зразумеў, што не маю права ў гэты момант з'ехаць у Маскву. Вырашыў застацца ў Гродна. Выбраў філалагічны факультэт мясцовага ўніверсітэта і паступіў. Напэўна, спалохаўся жорсткіх маміных перспектыў: «не паступіш, прыйдзеш на нашу фабрыку збіваць скрынкі»...

З 20-і магчымых балаў набраў 19, з 200 чалавек, якія тады паступалі, больш мяне (на АДЗІН бал) набраў толькі АДЗІН чалавек. То бок, я быў

адным з лепшых на нашым «патоку». Як і падчас сканчэння вучобы. Калі б дыпломы нумараваліся па паспяховасці, у мяне быў бы першы нумар. Яго чырвоны колер даваў права абраць першаму месца будучай працы.



*Школьны настаўнік.*

На жаль, аспірантуры ў нас не было, а лепшым месцам першай працы ў той момант лічылася лідскае педвучылішча. Аднак мне, што называецца, пашанцавала. Я праходзіў практыку ў 20-й гарадзенскай школе, і адтуль падалі на мяне ва ўніверсітэт мэтавы запыт. У 1986-ым годзе прыйшоў туды працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры. І вельмі ўдзячны школе, якая стала другой у маім жыцці.

Так атрымліваецца, што сёння я бываю ў ёй значна часцей, чым ў той, дзе вучыўся сам. Таму што за пяць гадоў працы ў мяне былі тры выпускі. Гэта «мае» дзеці. Я іх памятаю і люблю. Шмат хто «фрэнды» ў «Жывым журнале» альбо ў «Аднакласніках». Шмат хто віншуе мяне з Днём настаўніка і Днём народзінаў.

Калі я «сядзеў» у «амерыканцы», вельмі хацеў вызваліцца так, каб паспець на вечар сустрэчы з выпускнікамі. Хацеў, каб яны ўбачылі, што жывы і са мной нічога не здарылася. На жаль, не атрымалася.

Толькі калі вызваліўся, убачыў колькасць напісаных мне лістоў, запісаў у сацыяльных сетках і зразумеў, што настаўнікам (прыемна) быў неблагім.

## «Камсамольска-асабістая» тэма

У 1991-ым годзе я пайшоў дапамагаць Гарбачову рабіць перабудову, бо лічыў яе адзіным выйсцем з той сітуацыі, у якой усе мы апынуліся, таму і ўваходзіў у склад бюро ЦК ЛКСМБ.

Тады было модным праводзіць розныя выбары на альтэрнатыўнай аснове. Калі сказалі, што вылучаць на бліжэйшым камсамольскім з'ездзе маю кандыдатуру на пасаду першага сакратара, я быў упэўнены, што прайграю, бо альтэрнатывай быў загадчык аддзела вучнёўскай



*Віншуе са святам Дня беларускага кіно.*

моладзі ЦК ЛКСМБ Саша Шадэнка — вялікі разумнік, добры арганізатар, дасведчаны кіраўнік.

Пра тое, каб я не вылучаўся на выбарах, абавязкова здымаў сваю кандыдатуру, параіла і маці. У такой упэўненасці я і ехаў на пленум. «Загубіў» уласны азарт. Не хацелася, каб нехта падумаў, што я спалохаўся.

Нечаканая перамога стала сапраўдным шокам. Перш за ўсё таму, што ў мяне «за спіной» было тры выпускных класы. Канец лютага, пачатак сакавіка, наперадзе выпускныя экзамены... Нават цяжка ўявіць...

У чацвер я вярнуўся ў Гродна, а ўжо з панядзелка павінен быў выйсці на новае месца работы.

Мякка кажучы, тагачасны дырэктар школы Ганна Аляксандраўна Зылькова (дай Бог, ёй здароўя) сустрэла мае навіны без асаблівага імпэту. Павіншавала, хаця ў 1991-ым годзе на такую пасаду мог пагадзіцца толькі поўны ідыёт, бо ўсе ўжо разумелі: існаваць камсамолу засталося нядоўга. І вельмі здзівілася маёй прапанове «давесці выпускныя класы да экзаменаў», калі гэтага папросяць вучні.

Паўза, цяжкі ўздых і фраза, якую я запомніў на ўсё жыццё: «Калі ты пагадзіўся балатавацца ў сакратары камсамола, з якога ўсе бягуць, я

зразумела, што так зрабіць можа толькі крэцін, але ты РАЗУМЕЕШ, што кажаш зараз?..» Сэнс гэтага «разумееш» я вельмі добра ЗРАЗУМЕЎ, калі мае вучні пагадзіліся (інакш не магло і быць) на прапанову. З сакавіка да канца траўня кожны чацвер я сядаў у аўтобус альбо цягнік, якія ехалі на Гродна. Два дні там працаваў настаўнікам і ехаў назад у Мінск, каб зноў узначаліць камсамол.

Сказаць пра тое, што тады (пасля жнівеньскага путчу 1991-га года) яго піналі ўсе, хто не лянуецца, — нічога не сказаць. Адзін з тых, хто з асаблівым запалам імкнуўся адрэзаць ад пірага як можна большы кавалак, — тагачасны кіраўнік былога Камітэту па справах моладзі Міхал Васільевіч Падгайны.

Напэўна, ён паверыў плёткам пра міфічную камсамольскую маёмасць, таму «паклаў вока» менавіта на яе і вырашыў расправіцца з арганізацыяй, якая дала некалі пуцёўку ў жыццё...

Каб адбіцца ад гэтых апетытаў, я і пусціў у будынак ЦК ЛКСМБ перадвыбарчы штаб А.Р.Лукашэнкі. Натуральна, такі ход не мог падабацца тагачаснаму кіраўніцтву краіны. На гэты конт у мяне ў красавіку 1994-га года была сустрэча з Генадзем Іллічом Данілавым, які тады быў адным з самых уплывовых людзей краіны. Кебічаўскі сакратар па пытаннях бяспекі ўсё роўна, што Шэйман (падчас узлёту яго кар'еры) пры Лукашэнку.

Аказалася, ён нічога не ведае пра «маёмасныя акалічнасці». Падчас размовы быў да-



*Танчыць на свяце БДГ.*



*Цалуе жонку Марыну.*

сягнуты кампраміс: я сыходжу з пасады і разам са мной з будынку сыходзіць «каманда» Лукашэнкі.

Тагачасны прэм'ер-міністр Вячаслаў Францавіч Кебіч ухваліў такі варыянт, і на наступны дзень на Падгайнага было агідна глядзець. Ён нагадваў чалавека, якому наступілі на нагу ў аўтобусе.

Дарэчы, на свой з'езд мы вырашылі запрасіць усіх кандыдатаў у прэзідэнты. Некаторыя запрашэнні я адвозіў персанальна і так упершыню трапіў у штаб-кватэру БНФ. Пазняка «не было», і праз гадзіну ён «не з'явіўся». Хутчэй за ўсё гэта быў звычайны здзек. Я пакінуў запрашэнне і з'ехаў.

На з'ездзе (у адрозненне ад Лукашэнкі, Шушкевіча і Новікава) Пазняка не было, і калі сёння ён гаворыць пра тое, што я хацеў уручыць яму нейкія паперы супраць Лукашэнкі, гэты чалавек нахабна хлусіць. Ён увогуле так пачаў хлусіць, што многія сёння нават сумняваюцца ў тым, засталася ці не ў яго хоць кропля сумлення...

У некаторым сэнсе дзякуючы камсамолу, я сустрэў і сваю будучую жонку Марыну. Справа ў тым, што, калі я пераехаў у Мінск і мне далі кватэру, стаў яе, як кажуць, «даводзіць да розуму». І з гэтай нагоды пачаў шукаць па суседзях пласкагубцы. Так атрымалася, што разам з імі знайшоў і сваё каханне.

Марына ў той момант прыйшла ў госці да сяброўкі, якая з мужам жыла ў нашым доме на першым паверсе. Да іх мне і параілі звярнуцца па дапамогу.

Так (амаль выпадкова) мы пазнаёміліся. Пра цукерачна-букетны перыяд шмат распавядаць не буду, скажу толькі, што 12-га лістапада 1994-га года пабраліся шлюбам і дадам, што мне вельмі пашанцавала з жонкай. Асабліва гэта стала бачна падчас зняволення ў «амерыканцы». Такому гераічнаму аптымізму і самаадданасці можна толькі пазайздросціць!!!

## «Палітычна-турэмная» тэма

Пра тое, як я працаваў разам з дзеючым кіраўніком дзяржавы, вельмі падрабязна напісана ў кнізе «Лукашенко. Политическая биография», нагадаю толькі, што нягледзячы на адпаведныя дамоўленасці фонд Ціцянкова не аплаціў тады арэнду памяшкання. І толькі высакародства майго «зменшчыка» ў маладзёвым саюзе Сяргея Дароніна не дазволіла гэтыя грошы вылічыць з майго заробку.

Аляксандр Рыгоравіч часта любіць узгадваць пра тое, як яму здрадзілі былыя паплечнікі і ні разу не распавёў, як здраджваў сам. Напрыклад, таму ж Зміцеру Булахаву абяцаў прызначыць кіраўніком Канстытуцыйнага суда і палец аб палец не ўдарыў, каб выканаць абяцанне... Тое ж самае было і з Віцем Ганчаром... Не можаш выканаць — не абяцай...

Не ведаю, адкуль у яго ўзяліся звесткі пра канчатковую перамогу ў першым туры. Напэўна, чарговая хлусня, бо насамрэч нічога падобнага не было. Так, ён быў лідарам, але не перамог...

Дарэчы, першым пра гэта нам тады сказаў Мікалай Віктаравіч Статкевіч. І менавіта яму Лукашэнка павінен быць удзячным за сумленны



*Прымае падарунак Міколы Статкевіча.*

падлік галасоў выбаршчыкаў, бо створаная тады грамадская камісія па назіранню за выбарамі не дала ўладзе падмануць народ.

Як ужо было сказана, на пасадзе начальніка упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі прэзідэнцкай адміністрацыі я пратрымаўся ўсяго пяць месяцаў.

Калі цябе прымушаюць рабіць тое, з чым ты не згодны, чалавек, які сябе паважае, павінен сысці. Для мяне маральным «рубіконам» сталі газетныя «белыя плямы».

Праз шмат гадоў паважаны мной малады калега Віктар Валер'евіч Марціновіч нагадаў выступ 1-га верасня 1994-га года на журфаку БДУ. Сярод пытанняў было і наконт падобнай сітуацыі. Адказаў тады, што выканаю і сыду. Выканаю таму, што той чалавек, які прыйдзе пасля мяне, усё роўна ўсё рэалізуе, але ён не будзе адчуваць нейкія згрызоты сумлення і не зробіць нічога, каб мінімізаваць наступствы гэтага загаду. Так і адбылося.

Пасля сыходу з улады заняўся журналістыкай. Меў адпаведны досвед яшчэ з гарадзенскіх часоў, калі працаваў у гарадской газеце «24 гадзіны». Можна толькі спачуваць Пятру Марцаву, які ўзяў мяне на працу. Ціску, роўнага «Белорусской деловой газете» (БДГ), не зведаў ніхто.

Потым быў пэўны перыяд супрацоўніцтва з лявонаўскім фондам «За новую Беларусь», кіраўніцтва сайтам belarusfree.org і стварэнне «Гавары праўду».

Пра апошняе некалі выдам кнігу, якую задумаў яшчэ ў «амерыканцы». Але зраблю гэта толькі тады, калі нешта можна будзе аспрэчыць у справядлівым, бесстароннім судзе.

Наогул я задумаў тры кнігі ўспамінаў: «Мой маленький Париж», «Боевая раскраска гурона» і «На щите». Назва «На щите» ў некаторых выклікае пытанне. Маўляў, тут ёсць пэўныя асацыяцыі з паразай. Згодны — ёсць, калі ўзгадаць старажытны Рым. Мая ж метафара зусім іншага кшталту. Маецца на ўвазе той шчыт, на якім мы спалі ў кадэбэшным следчым ізалятары.

Упэўнены, што такі час абавязкова прыйдзе, калі мы не будзем гэтаму перашкаджаць амбіцыямі некаторых палітыкаў.»

# ПРАГА ПЕРАМЕНАЎ



**Напамін:** Аляксандр Класкоўскі нарадзіўся 26-га верасня 1978-га года. Скончыў мінскую сярэднюю школу №55, паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, потым атрымаў вышэйшую юрыдычную адукацыю.
У 1999-ым годзе паступіў на службу ў ДАІ Ленінскага раёна Мінска ў якасці інспектара ДПС. У 2005-ым годзе ў чыне лейтэнанта з міліцыі звольнены.
Затрыманы ў ноч на 21-е снежня 2010-га года ў сябе дома. Змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: чч. 1 і 2 арт. 293 (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках), арт. 369 (абраза прадстаўніка ўлады) і арт. 382 (самавольнае прысваенне звання ці ўлады службовай асобы). Абвінавачванне па двух апошніх артыкулах звязана з тым, што А. Класкоўскі прысутнічаў на плошчы Незалежнасці ў сваёй міліцэйскай форме і ўшчуваў былых калег-міліцыянтаў за гвалтоўныя дзеянні ў адносінах да дэманстрантаў. 26-га траўня 2011-га года ў Ленінскім судзе Мінска асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
Вызвалены 14-га верасня 2011-га года згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні.

**Падчас нашай сустрэчы год таму не толькі нарадзілася ідэя зрабіць гэтую кнігу. У Аляксандры Класкоўскім я тады ўпершыню ўбачыў песімізм, які толькі з'яўляўся ў некаторых з тых, хто за 19-е снежня 2010-га года пабываў за кратамі. Маўляў, калі меркаваць па колькасці іншамарак каля крамаў, то атрымліваецца, што «мы сядзелі дарэмна»...**

**Нешта падобнае пачуў і на гэты раз. З той толькі розніцай, што дадалася яшчэ і прага переменаў.**

***— Што Вы сустрэлі на свабодзе?***

— Адразу пасля вызваленне я прыехаў у Бялынічы Магілёўскай вобласці, адкуль родам мая жонка. Калі параўнаць з Мінскам, гэта амаль вёска. Людзі там літаральна замбіраваныя афіцыйнай прапагандай. І не толькі беларускім тэлебачаннем. Бацька (вядомы журналіст Аляксандр Класкоўскі —

*З малодшым сынам Арсенем.*



**заўвага аўтара**) расказваў, што «адпаведныя» артыкулы былі нават у раённых газетах. У тым ліку дзе «палівалі брудам» і мяне.

Гэта, дарэчы, гаворыць пра ўзровень беларускай улады. Я б, напрыклад, ніколі не апусціўся да «цяўкання» ў «раёнцы».

Пры гэтым (недзе ў глыбіні душы) яны разумеюць, што не правыя, але інстынкт самазахавання мацней. Заўважце, што робіцца ўсё не на «вышэйшым узроўні», а на мясцовым. Зразумела, што артыкулы для «раёнак» пісаў не асабіста Лукашэнка...

Праз пяць дзён вярнуўся ў Мінск. Аўтобус прыходзіў на «Усходні» аўтавакзал. Насупраць — гіпермаркет. Як раз у той момант узнімаліся мытныя пошліны і ўсе закупіліся іншамаркамі. Паглядзеў на гэты «аўтапарк», і стала неяк сумна. Не самыя бедныя ў нас людзі. Некаторых назваў аўто я нават не ведаў...

Мы думаем пра нейкія «глабальныя» рэчы, а простыя людзі жывуць «на побытавым узроўні». Іх больш хвалюе адказ на пытанне: «Дзе знайсці грошы на машыну? Узяць крэдыт альбо папрасіць у сваякоў?»

Потым мне выпала пабываць у Варшаве. Там прыйшоў да высновы, што «аўтамабільны парк Беларусі» калі не лепей польскага, то можа з ім сур'ёзна паспаборнічаць.

Народ у прадчуванні крызісу літаральна пазбаўляўся ад беларускіх рублёў. У краме кошыкі «ламіліся» ад розных тавараў.

Пасля пабывалі з жонкай у літоўскім санаторыі. Шкада, што віза была аднаразовая, бо, калі потым пачалі здымаць фільм пра падзеі 19-га снежня 2010-га года (адным з рэжысёраў быў Франак Вячорка), ад прапановы прыняць удзел у здымках прыйшлося адмовіцца. Яны пачыналіся з панядзелка, а перад гэтым (у пятніцу) быў апошні дзень майго дазволенага знаходжання ў «зоне Шэнгена».

***— Наколькі мне вядома, здымкі гэтага фільма праходзілі ў Варшаве?..***

— Так.

Адразу з Друскінінкая мы паехалі ў Гданьск, а потым у Варшаву. Калі б віза не скончылася, усё магло б быць па-іншаму.

Вярнуліся ў Мінск. Менавіта ў гэты час праз ЕўраЗЭС Расія дала Лукашэнку першы транш крэдыту. Гэта быў ВЕЛЬМІ моцны ўдар, бо ўсе мы спадзяваліся, што яна не будзе яго больш падтрымліваць. Для А.Г. гэта было апошняе выратавальнае кола... А для нас — першы цвік у труну надзеяў і мараў...

Амаль у гэты ж час у амерыканскай амбасадзе была прэзентацыя кнігі «Адзін дзень палітвязня». Сабраліся ўсе, хто гэта на той момант мог зрабіць.

Мне вельмі не спадабалася, што праз некалькі хвілін пасля заканчэння прэзентацыі ў мяне не атрымалася паразмаўляць ні з адным (акрамя Кіркевіча) з тых, хто пабываў за кратамі. А вельмі хацелася наладзіць пэўныя камунікацыі. Прайшло літаральна 10 хвілін пасля сканчэння прэзентацыі кнігі «Адзін дзень палітвязня», а там ужо амаль нікога не асталося...

У Варшаву хацелася вярнуцца зноў, але не было адпаведнай візы. Многія паабяцалі гэта зрабіць, але адны́мі словамі ўсё і абмежавалася. На жаль, неабавязковасць вельмі распаўсюджаная справа для апазіцыйнага асяроддзя.

***— Цалкам з гэтым згодны...***

— Канешне, спачатку былі пэўныя спадзяванні, але потым яны адышлі. Зараз я ўжо НІЧОГА ні ад каго НЕ ЧАКАЮ. Магчыма, раней у нечым памыляўся. Мабыць, самому трэба было стаць больш ініцыятыўным.

***— Некаторыя ставяцца да паняцця «судзімасць» даволі несур'ёзна...***

— І дарэмна.

Судзімасць накладае на чалавека вельмі шмат абмежаванняў. Я, напрыклад, калі хацеў купіць мэблю, звярнуўся ў тры банкі за крэдытам. Паўсюль адмовілі. Потым у крымінальна-выканаўчай інспекцыі патлумачылі, што гэта бессэнсоўна, бо ў іх нават напісана ў інструкцыях: тым, хто «сядзеў», грошы не даваць. Нават маленькія сумы, якія звычайна даюць і «сінякам» з-пад крамы.

Пасля вызвалення за намі быў устаноўлены так званы прафілактычны нагляд. Ён накладае не шмат абмежаванняў. Накшталт такіх: калі больш чым на месяц выязджаеш у іншую мясцовасць, павінен аб гэтым абавязкова паведаміць (не папрасіць дазволу). Альбо раз у месяц яны прыходзяць на тваё места жыхарства, каб праверыць, жывеш ты там ці не.

Праўда, адразу пасля вызвалення яны прыходзілі кожны тыдзень, а часам і два разы на тыдзень. Асабліва перад нейкімі гучнымі мерапрыемствамі. Напрыклад мяне не толькі «папрасілі» не прымаць удзел у Народным сходзе, але і прыйшлі з праверкай за паўгадзіны да яго пачатку.

У прафнаглядзе ёсць яшчэ адно непрыемнае абмежаванне. Хутчэй пагроза. Гэта ўсталяванне больш жорсткага прэвентыўнага нагляду пасля трох адміністрацыйных правапарушэнняў на працягу года, за якія ў санкцыі артыкулу прадугледжаны адміністрацыйны арышт. А там і да турмы, як кажуць, рукой падаць. Сумны «прыклад» Васіля Парфянкова сведчыць аб вельмі канкрэтным настроі ўладаў.

На шчасце, прэвентыўны нагляд за мной не усталёўваўся: не было такіх парушэнняў.

...Калі да мінулага Новага года ў гэтым сэнсе было нейкае «зацішша», то потым прагучала каманда «Фас!».

Умоўна ўсіх асуджаных за 19-е снежня 2010-га года я падзяляю на тры катэгорыі. Да першай адносяцца тыя, хто з'ехаў за мяжу.

Другую складаюць завербаваныя за кратамі людзі, якіх «падцягвалі» на ўсе «знакавыя» працэсы, то бок тыя, дзе судзілі кандыдатаў у прэзідэнты.

*З музыкам З. Вайцюшкевічам.*





*Падрыхтоўка да праграмы на тэлеканале Белсат.*

Рабілася гэта для таго, каб «даказаць віну». Іх было няшмат — 6-8 чалавек. Мабыць, было што хаваць.

Трэцяя — тыя, хто застаўся ў Беларусі і нейкім чынам працягнуў змаганне. Менавіта за гэтую катэгорыю ўзяліся як след.

Даволі хутка некаторыя (Малчанаў, Парфянкоў) зноў апынуліся за кратамі. А Вінаградава, Яроменка, Атрошчанкава пачалі «прэсаваць».

Дарэчы, спецслужбы імкнуцца спецыяльна арыштоўваць людзей у чацвер. Каб за пятніцу тыя не паспелі знайсці адвакатаў, а потым — выходныя. Гэта своеасаблівы псіхалагічны ціск, бо тры дні чалавек знаходзіцца толькі сам на сам са сваімі думкамі. Галоўная — «Ты ніколі не выйдзеш на волю!»

Люты-сакавік яны мяне вельмі актыўна шукалі, каб «прычапіцца» і змяніць форму нагляду, але не знайшлі. Напэўна, пашанцавала.

...Пасля вызвалення ў пошуках працы пачаў хадзіць па розных фірмах. Калі там «прабівалі» па базах дадзеных і бачылі судзімасць з рэкаменда-

цыяй «не браць», адмаўлялі з вельмі туманнымі тлумачэннямі. Афіцыйна працаўладкавацца немагчыма было нават грузчыкам, што красамоўна пацвердзіў «досвед» Новіка з Баранавічаў.

Мабыць, нехта вельмі хацеў «выштурхнуць» мяне з краіны. Пачалі «прэсаваць» па ўсіх напрамках. Даходзіла да абсурду. Падаткавікі сталі патрабаваць, каб заплаціў ім грошы за час, калі знаходзіўся ... у калоніі, а сама калонія праз суд загадала вярнуць грошы за турэмную робу, харчаванне і г.д.

***— Вы выйшлі на волю ў разгар крызісу. А зараз нешта ў настроях людзей стабілізавалася?***

— Добрае слова «стабілізацыя». Як кажуць, сітуацыя ў нас «стабільна цяжкая».

*У кавярні ёсць Wi-Fi.*



У мяне такое адчуванне, што людзі займаюцца сваімі штодзённымі праблемамі, і амаль ніхто з іх — палітыкай. Магчыма, змірыліся.

Нейкіх ідэйных ператварэнняў у нашай сучаснасці не бывае. Здараюцца толькі эканамічныя, а ім адбыцца не дасць Крэмль. Расейцы скупяць тут усё. Адзін толькі «Белкалій» можна прапіваць і праядаць гады два.

Калі ўсё ўспрымаць комплексна, становіцца страшна...

***— Можа, нешта зменіцца на прэзідэнцкіх выбарах 2015-га года?***

— Не думаю. Лукашэнка сыдзе не праз выбары. Да і не ў канкрэтнай асобе тут справа. Створана цэлая Сістэма. Ім ёсць што страчваць. І размова не толькі пра катэджы ў Драздах...

# НЕЧАКАНЫ КРОК



**Даведка:** Андрэй Дзмітрыеў нарадзіўся 12-га траўня 1981-га года ў Мінску. Вучыўся ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце на факультэце філасофіі. У 2000-2001-ым гг. служыў у войску. З 2001-га года да 2011-га года — сябра АГП.
У 2005-2009-ым гг. меў свой бізнес, з'яўляўся дырэктарам кансалтынгавай кампаніі. З 2010-га года — намеснік кіраўніка грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду». Падчас выбараў-2010 кіраваў штабам кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Затрыманы ў ноч на 20-е снежня пасля акцыі пратэсту ў цэнтры Мінска, змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачваннне прад'яўлена па чч. 1 і 2 арт. 293 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 3-га студзеня 2011-га года адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. 30-га сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). 20-га траўня 2011-га года асуджаны да 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады.

**Шчыра кажучы, пасля таго як Андрэй Дзмітрыеў агучыў па тэлебачанні падрыхтаваны беларускімі спецслужбамі тэкст, я думаў, што на яго палітычнай кар'еры можна ставіць «крыж». Памыліўся. Андрэй знайшоў у сябе мужнасць не толькі на судзе папрасіць прабачэнне ў паплечнікаў, але і працягнуць даволі актыўную палітычную дзейнасць.**

**Такое сустракаецца вельмі рэдка.**

## Фінальны пралог

Адразу прашу не шукаць у гэтых словах нешта парадаксальнае, бо па сутнасці з парадоксаў і складаецца нашае жыццё. А «пачаць з канца» вырашыў не толькі для парушэння нейкіх канонаў. Проста я ўпэўнены, што ў некаторых выпадках клічнікі трэба ставіць не толькі ў канцы сказа, але і ў яго пачатку...

***— Канешне, калі прымаў рашэнне выступіць перад тэлекамерамі, цалкам разумеў, якімі будуць наступствы...***

***— Мабыць, гэта стала вынікам моцнага ціску?***

— Безумоўна. У тым ліку і фізічнага, але справа тут не толькі ва мне асабіста. Пад пагрозай знаходзілася мая сям'я.

Мала, хто ведае, што мая будучая жонка таксама была арыштавана КДБ і правяла там цэлы дзень. Але гэта толькі «штрых». Сёння я хачу распавесці, чаму раней публічна не выступаў з тлумачэннямі таго, што адбылося.

Якімі б ні былі прычыны майго ўчынку, гэта МОЙ учынак. І я буду несці за яго адказнасць. У тых абставінах я палічыў яго правільным. Няправільным з пункту гледжання ўсяго жыцця, але тады іншага выйсця не бачыў. Я добра разумеў, што мне за яго прыйдзецца адказваць, расплочвацца.

Лічу слабымі тых людзей, якія спрабуюць знайсці для сабе нейкае апраўданне. Маўляў, гэта адбылося па адной прычыне, а тое — па іншай. Я прыняў СВАЁ рашэнне. Я не стаў ад гэтага горшым чалавекам. Як мне тады здавалася, тое, што тады зрабіў, я ПАВІНЕН быў зрабіць.

Добра разумеў, што, калі «выйду», што называецца, «адграбу» за гэта па поўнай. Аднак, калі адрынуць усе эмоцыі, бачна, што я нічога такога там не сказаў. Больш за тое, калі ішла падрыхтоўка да суда, я асабіста займаўся падборам сведак з боку абароны, каб кожнае маё слова, сказанае на камеру,

кожны эпізод былі абвергнутыя сведкамі, якія выступалі з нашага боку.

Лічу гэта вялікім поспехам, бо зразумела, што рана ці позна гэтыя справы будуць пераглядацца ўжо нармальным судом. Сыходзячы з матэрыялаў, якія мы змаглі сабраць, і з паказанняў тых сведак, якіх я асабіста ўгаварыў выступіць (многія баяліся прыйсці на суд), абвергнута ўсё, што было сказана пад прымусам. Тое, што тады прагучала, нікому не пашкодзіла і не было накіравана ні на каго асабіста. Па сутнасці, гэта быў паклёп на сябе самога.

Наконт прабачэнняў у судзе.

Лічу, што проста ПАВІНЕН быў так зрабіць. Гэта абавязак перад камандай, перад людзьмі, якія нас падтрымлівалі. Разумеў і разумею іх эмацыйны стан.

Іншая справа, што сёння той выступ для многіх не больш, чым нагода яшчэ раз штурхнуць і асабіста мяне, і арганізацыю, у якой працую. І ўжо няважна, што і ў якіх абставінах тады прагучала.

Надзвычай спакойна да гэтага стаўлюся. Калі на мяне намаўляюць, значыць, іду правільным шляхам і раблю тое, што трэба.

Адносна таго, чаму не сышоў з палітыкі. Адказ просты: я веру ў тое, што раблю. Канешне, часам слухаць папрокі ў свой бок даволі балюча. Асабліва, калі ведаеш некаторыя рэчы... Але, калі ты не ўмееш «трымаць» такі «ўдар», то відавочна займаешся нечым не тым...

Палітыку быць нелюбімым наканавана лёсам. Мы бачым, што адбываецца з палітыкамі, якія гэтага не хочуць зразумець і чапляюцца нават за ілюзію народнай любові.

Нармальны дэмакратычны палітык добра ра-



*Любімая кулінарыя.*

зумее, што ніколі не будзе любімым усёй нацыяй. Заўсёды будуць тыя, хто лічыць, што «ён усё сапсаваў». Галоўнае, каб твае выбаршчыкі бачылі паляпшэнне свайго жыцця. Усё астатняе, як кажуць, «мы пераЖЫВЕМ...»

Для мяне галоўнае, што вельмі моцна падтрымала сям'я, што я ніколі не чуў ніводнага папроку ад людзей, якіх паважаю. Канешне, думкі былі розныя, што і як рабіць надалей, і ідэя проста сысці таксама прыходзіла ў галаву. Але Уладзімір Някляеў і каманда проста сказалі: «Нават і не думай, трэба працягваць працаваць дзеля нашай мэты, ісці далей».

Даволі часта чую, што ён (Някляеў) вельмі добры, а я вельмі кепскі. Дрэнны «падзел», бо трэба разумець, што, калі б не падтрымка Някляева і ўсёй каманды, Дзмітрыева ў «Гавары праўду» ужо не было б.

У мяне сяброўскія адносіны са многімі былымі палітвязнямі, напрыклад, з Ірай Халіп. Для чалавека разумнага, чалавека, які думае, гэта гаворыць шмат аб чым...

***— Атрымліваецца, што гаварыць пра тое, што Вас «зламалі», не выпадае?***

— Ні ў якім разе.

Калі чалавек гаворыць на камеру: «Мяне білі, прэсавалі, і таму я так зрабіў», значыць, яго «зламалі», таму што ён не можа несці адказнасць за тое, што зрабіў. А калі ты разумееш, якія будуць наступствы ад зробленага, усё пераЖЫЎ і можаш ісці далей, бо ведаеш пра сваю невінаватасць, — цябе не зламалі.

Я сёння захапляюся Зміцерам Дашкевічам, Міколам Статкевічам, Алесем Бяляцкім, якія знаходзяцца за кратамі і не ідуць ні на якія кампрамісы. Гэтыя людзі могуць прыняць ТАКОЕ рашэнне.

Я абараніў блізкіх, і гэта не зламала мяне, а зрабіла больш моцным, і мне не трэба ні перад кім апраўдвацца.

## Першыя крокі

Вярнуцца да іх трэба, на мой погляд, перш за ўсё для таго, каб лепш зразумець гэтага чалавека. Убачыць, што традыцыйныя для беларускай апазіцыі ярлыкі час ад часу бываюць не самымі разумнымі ў гэтым жыцці.

Для Андрэя Дзмітрыева яно пачалося 12-га траўня 1981-га года ў Мінску, бо сюды вайсковы лёс прывёў яго бацьку Уладзіміра Віктаравіча і маці Таццяну Аляксандраўну. Некалі той стаў ваенным перакладчыкам і даслужыўся да палкоўніка.

Сумна, 10 гадоў таму яго не стала, але я хачу нагадаць пра іншае дзесяцігоддзе Уладзіміра Віктаравіча — школьнае. З першага па дзясяты клас ён правучыўся разам з будучай жонкай Таццянай. І нават сядзеў з ёй за адной партай.

Таццяна Аляксандраўна скочыла Разанскі педагагічны ўніверсітэт і ўсё сваё далейшае жыццё звязала з «свежавыпечаным» ваенным перакладчыкам.

З моманту іх вяселля да дня народзінаў будучага беларускага палітыка прайшло таксама 10 год. Аднак аўтар узгадаў гэты нюанс зусім не для таго, каб выклікаць цікавасць нумеролагаў. На мой погляд, так і павінна быць. Так бывае звычайна ў краінах, якія ніколі не ўваходзілі ў СССР. Спачатку — «стаць на ногі», потым — нарадзіць дзіця.

У Мінску Андрэй пражыў толькі першыя чатыры гады свайго жыцця, а потым бацьку накіравалі ў прэстыжную Заходнюю Групу савецкіх войскаў у Германіі. І вярнуліся Дзмітрыевы ў беларускую сталіцу толькі ў 1991-ым годзе, калі Андрэю было 10 гадоў. Далей была 39-я сярэдняя школа, дзе Дзмітрыеў атрымаў базавы атэстат.

Вучыўся ён добра, але, як і многія, не адрозніваўся асаблівай уседлівасцю. Напэўна, галоўную ролю ў даволі высокім узроўні асабістай адукаванасці адыграла тое, што мы называем «хатняй адукацыяй». У яго сям'і (з пакон вякоў у прамым сэнсе гэтага слова) добра ведалі, як і што трэба рабіць.



*Падчас дзяцінства.*

Напрыклад, калі з'явіліся бабінныя магнітафоны, Андрэю яго купілі адразу ж. Усе навокал слухалі вельмі папулярнага тады Міхаіла Баярскага, а бацькі Дзмітрыева набылі ... калекцыю рускай класічнай музыкі.

Дарэчы, Андрэй Дзмітрыеў не быў такім тыповым «батанікам». З пяці гадоў ён пачаў займацца каратэ, і працягвалася гэта да 18-і гадоў, калі стала зразумела, што кар'ера

спартсмена не адбудзецца. Калі цікава, то ён займаўся кіокушынкай каратэ. Гэта самы жорсткі від.



*Любімая маці.*

Як сын вайскоўца, Андрэй меў магчымасць не вывучаць беларускую мову, але (мабыць, пераходны ўзрост) з 9-га класа пачаў рабіць гэта прынцыпова. У якасці пратэсту. Больш за тое, спрачаўся на гэты конт з бацькамі...

Таму цалкам зразумела, што пасля 9-га класа хлопец не толькі абраў прэстыжны (бацькі спынілі свой выбар на юрыдычным каледжы) Ліцэй БДУ, але і вырашыў здаваць там іспыты на беларускай мове. У тым ліку і дыктоўку.

Вядома, за адзін год вельмі цяжка вывучыць мову дасканала (хаця Дзмітрыеў хутка стаў адным з лепшых у класе па беларускай гісторыі і літаратуры), таму няма нічога дзіўнага ў тым, што на беларускай дыктоўцы ён атрымаў самы нізкі бал. Пры гэтым па дзвюх гісторыях (сусветная і беларуская) атрымаў на іспытах «выдатна».



*Любімы бацька.*

Словам, у ліцэй Андрэй Дмітрыеў не трапіў, а пайшоў вучыцца ў яго філіял, які існаваў у выглядзе спецыяльных класаў на базе СШ №125.

Калі Андрэю споўнілася 16 гадоў, бацькі вырашылі з'ехаць у Расію.

Будзем шчырымі, этнічнаму рускаму ў той час у беларускім войску «свяціла» няшмат. Шушкевіча Дзмітрыеў-старэйшы, мякка кажучы, не любіў, але Лукашэнку любіў яшчэ менш. Таму, як толькі з'явілася магчымасць пераводу ў Расію, ахвотна ёй скарыстаўся.

Наперакор гэтаму выбару сын вырашыў застацца ў Мінску. Можна толькі ўявіць, якімі гарачымі былі спрэчкі на гэ-

ты конт, бо ў Маскве «свяціла» нешта накшталт «міжнародных адносін», аднак Андрэя не пераканалі, і з гэтага моманту ён стаў жыць самастойна. Настолькі самастойна, што ўвесь апошні школьны год пражыў у сяброў.

Потым была вучоба на філасофскім факультэце ЕГУ, сыход у «вольные слушатели» з-за захаплення актыўнай палітыкай і служба ў сталічнай «роце аховы».

## Палітычна-бізнесова-адукацыйны крок

У 1999-ым годзе Віктар Ганчар праводзіў так званыя альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары. Андрэй Дзмітрыеў збіраў подпісы ў падтрымку Чыгіра.

*Каханая.*





*Са старэйшым сынам Данілам.*

Пасля вайсковай службы (2001-ы год) Андрэй ажаніўся ў першы раз. Хутка нарадзіўся сын Даніла, і аб далейшай адукацыі размова ўжо не ішла. Трэба было «карміць сям'ю», і Андрэй заняўся (акрамя апазіцыйнай палітычнай дзейнасці) бізнесам.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў таго года Дзмітрыеў прыйшоў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю (АГП), дзе даволі хутка ўзначаліў раённую арганізацыю (Маскоўскі раён Мінска). Цікава, што, калі ён «прымаў справы», усе «дакументы» складаліся з аднаго аркуша паперы, на якім было толькі тры слупкі: «Агент КДБ», «Не агент КДБ», «Кантактны тэлефон».

На жаль, нешта падобнае назіраецца і зараз. І справа зусім не ў тым, што беларускія спецслужбы не змагаюцца з палітычным іншадумствам. Наадварот. Проста апазіцыянеры часта «дапамагаюць» рабіць змаганне з сабой надзвычай эфектыўным...

Неўзабаве Андрэй стаў намеснікам кіраўніка «маладзёвага крыла» АГП, а потым быў абраны міжнародным сакратаром партыі.

Пагадзіцеся, «кар'ерны рост», якому можна нават зайздросціць.

Пазней з гэтай пасады Андрэя Дзмітрыева здымуць (за ўдзел у кампаніі «Гавары праўду»), а ў 2012-ым годзе і ўвогуле выключаць з АГП.



*З малодшым сынам Уладзімірам.*



*Хрышчэнне малодшага сына.*

Менавіта з «партыйнай» сферай на гэты раз звязана і сфера асабістая. Аднойчы, падымаючыся ў партыйны офіс, Андрэй у ліфце пазнаёміўся са сваёй другой жонкай.

У 2011-ым годзе яны ажэняцца і Таццяна Аляксандраўна Дзмітрыева (поўная цёзка маці Андрэя) народзіць сына Уладзіміра. Мабыць, варта сказаць, што калі малады палітык сустрэў будучую жонку , то быў ужо разведзены (развёўся ў 2006-ым годзе — **заўвага аўтара**).

Гэта , каб не выглядала, што Таццяна з сям'і яго банальна звяла...

...Паралельна ішлі заняткі бізнесам, які да 2009-га года знаходзіўся ў Беларусі. Быў ён звязаны з вырабам рэкламы і кансалцінгам (стратэгічным і для гандлёвых сетак). У змененым выглядзе існуе і па гэты дзень. Толькі ўзначальваецца, а дакладней належыць зусім іншаму чалавеку.

Менавіта бізнес прывучыў Дзмітрыева ставіцца да нейкіх непаспяховых рэчаў вельмі спакойна і пастаянна развівацца, рушыць наперад, акрамя гэтага вучыцца ў іншых, узбагачаць сябе іх досведам і ідэямі. Бізнес вучыць, што няма людзей з няправільнымі поглядамі, а ёсць з іншымі. Гэтым ён кардынальна адрозніваецца ад палітыкі. Гэта ж стала падмуркам для стварэння ў 2008-ым годзе Школы маладых менеджэраў публічнага адміністравання (дзяржаўнага кіравання).



*Падрыхтоўка да дэбатаў.*

З аднаго боку, Дзмітрыеў бачыў, што вакол ёсць значная частка сучаснай (з ангельскай мовай), адэкватнай моладзі, якая пры гэтым ніякім чынам не хоча прыняць тое, што прапануюць маладзёвыя апазіцыйныя структуры.

З іншага, было разуменне таго, што без разумнай сістэмы дзяржаўнага кіравання, якая сёння нагадвае кепскі купал (абавязкова рухне і прынясе шмат бед людзям), рэформы немагчымы па вызначэнню.

Да таго, чым Андрэй Дзмітрыеў займаецца зараз, у яго жыцці было яшчэ некалькі ВЕЛЬМІ значных падзей.

Адна з іх — знаёмства з Аляксандрам Фядутам.

Канешне, завочна Андрэй Уладзіміравіч ведаў Аляксандра Іосіфавіча і раней. З захапленнем чытаў яго «Политическую биографию Лукашенко» і марыў пра асабістае знаёмства. Хутка такая магчымасць з'явілася. У папулярным тады (2006-ы год) «Жывым журнале» Фядута абвясціў конкурс на веданне паэзіі і гісторыі, а ў якасці прыза прапанаваў абед з сабой і сваю кнігу ў падарунак. Андрэй Дзмітрыеў перамог.

## Крок у «Гавары праўду»

Але каталізатарам ўзнікнення новай апазіцыйнай структуры стала зусім не гэта. У пачатку 2009-га года на кватэры вядомага палітолага Святланы Навумавай (вечны ёй пакой!) сабралася некалькі вядомых у краіне людзей. Кожны ў сваёй сферы быў прафесіяналам, ведаў, пра што гаворыць, і прагнуў пераменаў.

Так была створана грамадзянская кампанія «Гавары праўду», якая стала спробай выйсці на іншага (не толькі прыхільніка апазіцыі) выбар-

шчыка. Хутка ідэя матэрыялізавалася і атрымала матэрыяльную падтрымку, што па гэты дзень не дае спакою многім апазіцыянерам.

З гэтага моманту я зноў хачу працягнуць свой нарыс словамі самога Андрэя Дзмітрыева.

***— Памятаю, што ў незалежнай прэсе сустрэлі з'яўленне «Гавары праўду», мякка кажучы, насцярожана...***

— Вось-вось — мякка кажучы... Але размова не пра гэта...

Сапраўды, памылак было зроблена нямала. Не магу сказаць, што ўсё было гладка і ўсё мы зрабілі правільна. Але частка любога развіцця ў тым, каб выпраўляць памылкі і імкнуцца іх больш не рабіць.

Наша галоўная мэта — дастукацца да выбаршчыкаў. Пабудаваць давер з імі. Відавочна, што сёння няма магчымасці прымаць удзел у працы дзяржаўных структур, але гэта не падстава «апускаць рукі». Трэба ладзіць тое, на што ёсць магчымасці. «Гавары праўду» па ўсёй краіне адкрыла цэлую сетку «Грамадскіх прыёмных», якія робяць працу афіцыйных народных выбраннікаў.

Калі мы прагнем пераменаў, неабходна, каб з намі была большасць грамадства. Мы павінны з імі размаўляць наўпрост, а для гэтага трэба мець іх давер. А каб яго атрымаць, трэба, у першую чаргу, не «сабачыцца» паміж сабой.



*З любімай коткай Іштар.*

Калі быць шчырым, «Плошча-2010» не атрымалася належным чынам з-за татальнай непадрыхтаванасці выбарчых каманд кандыдатаў у прэзідэнты і іх лідараў. Напэўна, нехта спадзяваўся, што пройдзе «на авось», таму што так было ў 2001-ым годзе. І ў 2006-ым. А вось у 2010-ым «авось» не прайшоў.

На маю сённяшнюю думку, калі «адкруціць» час назад, трэба было выкарыстаць досвед Троцкага, які за некалькі

дзён да Кастрычніцкага перавароту надрукаваў увесь яго план. Так больш сумленна. Людзі павінны ведаць, які ёсць план.

Калі сёння і зваць людзей на нейкі супрацiў (разумеючы яго сутнасць і наступствы), мы павінны быць з людзьмі на 100% шчырымі. У іншых выпадках — гэта безадказна.

***— Калі Някляеў прапанаваў узначаліць яго перадвыбарчы штаб, напэўна, прапанова была і ганаровая, але і «стрёмная»?***

— Канешне. Я вельмі хваляваўся. Больш за тое, калі параўнаць свой сённяшні ўзровень, досвед з тым, што было тады, я б на месцы Някляева такой прапановы Дзмітрыеву не зрабіў.

Гэта быў велізарны аванс. ВЕЛЬМІ ўдзячны Уладзіміру Пракопавічу, таму што «Гавары праўду» адзіная за апошнія 12 гадоў кампанія, якая была створана падчас прэзідэнцкіх выбараў і не знікла пасля іх заканчэння. Яна засталася ўплывовай сілай.

Калі ў 2011-ым годзе мы пачалі па «цаглінцы» аднаўляць разбураную «крэпасць», у нас ужо быў досвед такога будаўніцтва. Добра памятаю, як пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010-га года многія паспяшаліся сказаць, што «Гавары праўду» больш няма і пра нас можна забыць. У рэчаіснасці адбылося наадварот. Штодзённай працай, воляй і адзінствам каманды, верай у нашу мэту — для дэмакратычных пераменаў у Беларусі было зроблена шмат важнага.

Мы адрадзіліся.

# ЗМЕНЫ І ZMENA



**Напамін:** Павел Вінаградаў нарадзіўся 24-га красавіка 1988-га года ў Мінску. Скончыў прафесійна-тэхнічны ліцэй №4 па спецыяльнасці «цырульнік». Некаторы час вучыўся на гісторыка-геаграфічным факультэце Мінскага педагагічнага ўніверсітэта. З'яўляўся сябрам моладзевай арганізацыі «Зубр», да 2010-га года — актывіст грамадзянскай ініцыятывы «Еўрапейская Беларусь», з 2010-га года далучыўся да кампаніі «Гавары праўду». Затрымліваўся за ўдзел у мірных акцыях пратэсту. У 2008-ым годзе быў асуджаны на 2 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Пакаранне вынесена за ўдзел у мітынгу пратэсту прадпрымальнікаў, які адбыўся ў Мінску 10-га студзеня 2008-га года.
На выбарах-2010 Павел Вінаградаў быў адным з актыўных сяброў ініцыятыўнай групы і передвыбарчага штабу кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Арыштаваны ў ноч на 5 студзеня 2011-га года.
5-га траўня 2011-га года асуджаны на 4 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.
Вызвалены 14-га верасня 2011-га года згодна з указам прэзідэнта аб памілаванні.
10-га красавіка 2012-га суд Маскоўскага раёна Мінска вынес рашэнне аб прэвентыўным наглядзе тэрмінам на два гады.

**Хай даруюць так званыя «тытульныя» апазіцыянеры, але з моладдзю накшталт Паўла Вінаградава і яго жонкі Святланы мне значна камфортней. Перш за ўсё таму, што яны шчыра жадаюць не толькі ўдзельнічаць у баталіях, але і перамагаць.**

## Замест уступу

«Я мінчанін. Нарадзіўся 24-га красавіка 1988-га года. Не магу сказаць, што сям'я была толькі інтэлігентнай альбо толькі рабочай. Былі ў ёй прадстаўнікі розных сфер чалавечай дзейнасці. І адны, і другія.

Маці завуць Аляксандрай Канстанцінаўнай Няфёдавай. Зараз яна жыве і працуе ў Італіі. Займаецца пытаннямі жаночай прыгажосці. У іх у гэтай галіне могуць працаваць толькі дыпламаваныя спецыялісты, таму да яе так і звяртаюцца «Дактарэса Аляксандра!» Яна працуе ўрачом-касметолагам. Коле жанчынам ботакс, робіць розныя маскі для твару і г.д.

Пра бацьку магу сказаць толькі тое, што яго завуць Юрый Аляксандравіч Вінаградаў і жыве ён ў Беразіно Мінскай вобласці.



*Доўгачаканая сустрэча.*

Сярэдняя школа нумар 154-ы месціцца ў сталічным Паўднёвым Захадзе і адрозніваецца ад іншых «англійскім ухілам». Як зараз гэта разумею, у школе трэба вучыць мінімум тры прадметы: гісторыю, фізкультуру і англійскую мову.

Фізічная сіла ў экстрэмальных сітуацыях (я ў іх трапляю даволі часта) не толькі надае ўпэўненасці ў сваіх сілах, але і дапамагае «выкруціцца». Без ведання англійскай мовы немагчымыя нармальныя зносіны з іншаземцамі, а гісторыя дае магчымасць мысліць глабальна. Вельмі падабаюцца людзі, якія добра ведаць гісторыю. І не толькі беларускую.

У другім класе агульнаадукацыйнай школы мяне «аддалі» яшчэ і ў школу музычную. Дакладней, на харавое аддзяленне «па класу фартэп'яна». Правучыўся там сем год. Добра спяваў. Час ад часу нават саліраваў.

Акрамя гэтага ў школьных пачатковых класах я займаўся яшчэ і фігурным катаннем. Мякка кажучы, не самы мужчынскі занятак. У астатніх якая-небудзь барацьба, каратэ, футбол, а у мяне музычная школа і фігурнае катанне...

Напэўна, усё вырашыла маці, але нічога сур'ёзнага там так і не атрымалася.

Калі я скончыў дзявяты клас, пайшоў (зараз не разумею навошта) вучыцца ў Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж (нумар чатыры) бытавога абслугоўвання насельніцтва. Засвоіў прафесію цырульніка. Хутчэй за ўсё, маладому хлопцу проста хацелася як мага хутчэй сысці са школы.

Па маёй класіфікацыі каледжы стаяць паміж савецкімі ПТВ і тэхнікумамі. Нешта сярэдняе. Так што я «пэтэушник», бо пакуль маю толькі гэтую спецыяльнасць.

Калі заставаўся яшчэ год вучобы, пачаў пакрыху займацца палітыкай. Стаў сябрам «Зубра». Клеіў налепкі, распаўсюджваў улёткі. У 2006-ым годзе кожны дзень пасля вучобы прыходзіў на Кастрычніцкую плошчу, дзе тады быў намётавы гарадок.

Цяпер разумею, што тады так адбывалася, таму што мне ГЭТА было цікава, а не таму, што я добра разбіраўся ў нейкіх палітычных пытаннях. Канешне, я разумеў, што мы жывем горш за ўсіх суседзяў і хутчэй за ўсё ў гэтым вінавата ўлада.

Прайшоў час, і я скончыў сваё навучанне.

На апошнім курсе адначасова праходзіў практыку ў Дзяржаўным салоне прыгажосці, які знаходзіцца ў нас на Паўднёвым Захадзе побач з «Мак-



*Жонка Святлана.*

дональдсам». У той час зразумеў, што малады спецыяліст майго ўзроўню (4-ты разрад) будзе атрымліваць месячны заробак эквівалентны 85 далярам ЗША. Гэта не проста смешна, а ВЕЛЬМІ смешна... Так смешна, што становіцца сумна...

Большасць цырульнікаў сёння жыве зусім не ад таго, што яны зарабляюць афіцыйна. Праца ў цырульнях дае магчымасць набыць сваю «кліентуру».

«Адпрацоўваць» пасля каледжа неабходныя два гады я банальна не стаў. Усім сказаў, што «еду за мяжу», і дыплом пакуль у мяне не забралі.

Памятаю, тады самай значнай падзеяй у палітычным жыцці краіны стаў мітынг прадпрымальнікаў. Калі не памыляюся, студзень 2008-га года. Пасля яго (як і многіх іншых) мяне пасадзілі на «15 сутак», але ўсё адміністрацыйным арыштам не абмежавалася, бо ўладам гэтага здалося мала.

Яны выбралі 14 палітычных актывістаў, якія вызначыліся больш за іншых, і сталі судзіць. Мне «далі» два гады без накіравання ў месцы пазбаўлення волі.

Калі наступае такое пакаранне, чалавек павінен або вучыцца, або працаваць. Так атрымалася, што ў гэты ж час са сваім стрыечным братам Зміцерам Няфёдавым (зараз палітуцякач, які жыве ў Чэхіі; «У кантакце» быў адным з каардынатараў так званых «маўклівых» акцый) вырашылі праверыць свае веды і прыняць удзел у цэнтралізаваным тэставанні.

Урэшце і я, і ён паступілі на бюджэтную форму навучання Дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка на «гісторыю і геаграфію». Як толькі я прыйшоў у дэканат за адпаведнай даведкай, там сталі цікавіцца, навошта яна мне спатрэбілася. Я шчыра ўсё распавёў, і адразу пачаўся незвычайны «кіпіш». На наступны дзень сказалі, што я больш там вучыцца не буду. Студэнтам давялося пабыць толькі два тыдні...

Канец вучобы аўтаматычна азначаў пошук працы, бо такі быў прысуд. Інакш бы мяне банальна «закрылі». У пошуках працы сутыкнуўся з тым, што, як толькі там даведваюцца пра прысуд і «палітычны» артыкул (шчыра пісаў пра гэта ў анкеце), паўсюды гучыць адказ. Маўляў, ім непатрэбны праблемы...

Дайшло да таго, што мяне нават не ўзялі рознарабочым на дрэваапрацоўчую фабрыку ў Шабанах...

Тады дапамог (вялікі яму за гэта дзякуй) бацька адной з нашых актывістак. Ён даведаўся пра маю сітуацыю і ўладкаваў да сябе на працу (без адпаведнага досведу і ведаў) слесарам-сваршчыкам. За месяц мне прыйшлося ўсяму навучыцца самому.

Шчыра кажучы, гэтая праца вельмі моцна не падабалася. Першае — цяжка ў фізічным плане. Другое — няма прастору для творчасці. Трэцяе — даволі шкодная для здароўя вытворчасць. Плюс — далёка не самы лепшы заробак.

Прапрацаваў там дзевяць месяцаў, роўна да таго моманту, калі мне « скасцілі» па амністыі адзін год і тэрмін пакарання скончыўся. Гэта быў 2009-ы.

У пачатку наступнага года я сышоў з «Еўрапейскай Беларусі». Трэба было адпачыць і «агледзецца» перад прэзідэнцкімі выбарамі.

Летам 2010-га далучыўся да «Гавары праўду». Потым былі падзеі 19-га снежня, разбітае шкло ЦВК, прысуд, «Воўчыя норы» і (праз восем месяцаў і дзесяць дзён) вызваленне.»



*Свабода.*

## Крэатыўны напрамак

Другая частка артыкула пачынаецца з моманту вызвалення і будзе ў выглядзе размовы са Святланай і Паўлам Вінаградавымі. Нагадаю толькі, што пабраліся яны шлюбам 22-га ліпеня 2011-га года ў Івацэвічскай папраўчай калоніі № 22, і сталі першай «палітычна-турэмнай» парай.

***— Што Вы зрабілі першым на волі?***

— На наступны дзень паля вызвалення разам са Светай прышлі ў офіс «Гавары праўду» высвятляць, што трэба рабіць.

***— І што пачалі рабіць?***

— Спачатку я каардынаваў працу «Гавары праўду» ў Мінску. Потым (праз чатыры з паловай месяцы) мы з сябрамі вырашылі стварыць новую арганізацыю. Так узнікла «Zmena». Стартавалі 10-га лютага 2012-га года акцыяй з цацкамі. Было цікава. Акцыя атрымала нечаканы працяг «тэмы»...

***— Памятаю, што сярод іх былі і плюшавыя мядзведзі... Вы не мелі да шведскай акцыі якога-небудзь дачынення?***

— Абсалютна. Пра падобнае ў мяне цяпер пытаюцца многія. На жаль, не. І ў КДБ аб гэтым «в курсе» лепш за ўсіх. У гэты момант я быў на чарговых «сутках». І вельмі гэтаму рады, інакш бы, як Сурапін, трапіў у «амерыканку».

КДБ пільна за мной сочыць, таму там павінны дакладна ведаць, што са шведамі я першы раз размаўляў толькі па выхадзе на свабоду з «сутак».

***— Чаму Вы з аднадумцамі вырашылі стварыць новую арганізацыю, няўжо мала тых, што ёсць?***

— Згодны — нямала. Толькі эфект ад іх працы, мякка кажучы, невялікі. Надакучылі людзям традыцыйныя ўлёткі і «расцяжкі». Вось мы і вырашылі зрабіць разнастайным апазіцыйнае поле. Усё там застаялася, усё банальна-знаёмае і мала каго цікавіць. Імкнемся зладзіць нешта крэатыўнае, адыйсці ад шаблонаў. Думаю, у нас гэта атрымліваецца.

За першую ж акцыю першы раз і пасадзілі. Толькі незразумела, чаму яны так доўга чакалі: з моманту перфоманса да арышту прайшло 11 дзён. Не ведаю, з чым гэта звязана...




*Пратэст лялек.*

З сябрам Аляксандрам Арцыбашавым «адсядзелі» па 17 сутак кожны.

Потым мне «намалявалі» тры адміністрацыйных пратаколы за тое, што «лаяўся матам», і прафілактычны нагляд (цягнецца на працягу года пасля вызвалення з «Воўчых нораў») «ператварыўся» у прэвентыўны. Тэрмін павольшыўся да двух гадоў. Я цяпер з Мінску магу выехаць толькі па адпаведнаму дазволу, не маю права хадзіць у бары, як і на іншыя мерапрыемствы, дзе распаўсюджваюць алкаголь. На кірмашы, напрыклад.

І самае «напружанае». Як у дзяцінстве, калі маці крычала: «Паша, да дому!», я павінен там абавязкова быць да восьмай гадзіны вечара. Света, канешне, цалкам не паўтарае маміных словаў, але таксама клапоціцца пра тое, каб я своечасова быў дома.

***— А ў Светы ў жыцці нічога не змянілася. Памятаю, раней Вы працавалі ў нейкай замежнай кампаніі?***

— Як і зараз. Калегаў, канешне, хвалюе тое, што адбываецца ў беларускай палітыцы, але для іх галоўнае — якасць маёй працы. Безумоўна, там цікавяцца настроем. Асабліва, калі ў інтэрнэце пішуць пра чарговую Пашыну «пасадку», але ніякіх знаёмых па дзяржаўных беларускіх прадпрыемствах «оргвыводов» ніколі не бывае. Наадварот, там заўсёды з гэтай нагоды знаходзяць магчымасць выказаць спачуванні.

Словам, ніякіх праблем у мяне пакуль не было.

***— Не баіцеся, што муж зноў апынецца за кратамі калоніі?***

— Канешне, баюся.

Не магу сказаць, што да гэтага ўжо прызвычаілася. Кожная яго пасадка — для мяне чарговы стрэс. Кожны раз усё перажываеш яшчэ раз, па-новаму. Спадзяюся, што нічога падобнага ў будучым не будзе.

***— На гэтай глебе ў Вашай сям'і, Павел, ніколі не было канфліктаў?***

— Не. Света і сама некалі (у 2008-ым годзе — **заўвага аўтара**) «лаялася матам» і атрымала за гэта 15 сутак. Так што яна добра ведае, як такія рэчы робяцца ў нашай краіне.

***— Ці можна сказаць, Павел, што «Zmena» з'яўляецца моладзевым «крылом» «Гавары праўду»?***

— Наша арганізацыя ўвогуле не з'яўляецца моладзевай, бо моладзі там толькі частка.

***— А Вы самі не баіцеся новага «доўгатэрміновага» прысуду? Навошта Вам «дражніць гусей»?***

— Адносна нядаўна я прачытаў, што Маўглі быў задаволены калі адрываў сабаку хвост і бег з ім перад зграяй. Ёсць і такое, што я не люблю, калі мяне трымаюць за ідыёта. Улады менавіта так зараз і робяць. Я не лічу гэта нармальным і маю цвёрды намер з імі змагацца.

Падобна на тое, што яны робяць усё магчымае, каб я адсюль з'ехаў, але прынцыпова гэтага не зраблю. Канешне, мне не хочацца вяртацца ў калонію, аднак гэта не падстава нічога не рабіць.

***— Калі Вас «саджалі», было адно грамадства, выходзілі на волю — стала іншым. Заўважылі змены?***

— Змянілася вельмі шмат. У паводзінах улады ўсё больш і больш неадэкватнасці. Добра памятаю, як у 2010-ым годзе падчас кароткай «лібералізацыі» можна было практычна ўсё і нічога за гэта не было.

Бачу тое, што адбываецца зараз. Удзел у любой акцыі супраціву аўтаматычна азначае арышт і «суткі».

На тле таго, што беларускі рэжым з кожным днём становіцца больш жорсткім, у людзей з'явілася больш страху. Яны значна больш баязлівыя, чым былі раней. У апазіцыі заўважна зменшыўся людскі рэсурс.

У той жа час неангажаваныя палітыкай людзі бачаць, што адбываецца навокал і становяцца ўсё больш і больш злоснымі. Любому народу не вельмі цікавыя абстрактныя правы чалавека. Людзей больш цікавяць асабістыя кішэні і страўнікі. Міфы пра «стабільнасць» ужо нічога акрамя раздражнення не выклікаюць.



*Зноў суд.*

Я ўсё часцей і часцей бачу свежанадрукаванае «бабло». Гэта ненармальна і кончыцца вельмі сумна.

## Замест пасляслоўя

Нагадаю, што вызваліўся Павел Вінаградаў у пачатку восені 2011-га года, а ўжо бліжэй да Новага года яго настойліва пачалі клікаць у міліцыю. 30-га снежня 2011-га года ён туды (на прафілактычную размову) пайшоў. Доўга чакаў перад кабінетам, калі заўважыў, як у РУУС прыйшлі два амапаўцы. Стала зразумела, што гэта «за ім». Хутка напісалі пратакол пра «лаянку» на парозе РУУС і «далі» за гэта сем сутак.

За год, які прайшоў з таго моманту, Павел Вінаградаў «прасядзеў» больш за два месяцы (61 суткі) у вядомым прыёмніку-размеркавальніку на Акрэсціна. За гэты ж час было складзена аж 8 пратаколаў за нібыта адміністрацыйныя парушэнні.

І пастаянна расце не толькі іх колькасць. Расце ўпэўненасць у тым, што з дапамогай крэатыўнага смеху «Zmenы» ў рэшце рэшт можна дабіцца і канкрэтных зменаў у беларускім грамадстве.

# ТЭРЫТОРЫЯ СВАБОДЫ



**Напамін:** Анатоль Лябедзька нарадзіўся 27-га чэрвеня 1961-га года ў вёсцы Трылес Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. У 1985-ым годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут (факультэт гісторыі і французскай мовы), у 1993-ім — юрыдычны факультэт БДУ. У 1990-ым годзе абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання. У 1995-ым годзе пераабраны ў ВС 13-га склікання. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі з 2000-га года. Падчас выбараў 2010-га года працаваў у камандзе кандыдата ад АГП — свайго намесніка Яраслава Раманчука.
20-га снежня 2010-га года затрыманы. Змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па чч. 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 6-га красавіка 2011-га года вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.
23-га жніўня 2011-га года крымінальная справа супраць Анатоля Лябедзькі спынена ў сувязі з адсутнасцю ў ягоных дзеяннях складу злачынства.

**Анатоль Лябедзька з тых палітыкаў, якія ўмеюць не толькі прыгожа прамаўляць, але і пісаць. Настолькі добра, што я вырашыў амаль без зменаў надрукаваць тое, што ён напісаў у якасці адказу на мае пытанні.**

## Свята, якога няма ў іншых

6-га красавіка я адсвяткаваў Дзень Волі! Не спрабуйце шукаць гэтае свята ў календары. Яго там няма. Але яно ёсць у мяне. Яно ёсць у маёй сям'і. Гэта дзень майго вызвалення з СІЗА КДБ, сумна вядомай «амерыканкі».

Шмат што крыху забудзецца, сатрэцца з памяці. Але той дажджлівы вясновы вечар я буду памятаць усё астатняе жыццё. У дэталях. У падрабязнасцях. Белы мікрааўтобус. Разводы дажджу на шкле. Цмянае, падслепаватае святло вулічных ліхтароў. Час — за 21.00. Абвешаны кешарамі (зэкаўскія кляцістыя торбы), у суправаджэнні трох кадэбістаў падымаюся на ліфце дома, што па вуліцы Лесі Украінкі. Сэрца бухае, як насценны гадзіннік. Дрыжачай рукой цісну на чорную кнопку званка. З-за дзвярэй жаночы голас, такі родны і доўгачаканы: «Хто там?» У вачах дажджавыя аблокі. Хацеў вымавіць бадзёрае і вясёлае — «Я!», але з рота вываліўся нейкі прыглушаны, спрасаваны камяк гуку. Праз імгненне я быў на верхнім паверсе чалавечага шчасця. Вышэй толькі Усявышні.



*З жонкай Святланай.*

Рэшту вечара ў абдымках. Жонкі Святланы, сына Арцёма, ката Цімкі. І гэта доўгачаканае — «Ало, мама. Вітаю, гэта я». І заплаканая тэлефонная трубка. Шчасце таксама ўмее галасіць.

Што яшчэ з успамінаў таго вечара пераходзіць у ноч?

Мяне прывозілі дамоў двойчы. Першы раз за пашпартам. Калі знайшлі яго, павезлі назад у Камітэт. Калі за спіной зноў зачынілі-

ся дзверы, пад лыжачкай непрыемна засмактала. Мільганула думка, вось будзе прыкольна, калі зараз зноў убачу знаёмы твар кантралёра са звязкам ключоў ад камеры СІЗА. Такія асцярогі былі зусім небеспадстаўныя. У беларускім КДБ ахвотна спецыялізуюцца на псіхалагічных правакацыях. На гэты раз, аднак, усё абышлося. Аформіўшы канфіскацыю пашпарта, пасля 11 ночы мяне вярнулі ў сям'ю канчаткова.

Яшчэ добры час « адмакаў « у ванне. Мне здавалася, што пахі «амерыканкі» (гэткая сумесь скляпення, сметніка і морга) увайшлі ва ўсе клеткі майго цела. Саскрабаў іх з сябе і злосна, і радасна адначасова. А потым уткнуўся носам і ротам у ручнік і дыхаў, прагна ўцягваючы ў сябе іншыя, ужо крыху забытыя пахі. Інгаляцыя волі. Звычайныя, штодзённыя працэдуры, якіх мы проста не заўважаем у мітусні жыццёвай, пасля «амерыканкі» набывалі зусім іншы сэнс, напаўняліся раней невядомымі адчуваннямі. У жыцці павінен быць кантраст! Без яго спіс стратаў непазбежны. І гэта будзе доўгі спіс.

## Шчаслівы той, хто можа проста глядзець у вочы

Мы далёка не заўсёды задаволеныя сабой. Гэта праўда. Кідаючы погляд у мінулае, мы часта не супраць нешта там падправіць, зрабіць па-іншаму. А нешта і зусім зарэтушаваць. Але ў той момант, калі мая нага ступіла на тэрыторыю свабоды, я падабаўся самому сабе! Я мог глядзець проста ў вочы. Свайму сыну, жонцы, калегам па партыі, першаму сустрэчнаму. Гэта такое шчасце — глядзець людзям у вочы.

Я нікога не падвёў, нікога не падставіў. Не заклаў у ламбард сумленне. Не адрокся ад перакананняў і прынцыпаў. Я выйшаў з турмы, адчуваючы запас трываласці. На колькі б яго хапіла? Не ведаю! Можа, на год. Можа, на пяць. Але я не быў ні дэмаралізаваны, ні надламаны. Мой арганізм, мой досвед, мае жыццёвыя прынцыпы выпрацавалі, як аказалася, эфектыўную сістэму абароны.

Амаль чатыры месяцы. Гэта шмат ці мала? Для чалавечага жыцця, цьфу, зусім нічога. Для знаходжання ў экстрэмальных умовах, умовах, калі ты пастаўлены на мяжу выжывання, гэта дыстанцыя, на якой секунды становяцца гадзінамі, а дні выцягваюцца ў гады.

## З некаторымі ў разведку я ўжо не пайду

Здаецца, на трэці дзень знаходжання ў рэжыме свабоднага распараджэння самім сабой я ініцыяваў стварэнне працоўнай групы па




*Работа.*

распрацоўцы Антыкрызіснай праграмы. Краіна была ў шчыльных абдымках фінансавага і эканамічнага крызісу. Чырвоны дом нават распаўсюдзіў цыркуляр,які забараняў дзяржСМІ і чыноўнікам ужываць слова «крызіс». Я быў шчыра здзіўлены, а дзесці нават кан'юктурна ўзрадаваны, што палітычныя структуры не эксплуатуюць сітуацыю. Было відавочна, што гэта час тых, хто можа сфармуляваць адказ на пытанне: «Што рабіць?»

Цяжкія часы нараджаюць попыт на альтэрнатыву. Прафесар Багданкевіч быў прызваны (на службу Радзіме) у якасці кіраўніка рабочай групы па распрацоўцы праграмы. Я вярнуўся ў звыклае для сябе асяроддзе. Ранні пад'ём. Прабежка (пасля «маятнікавага» хаджэння ў прасторы 2 на 3, бег без сцен, калідораў — гэта нешта!). Сустрэчы, сустрэчы, сустрэчы.

Разам з тым краіна ўжо не была такой, як да снежня 2010-га. Было адчуванне нейкай прыгнечанасці ўперамешку з разгубленасцю. Рэпрэсіўны каток праехаў па краіне і людзях. Як следства дэфармаваныя думкі, учынкі, адносіны. Шмат што рабілася з падвышанай асцярогай, гаварылася з аглядкай па баках. Крызіс эканамічны пагоршыў-

ся крызісам даверу. Я разумеў, што з некаторымі ўжо ніколі не пайду ў разведку.

Пакуль я знаходзіўся ў ізаляцыі, у мяне не дадалося сяброў, але і не зменшылася. Для мяне сяброўства — гэта не тое, што сыходзіць з канвеера. Гэта вельмі індывідуальна і асабіста. Затое невымерна ўзрасла колькасць тых, хто працягнуў мне руку салідарнасці.

Праблемы і непрыемнасці не грукаюць у дзверы перад тым, як увайсці. Яны ўрываюцца ў наша жыццё і часцяком застаюць знянацку. Мой арышт стаў сур'ёзным выпрабаваннем для многіх. Мая каманда не разбеглася. Асабліва добра праявіла сябе жаночая фракцыя. Аксана, Антаніна, Аня, Валянціна. Моцныя, прыгожыя, адказныя.

## Прыйшоў час вяртаць даўгі

Увесь гэты час я імкнуся вярнуць старыя даўгі. Да «амерыканкі» свае выхадныя я аддаваў партыі, Беларусі, будучыні. Цяпер — сучаснасці і сям'і. Правіла і выключэнне памяняліся месцамі. Нават у тым мярзотным мінулым я знаходжу свой пазітыў. Нешта падобнае са



*Адпачынак.*

мной павінна было здарыцца. Я павінен быў уперціся ілбом у метровай таўшчыні сцены «амерыканкі», каб перагледзець, пераасэнсаваць, пераацаніць сваё стаўленне да блізкіх мне людзей. Да апускання ў поўную ізаляцыю спачатку прыйшло прасвятленне, а потым і раскаянне. Я даў сабе слова! Я стрымаў сваё слова! Практычна ўсе выходныя і святы я праводжу з сям'ёй. Я аддаю старыя даўгі. І мне гэта рабіць прыемна.

## Я больш не лётаю ў сне

Мне перасталі сніцца сны. Дакладней, зараз, калі і памятаю, то нейкія ўрыўкі, а часам толькі па халоднаму поту здагадваюся, што мне снілася нешта з таго мінулага.



*Памяць.*

У «амерыканцы» са мной адбывалася нешта незвычайнае. Сны былі ясныя, выразныя, вострасюжэтныя. У колеры. Я лётаў у сне. Гэта былі фантастычныя адчуванні. Нічога падобнага я не адчуваў.

Мая скура пакрывалася «пупырышкамі», калі я ў сантыметрах пралятаў ад высакавольтных ліній. Я фізічна адчуваў, як варушацца на ветры мае валасы. Я рагатаў як вар'ят. Я крычаў людзям, якія, як мурашкі, корпаліся ўнізе.

І што цікавае, некалькі сноў, напрыклад, якія тычацца Міхалевіча і Саннікава, аказаліся прарочымі. Гэта тая сітуацыя, калі «сон у руку».

# Людзі з мінулага

Я сустрэў некалькіх чалавек з таго мінулага. Адзін з іх кантралёр СІЗА КДБ. Даўганогі, чарнявы дзяцюк. Там мы яго звалі «Цюхця». Мы рухаліся сустрэчнымі курсамі па Камсамольскай. Ён наткнуўся на мяне позіркам. Нібы на сценку. І сумеўся. Яго погляд сышоў у бок, і за ім рушыла ўслед неяк раптам абмяклае цела.

Я не адчуў нічога. Ні нянавісці. Ні злосці. Ні агрэсіі.

І яшчэ адна сустрэча. Гэта было ў кавярні на праспекце Незалежнасці. Я літаральна фізічна адчуў, што мяне « свідруюць « позіркам. Павярнуўся і адразу ўбачыў гэтага незнаёмага маладога мужчыну з да болю знаёмымі мне вачыма. Ён тут жа паказаў спіну і моцную патыліцу. Я не памыліўся. Я не мог памыліцца. Гэта вочы з маскі. Той, якая амаль два месяцы была асобай злавеснай «амерыканкі». Той, што білася ў сутаргах злосці. Той, што хрыпела нянавісцю. Той, што атрымлівала асалоду ад страху прыніжаных. Той, што ставіла ахвяр голымі да бетоннай сценкі. Той, што біла чаравікам па шчыкалатках тых, хто стаяў на расцяжцы. Яна не з мінулага, яна ў гэтым часе. І яны сярод нас. Вонкава такія ж, як і ўсе. Пакуль не апрануцца ў маску.




*Арышт.*

Яшчэ адзін знаёмы з «амерыканкі» — Шуневіч. Так, так, ён самы. Цяперашні кіраўнік МУС. У чалавеку, прызначаным на пасаду міністра ўнутраных спраў, я пазнаў таго, з кім сустракаўся, з'яўляючыся заснавальнікам. Там ён прадставіўся адказным за аналітыку ў КДБ. Мне было ўсё роўна. І правільна, бо тэрарысты-выкрадальнікі пра сябе альбо не кажуць нічога, альбо няпраўду. На сустрэчах ён быў падкрэслена карэктны, тактоўны. Гаварыў пра ўсё ўзрастаючы, агрэсіўны ціск Масквы, пра рызыкі і пагрозы для беларускай эканомікі, дэманстраваў здаровы нацыяналізм.

Магу, некага і расчарую, але асабіста ад яго не сходзіла ні ўтоеных пагрозаў, ні кепскіх намёкаў. Магчыма, таму што ў яго было маё палітычнае дасье. Такое ж дэталёвае, як флюараграфічны здымак. Цяпер мне нават здаецца, што ён карыстаўся сітуацыяй, калі можна жыўцом пагаварыць з чалавекам са спісу асабістых ворагаў кіраўніка дзяржавы.

## Перамога не плавае па палітычным мелкаводдзі

Мы прайгралі не 19-е снежня, а значна раней, калі адмовіліся ад праймерыз (народнага галасавання) па вызначэнні лідара прыхільнікаў пераменаў і персанальнай альтэрнатывы Лукашэнку. Гэта была стратэгічная памылка. Па-першае, прыхільнікі пераменаў так і не атрымалі ярка выяўленага лідара з шырокай легітымнасцю. Па-другое, паўтары гады былі страчаныя на шушуканне ў кулуарах, замест таго, каб працаваць з людзьмі.

Толькі ўявіце, калі б будучыя кандыдаты ў прэзідэнты пайшлі ў народ не за месяц да галасавання, а хаця б за год. Колькі завадскіх прахадных можна было б «прайсці», колькі сустрэч арганізаваць у рэгіёнах, колькі матэрыялаў надрукаваць, колькі ўлётак раскідаць па паштовых скрынях.

Пасля гэтага фарватэр кампаніі стаў вельмі плыткім і крохкім. Па ім не магла прайсці ПЕРАМОГА.

# ВАЧЫМА МАЦІ




**Напамін:** Эдуард Лобаў нарадзіўся 1-га снежня 1988-га года ў Вільні. Служыў тэрміновую службу ў спецназе Віцебскага дэсанту, дзе пазнаёміўся з маладафронтаўцам з Гомеля, дзякуючы якому далучыўся да «Маладога Фронту». Быў абраны кіраўніком Мінскай гарадской арганізацыі МФ.
Затрыманы прэвентыўна 18-га снежня 2010-га года разам з лідарам «Маладога Фронту» Зміцерам Дашкевічам, абвінавачаны ў «злосным хуліганстве» (арт. 339 ч.3 Крымінальнага кодэкса).
24-га сакавіка 2011-га года асуджаны ў судзе Маскоўскага раёна да 4 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Так атрымалася, што новы фільм пра Эдуарда Лобава (http://nn.by/?c=ar&i=84362) мы ўпершыню глядзелі разам з ягонай маці Марынай, паколькі з'яўленне відэаароліка ў інтэрнэце супала з яе прыходам да мяне. Уразіла не толькі добрая якасць працы, але і тое, як годна там выглядае маці палітвязня. Прамаўляла па сутнасці, лагічна, канкрэтна. Як і падчас нашай размовы.**

***— Якія падзеі з моманту нашай мінулагодняй сустрэчы адбыліся ў жыцці Вашага сына?***

— Турма не тое месца, дзе адбываецца шмат нечага цікавага. Па вялікаму рахунку, нічога ў нас не змянілася: як сядзелі, так і сядзім. Адзінае, пра што можна казаць, як пра нешта грунтоўнае, гэта амністыя. Дакладней, яе чаканне. Некаторыя, напэўна, разлічвалі, што палітвязні выйдуць на волю, але ў рэальнасці вынік аказаўся супрацьлеглым. Практычна на ўсіх «палітычных» «навесілі» цэлы стос новых парушэнняў. Зразумела, зроблена гэта было для таго, каб ніхто з іх не мог на нешта разлічваць.


*Сумныя думкі.*

***— У тым ліку і Ваш сын?***

— Так. Эдуарда не кідалі ў ШЫЗА (штрафны ізалятар — **заўвага аўтара**), але «дробных» спагнанняў ён атрымаў аж сем. Толькі два прыклады.

Калі ідзе дождж альбо снег, зняволеныя па законе маюць права ісці ў сталовую не строем, а па аднаму. Цалкам лагічна — так хутчэй. Аднак менавіта гэта і было прычынай для адной з прычэпак, бо, якой павінна быць інтэнсіўнасць ападкаў, там нічога не сказана...

Зразумела таксама, што зняволеныя ходзяць у іншыя атрады. Звычайна, адміністрацыя калоніі ўсё добра ведае і



*Патаемнае.*

«заплюшчвае» на гэта вочы. З маім сынам так не адбылося. Злавілі і пакаралі...

Як «злоснага парушальніка», сына хацелі пазбавіць спатканняў альбо перадач, але абмежаваліся тым, што значна скарацілі грошы «на атаварку». Раней іх было пяцьсот тысяч беларускіх рублёў, стала сто (з 5 базавых велічынь зменшана да 1 базавай велічыні — **заўвага аўтара**).

Для тых, хто не ведае, патлумачу, што гэта спецыяльны грашовы рахунак, які зняволены можа выкарыстоўваць для набыцця нейкіх рэчаў, ежы ў турэмнай краме. Як вядома, ў калоніях кухары не адрозніваюцца нейкімі кулінарнымі талентамі... Ды і магчымасць заўсёды набыць канверт ці зубную пасту — вельмі важная рэч.

Абмежаванне да «ста тысяч» распаўсюджваецца на год. Калі за гэты тэрмін няма парушэнняў, то яго павінны «зняць».

Тое, што адбывалася вакол амністыі, з самага пачатку ні ён ні я не ўспрымалі, як нейкую сур'ёзную надзею. Добра разумелі: яна зроблена не для зняволеных, а дзеля піяру сярод насельніцтва. Маўляў, паглядзіце, які я добры, выпускаю «зэкаў».

Выпусцілі тых, хто не звязаны ні з якой палітыкай. У большасці так званых «эканамічных». То бок парушальнікаў закону ў эканамічнай сферы. Скарацілі на год тэрміны і сур'ёзным злачынцам. Нікому з «палітычных», паўтаруся, ніякага паслаблення не было.

Так што тут распавядаць няма чаго. Як кажа сын, адзін дзень падобны на іншы. Нават у лістах пісаць пра нешта новае амаль не выпадае. Нічога асаблівага не адбываецца.

Акрамя ліставання час ад часу бываюць яшчэ тэлефонныя званкі. Вельмі кароткія і нечаканыя. У тым сэнсе, што ты не ведаеш, калі гэта адбудзецца. «Спіс» таго, пра што трэба спытаць, у галаве збіраецца даволі вялікі, але ты настолькі рада пачуць голас сына, што забываеш пра ўсе запланаваныя пытанні.

Практычна заўсёды нашы размовы пачынаюцца з тэмы здароўя і практычна заўсёды я чую «ўсё нармальна». Гэтай восенню падалося, што ў сына нейкі вельмі сумны голас. Як заўсёды (каб я не хваляваласся), сын сказаў, што ніякіх праблем няма. І толькі потым я даведалася, што прычынай была хвароба.

Ён заўсёды імкнецца мяне не засмучаць. Пра тыя ж спагнанні я даведалася толькі пасля таго, як ў калонію з'ездзіў адвакат.

***— Памятую, што ў яго не так даўно быў папскі нунцый?***

— Так.

Для сына (каталіка па веравызнанню) прыезд спадара Гуджэроці быў не толькі сюрпрызам, але і велічэзнай маральнай падтрымкай. Перш за ўсё таму, што ён у мяне вельмі веруючы хлопец.

Пасля гэтай сустрэчы да яго для споведзі нават дазволілі прыйсці каталіцкаму ксяндзу. Больш за тое, ксёндз потым напісаў прашэнне на пастаяннае наведванне калоніі. Вельмі важны момант. Калі праваслаўны бацюшка наведваецца туды кожны дзень, бо там у яго будуецца царква, то каталіцкага святара «прабіць» вельмі складана.



*З любімымі сабакамі.*

Дзякуй Паўлу Севярынцу і Юлі Фраловай з Чырвонага касцёла. Год таму перад Раством «Воўчыя норы» наведаў ксёндз. Гэта быў адзіны выпадак — не дазваляюць. Вельмі спадзяюся, што пытанне будзе вырашана станоўча.

Для верніка гэта мае вельмі вялікае значэнне. Перш за ўсё ў плане споведзі, бо, дзе б ты ні знаходзіўся, нейкія грахі ёсць у любога чалавека. Нават у думках. Чалавек павінен спавядацца, тады нашмат лягчэй на душы.

Арцыбіскуп Кляўдыё Гуджэроці, хаця і італьянец па паходжанню, гаворыць і па-руску, і па-беларуску. Са мной спачатку ён размаўляў праз перакладчыка і




*Гармонія.*

патлумачыў гэта тым, што такім чынам лепш выкажа свае эмоцыі і ўражанні, а потым мы гутарылі ўжо без пасрэднікаў.

Сказаў, што сваёй мужнасцю сын выклікае павагу, спачуванне, і папскаму нунцыю нават хацелася Эдзіка «забраць з сабой».

Сын спачатку быў маўклівым, бо не ведаў, хто прыехаў і хоча з ім пабачыцца. Потым Эдуард адаптаваўся і, калі Гуджэроці спытаў пра тое, што хацелася б перадаць паплечнікам на волі, адказаў — каб не спынялі барацьбу за вызваленне Радзімы. А мне, што ў яго ўсё добра. Прыемна, хаця я добра разумею, што яго калонія не санаторый.

***— Хутка будзе два гады пасля арышту. Колькі разоў за гэты час Вы з ім бачыліся?***

— Было тры доўгатэрміновыя спатканні, чатыры кароткатэрміновыя, два «праз шкло» на «валадарцы» і «Дзень адчыненых дзвярэй» у калоніі.

Доўгатэрміновыя праходзяць у спецыяльным будынку. Там ёсць пакой для адпачынку, дзе можна паглядзець тэлевізар, але мы ім амаль не карыстаемся.

Ведаю, што іншыя зняволеныя пакідаюць там сваіх маці і «п'юць гарбату» з сябрамі. У нас гэтага не бывае. Не расстаемся ні на хвіліну. Не можам нагаварыцца...

Па законе доўгатэрміновыя спатканні праходзяць на працягу трох сутак. У «Воўчых норах» так і ёсць, але гэтага правіла прытрымліваюцца не паўсюль. Напрыклад, Валі Аліневіч (маці палітзняволенага Ігара Аліневіча — **заўвага аўтара**) «далі» толькі суткі.

Кіраўніцтва кожнай калоніі ўводзіць свае «правілы».

На мой погляд, каб не было такога «самадурства», трэба ўсё строга рэгламентаваць і прыбраць шчыліны накшталт «на усмотрение администрации». Строга караць за парушэнні ў гэтай галіне. І размова не толькі пра спатканні. Тое ж самае адбываецца з тэлефоннымі размовамі, перадачамі.

А то ў нас рэгламентуюць усё, акрамя таго, што канкрэтна патрэбна людзям...

Кожны раз вяртаешся са слязьмі на вачах і даволі доўга «адыходзіш» пасля спаткання... Цалкам разбіты, стомлены... Здаецца, тры дні была разам з сынам — трэба радавацца, а атрымліваецца наадварот... Цяжка пакідаць яго там...

18-га снежня 2012-га года ў нас «свята» — палова тэрміна пакарання. Два гады атрымаліся «выкінутымі» з жыцця. За гэты тэрмін сын змог бы шмат што зрабіць..

Эдзіку «далі» чатыры гады, а Дзіму Дашкевічу два. Дашкевічу потым дадалі год. Ён (у лістах) выказваў спадзяванне, што па амністыі майму сыну год «скінуць» і яны разам выйдуць на волю. Не атрымалася...

# ДЗВЕ Ў АДНЫМ



**Даведка:** Аляксандр Арастовіч нарадзіўся 9-га снежня 1952-га года ў Слуцку. У 1975-ым годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер БНТУ). Вучыўся ў аспірантуры ў Чэхаславаччыне, абараніў дысертацыю і стаў дацэнтам. На працягу 27 гадоў выкладаў на кафедры будаўнічай механікі ў роднай ВНУ.
Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010-га года быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты М.Статкевіча. Затрыманы ўвечары 19-га снежня. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Абвінавачванне прад'яўлена па частках 1 і 2 артыкула 293 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках). 15-га лютага 2011-га года быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.
23-га жніўня 2011-га года крымінальная справа супраць А. Арастовіча была спыненая ў сувязі з адсутнасцю ў ягоных дзеяннях складу злачынства.

**Ад самага пачатку мы дамовіліся аб тым, што гэты нарыс будзе складацца з двух частак. Аляксандр Арастовіч пагадзіўся распавесці пра сябе толькі з умовай, што ў тэксце пра яго будзе сказана не больш, чым пра Міколу Статкевіча.**

**Пагадзіцеся, вельмі незвычная для палітыкі сціпласць.**

## Слова пра сябе

«Мой бацька Іван Паўлавіч родам з вёскі Волашава, што пад Слуцкам. Падчас вайны ён змагаўся з немцамі, быў капітанам супрацьтанкавай артылерыі, камандзірам батарэі. Аднак скончылася вайна для яго вельмі хутка. Падчас адступлення Чырвонай арміі пад Смаленскам нечакана завязаўся бой і асколак папаў у галаву. Аскепкі чарапной косці трапілі ў мозг. У навасібірскім шпіталі ўрачы паўтары гады змагаліся за яго жыццё. Потым рэабілітацыя і звальненне з арміі.

Маці звалі Ксеніяй Кірылаўнай. Яна родам з Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Дакладней, з вёскі Крыўск.

Там яе і застала вайна. Да 1943-га года яна знаходзілася пад акупацыяй, а пасля вызвалення адразу пайшла ў пісары аднаго са штабоў дзеючай арміі.

Пасля вайны паступіла ў Гомельскі планава-фінансавы тэхнікум, пасля заканчэння якога яе і накіравалі ў Слуцкі гарвыканкам. У гэтым горадзе мае бацькі і сустрэліся, закахаліся, пабраліся шлюбам. У 1946-ым годзе нарадзілася мая старэйшая сястра Людміла, а 9-га снежня 1952-га — я.

На жаль, бацькоў ужо няма, а сястра, дзякуй Богу, жывая. Ужо, натуральна, на пенсіі.

Канешне, калі я пайшоў у першы клас першай слуцкай сярэдняй школы, нам не казалі, што гэта адна са старэйшых навучальных установ Беларусі. У другой палове XVII стагоддзя на яе базе пачала працаваць ПЕРШАЯ ў Беларусі гімназія.

Пасля школы збіраўся ісці ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут (МАІ). Марыў стаць лётчыкам альбо будаваць самалёты. Хаця з матэматыкай сябраваў вельмі добра (нават у рэспубліканскай алімпіядзе прымаў удзел), рызыкаваць не стаў. Дата народзінаў была такой, што, калі б першая спроба была няўдалай, мяне вясной адразу б «забралі» ў войска. Па гэтай прычыне абраў іншае.

...Тады ён называўся будаўнічым факультэтам БПІ (Беларускі політэхнічны інстытут — **заўвага аўтара**), спецыяльнасць « прамысловае, грамадзянскае будаўніцтва».

Вучыцца было няцяжка. Паралельна займаўся «спецыфічным» спортам — турызмам, дзякуючы якому аб'ездзіў амаль усю еўрапейскую частку былога Савецкага Саюза.

Менавіта тады я зразумеў, што беларусаў няправільна лічыць нейкім складнікам «вялікага савецкага народа». У нас своеасаблівыя гісторыя, менталітэт, людзі. За межамі Беларусі гэта адчуваецца па-сапраўднаму моцна.



*З унучкай Мартай.*

У тыя гады ў БПІ была ваенная кафедра. Там стаў лейтэнантам. Як староста групы, напісаў рапарт на службу на Ціхім акіяне. У рэальнасці ж выйшла інакш.

Ніхто на гэта не звярнуў ніякай увагі, і нас размеркавалі вельмі банальна — па алфавіце. Я трапіў у будаўнічы батальён, які будаваў ткацкія фабрыкі ў расійскай Іванаўскай вобласці.

Менавіта яны потым сталі асновай «горада нявест». І менавіта тады я зразумеў, што, калі КПСС стварае нейкі жаночы ГУЛАК і выдае гэта за сваё дасягненне, у нашай краіне відавочна творыцца нешта не тое...

Дарэчы, перад тым, як пайшоў служыць, мы з Любай пабраліся шлюбам. Яна вучылася са мной у адной групе. Вельмі складанага лёсу чалавек. Яе дзеда па матчынай лініі расстралялі падчас першай хвалі рэпрэсій. А ягоная жонка (адпаведна бабуля), каб пазбегнуць арышту, з'ехала ажно ў Растоў-на-Доне.

Наш сын Зміцер нарадзіўся ў 1976-ым годзе, а дачка Дарына — у 1987-ым.

Сын займаецца бізнесам, а дачка пасля ўдзелу ў кампаніі Мілінкевіча і намётавага гарадка 2006-га года (за які «далі» 10 сутак) па праграме Каліноўскага паехала вучыцца ў Польшчу. Атрымала там архітэктурную адукацыю. Зараз працуе ў адной варшаўскай прыватнай фірме.

Пасля войска мы прыехалі ў Мінск. З пэўнымі цяжкасцямі, канешне, бо проста так у 1977-ым годзе трапіць у сталіцу было немагчыма. Дапамагло толькі тое, што «пэратурбацыі» з пашпартам зрабілі мяне «халастым».

Працаўладкаваўся майстрам у пяты будаўнічы трэст, які зараз называецца «Мінскпрамбуд». А паколькі яшчэ падчас вучобы я цягнуўся да навукі, людзі, якія выкладалі ў той час, сказалі пра тое, што на кафедры будаўнічай механікі плануецца вакансія. Вырашыў прыняць удзел у адпаведным конкурсе. Перамог і стаў працаваць асістэнтам.

У 1988-ым годзе ў Браціславе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Чаму там? Справа ў тым, што на чарговай навуковай канферэнцыі пазнаёміўся з адным славацкім прафесарам і выказаў жаданне ў іх вучыцца. Той даслаў адпаведнае запрашэнне.

Усе пытанні тады вырашаліся ў Маскве (Савецкі Саюз усё ж). Першапачаткова мне адмовілі. Маўляў, такой магчымасці няма. Дабіваўся гэтага тры гады і, толькі дзякуючы гарбачоўскай перабудове, змог дасягнуць патрэбнага выніку.

Як мне здавалася, падвучыў іх мову (падобная да беларускай — **заўвага аўтара**) і ў 1986-ым годзе паехаў у Браціславу, у Славацкую вышэйшую тэхнічную школу. Дакладней, на будаўнічы факультэт кафедры металічных і драўляных канструкцый. Там і высветлілася, што мае веды адносна славацкай мовы (як гэта сказаць больш мякка) не самыя дакладныя. Прыйшлося шмат што засвойваць самому. Кожны сказ, выраз я імкнуўся вымаўляць так, як гэта робяць самі славакі. Капіраваў іх жэсты, міміку. Праз некаторы час у тое, што я іншаземец, нават цяжка было паверыць.

Вельмі прыгожая краіна. Цудоўныя людзі. Калі б не быў жанаты, напэўна, у Беларусь не вярнуўся б... Нават імя для сваёй дачкі потым выбраў славацкае.

Чэхаславакія (тады дзяржава была агульнай і для чэхаў, і для славакаў) літаральна віравала. У палітычным сэнсе, канешне. Пашанцавала трапіць на першы апазіцыйны мітынг, які разагнаў мясцовы АМАП. У іх тады адбылося нешта падобнае да нашых «Дзядоў-88».

У 1989-ым годзе я вярнуўся ў Беларусь. На роднай кафедры атрымаў пасаду дацэнта і пачаў выкладаць. Пратрымаўся да 2006-га года. Перш за ўсё таму, што не даваў нагодаў для расправы: у кампаніях ніколі не выпіў нават келіх шампанскага, на працу прыходзіў заўсёды своечасова.

Будаўнічая механіка — дысцыпліна, якая базуецца на фізіцы і матэматыцы, таму «палітычных нюансаў» тут не можа быць. Ідэолагам з КДБ, якія пільна сачылі за гэтым, проста не было за што зачапіцца.

І ўвогуле. На мой погляд, лепшая агітацыя за тое, чым ты займаешся, гэта тое, як робіш сваю справу. Асабліва адносна выкладання. Рабі ўсё так, як быццам бы робіш гэта ў апошні раз.

З пачаткам новага тысячагоддзя ў мяне пакрыху пачалі здаваць галасавыя звязкі. Яны сталі пухнуць, і магчымасць размаўляць пагаршалася. У паліклініцы неаднаразова спраўляліся з гэтай хваробай і кожны раз казалі, што яна прафесійная.

Напэўна, на працы ўсе разумелі, таму «выпадкова» прымушалі працаваць у самых халодных аўдыторыях... Дайшло да таго, што ў 2006-ым годзе ўрачы сказалі — хопіць і былі гатовыя напісаць любую паперу, каб мне знізілі «галасавую нагрузку» і перавялі на чвэрць «стаўкі».

Як і трэба было чакаць, кіраўніцтва на гэта не пагадзілася: альбо працуй напоўніцу, альбо звальняйся. Я выбраў другое. І проста не падаў дакументы на чарговы конкурс.

Хутчэй за ўсё, кіраўніцтва нашага ўніверсітэта было гэтаму вельмі рада, бо на той момант ужо прайшоў Кангрэс дэмакратычных сілаў (той самы, дзе А.Мілінкевіча абралі адзіным апазіцыйным кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах —**заўвага аўтара**), дзе я прадстаўляў нашу партыю і сядзеў у прэзідыуме.

Потым яшчэ шэсць гадоў да пенсіі працаваў у сферы, якую добра ведаю. Займаюся гэтым і зараз.»

## Слова пра Міколу

«Пасля вяртання ў 1989-ым годзе са Славаччыны я ўбачыў тут іншую (у палітычным сэнсе) краіну. Амаль усе сябры, з якімі разам вучыўся, ужо вызначыліся ў асабістых палітычных прыярытэтах. Нехта пайшоў у БНФ, нехта ў апазіцыйную Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду (БСДГ).

Мне вельмі падабаліся ідэі Беларускага народнага фронту, але ўжо ў той час адчуваў, што, нават калі БНФ пераможа, уласцівы ім радыкалізм не дазволіць доўга пратрымацца ў ідэйна варожым асяроддзі.

Да таго ж вырашэнне ўсіх пытанняў БНФ памылкова «замыкаў» на сябе, што значна спрасціла дзеянні апанентаў. Яны «білі» толькі ў адну «кропку».

Дастаткова ўзгадаць, як адным фільмам «Дзеці ілжы» ўлады па сутнасці звялі да мінімуму ўплыў на грамадства самай буйной апазіцыйнай структуры.

На мой погляд, больш лагічным было ўступленне ў БСДГ, якой на той момант кіраваў Алег Анатольевіч Трусаў. У 1990-ым годзе напісаў адпаведную заяву.

Тады быў сапраўдны росквіт апазіцыйнай партыйнасці. У нашу партыю ўваходзіў рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль Шаранговіч (нават даваў памяшканне для правядзення яе з'езду). А сярод сяброў БСДГ быў і Ігар Чарняўскі, які зараз працуе ў Міністэрстве культуры.

Дарэчы, менавіта ён прапанаваў узяць на працу ў БСДГ маю жонку, якая на той момант за свае палітычныя сімпатыі стала беспрацоўнай.

У гэты ж час з'явіўся адзін з новых лідараў БСДГ — Мікалай Віктаравіч Статкевіч. Асоба з усіх бакоў неардынарная і адметная. Упершыню пра яго гучна пачулі ў пачатку 1991-га года, калі Статкевіч у знак пратэсту супраць падаўлення танкамі літоўскіх дэманстрантаў выйшаў з КПСС, а 20-га жніўня 1991-га года стаў адзіным беларускім вайскоўцам, які публічна выступіў

супраць маскоўскага путчу. Тады ж ён аб'явіў пра стварэнне Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Праз год на цэнтральнай мінскай плошчы адбылося незвычайна прыгожае і масавае прыняцце вайсковай прысягі. З харугвамі, з шэсцем па галоўнаму праспекту сталіцы.

Зразумела, пытанне аб партыйным старшынстве павінна было прагучаць. Так і адбылося. Пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994-га года для многіх стала відавочна, што патрэбны новы старшыня БСДГ. У 1995-ым годзе ім абралі Міколу Статкевіча. З чым і не змог змірыцца Алег Анатольевіч Трусаў і звярнуўся да Станіслава Шушкевіча з прапановай узначаліць сваіх прыхільнікаў. Так сярод беларускіх сацыял-дэмакратаў адбыўся першы раскол.

Пасля аб'яднання нашай партыі і Партыі народнай згоды ўзнікла Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), і Мікола Статкевіч стаў старшынёй БСДП (НГ).

Перш за ўсё Мікалай хацеў, каб беларускія сацыял-дэмакраты мелі ў парламенце сваю фракцыю. Мы спадзяваліся, што яна дазволіць данесці да грамадства ідэі сацыял-дэмакратыі, прапановы па ўнутранай і знешняй палітыцы Беларусі. Парламент — трыбуна, дзе гэта і трэба рабіць, бо наша партыя не рэвалюцыйнага, а эвалюцыйнага, парламенцкага тыпу.



*З Міколам Статкевічам.*

Такую фракцыю стварылі, і яе ўзначаліў былы міністр за-

межных спраў Пятро Краўчанка. Ён таксама быў сябрам БСДП (НГ), але ўсім было відавочна, што партыя выкарыстоўваецца ім для таго, каб стаць яе лідарам і з гэтай пляцоўкі ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах (дзе той збіраўся перамагчы). Абсалютна нармальная (партыі і існуюць для палітычнай барацьбы і прыходу да ўлады) пазіцыя, якую ён нават асабліва і не хаваў.

Таму, калі Краўчанка выступаў супраць Статкевіча, імкнуўся як след выкарыстоўваць багаты асабісты досвед. Ён ведаў, як (у сваіх мэтах) трэба праводзіць з'езды, як і калі арганізаваць «выступы з залы».

Тут трэба аддаць належнае. У розных партыйных інтрыгах Пятро Кузьміч ведае толк. Напрыклад, на тым жа з'ездзе сядзяць побач з табой людзі. Здаецца, што сябры, але ў «патрэбны» момант яны робяць «патрэбны» выступ, пасля якога сапраўды здаецца, што Статкевіч нечага не разумее. Пятро Краўчанка ўстае і тлумачыць, чаму нешта ўжо адбылося не так і якое ёсць выйсце з гэтай сітуацыі...

Магчыма, і стаў бы лідарам, бо прыхільнікаў у партыі ў яго хапала (асабліва з былой наменклатуры), але ў нейкім сэнсе ён быў чужы. Асабліва для людзей, якія калісьці былі ім пакрыўджаныя.

Таму, калі Краўчанка правёў пасяджэнне нашай фракцыі і выступіў за саюз з Расіяй (гэта цалкам не ўпісвалася ў партыйную праграму і погляды на будучае Беларусі ў свеце), да яго ўзнікла шмат пытанняў. А калі быў пазбаўлены перспектыў кіравання, з партыі ўвогуле сышоў.

Гэта азначала, што ў Міколы больш не стала такіх амбіцыйных канкурэнтаў...

У Статкевіча была цудоўная ідэя пра тое, што Беларусь павінна быць часткай Еўропы і ЕС. І мы яе імкнуліся матэрыялізаваць у сваёй дзейнасці. У свой час на працягу некалькіх месяцаў мы распаўсюдзілі больш за мільён улётак пра тое, што гэта дасць нашай краіне.

На мой погляд, зараз беларускі народ разглядае магчымасць уступлення ў Еўрасаюз як рэальную (згодна з многімі сацыялагічнымі апытаннямі) у тым ліку і дзякуючы Мікалаю Статкевічу. Але што гэта за арганізацыя, якой КДБ не можа даць рады...

Жартую, канешне, але мы добра бачылі тых людзей, якія прыйшлі ў партыю з канкрэтнай мэтай пазбавіць яе канкрэтнага лідара. Маўляў, Мікалай Віктаравіч Статкевіч «не той чалавек, які зараз патрэбны».

Менавіта, пытанне лідарства і стала для БСДП (НГ) своеасаблівым «яблыкам разладу». Адны выступалі за тое, каб на прэзідэнцкіх выбарах

партыя вылучала свайго старшыню Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты і рабіла ўсё (збірала подпісы, праводзіла агітацыю) для яго перамогі.

Былі і іншыя, якія лічылі, што такім чалавекам павінен быць прадстаўнік дзеючай наменклатуры. Маўляў, яны будуць яго ведаць і «ціхай сапай» (як у свой час было з Гарбачовым і пустымі прылаўкамі) руйнаваць рэжым «знутры».

Многія з іх цынічна збеглі ад Шушкевіча і спачатку гаварылі, што ім не падабаюцца ідэі, якія ёсць там, а даспадобы дзейнасць Статкевіча. Нейкім чынам яны апынуліся на кіруючых пасадах. Хаця пры гэтым ніхто не працаваў «на нізе». То бок, у нейкай раённай арганізацыі.

Менавіта гэтыя людзі потым і патрабавалі знайсці для партыі спонсара. «Знайшлі» яго ў выглядзе Казуліна і хуценька павыключалі з партыі прыхільнікаў Мікалая Статкевіча і яго самога.

У 2005-ым годзе Кангрэс дэмакратычных сілаў абраў адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах. Гэтыя людзі вырашылі «ісці сваёй калонай». Чым гэта скончылася — добра вядома.

Шчыра кажучы, мне шкада гэтага чалавека. Па-першае, яго «кінулі» чыноўнікі. Па-другое, «кінулі» тыя, хто некалі «кінуў» Статкевіча. Калі Казулін не стаў прэзідэнтам, яны першымі пачалі разбягацца, і той застаўся амаль адзін. А калі ён апынуўся у турме, цалкам адмовіліся ад яго лідарства. У такіх умовах зрабіць чалавека «ганаровым старшынёй» нават за межамі прыстойнасці...

У той час Мікалай Віктаравіч пачаў пакрысе збіраць людзей, якія не пайшлі за Казуліным. Рабіў гэта, як былы вайсковец, скрупулёзна, дакладна, паступова. Выступаў за тое, каб яны прымалі ўдзел у парламенцкіх выбарах. Таму, калі падчас прэзідэнцкай кампаніі нам прыйшлося за яго збіраць подпісы, ніякіх праблем не было, бо былі вядомымі ўсе неабходныя адрасы.

Прыемна, што побач з намі быў і Дзмітрый Ус. Калісьці ў партыю яго прывёў цудоўны чалавек Георгій Станіслававіч Тарасевіч (светлая памяць). Ус балатаваўся ў гарсавет і вельмі разлічваў на нашу падтрымку. З дапамогай партыі тады ён стаў дэпутатам і не забыўся пра гэта дабро.

Калі (як і Мікола) ён вырашыў прыняць удзел у прэзідэнцкай кампаніі, подпісы мы збіралі адначасова за абодвух. І на многія сустрэчы з выбаршчыкамі яны ездзілі разам.

Вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Міколы Статкевіча падтрымалі рух салідарнасці «Разам», які ўзначальвае Вячаслаў Сіўчык, арганізацыя, якой кіруе Сяргей Скрабец, то бок аргкамітэт па стварэнню сацыял-дэмакратычнай партыі «Свабода», і нашы структуры.

Пад апошнімі маюцца на ўвазе тыя, хто аб'яднаўся вакол Міколы Статкевіча. Яны стварылі аргкамітэт па стварэнню адноўленай Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і абралі яго сваім старшынёй, а мяне першым намеснікам. На прэзідэнцкіх выбарах Мікола Статкевіч прапанаваў стаць яго даверанай асобай.

Абставіны нашага затрымання пасля крывавых падзей 19-га снежня 2010-га года ведаюць многія. Дадам толькі, што падчас «хапуна» мне пашанцавала прарвацца ў метро. Перад тым, як ехаць дамоў, вырашыў патэлефанаваць Міколу. Аказалася, ён знаходзіцца непадалёк у Міхайлаўскім скверы. Сустрэліся, высветлілася, што яму банальна НЯМА ДЗЕ НАЧАВАЦЬ, і я прапанаваў паехаць да мяне. Таксоўка праехала ўсяго некалькі соцень метраў, калі яе блакавала міліцэйская машына.

Міколу забралі асобна, а мяне кінулі ў звычайны аўтазак. Доўга вазілі па Мінску, потым даставілі на Акрэсціна. Спачатку хацелі «прышыць» звычайную для ўсіх іншадумцаў «лаянку» (з ілжывымі сведкамі ў міліцэйскай форме), а калі даведаліся пра сувязь з Міколам Статкевічам, надзелі кайданкі і адвезлі ў «амерыканку».

Падзеі, якія потым адбыліся вакол Міколы Статкевіча, яшчэ раз сведчаць пра тое, што некалі выбар мной зроблены правільна. Гэта — АСОБА!»

# ВЯСЕЛЛЕ ЗА КРАТАМІ



**Напамін:** Мікалай Статкевіч нарадзіўся 12-га жніўня 1956-га года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна. Скончыў сярэднюю школу, затым — Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча па спецыяльнасці «ваенны інжынер па радыёэлектроніцы». У 1986-ым годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1993-ім — доктарскую. Атрымаў воінскае званне падпалкоўніка. У 1991-ым годзе Мікалай Статкевіч стварыў і ўзначаліў Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. З 1995-га года старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).
У 2005-ым годзе М. Статкевіч быў асуджаны да 3 гадоў абмежавання волі за арганізацыю ў кастрычніку 2004-га года ў Мінску вулічнай акцыі супраць афіцыйных вынікаў парламенцкіх выбараў і рэферэндуму.
Кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010-га года. Арыштаваны 19-га снежня, утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па ч. 1 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя масавых беспарадкаў).
26-га траўня 2011-га года Мікалай Статкевіч асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. У студзені 2012-га года рэжым пакарання зменены, і ён пераведзены ў турму №4 г. Магілёва.

**Напэўна, Марына Адамовіч адна з самых актыўных з тых, каго самі яны называлі «мамажонамі». Афіцыйная ж назва — камітэт «Вызваленне». Створаны ён быў адразу пасля арыштаў, якія сталі «візіткай» крывавых падзей 19-га снежня 2010-га года. Складаўся з маці і жонак тых, хто апынуўся тады за кратамі. Таму і гучыць так смешна — мамажоны.**

**Несмешна толькі тое, што муж Марыны Мікалай Статкевіч па гэты дзень знаходзіцца за кратамі...**

***— Наколькі я памятаю, першыя дні знаходжання Мікалая ў Шклоўскай калоніі складаліся, мякка кажучы, не самым лепшым чынам...***

— Нагадаю, што Міколу этапавалі ў Шклоў 11-га чэрвеня 2011-га года. Вельмі добра памятаю той дзень, таму што менавіта тады не стала Віталіка Сіліцкага. Да 7-га ліпеня ў мяне яшчэ былі спадзевы на тое, што ў калоніі будуць прытрымлівацца (хаця б ва ўрэзаным выглядзе) нейкіх законаў і правоў асобы. З прыездам у Шклоў Лукашэнкі іх не стала.

Новы мясцовы завод газетнай паперы фактычна мяжуе з калоніяй. Падчас выступу і прагучала добра вядомая прапанова пра тое, што « няхай напішуць прашэнне аб памілаванні і з'язджаюць». У Лукашэнкі былі таксама надзеі на тое, што «порядочные заключенные им (палітычным) покажут».

Атрымалася наадварот. Па сутнасці, паўсюль зняволеныя па іншых артыкулах аказвалі падтрымку «палітычным».

З гэтага візіту пачаўся неверагодны ціск на ўсіх палітвязняў. У шклоўскай калоніі (акрамя Міколы Статкевіча — **заўвага аўтара**) тады «сядзелі» Аляксандр Класкоўскі, Алег Гнедчык, Уладзімір Лобан і Зміцер Новік.

У дзень народзінаў Міколы (12-га жніўня) было аб'яўлена амаль надзвычайнае становішча. За ім увесь час хадзілі наглядчыкі, ні на хвіліну не пакідалі аднаго. Але, як толькі адварочваліся, на яго ложку нешта з'яўлялася. З суседняга атрада нават умудрыліся перадаць торт. А чалавек, якога ўвогуле «не грэлі» з волі (не перадавалі перадач — **заўвага аўтара**), пакінуў лусту хлеба. Мікола напісаў мне гэта ў лісце, але цэнзура праявіла пільнасць. Ліст зачытвалі перад усім атрадам, а Міколу вынеслі спагнанне. Мяркую таму, што тое, што здарылася, цалкам не адпавядала канцэпцыі Лукашэнкі пра тое, што «порядочные заключенные им покажут»...

Тактыка «дробных паскудстваў» (і не толькі дробных) выкарыстоўвалася літаральна ва ўсім. Напрыклад, спілавалі турнік, на якім Мікола займаўся, калі пасля галадоўкі пачаў аднаўляцца...

Цалкам прапала інфармацыя. Зніклі лісты і тэлефанаванні. За тры месяцы я не атрымала ад яго ніводнага ліста. Яго паставілі на самую цяжкую працу — тартак шклоўскай калоніі, на падноску камлёў дрэваў і адцягванне дошак. Пры гэтым не выдалі ніякага спецадзення, спецыяльнай вопраткі. У гумавых шлёпанцах ён цягаў бярвенні....

Канешне, «маладыя» імкнуліся большую частку гэтай працы ўзяць на сябе, але трэба ведаць Міколу. Дарэчы, на тартак звычайна ставяць тых, каму да 30-ці год. Мікола смяяўся, што афіцыйна прызнаны маладым.

Гэтая праца нанесла два сур'ёзныя пашкоджанні. Спачатку ён зламаў рабро, а потым камлём расплюшчыў руку. Канешне, я б пра гэта нічога не ведала, калі б не дапамога зняволеных, якія здолелі праз нейкі дзень мне пра гэта паведаміць. Кіраўніцтва калоніі імкнулася «схаваць» інфармацыю аб траўме. Пры іншых абставінах за такое надзвычайнае здарэнне шмат «паляцела б галоў». Нягледзячы на тое, што была траўмаваная рука, яго перавялі на верхнія нары. Каб цяжэй было залазіць ...

14-га верасня 2011-га года іншых «палітычных» выпусцілі. Мікола застаўся там адзін. Ціск, які прыходзілася яму перажываць адносна напісання прашэння пра памілаванне, быў вельмі моцным. Ён адчуваўся літаральна ва ўсім. Аднак «зламаць» ніяк не атрымлівалася.

Нават у такіх звышжорсткіх умовах Мікола змог напісаць два лісты (і перадаць на волю), дзе выкладаў сваё бачанне сітуацыі, звяртаўся да апазіцыі і нашых сяброў за мяжой. 5-га снежня яны былі надрукаваныя, а 6-га аўтара «кінулі» ў штрафны ізалятар.

Потым я даведалася, што ўсіх, хто вызваліўся незадоўга да публікацыі, «правяралі» асабліва ўважліва. Высвятлялі, якім спосабам адбылася «ўцечка інфармацыі».

Словам, «прыстойныя зняволеныя» не апраўдалі нечых надзей, і Мікола стаў спачатку «злосным парушальнікам», а потым хутка (за бойку, якой не было) трапіў у так званае памяшканне камернага тыпу (ПКТ).

ПКТ ёсць ва ўсіх калоніях і нагадваюць сабой «крытку», то бок сапраўдную турму. У маленькім памяшканні не было ніводнага акенца. Нейкім чынам з трох бакоў яно агінаецца калідорам. Круглыя суткі за металічным шчытом, у якім прабітыя дзіркі, гарыць лямпачка ў 40 ват. Плюс звычайная (лёгкая) роба. Спаць можна было толькі на падлозе, прыціснуўшыся да трубы, якая ішла па нізе пад сталом. Месца там было вельмі мала. Каб перавярнуцца на другі бок, трэба было кожны раз вылазіць і зноў «пра-

цягваць» сон. На прагулку яго выводзілі а палове сёмай раніцы. Зімой гэта цемень, таму прыйшлося забыць пра «белы свет».

Літаральна праз некалькі дзён было прынята рашэнне аб пераводзе ў турму. І стаў рыхтавацца адпаведны суд. 12-га студзеня 2012-га года на на тэрыторыі калоніі адбыўся «адкрыты суд» і суддзя Віталь Волкаў (людзі павінны ведаць гэтыя прозвішчы) прыняў рашэнне аб пераводзе Міколы на тры гады ў турму. Этапавалі яго ў той жа вечар.

Як потым высветлілася, адміністрацыя шклоўскай калоніі падрыхтавала некалькі «сюрпрызаў». Па прыедзе ў Магілёўскую турму №4 стала вядома, што Мікола «схільны да нападу і ўцёкаў», а яшчэ і «да самагубства». Гэта азначае татальны кантроль (ледзь не кожную гадзіну) і патэнцыйную верагоднасць трапіць у так званую «бяспечную камеру». Прасцей кажучы, у адзіночку.

Апошняе асабліва напружвала, бо ціск наконт напісання просьбы пра адпаведны перавод пачаўся адразу ж. А ў адзіночцы можна зрабіць з чалавекам што заўгодна. Нават забіць... А потым можна сказаць пра самазагубства...

Акрамя гэтага стала вядома, што за некалькі гадзін паміж судом і этапам ён «атрымаў» яшчэ адно спагнанне, таму па прыездзе ў Магілёў Мікола адразу патрапіў у карцар.

Пасля гэтага яго накіравалі не ў памяшканне турмы, а ў памяшканне следчага ізалятара, што нахабна парушае ўсё існуючыя правілы.

Больш за тое, літаральна да лістапада ён знаходзіўся ў «транзітнай» камеры. Там няма падлогі, з усіх бакоў — бетон. А перавялі яго ў іншую зусім не з «гуманных» меркаванняў — таму што ў «транзітнай» камеры ад вільготнасці, сырасці, холаду пачала абвальвацца тынкоўка. Камеру банальна МУСІЛІ «паставіць на рамонт».

Першыя два месяцы Мікола правёў разам з чалавекам, які перахварэў адкрытай формай сухотаў. Я ўрач-эпідэміёлаг і ведаю, што ў турэмных умовах цалкам пазбавіцца ад гэтай хваробы немагчыма.

Потым да яго ў камеру перавялі чалавека датычнага да «эскадронаў смерці». Потым прыйшлося сядзець з зэкам, які прайшоў камеру з хворымі на СНІД і двойчы спрабаваў ускрыць сабе вены.

Нядаўна, у дзень яго народзінаў і ў дзень вайсковай славы (8-га верасня), у гонар Міколы пад сценамі турмы нашы аднадумцы ладзілі феерверк. Турма літаральна «раўла». З-за кратаў крычалі «Жыве Беларусь!» і «Віншуем!». Мабыць, яны ведалі, што ў яго быў дзень народзінаў.



*З главой Еўрапарламента (злева направа) Марцінам Шульцам і Сяргеем Скрабцом.*

Зараз Мікола знаходзіцца «на строгім рэжыме», што азначае адну бандэроль (не больш 2 кг у год) і адно кароткатэрміновае (2-е гадзіны «праз шкло») спатканне. І афіцыйна папрасіў больш не прапаноўваць яму напісаць прашэнне пра памілаванне.

***— Вядома, што год таму ў Вас з Міколам Статкевічам адбылося вяселле. Можна расказаць больш падрабязна?***

— Гэта мае асабістыя ўражанні.

***— Безумоўна. Мяне цікавіць толькі тое, што даступна ўсім.***

— Гэта была сітуацыя, якая вымагала вельмі вялікіх высілкаў. Шчыра кажучы, не думала, што ў маім узросце на працягу доўгіх месяцаў прыйдзецца дамагацца шлюбу. Тым больш, што нашы адносіны ніякім чынам не залежаць ад штампу ў пашпарце. Адзінае — гэты момант быў адной з формаў ціску (самай «надзейнай») на Міколу, бо на волі ў яго ёсць толькі стары бацька, якому ўжо 86 год. Таму цалкам пакінуць без кантактаў і дапамогі, забараніць нам любыя стасункі, было самым эфектыўным спосабам маральнага ціску.

Дзеля гэтага ў нетрах КДБ быў «згублены» пашпарт. У яго «пошуках», а потым і чаканні адпаведнага дазволу за паўгады было зроблена шмат заяў, агучана патрабаванняў, напісана скаргаў. Пашпарт «знайшоўся», але гэта не перашкодзіла кіраўніцтву калоніі рознымі прычэпкамі даволі доўгі час «вадзіць за нос».

На мой погляд, дазвол мы атрымалі толькі таму, што яны дакладна ведалі: хутка Мікола пойдзе ў турму. Распісаліся 20-га снежня (праз год пасля Плошчы) 2011-га года.

Калонія тады была на «асадным становішчы». Перакрылі ўсе ўваходы і выхады. Мабілізавалі ўвесь склад мясцовага КДБ.

Але і гэтага камусьці, мабыць, здалося недастатковым. Нават у такіх умовах яны рабілі ўсё магчымае, каб гэты дзень быў нам максімальна некамфортным.

Па-першае, спачатку спатканне прызначылі толькі да шасці гадзін раніцы наступнага дня. Гэта значна менш за суткі з таго моманту, як я была павінна патрапіць на тэрыторыю калоніі.

Па-другое, было катэгарычна адмоўлена ў вынасе з памяшкання для доўгатэрміновых спатканняў любых прадуктаў.

Словам, былі парушаны ўсе правы зняволеных. І толькі тое, што са мной прыехалі сябры і журналісты, тое, што грубейшыя парушэнні стануць публічнымі, прымусіла іх спыніцца. Доўга з нейкім раіліся па тэлефоне, потым пайшлі на саступкі.




*Карлавы Вары.*

І тым не менш...

Я зайшла на тэрыторыю недзе ў 11.00, а Міколу з ПКТ прывялі толькі пасля 15.00. Чакала чатыры гадзіны. Пра роспіс яму нічога не казалі. Не дазволілі ні пагаліцца, ні пераапрануцца з турэмнай робы. Роспіс цягнуўся роўна дзве хвіліны.

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАЕ КАХАННЕ



**Даведка:** Наста Палажанка нарадзілася 2-га жніўня 1990-га года ў Мінску. Вучылася ў 73-й мінскай школе (з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы) і ў 37-й школе (з эстэтычным ухілам). З 2008-га года — студэнтка факультэта філасофіі і палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

У 2008-ым годзе Наста была абрана намесніцай старшыні «Маладога Фронту», у які прыйшла ў 14-гадовым узросце. У 2007-ым годзе была асуджаная па артыкуле 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі). У якасці пакарання суд вынес папярэджанне. Неаднаразова затрымлівалася і адбывала адміністрацыйныя арышты.

Пасля акцыі пратэсту 19-га снежня 2010-га года Насту Палажанку арыштавалі дома ў 3 гадзіны 20 хвілін ночы. Захоп 20-гадовай дзяўчыны ажыццяўляўся сіламі пятнаццаці супрацоўнікаў КДБ. Утрымлівалася ў СІЗА КДБ. 17-га лютага 2011-га года ўвечары адпушчана пад падпіску аб нявыездзе.

20-га траўня 2011-га года суддзя Фрунзенскага раёна Мінска Жана Жукоўская агучыла прысуд — адзін год умоўна з выпрабаваўчым тэрмінам 1 год.



**Даведка:** Зміцер Дашкевіч нарадзіўся 20-га ліпеня 1981-га года ў Беларусі. Да пяці гадоў жыў у Расіі на Далёкім Усходзе ў пасёлку Ягаднае Магаданскай вобласці. Потым — вяртанне ў Беларусь, у горад Старыя Дарогі. Там скончыў школу № 2. Вучыўся ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце. Пазней паступіў у Віленскі педагагічны ўніверсітэт на факультэт славістыкі.
У 2001-ым прыйшоў у «Малады Фронт», у 2004-ым годзе абраны яго старшынёй. Неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. У 2006-ым годзе арыштаваны па абвінавачванні ў «дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі». Асуджаны на паўтары гады зняволення.
Быў затрыманы прэвентыўна 18-га снежня 2010-га года на вуліцы разам з Эдуардам Лобавым, абвінавачаны па крымінальным артыкуле «злоснае хуліганства» .
24-га сакавіка 2011-га года судом Маскоўскага раёна Мінска асуджаны на 2 гады калоніі агульнага рэжыму.
28-га жніўня 2012-га года ў папраўчай калоніі № 13 у Глыбокім выязны суд асудзіў З. Дашкевіча яшчэ да 1 года калоніі па абвінавачванні ў непадпарадкаванні адміністрацыі папраўчай установы.

**Перад мужнасцю гэтых маладых людзей сёння схіляюць галовы ўсе. У тым ліку і аўтар гэтага нарыса. А зараз мне б вельмі хацелася сказаць і яшчэ адну крыху пафасную фразу: пакуль у нас ЁСЦЬ такая моладзь, як Наста Палажанка і Зміцер Дашкевіч, у Беларусі ЁСЦЬ будучыня.**

## Шляхам Насты

Усе 22 гады (з самага нараджэння) свайго жыцця Наста Палажанка правяла ў Мінску. Яе бацькі (Галіна Уладзіміраўна і Уладзімір Міхайлавіч) пераехалі сюды з Кіраўска, каб мець лепшую перспектыву для свайго жыцця і даць яе дзецям.

На жаль, 16 гадоў таму Галіны Уладзіміраўны не стала, таму ўвесь цяжар па выхаванню дзяцей лёг на плечы яе мужа.

Брат Насты Сяргей старэйшы за яе на дзевяць год. Універсітэт ён скончыў з чырвоным дыпломам і зараз працуе індывідуальным прадпрымальнікам у галіне IT- тэхналогій.

Вучоба ж самой Насты пачалася ў 1997-ым годзе, калі яна першы раз пайшла ў першы клас 73-ай сталічнай школы. Напэўна, яе і скончыла б, каб не дзве абставіны.

Першая звязана з сяброўствам у «Маладым Фронце»: праблемамі ў выглядзе міліцэйскіх візітаў і ўзбуджэння крымінальнай справы ў 2007-ым годзе.

Другая — абранне дырэктрысы Насты дэпутатам мясцовага Савету.

Так атрымалася, што гэта адбылося амаль адначасова.

І яшчэ адзін вельмі прынцыповы, на мой погляд, момант. У Насты і яе школьнай дырэктрысы былі кардынальна супрацьлеглыя погляды на тое, што адбываецца ў краіне. Апошняя была перакананай прыхільніцай улады, таму, калі яе «абралі», пачалося тое, што называецца здзекамі над адным пікантным месцам... Тым самым, якое некалі паэт Саша Чорны называў «седалищем»...

Даходзіла нават да таго, што адміністрацыя школы дэманстратыўна не віталася з Палажанкай. Цярпела Наста да сярэдзіны 11-га класа, а потым не вытрымала, вырашыла змяніць месца навучання.

Той, хто думае, што ў нашай «сацыяльна-стабільнай» краіне такія рэчы робяцца вельмі проста, фатальна памыляецца. Разам з бацькам Наста Палажанка аб'ехала шмат сталічных школ. Вучылася яна добра (тут перашкод не было), але, калі ў новым месцы з дапамогай «кам-

